# Пімен Панчанка

*Збор твораў*
*у чатырох*
*тамах*

# Пімен Панчанка

*Том чацвёрты*

*Успаміны*

*Літаратурна-крытычныя артыкулы*

*Выступленні*



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1983

## ЛІСТ З ІРАНА

Дарагі друг!

Я прасіў цябе даслаць мне новыя кніжкі паэзіі, якія выйшлі за апошні час у Мінску. Ты не можаш уявіць, як дарага нам, што жывуць зараз за межамі Радзімы, кожнае беларускае слова, тым больш мастацкае. І не толькі слова. Часта вечарамі я і мае землякі-беларусы (а іх тут служыць нямала) збіраемся ля радыё і слухаем Маскву. І, божа мой, як слаўна робіцца на душы, калі пачуем мілы і родны голас Ларысы Александроўскай альбо беларускую музыку.

Вайна параскідала воінаў-беларусаў па многіх еўрапейскіх і азіяцкіх краінах. Думаю, што мае пачуцці блізкія і тым байцам і афіцэрам — нашым землякам,— якія сёння жывуць у Берліне і Вене, у Бялградзе і Харбіне. Мы пабачылі шмат цікавага, але самым любым успамінам, самай запаветнай марай засталася для нас Беларусь. Таму мы і лічым шчаслівымі тыя хвіліны, калі пачуем, нібыта голас далёкай маці, роднае слова.

Я крыху збочыў. Дык вось: сёння падвечар, калі спякотнае сонца спускалася за блакітныя мінарэты, а ў армянскай царкве, што побач з маёй кватэрай, зазванілі званы (заўтра нядзеля), наш лістаносец урачыста падаў мне тваю пасылку. У ёй былі тры зборнікі вершаў: «Шырокае поле вайны» Максіма Лужаніна, «Крамлёўскія зоры» Анатоля Астрэйкі і «Край мой родны» Эдзі Агняцвет. Шчыра дзякую за ўвагу! І вось, у гэты суботні вечар, я сустрэўся са сваімі сябрамі. Я глядзеў на свежыя вокладкі, вочы прывыкалі да новых назваў, і на душы было прыемна, што Мінск, як і да вайны, друкуе кнігі паэзіі.

Усе тры зборнікі я прачытаў запар. Многія вершы мяне ўсхвалявалі, некаторыя кранулі свежасцю і арыгінальнасцю, новымі тэмамі і паэтычнымі сродкамі выяўлення.

Але ўсё ж ад іншай часткі вершаў на душы асеў нейкі непрыемны асадак. Пра гэта я і хачу табе напісаць.

1

Эдзі Агняцвет, наколькі я памятаю, пачала друкавацца гадоў 12—13 таму назад. Распачынала яна свой паэтычны шлях шчырымі вершамі. За мінулыя гады паэтэса напісала нямала цікавых твораў. У новым зборніку таксама ёсць добрыя вершы («Беларусь», «Памяці Янкі Купалы», «Кучкару Туртыеву», «Рукавіцы», «Героям Краснадона» ды яшчэ два-тры). Найлепшай пахвалы заслугоўваюць яе пераклады з узбекскіх паэтаў. Агняцвет цягне да народнай песні, да лірычных слоў, па-жаночаму ласкавых і светлых. Гэта добра. Дрэнна іншае: я не заўважыў росту майстэрства паэтэсы, і многія яе вершы маюць такія хібы, якія недаравальны нават творам пачынаючых пісьменнікаў.

Калі меркаваць па прачытаным, для Агняцвет найбольш улюбёны род войск — кавалерыя:

Ды нядоўга ды нядоўга
Панаваць паганым!
Дзесь з-за гаю маладога
Па начным туманам (?)
Мчацца коні...

У другім вершы: «...Хтосьці з гаю на кані імчыцца». З коней паэтэса аддае перавагу буланым:

Ты чуеш? Прывольныя ветры
узняліся над полем,
Буланыя коні па родных прасторах
ляцяць.

Цяжка паранены баец крычыць (што вельмі непраўдападобна):

На бой, мой конь буланы!

Часамі масць каня мяняецца. Хлопец, якому нявеста звязала рукавіцы, «у бойку памчыць на кані вараным».

Нам гэтыя коні знаёмы. Яны прымчаліся ў вершы Агняцвет з вядомай стайні, якая называецца літаратуршчынай. У паэтаў грамадзянскай вайны вышэйпамянёныя коні былі маладымі, і мы з прыемнасцю імі любаваліся. Цяпер яны зрабіліся шаблоннымі клячамі, і дарэмна паэтэса прымушае сваіх герояў імчацца на іх у бой.

У чым тут справа? Справа у тым, што гэтыя буланыя коні вельмі блізка стаяць, як вельмі блізка ляжаць «звонкія рэкі» і «вольны вецер», «крывавая раса» і «задуменныя вочы», «узнімаецца песня да зор» і «вольна ўздыхнуць твае грудзі». Часамі Агняцвет пачынае верш моцна («Пчаляр», «Лясная быль»), а пасля не хапае цярплівасці пераапрацоўваць «тысячи тонн словесной руды»,— з'яўляюцца буланыя коні.

Эдзі Агняцвет, як я пісаў, цягне да песеннага жанру. Часамі яна тонка ўлоўлівае дух народнай песні — і тады мы чытаем добрыя рэчы (для прыкладу — «Аксіння»). Але бяда ў тым, што паэтэса залішне захапляецца знешнімі адзнакамі народных песень, да канца не разумеючы і не раскрываючы іх унутраны сэнс і характар. Вось некалькі выпісак:

Ой, ляцелі гусі з далёкага
краю...
Ой, ты вецер, буйны вецер...
Ой, віхор у полі...
Ой, не раз употай мы затужым
горка...
Ой, дзяўчына, ты дзяўчына...
Ой, аднойчы, у завею...
Ой, трымайся, Фёкла!
Ой, нялёгка, партызанка...

Іншага разу напеўнае «ой» замяняецца адыёзным «о»:

О, як мне хочацца ізноў
Хадзіць між любых траў...
О, любы Гомель мой!

У большасці выпадкаў гэтае надаеднае «ой» не да месца.

Не лішняе напомніць, што ў творах вялікіх знаўцаў народнай песні Янкі Купалы і Якуба Коласа «ой» ужываецца нячаста і толькі тады, калі без яго нельга абысціся. Няма там «красной девицы» і «ветра буйного», але ёсць нешта больш глыбокае, якое блізка па духу да творчасці народа.

Адначасна хачу закрануць пытанне аб нацыянальнай форме ў паэзіі. Некаторыя людзі глядзяць на гэтую справу вельмі вузка, ізноў-такі беручы за аснову традыцыйныя знешнія адзнакі. Калі ідзе гаворка пра нацыянальную форму рускай паэзіі, значыць, упамі-

наюцца Пушкін, Някрасаў, Кальцоў. Між тым паэзія Маякоўскага, Блока, Пастарнака — таксама нацыянальная па форме. Існуе Мусаргскі, існуе і Шастаковіч, і абодва яны рускія нацыянальныя кампазітары. Народ, яго эканоміка і псіхіка не застыглыя паняцці, яны ўвесь час у руху і росце. Новыя арыгінальныя творы, якія б яны ні былі смелыя і нечаканыя, узбагачаюць і народны дух, і нацыянальную форму. Я не супраць традыцый. Я вельмі шаную іх і вучуся на іх. Але калі традыцыя ператвараецца ў самамэту, а не ў сродак развіцця і росту — гэта можа затармазіць духоўны рост народа, прывесці мастацтва да малакроўя. «Салаўі» і «ружы», пры ўсёй іх прывабнасці, доўга тармазілі развіццё паэзіі брацкіх сярэднеазіяцкіх рэспублік.

І прыемна, калі выдатны ўзбекскі паэт Гафур Гулям, творча ўвабраўшы лепшыя здабыткі роднай класікі, смела рве з традыцыйнымі формамі, застаючыся нацыянальным узбекскім паэтам.

Вяртаюся да зборніка Агняцвет. Чытаючы яе вершы, я ўвесь час спатыкаўся аб такія словы: бярозкі, сонейка, аконца, вішанька, птушанька, садок, калінка, сіротка, дзяўчынка, галоўка, галасок, дубок, дудачка, хвілінка, пылінка, салавейка, чараціначка, ножанькі і г. д. Зразумела, раз у народнай мове існуе такая памяншальная форма гэтых слоў, іх ужываць можна, і амаль усе паэты зрэдку іх ужываюць. Але калі імі занадта густа перасыпаць вершы — мазгі чытача рассаладзеюць, ён скажа: сентыменталізм.

Наступнае, пра што я хачу сказаць, гэта пра нежыццёвасць, няпраўдзівасць інтанацый у некаторых вершах Агняцвет, асабліва калі яна паказвае пачуцці не свае, а сваіх герояў ці прымушае апошніх гаварыць.

Партызанка змагалася з нямецкімі танкамі. Параненая, яна звалілася на снег. Што ж яна перажывала? Агняцвет сцвярджае: «Прыгадала ў гэты момант вішаньку ля дома, і здаваўся кветкай белай снег калючы...» Няпраўда! Не ўспамінала ў той момант партызанка вішанькі, і снег калючы ёй не здаваўся кветкай.

Ляснік Рыгор кажа сваім сынам:

Я гадаваў нядарма вас,
Нядарма вас люблю,

Хадзем, сыны, не церпіць час,
Ачысцім мы зямлю.

Сын-баец звяртаецца да маці:

Недарма ты навучыла:
— Будзь адважным на вайне!

Дзяўчына кажа свайму каханаму:

— Будзь героем, мілы мой Кучкар,
Прагані ты злодзеяў паганых!

Паранены дзядзька Нурахмет спрасонку крычыць:

Біць, паганых, біць!

Хлопчык Міхасёк гаворыць гэтаму дзядзьку:

Папраўляйся, родны,
Зноў каня сядлай,
Сёлы беларускія
Хутка вызваляй!

Дзяўчаты звяртаюцца да байцоў-франтавікоў:

Няцяжка нават паміраць
На полі пад Масквой.
Не дайце коршакам лятаць
Над плошчай векавой.

Што казаць, усе гэтыя словы правільныя, патрыятычныя. Мы іх ужывалі і ў агітках, і ў артыкулах, і ў прамовах. Нарэшце, і героі нашых вершаў падсвядома гэта думалі. Але не ўсё тое, што добра ў прамове, падыходзіць да паэзіі. Агняцвет спынілася на паўдарозе. Добрыя думкі не знайшлі свайго паэтычнага ўвасаблення. Атрымалася агульна і неперакавальна. Не трэба абядняць сваіх герояў і прымушаць іх гаварыць усім вядомыя рэчы аднастайнымі словамі.

Уражанне непраўдзівасці робяць і тыя строфы Агняцвет, у якіх яна ўжывае словы і вобразы не дакладныя, а прыблізныя.

Сустрэўшы Міхаську, які сядзеў каля сваёй забітай маці, дзядзька Нурахмет «як малы заплакаў». Пазней гэты баец быў цяжка паранены, ляжаў у шпіталі і трызніў. Яму Міхасёк даў напіцца вады — і адразу:

І глядзіць ласкава
Дзядзька Нурахмет,
Зіхаціць зубамі ён:
— Ну, сынок, прывет! (!)

Як быццам тое, а ў сапраўднасці не тое. Паўтараю: гэта прыблізныя словы, а патрэбны дакладныя.

Недакладнасць вядзе часам да недарэчнасцей. У вершы «Пчаляр» (першыя тры страфы — добрыя) Агняцвет піша пра тое, як немцы прыйшлі на пасеку да пчаляра:

Калі стапталі шоўк зялёны траў
І разбурылі пікай вулей кожны,—
Ён першы раз уголас закрычаў,
Аж задрыжэў:
— Спыніцеся, няможна.
Яму ў адказ халодна:
— Вас іст дас? —
Бялявыя нахабнікі спыталі,
І ў громе выбуху паўдзённы свет
пагас —
Калі яны унучку расстралялі!
Ён слоў калісь не ўмеў сказаць са злом,
Ён птушанё не мог пакрыўдзіць нават,
Але цяпер узяў жалезны лом,
Бо чалавек на помсту мае права.
Няхай маўчаць забойцы і звяры
І падаюць дадолу у зняменні.

Калі я прачытаў гэтую мясціну, мяне атакавалі пытанні: дзе і калі паэтэса бачыла немцаў, узброеных пікамі? Чаму пчаляр закрычаў «спыніцеся, няможна» пасля таго, як злыдні разбурылі ўсе вуллі? Адкуль раптоўна ўзялася ўнучка, якая не мае ніякага дачынення да сюжэта верша? Чаму нахабнікі «бялявыя»? Гэта слова не крыўднае, а хутчэй спагадлівае. Няўжо зграя немцаў будзе пакорна і маўкліва чакаць, пакуль стары нядужы пчаляр пачне іх глушыць жалезным ломам? Няпраўдзіва, парадыйна! Нашай Эдзі Агняцвет патрэбна сур'ёзна задумацца над сваімі вершамі і многія са сваіх паэтычных сродкаў выяўлення адкінуць.

## II

Зараз, мой дружа, хачу табе напісаць, якое ўражанне пакінула на мяне кніга Анатоля Астрэйкі «Крамлёўскія зоры».

Я чуў, што Астрэйка быў у партызанскіх атрадах. Таму я чытаў яго кнігу з асаблівай увагай. Загадзя я паставіў два пытанні: наколькі паэт здолеў

паказаць партызанскую Беларусь і якія свежыя фарбы ўжыў ён для выяўлення гэтай адказнай і невычарпальнай тэмы?

Паэту ўдалося ў меру сваіх здольнасцей параўнальна поўна і праўдзіва паказаць, чым жыла і дыхала наша партызанская зямля. Тут і канкрэтныя людзі, і тыповыя абставіны, і трапныя дэталі (якія, мажліва, для іншых паэтаў страчаны назусім), і нават дакладныя адрасы лясоў, дзе пісаліся гэтыя вершы. Многа цёплых радкоў напісаў паэт пра сваю радзіму, пра сяброў-партызан, пра родную Случчыну. У гэтым заслуга паэта.

Да вайны Астрэйку нярэдка ўпікалі за легкадумны падыход да паэтычнай працы. І я быў шчыра ўзрадаваны, калі прачытаў у новым зборніку многа добрых вершаў. Сюды трэба аднесці «Беларусь», «Вятрак», «Перад боем», «У дазоры», «За Дзвіной», «Лісты», «Зоркі шлях», «Увосень», «На ўспамін», «Шляхі», «Слуцкі пояс» ды некаторыя іншыя. Гэта ўжо нямала. Многія строфы запалі ў памяць:

Хай галінка ці клёну, ці вязу,
Хай хоць попел ад спаленых хат,—
Ён даражэй і песень і казак,
Абы толькі вярнуцца назад.

Гэта пачуццё людзей, якія вымушаны былі пакінуць Беларусь. А вось думкі заняволеных беларусаў пра байца Чырвонай Арміі:

Начамі цёмнымі, глухімі
І ў прадрассветны ціхі час
Мы як малітву тваё імя
Шапталі пра сябе не раз.

І далей, калі баец прынёс на Беларусь вызваленне:

І хоць вуголлі не датлелі
Ад хат, што вораг падпаліў,
Здаецца — раны ў нас на целе
З тваім прыходам зажылі.

Паэт стаў больш назіральным, умее знаходзіць дакладныя паэтычныя дэталі:

Ты знаеш, што такое дождж
Ды праліўны, на сутак пяць,
Калі ў руках ржавее нож...

Або:

Я хачу, каб у восеньскі дзень
Зерне к зерню бліжэй прытулілася...

Анатоль Астрэйка вырас. Ён і сам прызнаецца ў адным з вершаў, што многа працуе над словам:

Але затое як я рад,
Калі мільёны іх адкіну,
Каб словы без руды падрад
Ляглі ў радкі, што ў мур цагліны.

Калі б паэт да гэтых мільёнаў далучыў яшчэ некалькі дзесяткаў («Прагучала, як гром», «расцвітаюць зоры», «расцвіўшая зямля», «гордыя сокалы», «красавац, як сад», «восень плача даждком», «месяц усмешкі рассыпаў», «жоўцю закведяцца клёны», «благаславён хай будзе у сто крат», «каратаюць шаг, праклянце», «ваджуся доўга над радкамі» ды інш.), зборнік значна выйграў бы.

Надзвычайна псуюць вершы Астрэйкі агульныя мясціны, некаторыя радкі: «Скора сонейка засвеціць», «сонца яснае ўзыдзе над нашым краем дарагім». Вось яшчэ прыклады: «Чужынцы касцямі палягуць», «я за слёзы жанчын, за разбой буду гадаў бязлітасна біць», «за ўсе здзекі, за ўсе папялішчы людаедам як след адплачу, на зямлі сваёй ворага знішчу, як гадзюку, яго растапчу», «тым слава, хто б'ецца аддана, хто ўсцеле чужынцамі шлях», «каб за гора тваё і за жах прад'явіць чужаніцам расплату», «сілай гневу праб'ёмся назад, адпомсцім чужынцам за гора», «вораг чорнай заплаціць крывёй за здзек, за прымус і за раны» і г. д.

Гэта ўсё — святыя ісціны, але яны не ператвораны ў паэзію. Можа, я прайшоў бы каля гэтых радкоў без прычэпкі, калі б яны былі ў агітацыйным заклі-ку. Але ў Астрэйкі яны ўсюды: і ў лірыцы, і ў жанравых замалёўках.

Гэтая агульшчына плюс небагатая рытміка робяць вершы Астрэйкі вельмі аднастайнымі. Асабліва кепска, калі рытарычнымі радкамі паэт заканчвае свае вершы. Маякоўскі нас вучыць, што на канцоўку трэба прыберагаць самыя моцныя радкі. Астрэйка яшчэ не навучыўся рабіць моцныя канцоўкі.

Я разумею, што гэтыя вершы пісаліся ў цяжкіх умовах, спяшаючыся. Але ж паэт здаваў кнігу ў друк пасля вызвалення Беларусі, і можна было многае

выкінуць, скараціць. А так добрыя строфы часамі тонуць у рытарычнай вадзе.

Грашыць Астрэйка і мнагаслоўем («У Церахоўцы», «Нёман» ды інш.). У вершы «Нёман» паэт піша:

Касцямі звяругаў шалёных
Усланы твае берагі.

А праз страфу паўтараецца:

Ты глянь, на тваіх колькі схілах
Нямецкай ляжыць саранчы!

У некаторых вершах можна выкінуць асобныя строфы, пераставіць, уставіць кавалкі з другіх рэчаў — і сэнс не зменіцца. Астрэйку трэба дамагацца большай злітнасці, большай унутранай сувязі вобразаў. Іншага разу паэт растрачвае сілы на дробязі, піша пра рэчы, не вартыя паэзіі («Мой будан», «Зімовы дом», «Даўно спяць хлопцы», «Я напішу», «Тытунь»). І сапраўды, чым узбагаціць чытача такое шчырае прызнанне:

...Ляжаць акуркі ад цыгарак.
Я іх ашчадна берагу
На дзень, калі махорка выйдзе,
А не курыць я не магу.

У другім вершы ён імкнецца ізноў пераканаць чытача:

Я перастаць курыць не ў сілах...

Невядома, чаму некаторыя голыя зарыфмаваныя факты Астрэйка выдае за вершы («Бяльмо»). Пра гэта можна было напісаць прозай у выглядзе газетнай нататкі альбо нарыса. Задача паэзіі іншая.

Ёсць і яшчэ дробныя недахопы ў творах Астрэйкі. Часамі паэт не адчувае адценняў слоў, і тады некаторыя радкі гучаць парадыйна:

І доўга на шматкі яна
Крывавага Гітлера рвала.
Людская жывая арэна
У такт галавой ёй ківала.

Або:

На свеце так многа дзяўчат,
Ды нас разлучылі шынелі.

Трапляюцца і не вельмі пісьменныя радкі («Я сэрца сваё не прысплю і душу...», «сыпнуць удар»).

Іншыя вершы нагадваюць нам чутае раней:

Мо палоска нязжатая дзе
Між суцёмак вайны заблудзілася.

*(«Шаўковыя травы»)*

Хай Кастрычніка спелыя дні
Толькі сонцам навокал сцеляцца.

*(«Восень»)*

Першыя радкі нагадваюць нечую дарэвалюцыйную паэзію, другія — вершы ранніх маладнякоўцаў.

Ёсць у Астрэйкі і проста бездапаможныя строфы:

А вешалі, палілі і стралялі
Малых дзяцей, дзядоў сівых, жанчын.
Сям'ю Пятра жывою закапалі,
Як ёсць, кажу табе, без дай прычын.

Або:

Надыдзе час, і зноў я к вам вярнуся
Ці яснай раніцай, ці вечарком.
І да шчакі матулі прытулюся,
Тады шчаслівую слязу пральём.

І апошняе, што я хачу сказаць пра зборнік Астрэйкі,— гэта адсутнасць у большасці яго вершаў падтэксту і смелай арыгінальнай метафарычнасці.

Лепшыя вершы здольнага паэта гавораць за тое, што ён хутка пазбавіцца гэтых недахопаў.

## III

Найбольш спелая і цікавая з трох кніг — «Шырокае поле вайны» Максіма Лужаніна.

Праўда, і тут сустракаюцца агрэхі.

Нельга было чакаць ад спрактыкаванага паэта такіх малапісьменных выразаў:

Гэта ён не дазволіў пагвалціць
сястру,
У каго на павязцы рука.

Або:

Пранізаў яго куляй пад Клецкаю
бой,
Што гула, як раздражнены чмель.

Да таго ж, каму-каму, а Лужаніну павінна быць вядома, што куля не гудзе, тым больш як чмель. З апошнім звязана нешта бясконца манатоннае, што да імгненнага посвісту кулі ніяк не падыходзіць.

Сустракаюцца нязграбныя радкі:

Даручыла мне гонар
яго расстраляць
Нашай помсты святое імя.

Ёсць безгустоўныя вобразы: «Віно ў кілішках засмяецца, калі мы прыйдзем валадзець...», «Пеніць келіх размова».

Трапляюцца строфы, якія нагадваюць сярэднеарыфметычныя вершы і казённыя выразы:

Усе, хто чорнаю рукою
Вайны распаліваў пажар,
Пачулі сілу нашай зброі
І помсты нашае удар.

У некаторых вершах мова (наогул, добрая) патрабавала праўкі («Тае ў шпіталь прыладаванай хаты», «...аб чалавеку... што ім жадае шчасця ўдубальт...», «...яшчэ ўзмах, празрысцей хвалі сатканых з сінявы мярэж»).

Але ўсё гэта адступае на другі план перад тым сапраўды паэтычным і свежым, што ёсць у кнізе.

Лужанін — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Ён перацярпеў франтавыя нягоды, бачыў адступленне нашых войск і светлыя дні вызвалення. Матэрыял для сваіх вершаў паэт браў не з чужых слоў, не з газетных артыкулаў, а з свае душы. Таму яго лепшыя вершы хвалююць, дыхаюць суровай праўдай вайны.

Максім Лужанін — лірык. Яго цікавіць не голы факт, а пачуцці і настроі людзей, байцоў Чырвонай Арміі. Ён піша пра салдат пярэдняга краю, пра іх гераізм і тугу па блізкіх: піша пра трасцянецкія ахвяры і вызваленую зямлю. У большасці выпадкаў шчырыя словы паэта знаходзяць водгук у нашым сэрцы. Мы гэта перажылі, мы гэта (можа, у іншай форме) адчувалі. І, вядома, не фатаграфічнай праўдай дасягае гэтага паэт, а мастацкай:

Каржакаватымі нагамі
Карэнне вырваўшы з зямлі,
Лясы пайшлі ўслед за намі,
І ўслед нам рэкі паплылі.

А вось як паэт перадае навальніцу:

Я ў ноч пайшоў і доўга слухаў:
Як працавіты дрывасек,
Гром уздыхаў і падаў глуха
На скрыжаванні чорных рэк.

А потым, стукнуўшы ў акенкі,
Каб не запальвалі агню,
Дождж паляцеў ламаць алешнік,
Трасці сады, хвастаць хвайню.

Гэтыя строфы выдатна перадаюць трывожны настрой пачатку навальніцы. Верш дакладны і таямнічы, як і заўсёды бывае ў сапраўднай паэзіі. Наогул, у зборніку Лужаніна шмат свежых паэтычных знаходак:

І, падняўшы руку са шчарбатым
сярпом,
Позні жнівень па пожні замоўк,
На пясчанай дарозе, ля жоўтых
снапоў,
Працягнуўся істужкаю полк.

Можна было б яшчэ прывесці шмат цудоўных мясцін. Паэт умее пісаць сцісла і вобразна.

Але адзін сур'ёзны папрок Лужанін заслужыў. Навошта спатрэбілася паэту з даволі выразным індывідуальным голасам залазіць у чужыя паэтычныя ўладанні? Часам ён ідзе па сцежцы, пратаптанай Сіманавым («Жонка», «У чорным лесе, на прывале...»), часамі выступае з варыяцыямі пастарнакаўскіх тэм і вобразаў («Твае радкі», «Я не хацеў трывожыць памяць», «Дай жа кнігу жыцця...»). Дарэчы, у апошнім вершы здвоеныя словы, што ідуць пасля кожнай страфы, на маю думку, зусім не патрэбныя, іншага разу чуецца Твардоўскі («Таямнічы мост»). Гэта дарога не для Максіма, хопіць у яго і свайго голасу.

Нізка вершаў «З партызанскага краю» стаіць на значна ніжэйшым узроўні, ніж астатнія.

Пра «Салдацкі штодзённік» не магу выказаць меркавання, бо гэтая рэч не закончана. Пакуль што кідаецца ў вочы няроўная якасць асобных мясцін.

Дарагі дружа!

Я заканчваю свой не ў меру расцягнуты ліст. Вельмі ж хацелася падзяліцца сваімі думкамі і ўражаннямі, навеянымі новымі творамі сяброў-паэтаў. Я знарок у асноўным спыніўся на пытанні паэтычнай формы, бо тут у нашай паэзіі не ўсё добра. А што датычыць тэматыкі, ідэйнасці, то скажу: тэматыка цікавая і патрэбная, а пра высокую ідэйнасць гэтых паэтаў гаворыць тое, што іх вершы дапамагалі біць ворага.

Знарок таксама я пісаў больш пра недахопы паэтаў, а не пра іх дасягненні. Добрыя вершы (а іх у трох кнігах нямала) пяройдуць у наступныя выданні, знойдуць дарогу (а магчыма, ужо і знайшлі) да сэрца чытача. Кепскія ж вершы могуць сапсаваць чытацкі густ і пашкодзіць самім паэтам. Вядома, некаторыя радкі гэтага ліста мне было пісаць не вельмі прыемна. Я мог бы абмінуць вострыя пытанні. Але я не хачу гэтага рабіць і не магу.

Мы носім высокае званне паэтаў вялікага і гераічнага беларускага народа. Значыць, і наша паэзія павінна быць вялікая. А гэтага дасягнуць можна толькі пры ўзаемнай таварыскай, але суровай крытыцы, без скідак і непераджальных рэверансаў. Выступаць перад савецкім чытачом з шэрымі неахайнымі вершамі і паэмамі мы не маем права. Не маем права яшчэ і таму, што нам расчысцілі дарогу такія волаты беларускай паэзіі, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. Іх творы і па зместу і па форме павінны стаць нашай школай.

Мы маем шчасце чытаць вершы і паэмы такіх выдатных сучасных паэтаў, як А. Куляшоў. П. Броўка, М. Танк, П. Глебка. Наша задача — не паўтараць іх паэтычныя знаходкі і адкрыцці, а нястомна шукаць сваіх фарбаў, сваім голасам і па-сур'ёзнаму размаўляць з народам.

Канчаю. Прашу цябе, дружа, азнаёміць з гэтым лістом Максіма Лужаніна, Анатоля Астрэйку і Эдзі Агняцвет, перадаць ім маё вітанне і пажаданне найлепшых творчых поспехаў.

Паклон усім пісьменнікам!

*1945*

## ГОРДАСЦЬ НАШАЙ ПАЭЗІІ

У 1937 годзе, калі над нашай зямлёй мірна свяціла сонца і большасць паэтаў пісала пра каханне і наліўныя сады, з'явіўся верш Аркадзя Куляшова «Бацька». Сурова і мужна паэт гаварыў пра час, у які «вайна мой мірны край агорне». Глыбокае адчуванне часу, клопат пра лёс сваёй Радзімы, прадбачанне бурных падзей — характэрны для гэтага твора. І асноўная думка верша — наша жыццё, наша будучыня.

Калі вайна агарнула нашу мірную зямлю, Аркадзь Куляшоў стаў воінам Чырвонай Арміі. Ён пабачыў шмат людскога гора, перанёс цяжкія нягоды. І заўсёды паэт быў аддана свайму слову — слову патрыёта. Яго верш «Бацька» — гэта клятва, якую Куляшоў да канца стрымаў.

Паэма «Сцяг брыгады» з'явілася на фронце. Куляшоў пісаў яе ў часіну вельмі цяжкую для нашай радзімы, і таму нам асабліва дарага яе шчырасць, яе глыбокая праўдзівасць. У паэме мы знаходзім свае думкі і пачуцці.

Вось падбег светлагаловы хлопчык Васілёк і дзівіцца на абшарпанага, з доўгай барадой байца:

— Жыў у Мінску ты, хлопчык?
— Ага.
— Дзе ж твой бацька?
— У войску чырвоным.
— Як выходзіў з мінскае хаты,
Там пакінуў каня ты...
Ты катаўся на тым кані
З кута ў кут заўсёды,
Конь згарэў, Васілёк, у агні...

І баец, які выходзіць з акружэння, аддае апошні свой хлеб малому, бо гэтае дзіця вайны прабегла не толькі па халоднай зямлі, але і па сэрцы савецкага воіна.

Калі чытаеш «Сцяг брыгады», здаецца, ідзеш па сцежках роднай Беларусі, ахопленай агнём вайны. Вобразы Рыбкі, Заруднага зроблены надзвычай скульптурна. Гэта сапраўды нашы сучаснікі — людзі мужныя, высакародныя героі, якім лёс Радзімы, чэсць сваёй часці даражэй уласнага жыцця.

Радасна і тое, што Аркадзь Куляшоў узбагаціў форму нашай паэзіі. Рытм яго паэмы арыгінальны, гнуткі. Загалоўкі раздзелаў гучаць нечакана, але заўсёды апраўдана, нібыта выплываюць з самога жыцця.

У памяці чытачоў надоўга застанецца і зруйнаваная вуліца, якая нагадвае горную дарогу ў час абвалу; і слёзы, якія не засохлі на светлым смычку, і нежывая лялька, і нямецкія мінёры, што хадзілі па калгасным полі, і шмат іншага.

«Сцяг брыгады» — гордасць беларускай і ўсёй савецкай паэзіі.

Жадаю новых творчых поспехаў нашаму выдатнаму паэту і дарагому сябру.

*1946*

## НАМ 30 ГОД

Такое адчуваеш у гарах. Ідзеш пятлістай дарогай. Табе цяжка, ты стаміўся, але хочацца ўзысці яшчэ вышэй. І вось ты на перавале. Абцёр з твару пот, перадыхнуў і азірнуўся. Які велічны і прыгожы раскінуўся краявід! Тое, што ў дарозе мільгала асобнымі абразкамі, раптам паўстала ў суцэльнай непаўторнай красе: і залітая сонцам даліна, і паселішчы, і статкі на адхонах гор, і квітнеючыя сады. І ты здзівішся першародным здзіўленнем і падумаеш: да чаго ж добрая гэта наша зямля!

Сёння, з вышыні трыццаці год Савецкай улады, мы азіраемся на пройдзены шлях і самі дзівімся нечуваным пераўтварэнням, што адбыліся ў нашай краіне. Раней са словам Беларусь асацыіраваліся такія разуменні, як загнанасць, балоты, недарод, каўтун і г. д. Цяпер, калі мы кажам: Савецкая Беларусь — адразу ўяўляецца і гераічная партызанская барацьба, і подзвіг Гастэлы, і нашы велічныя навабудоўлі — трактарны, аўтамабільны заводы, і шмат чаго іншага, што нашым папярэднікам і не снілася. Гэта даў нам Вялікі Кастрычнік, слаўная партыя Леніна, бессмяротная Савецкая ўлада.

Але самая большая заваёва Савецкай улады — гэта стварэнне чалавека новага тыпу, савецкага чалавека. Адданасць Радзіме, непахісная вера ў перамогу камунізма, храбрасць, здольнасць на гераічныя подзвігі — хай гэта будзе на баявым ці працоўным фронце, нястрымнае жаданне ісці ўвесь час наперад — гэтыя рысы мне здаюцца асоўнымі ў характары савецкага чалавека.

Перавагу савецкіх людзей над людзьмі капіталістычнага свету мы асабліва адчулі, калі былі за мяжой нашае Радзімы. Мне давялося два гады — 1944 і 1945 — жыць з нашымі войскамі ў Іране. Англійскія, амерыканскія афіцэры да мясцовага насельніцтва — беднага, непісьменнага, запалоханага,— ставіліся з незвычайнай пагардай, абражалі на кожным кроку, а часам проста збівалі. Адзін з нашых байцоў, па нацыянальнасці кіргіз, гледзячы на «дзейнасць» амерыканцаў, сказаў: «Якія дзікія, некультурныя людзі». І гэта сказаў сын учарашняга вандр-

роўніка, сын народа, які да рэвалюцыі не меў сваёй пісьменнасці. Дысцыплінаваныя культурныя савецкія воіны, якія па-чалавечаму, з разуменнем і спагадай ставіліся да простых людзей Ірана, карысталіся іх вялікай павагай і любоўю. У іранскім народзе надзвычайна быў распаўсюджаны такі іранічны выраз (напярэдадні адчынення другога фронту): «Рускія на фронце трымаюцца, як ільвы, а ў Іране, як «красные девицы»; а англічане і амерыканцы трымаюцца на фронце, як «красные девицы», а ў Іране — як ільвы».

Той, хто хоць раз сутыкнецца з савецкай рэчаіснасцю,— калі гэта просты, працавіты і сумленны чалавек,— той назаўсёды застанецца адданым Савецкай уладзе. Я ведаю такую гісторыю. Каля Магілёва ёсць калгас-мільянер «Камінтэрн». Сюды прыехала не вельмі даўно сям'я аднаго беларускага селяніна, які раней жыў у Польшчы. Жонка гэтага селяніна і слухаць не хацела пра калгасы. Старшыня калгаса «Камінтэрн» сказаў: «Пажывіце ў нас, паглядзіце. Не спадабаецца — можаце паехаць у іншае месца. У савецкай краіне гвалту ні над кім не чыняць». Як на ліха, першую ноч давялося гэтай сям'і начаваць у сцюдзёнай, няпаленай хаце. Жонка загаласіла, кінула ўсё і пайшла на станцыю... Праз год мы запыталіся ў гэтага селяніна, як яму цяпер жывецца ў калгасе, як жонка. І ён, усміхнуўшыся, сказаў: «Дай бог усім так жыць. А жонку цяпер ад калгаса і цягачом не адцягнеш».

У савецкіх людзей заўсёды перад вачыма ясныя перспектывы. У нас амаль не знойдзеш чалавека, які не быў бы захоплены планамі сваёй будучай працы: той хоча сабраць небывалы ўраджай збожжа, той сканструіраваць новы самалёт, адзін мяркуе закончыць універсітэт, другі — асушыць нейкае балота і знайсці новыя залежы нафты. І нікому не зачынены шляхі да подзвіга і славы. Гэта тым больш разасна, што цяпер у капіталістычных краінах з'явілася цэлая армія спустошаных, выбітых з каляіны жыцця людзей, якія са страхам глядзяць у будучыню. Яны не маюць ні працы, ні ўпэўненасці, ні будучыні. Савецкі ж чалавек нават тады, калі яго спасцігае няшчасце, не выбывае з шэрагаў актыўных будаўнікоў сацыялізма. Сляпы Мікалай Астроўскі стварае кнігу,

на якой выхоўваюцца і будуць выхоўвацца многія пакаленні нашай моладзі. Бязногі Марэсьеў воляй бальшавіка дамогся таго, што зноўку водзіць самалёты. Бязрукі партызан Арлоўскі кіруе адным з лепшых калгасаў нашай рэспублікі. Такіх прыкладаў шмат.

Гэтую сілу, гэтую нязломную волю дала ім вялікая партыя Леніна, савецкі лад.

Маё пакаленне — пакаленне аднагодкаў Кастрычніка — усмактала нашу савецкую рэчаіснасць дакладна з малаком мацеры. Мы раслі разам са сваёй савецкай дзяржавай. Ад піянерскага кастра да баёў за Берлін, ад першага трактара да велічных працоўных подзвігаў новай пяцігодкі мы заўсёды былі вернымі сынамі Радзімы. У дзень трыццацігоддзя Вялікага Кастрычніка хочацца ад усяго сэрца сказаць дарагой Радзіме: «Дзякуй табе за тое, што клапатліва вучыла нас жыць, працаваць, змагацца. Табе наша бязмежная адданасць, табе нашы сэрцы і песні».

*1947*

## КАБ ВЕДАЛІ

За гады сваёй творчасці Максім Танк перажыў велізарныя гістарычныя падзеі. Ад песень, якія нараджаліся на этапных дарогах і ў турмах, праз высокі ўзлёт гнеўнай і палымянай паэзіі гадоў Вялікай Айчыннай вайны да ўслаўлення гераічнай працы савецкага народа ў дні пасляваеннай пяцігодкі — такі творчы шлях паэта-камуніста Максіма Танка.

Па гэтым шляху мы можам зноў прайсціся разам з паэтам, прачытаўшы яго «Выбраныя творы».

Пасля заканчэння вайны сярод часткі літаратараў бытавалі тэорыйкі аб тым, што адразу цяжка перабудавацца і пісаць на «мірныя» тэмы, што трэба перажыць пераходны крызіс і г. д. Як вынік такіх настрояў у друку з'явілася нямала пустых, безыдэйных, антымастацкіх твораў. Некаторыя паэты патанулі ў смакаванні сваіх дробных, нікчэмных пачуццяў, збочылі з яснай дарогі і грамадзянскай паэзіі.

Для Максіма Танка не спатрэбіўся пераходны перыяд, яго песня ні на хвіліну не змоўкла, а зазвінела яшчэ з большай сілай і прыгажосцю. За апошнія два з паловай гады паэт напісаў многа вершаў (больш трох з паловай тысяч радкоў). Яны былі надрукаваны асобнымі цыкламі ў нашых часопісах і газетах. Зараз аўтар сабраў іх у кнігу пад назвай «Каб ведалі».

Справа, вядома, не ў колькасці напісанага (хоць і гэта — паказчык штодзённай напружанай працы паэта). На маю думку, новая кніга Максіма Танка не толькі сведчыць пра сталасць і выдатнае майстэрства паэта, але і ўносіць у беларускую савецкую паэзію нешта адменна новае і моцнае.

Паэт назваў кнігу — «Каб ведалі». Гэта назва не выпадковая і не прэтэнцыёзная. Максім Танк дужым і чыстым голасам сваёй паэзіі горда гаворыць сваім сучаснікам, нашчадкам і ўсяму свету, каб ведалі, што ёсць, жыве і квітнее наша цудоўная сацыялістычная Радзіма; каб ведалі, што яе абараніў савецкі народ цаной вялікіх ахвяр; каб ведалі, які гераічны, працавіты, высакародны, гуманны савецкі народ; каб ведалі, што звярыны імперыялізм рыхтуе новую вайну супраць нашай краіны, і былі пільнымі; каб ведалі,

што савецкі народ працоўнымі подзвігамі набліжае сонечны дзень камунізма.

Так выпікае асноўная тэма кнігі паэта — тэма савецкага патрыятызму, тэма глыбокая і невычарпальная. Максім Танк для выяўлення гэтай тэмы скарыстоўвае разнастайныя мастацкія прыёмы і сродкі: ад сімвалічнай сасны да апявання канкрэтных подзвігаў герояў у імя Савецкай айчыны. Магутная сасна, якая апляла каранямі дол, а вяршыняй кранае зоры,— улюбёны паэтам вобраз, сімвал бацькаўшчыны. Верш «Каб ведалі» гучыць урачыстым гімнам Радзіме. Глыбокая думка, дасканалая празрыстая форма робяць гэты верш сапраўдным перлам нашай лірыкі.

А вось верш «Сон над Нёманам». Паэт прысніў на беразе Нёмана сон, нібыта ён разам з Калумбам выпраўляецца ў далёкі марскі шлях у пошуках новай багатай зямлі. Вытокі гэтага верша выразна літаратурныя. І каравелы, і марскі ахрыплы вецер, і паўсотні бочак рому, і арганаўты — гэта нам знаёма з даўніх кніг. Але Танк, як сапраўдны паэт, прымусіў па-новаму гучаць і старыя разуменні. Калі ўсе, хто прыехаў з Калумбам, разбрыліся па новай зямлі ў пошуках нажывы, забыўшыся на сваю радзіму, сіні прыбой прынёс паэту з бацькаўшчыны сасновую галіну. І яго агарнуў такі вялікі сум па далёкай роднай зямлі, што ён адрокся ад усяго багацця і адзін на чоўне выправіўся ў вандраванне, каб адшукаць тую сасну, якая

...Прышчэпе да ствала
Мяне замест галіны,
Абмые ветрам і зарой
Наднёманскай краіны.

Гэты верш прасякнуты глыбокім і чыстым пачуццём любові да роднай зямлі.

Яшчэ большай сілы ўздзеяння, чым у «Сне над Нёманам» (які ўсё ж носіць некалькі абстрактна-паэтычны характар), паэт дасягае ў вершах, дзе непасрэдна кранае тэмы савецкага патрыятызму. У вершы «Рэпатрыянты» Танк паказвае зварот на Радзіму вызваленых савецкіх людзей, якія перанеслі ўсе жахі фашысцкага пекла. Савецкія людзі ведаюць, што

...Толькі недзе там, на ўсход, за
Бугам сінім,
Вятры такія, што асушаць слёз
паток,

Дажджы такія, што з сэрц
змыюць прах чужыны,
І сінява нябёс, што распагодзіць зрок.

І таму яны, шчаслівыя,

Спяшаюцца грудзьмі да ніў сваіх
прыпасці,
Да дрэў, што ім насустрач кінулі
свой цень.

Паэт адчувае сябе звязаным са сваёй сацыялістычнай бацькаўшчынай, як «вясна з зямлёй», як «жывое вецце з карэннем дрэва» («Свята»). Таму з асаблівай сілай гучыць у вершах Танка пачуццё гордасці савецкага чалавека, калі ён супрацьстаўляе Радзіму капіталістычнаму захаду («Пасланне за мяжу», «Праўдзівае слова», «Два лісты»). У вершы «Два лісты» паэт славіць вецер з Усходу, які прынёс у Заходнюю Беларусь вясну вызвалення, засыпаў мёртвым пяском бясслаўныя магілы фашыстаў, дапамагаў распальваць партызанскія кастры, калыхаў сцягі перамогі, асушыў слёзы пакут і зараз калыша ўраджайныя калгасныя нівы.

Паэт з гневам і нянавісцю звяртаецца да заходняга ветру, які заўсёды прыносіць чад вайны, наганяе цёмныя хмары, атручвае паветра і ваду крыніц:

Ты песню звонкую маю
Глушыў, але яна жывая.
І з ёй на варце я стаю
Свяшчэнных меж — граніцаў краю,
І калі посвіст крыл тваіх
Я зноў пачую,— песня ўздыме
Кіпучы вал з глыбінь марскіх
І насустрэчу ў наступ рыне,
Яна да зораў залатых
Надыме горы, праз якія
Пераваліць не зможаш ты
І кінуць хмары градавыя.

Любоў да Радзімы ў савецкага народа цесна звязана з любоўю да Масквы. Гэта добра адчувае і перадае паэт. Ён называе Маскву надзейнай пристанню, куды адусюль плывуць надзеі і думы працоўных, бо тут «ад граніту Маўзалея пралёг у будучыню шлях».

Глыбокае разуменне сутнасці савецкага патрыятызму дало магчымасць Танку стварыць паўнакроўныя вобразы савецкіх патрыётаў (Сільніцкі, партызан Дубяга і інш.). Герой паэзіі Танка — гэта перш

за ўсё чалавек вялікай сілы волі, бясстрашны, да канца адданы сваёй Радзіме, сваёй справе. І нават тады, калі паэт робіць, так сказаць, паэтычны экскурс у гісторыю, яго зрок спыняецца на людзях адважных, адданых свайму народу, сваім перакананням (Яносік, Люцыян Таполя). Прычым і сам верш у Танка мужны, у ім не знойдзеш і ценю сентыменталізму ці таннага аздаблення.

Адной з прывабнейшых рыс паэзіі Максіма Танка з'яўляецца любоў і вялікая павага да свайго гераічнага і працавітага народа, народа-пераможцы, які адбудоўвае, не шкадуючы сіл, сваю разбураную краіну.

«У ліку неабходных умоў, якія складаюць сапраўднага паэта,— пісаў калісьці Бялінскі,— абавязкова павінна быць сучаснасць. Паэт болей чым хто-небудзь павінен быць сынам свайго часу». Максім Танк валодае глыбокім пачуццём сучаснасці. Тэма пасляваеннай адбудовы краіны — адна з асноўных тэм новых твораў паэта. Лірычны герой гэтых вершаў — чалавек працы, чалавек, які жыве клопатамі, каб зрабіць сваю краіну багацейшай, прыгажэйшай, мацнейшай. Гэта сапраўдны гаспадар сваёй зямлі. Паэт апявае справы і людзей пасляваеннай пяцігодкі: і муляроў і цесляроў, якія адбудоўваюць Мінск («Раніца над Мінскам»); і нарачанскіх рыбакоў, што закінулі невад на ўсю шыр возера («На Мядзельшчыне»); і сялян, якія сабралі багаты ўраджай і цяпер занепакоены тым, што для восені не хапае тары, каб везці збожжа ў дар дзяржаве («Наша восень»); і залаты лён, што буйна закрасаваў на калгасных палях («Лён»); і агні аднаўленага Белгрэса («Белгрэс»). Для гэтых вершаў Танка характэрны надзвычайна светлы і радасны тон, адчуванне паўнаты і прыгажосці жыцця савецкага чалавека. І нібы для кантрасту з нашым сённяшнім днём, паэт вяртаецца да жахлівых часін нямецкай акупацыі («Гета», «Трасцянец», «Рэпатрыянты»).

Паэзія Максіма Танка сапраўды народная. І не таму, што паэт часамі скарыстоўвае народныя матывы («Іван-ды-Мар'я», «Пасылае маці думы», «Калыханка», «Песня пра Яносіка»). Якраз такіх вершаў у кнізе мала. Ды і ў іх няма і следу якога-небудзь стылізатарства. Паэт глыбока адчувае дух народа, яго

ідэі, думы, пачуцці, яго жыццёвы ўклад, мову. І гэта ўсё перадаецца фарбамі, уласцівымі толькі Максіму Танку. У вершах Танка заўсёды ёсць значная думка, свежая нечаканая метафарычнасць, багатая разнастайная рытміка.

Асобна хочацца адзначыць вершы для дзяцей («Журавель і чапля», «Галінка і верабей», «Калыханка» ды інш.), якія, дарэчы, з цікавасцю чытаюцца і дарослымі. Яны зроблены бліскуча. Тут і скульптурныя вобразы, і сакавітая лаканічная мова, і цёплы гумар, і адменная кампазіцыя верша. Хто хоць раз пачытаў, той ніколі не забудзе крыху смешную і крыху сумную гісторыю пра тое, як сваталіся журавель і чапля. Як тонка тут перададзены чалавечыя пачуцці.

У новых вершах Танка можна знайсці такія-сякія хібы: залішняе захапленне цымбаламі, смыкамі, вясельнымі сталамі, вятрамі і зорамі, гучнымі геаграфічнымі назвамі, а часам і ўмоўна-рамантычнымі (дакладней — кніжнымі) сюжэтамі (верш «Бурштын»). Некаторыя радкі і строфы кепска ўспрымаюцца праз іх цяжкую інверсійную пабудову. Але гэта не змяншае вартасці таго таленавітага, што ёсць у кнізе.

У чым жа сакрэт поспехаў Максіма Танка?

У тым, што паэт бярэцца за асноўныя тэмы нашага часу, а не разменьваецца.

У тым, што ён добра ведае жыццё свайго народа, жыве яго думамі і пачуццямі.

У тым, што яго паэзія высокаідэйная, партыйная.

Паэзія Танка палымяная. Лірычны герой паэта — гэта не сузіральнік, а актыўны грамадзянін зямлі, чалавек-творца, якога турбуе лёс сваёй Радзімы і ўсяго свету.

Таму ён з нарачанскіх берагоў можа ўпэўнена перанесціся на Татры, дапамагчы ў барацьбе марсельскім рабочым, кінуць словы гневу і пагарды падпальшчыкам вайны, паглыбіцца ў сутарэнні гісторыі ці ўзняцца на вышыні заўтрашняга дня. Ён смела ўмешваецца ў жыццё.

Новыя вершы Максіма Танка — гэта лепшае, што стварыла беларуская савецкая паэзія за апошнія гады.

*1948*

## ВЫДАТНЫ СКУЛЬПТАР

Заір Ісакавіч Азгур у другі раз адзначаны высокаю ўзнагародай — яму прысуджана Дзяржаўная прэмія за скульптурны партрэт Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага.

Грамадскасць нашай рэспублікі з вялікай радасцю адзначае падзею, тым больш што высокая ўзнагарода супала з дваццаціпяцігоддзем творчай дзейнасці выдатнага скульптара.

Заір Ісакавіч нарадзіўся і вырас на беларускай зямлі, у самай глушы нашага працавітага народа. З маленства ён палюбіў дрымучыя бары, жытнёвыя палеткі, люстраныя азёры і аксамітныя лугі роднай Віцебшчыны. Вялікай і моцнай любоўю палюбіў будучы мастак простага працоўнага чалавека, яго працу, яго песні і легенды. Глыбокае веданне жыцця, непарыўная сувязь з народам дазволілі Заіру Азгуру ў будучым стварыць свае цудоўныя скульптуры, праўдзівыя і ясныя, як і само жыццё.

Чвэртка веку творчай працы — гэта нямала. Ад фігуры наіўнага «Лесуна», ад «Засмучонага селяніна» да вобразаў Герояў Сацыялістычнай Працы,— такі шлях прайшоў народны мастак БССР Заір Азгур. Ён спрабаваў свае сілы ў розных жанрах, але найбольшых поспехаў дамогся ў манументальнай скульптуры. І тут перш за ўсё здзіўляе надзвычайная працавітасць Заіра Ісакавіча. Даволі сказаць, што за дваццаць пяць год творчай дзейнасці ён стварыў адных толькі скульптурных партрэтаў каля двухсот!

Пасля наведвання майстэрні скульптара, Максім Танк напісаў свой вядомы верш пра мастака, які

...забыўшы адпачынак, сон,
Шлях жыцця свайго, як міг кароткі,
Ускрашае цені сваіх продкаў,
Славу нашых гераічных дзён.

Такім мастаком і з'яўляецца Заір Азгур.

Яго не спакушаюць танныя эфекты, лёгкі поспех. Ён ведае, што сапраўдныя творчыя ўдачы прыходзяць у выніку нястомнай працы. Характэрнай рысай Азгура з'яўляецца яго заўсёдашняя творчая незадаволенасць, няспынныя пошукі мастацкай да-

скапаласці. Рукам майстра падуладны і гліна, і гіпс, і мармур, а зараз ён думае папрацаваць і ў граніце.

Позірк мастака ніколі не спыняецца на выпадковых людзях, яго захапляюць перш за ўсё людзі працы — ліцейшчык, слесар, аўчаравод, конюх. Яго захапляюць вобразы вялікіх рэвалюцыянераў і дзяржаўных дзеячаў, герояў Вялікай Айчыннай вайны і праслаўленых партызан, лепшых прадстаўнікоў навукі, літаратуры і мастацтва.

«Мяне цікавіць не безыменная фігура,— гаворыць Заір Ісакавіч,— а чалавек, які мае біяграфію, і асабліва перадавы савецкі чалавек, будаўнік сацыялістычнага грамадства, які ў агульную справу пабудовы камунізма ўносіць свой уклад».

У розныя гады мастак стварае вобразы Маркса, Энгельса, Леніна. Ён робіць скульптурныя партрэты Фелікса Дзяржынскага, Свярдлова, Арджанікідзе, Горкага, Мяснікова — выдатных сыноў Радзімы.

У дні Вялікай Айчыннай вайны, калі савецкі народ абараняў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў не толькі сваю зямлю, але і культуру, і спадчыну, і свае гістарычныя традыцыі, і славу продкаў, Азгур стварае вобразы выдатных дзеячаў мінулага. Гэту працу ён працягвае і пасля вайны. Пажарскі, Баграціён, Барклай дэ Толі, Скарына, Гаркуша, Васілёк, Мінскі і шмат іншых слаўных продкаў нашага народа вылепіў таленавіты мастак. Бюсты Баграціёна і Барклая дэ Толі будуць устаноўлены на Барадзінскім полі.

А побач з гэтымі гістарычнымі фігурамі Заір Азгур стварае партрэты нашых гераічных сучаснікаў: Маршала Савецкага Саюза Ракасоўскага, генералаў Яроменкі, Даватара, Лелюшэнкі, Радзімцава, двойчы Герояў Савецкага Саюза Грыцаўца і Малодчага, Герояў Савецкага Саюза Смалячкова, Талаліхіна, Гастэлы, Сільніцкага, Казлова, Бумажкова, бацькі Міная і шмат іншых.

Да гэтага спіса трэба дадаць бюсты Багушэвіча, Цёткі, Купалы, Коласа, Бядулі, Чорнага, Александроўскай, Міхоэлса, многіх кампазітараў, артыстаў, вучоных. Гэты далёка не поўны пералік красамоўна сведчыць пра вялікі творчы размах мастака, пра яго шырокі дыяпазон, пра яго нястомную прагу да творчасці, пра яго высакародную мэту — увасобіць у скульптуры лепшых сыноў і дачок савецкага народа.

Нягледзячы на тое, што Азгур лепіць падзвычай шмат, ён ніколі ў сваіх працах не паўтараецца. Ён заўсёды імкнецца знайсці і падкрэсліць найбольш характэрныя рысы чалавека, уласцівыя толькі дадзенаму герою. Азгур адкідвае другарадныя рысы (часамі вельмі спакуслівыя для мастака). Ён не баіцца, што яго абвінавацяць у аднабаковасці, і смела раскрывае толькі лепшае, што ёсць у чалавеку — яго інтэлектуальнасць, высакароднасць, мужнасць.

Любоў да савецкага чалавека, захапленне яго справамі і подзвігамі — прывабнейшыя рысы творчасці Заіра Азгура. Адгэтуль і вынікае рамантычная прыўзнятасць чалавека нашых дзён, якую мы бачым ва ўсіх апошніх творах мастака.

Асобна трэба адзначыць скульптурны партрэт Ф. Э. Дзяржынскага, удастоены ў 1948 годзе Дзяржаўнай прэміі. Вобраз слаўнага рыцара рэвалюцыі даўно вабіў да сябе Заіра Азгура. Ён ляпіў бюст Дзяржынскага ў 1933 годзе, але гэта праца тады яго не задаволіла. Новы партрэт Фелікса Эдмундавіча — вялікі творчы поспех таленавітага скульптара, значнае дасягненне ўсяго савецкага мастацтва. Перад намі паўстае, як жывы, выдатны рэвалюцыянер і дзяржаўны дзеяч, які да апошняга ўдару сэрца гарэў на працы, забываючыся пра асабістае жыццё. Мы бачым Дзяржынскага, як чалавека камуністычнай вясны, рамантыка і чалавека мары, і ў той жа час рэвалюцыянера з жалезнай воляй, непахіснай верай у справу камунізма, з спакойнымі і праніклівымі вачыма. Скульптару добра ўдалося раскрыць прамату, высакароднасць, глыбокі інтэлект і веліч душы Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага.

Заір Ісакавіч Азгур знаходзіцца ў росквіце сіл і таленту. Зараз ён рыхтуецца да мастацкай выстаўкі «30 год БССР», на якой ён думае паказаць два новыя творы: скульптурныя партрэты Герояў Сацыялістычнай працы Шкурко і Кухаравай. Але самая дарагая задума ў Заіра Азгура — распачаць у бліжэйшы час працу над скульптурай Уладзіміра Ільіча Леніна. У гэты твор мастак жадае ўкласці ўсе свае здольнасці, веды, майстэрства і натхненне. Пажадаем жа яму поспеху ў гэтай працы.

*1948*

# ЗАГАННАЯ ІДЭЯ, ФАЛЬШЫВЫ ГЕРОЙ

У чацвёртым нумары «Полымя» надрукавана новая паэма Антона Бялевіча «Дарога з няволі».

З уступу да паэмы мы даведваемся пра гісторыю яе з'яўлення. Паэт адпачываў на Балтыйскім узмор'і. Там, як прызнаецца аўтар, для творчасці былі створаны самыя лепшыя ўмовы:

...На ўзмор'і я ляжу,
Марскім пяском сагрэты.
На ўсім гатовым я жыву,
Спакой і харч мне далі.
Турбуе доктар галаву:
— Ну, колькі вы ўжо ўзялі?

І паэт, адчуваючы сябе абавязаным, рашыў у аддзяку напісаць пра мора. Але тут перад ім паўстала нежартоўнае пытанне: «А што і як я напішу?» Бо да гэтага часу паэт ля мора не быў, а вырас сярод беларускага бору, дзе, па словах аўтара, усё паслушна яго пяру, яго слову (смелае сцвярджэнне, што і казаць!).

Вядома, узніклі творчыя цяжкасці:

Па шыю лезу я ў ваду,
Гушкаюць мяне хвалі,
А ўзяць у верш, як на бяду,
Ніводнае дэталі.
І дзень адзін, і дзень другі,
І ўжо махнуў рукою:
Не ліць жа верш праз берагі
Салонаю вадою!

Прачытаўшы гэтыя радкі, кожны наспачувае аўтару і пранікнецца павагай за сумленныя адносіны да паэтычнай працы.

Уступ напісан у іранічным плане, а далей паэт пачынае пісаць сур'ёзна. Адкінем жа і мы іронію і, уважліва прачытаўшы паэму, паспрабуем сур'ёзна разабрацца, што і як напісаў паэт.

Сюжэт паэмы такі.

Палескі магнат Пуцята прыехаў у госці да «цара ўзмор'я», латышскага князя Вітолі. З сабою ён прывёз таленавітага музыку Ігната, якога і «падарыў» князю. У Вітолевым двары жыве прыгожая дзяўчына

Ліялета, якую князь пакахаў і сілком забраў у бацькоў. Ліялета ненавідзіць князя, адмаўляецца быць яго жонкай, пакутуе, сумуе, ірвецца да роднай хаты. Ігнат «захапіў ігрою ў палон маладую душу Ліялеты» і сам таксама моцна пакахаў маладую латышку. Убачыўшы гэта, разгневаны князь асляпляе музыку, мяркуючы, што Ліялета адрачэцца ад сляпога. Але Ліялета засталася вернай свайму каханню і разам з Ігнатам уцякае ад князя, трымаючы шлях на Палессе, цешачыся воляй і роднай прыродай.

Дзея адбываецца ў часы прыгону. Значыць, мы можам патрабаваць ад аўтара, каб ён калі ўжо ўзяўся за гэтую тэму, свежымі яркімі фарбамі, па-новаму паказаў людзей і падзеі тых далёкіх і змрочных часоў.

Ці ўдалося гэта аўтару? Адказ атрымаем, калі прааналізуем асобныя вобразы паэмы.

Галоўны герой паэмы, Ігнат, выдатны цымбаліст і майстар музычных інструментаў. Яго паэт называе бунтаром і мяцежнікам, але не даводзіць гэтага, а толькі галаслоўна сцвярджае, што музыка сваім іграннем абуджае народны гнеў. Князь загадвае асляпіць яго. За што? За бунтарства, за мяцеж? Не. За тое, што той кахае Ліялету. А як жа рэагуе на такі жахлівы здзек сам Ігнат? Напэўна, у яго сэрцы клякоча нянавісць і ён увесь ахоплены прагай помсты? Таксама не. Аўтар кажа:

Такі струнны напеў яго нёс,
Расхінуў яму ў свет небасхілы.

Ні адным словам, ні адным жэстам ён не выказвае свайго абурэння і нянавісці, ён не пратэстуе, а фактычна мірыцца са сваім становішчам:

— Я сляпы? Не сляпы?
Свеціць ясна каханне
Мне далёка, далёка.

Не змагацца, а ўцячы задумаў Ігнат і нават намаляваў сабе ідылічную карціну, як на Палессі будзе жыць ён са сваёй каханай:

...Нам спяюць камары
І «куццю нам стаўкуць» вечарамі.
Будзем мы цесляры,
Будзем мы маляры,
Будзем з мілаю мы ганчарамі.

І вось панскі паслугач зноў кліча Ігната:

— Калі ласка.

Князь пытае:

Калі ласка, бунтар, у пакой...
— Што ж убачыла вока адно?
Адкажы нам, мяцежнік, на гэта.

Як жа адказаў на гэта «мяцежнік»?

Ён рвануўся: — Мая Ліялета!
— Я [illegible] табою, твая, голуб мілы,
Ты не будзеш цяпер адзінокі,
Мы навекі з табой падружылі.

Бездапаможныя паводзіны, фальшывая сітуацыя. І якая дзіўная логіка! Нібыта для таго, каб падружыць, патрэбна было асляпіць героя.

Князь асляпляе і другое вока музыкі. Паэт, надзяліўшы Ігната невядома за якія заслугі імем «паўстанец», кажа: «О, часіна цяжкая, ліхая!» — і доўга апавядае пра трагедыю Ігната. Расказвае пра гэта і Ліялета. А які вынік?

Толькі ласка і позірк дзявочы
Асвятлілі сляпому ў свет шлях.

І на гэты раз нянавісць не запаланіла Ігнатавай душы. Наадварот, ён цешыцца «кавалачкам сонца» і «пасмачкай неба», якія яшчэ бачыць. У чым жа ён бачыць выйсце? У змаганні? Не. «Дадому ў Палессе: ратунак мой гэта» і зноў: «Дадому, дадому, у родны закутак».

Тут варта прыгадаць гусляра з паэмы Янкі Купалы і Сымона з аповесці Зм. Бядулі «Салавей». Сітуацыі вельмі блізкія. Але стары гусляр, не баючыся смерці, кідае ў твар князю смелыя і гордыя словы народнага гневу і нянавісці. Сымон узнімае сялянскае паўстанне. Герой жа Антона Бялевіча не бунтар, не мяцежнік, не паўстанец, а бязвольны, пакорлівы раб. Гэты вобраз наскрозь фальшывы. Спраўы не ратуюць рытарычныя аўтарскія выгукі: «Гэй, замесім князёў на цагліны!» Гэта не вынікае ні з паводзін, ні з характару героя. Ён не паказаны ў дзеянні, у барацьбе, а таму і няма вырашэння самога канфлікту.

Ігнат і Ліялета ўцякаюць на Палессе. Тонус паэмы рэзка мяняецца: «спеў сэрца ў змроку, як чыстая іскра, ён ціхі, як голуб, ён гулкі, як выстрал хваляў марскіх пад бураю...»

2 Зак. 3269

Трагедыі як не бывала:

І як голуб з галубкай сваёй
Ад буранаў ляцяць у глуш бору,
Яны гэтак на мары жывой
З тых харомаў ляцяць, што над морам.

Тут паэт уводзіць бадзёрую песню, якая славіць людскую працу, волю, дружбу. Трэба адзначыць, што песня напісана ўзнёсла. Гэта, бадай, самае моцнае месца ў паэме. Але яна гучыць, як нечаканая, хоць і добрая ўстаўка, бо не абумоўлена, не падрыхтавана ўсім папярэднім. І наколькі Ігнат не сутыкаецца з людзьмі, дык і людзі падымаюць гэтую песню, як сцяг, пакуль што толькі... у сне Ліялеты (дарэчы, сон Ліялеты вельмі традыцыйны і зусім непатрэбны для развіцця сюжэта паэмы).

На гэтым, уласна кажучы, паэма і закончылася. У заключнай частцы даюцца агульныя вызначэнні. На Палессі, куды прыйшлі ўцекачы і дзе Ігнат марыў так ідылічна зажыць, людзі таксама пакутуюць пад прыгнётам. (Нібыта Ігнат дагэтуль не ведаў, што і на Палессі таксама існуе прыгон!)

У канцы паэмы аўтар выступае з правільнымі, але рытарычнымі заклікамі: «Выбі дух пану ты!», «Гневам згуртуем брата да брата мы!», «Грымнуць дадолу... гора народнае, долю кайданную, жыццё галоднае» і г. д. Але ўсё гэта толькі агульныя паэтычныя вызначэнні, толькі тэзісы, у якіх аўтар правільна вызначае, што трэба было б рабіць героям, але, на жаль, яны нічога гэтага не робяць у паэме, і ім толькі хацелася зрабіць тое, да чаго заклікае паэт («ссекчы хацелася пана заклятага»).

Паэт давёў надзеі да такога моманту, калі Ігнат «крочыць прасветлены з Ліялетай», крочыць з марай пра помсту (нарэшце), калі «пану сустрэнуцца — сполах бярэ пана». Чытач не паверыць, што пан спалохаецца бязвольнага і пакорлівага Ігната, і заключная песня (няхай і добрая) паэму не выратоўвае.

Паэт гаворыць аб працы, славіць яе, але не паказвае самой працы; гаворыць пра гнеў, нянавісць, заклікае расправіцца з прыгнятальнікамі, але не паказвае самой барацьбы.

Гэта здарылася таму, што аўтар не ведае тагачаснага жыцця і тагачасных гістарычных абставін.

Героі паэмы — не канкрэтныя жылыя людзі таго часу, а абстрактныя, так сказаць, агульналітаратурныя. Паэт тварыў іх, маючы за плячыма «Салаўя» Бядулі, «Курган» і «Бандароўну» Купалы і шмат іншых твораў на гэту тэму. У паэме моцна адчуваюцца радкі купалаўскага «Кургана».

У памянёных творах нашых класікаў (нават у легендах) — праўдзівы гістарычны фон, рэалістычныя малюнкі жыцця, у іх дзейнічаюць не літаратурныя схемы, а жывыя людзі з рысамі індывідуальнымі і ў той жа час тыповымі.

А вось два магнаты з паэмы Бялевіча. Характарыстыка Пуцяты: «Неабсяжныя ў пана абшары», «Жыццё затоптана скрозь тут яго нагой», «Пан завалодаў скрозь лесам і плёсамі», «Золатам свецяцца гмахі Пуцятавы» і г. д. Характарыстыка Віталі: «Тут і долы мае і нябёсы», «У дукатах мая сіла», «Грымеў грозна на банкетах», «Кроў і слёзы ў пазалоце зіхацяць» і г. д.

Вядома, у прыгоннікаў заўсёды знойдуцца агульныя рысы, але на тое мастак і з'яўляецца мастаком, каб убачыць, паказаць, раскрыць індывідуальнае ў тыповым вобразе. Бялевіч абмежаваўся характарыстыкамі і азначэннямі, якія мы даўно чыталі ў другіх кніжках. Латышка Ліялета ў паказе Бялевіча не мае ніводнай нацыянальнай рыскі. Чытаеш месцы, дзе Ліялета адмаўляецца быць жонкай князя Віталі, і адразу ўзнікае ў памяці Бандароўна.

Словы, якія ўкладвае паэт у вусны магнатаў, таксама часта надуманыя, не жыццёвыя, і гэта часам робіць смешнае ўражанне. Вось гаворыць Віталя да Ліялеты:

Дам пакой — з граніту сцены,
З люстраў дах.
Будуць граць табе са сцэны
Па начах...

Да бацькоў дзяўчыны:

Дам каня-рысака, дам сабак,
Вус кітовы я дам у даплату
За красуню за вашу.

Наўрад ці ведаў латышскі прыгоннік песню «Хас-Булат удалой», дзе пяецца: «Дам коня, дам кинжал» и г. д.

Агаворваюся: ніхто не збіраецца адмаўляць здольнасцей Антона Бялевіча. І ў гэтай паэме ёсць добрыя паэтычныя знаходкі, удалыя мясціны. Але гэта там, дзе паэт піша пра рэчы, «паслушныя яго пяру»: малюнкі прыроды, услаўленне працы і г. д. Калі ж паэт піша пра тое, чаго не ведае, ён не знаходзіць свежых слоў і фарбаў, а збіваецца на нудную аднастайнасць і літаратуршчыну: «З мясцінай роднай зліў душу», «лаўлю, лаўлю душою марскі напеў», «пранікаю душою ў быль гэту», «што казалі душы яго спевы», «у душу зазірнуць хачу майстру», «і дзяўчына тут ные душою», «ён адразу размякнуў душою» і г. д.

Паэма засмечана такімі шаблоннымі выразамі, як «гул марской тугі», «струн перагуд», «плача напеў», «галосіць і плача струна», «светлы палац», «светлыя мары», «ясныя вочы», «свеціць ясна каханне», «ясныя зоры», «спеў сэрца», «напеў крылаты».

Для Бялевіча гэта недаравальна, як недаравальна і вельмі прыкметная блізкасць некаторых вобразаў паэмы да вобразаў М. Танка:

Абкруціўшы вяроўкаю міла
Шыю нашаму князю-магнату,
Памаглі б мы сардэчна без платы
Яшчэ вышэй падняцца да неба...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Чайка дасць нам на пасцель
Свайго, сынка, пуху...

Часам паэт забывае, што ён напісаў у папярэдніх раздзелах, і тады атрымліваецца недарэчнасць. На стар. 44 паэт піша: «Пагоні не шле князь: навошта пагоня?», а на стар. 49 сцвярджае: «Там, дзе пагоня ўслед берагам цокала».

Невядома, калі адбываюцца падзеі паэмы, бо паэт не дае нам канкрэтнай гістарычнай абстаноўкі, часу, а паказвае прыгон «наогул».

Няведанне жыцця і гісторыі прывяло паэта да творчай няўдачы. Схематызм і шаблоннасць вобразаў, налёт літаратуршчыны зрабілі паэму Антона Бялевіча антырэалістычнай. Паэт напісаў твор, у якім няпраўдзіва паказаны і жыццё, і людзі.

*1948*

# ВЯЛІКІ ПЯСНЯР САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РАДЗІМЫ

Значэнне Янкі Купалы для развіцця беларускай літаратуры і ўсяе культуры неацанімае.

Янка Купала і яго саратнік Якуб Колас першыя ў беларускай літаратуры глыбока і поўна паказалі цяжкае паднявольнае жыццё беларускага працоўнага народа ва ўмовах буржуазнага грамадства.

Янка Купала і Якуб Колас яшчэ ў гады рэвалюцыі 1905 года выступілі барацьбітамі за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне беларускага народа.

Янка Купала і Якуб Колас з'яўляюцца заснавальнікамі беларускай савецкай літаратуры, стваральнікамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Янка Купала, вялікі патрыёт сацыялістычнай Радзімы, напісаў выдатныя творы, якія ўзнялі беларускую літаратуру на небывалую вышыню.

Усё жыццё Купалы — гэта яскравы прыклад служэння свайму народу, прыклад нястомнай працы на карысць Радзіме, няспыннае імкненне ісці наперад, вечна маладое творчае гарэнне і смелыя пошукі.

Амаль сорак гадоў палымяны голас Купалы клікаў беларускі народ наперад, у будучыню.

Паэт у сваёй дарэвалюцыйнай творчасці, адлюстроўваючы горкае жыццё беларускай вёскі, паказвае нарастанне рэвалюцыйнага руху на Беларусі і гнеўна пратэстуе супраць эксплуататарскага буржуазнага грамадства.

Купала заклікае народ на змаганне з эксплуататарамі і ў лепшых сваіх творах прапагандуе ідэю ўзброенага паўстання (вершы «Там», «Касцу» і інш.). У 1906 годзе Купала, звяртаючыся да народа, пісаў:

Паўстаньце, покуль цар звыродны
Крыві ўсяе не выссаў з вас!
Паўстаньце! Край ваш стогне родны,
Заве збаўляць, як зваў не раз.
Паўстаньце, гляньце, божа мілы,
Свабода, сонца вас заве!

Янка Купала быў выразнікам многамільённых бядняцкіх і батрацкіх мас Беларусі, якія пад уплывам рэвалюцыйнага рабочага класа Расіі ўзняліся на ба-

рацьбу з прыгнятальнікамі, актыўна ўдзельнічалі ў рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, а пасля на чале рабочага класа, у 1917 годзе, выйшлі на штурм капіталізму.

Купала быў сапраўдным рэвалюцыйным сялянскім дэмакратам, рэвалюцыянерам. Нездарма Аляксей Максімавіч Горкі ў 1935 годзе ў сваёй прывітальнай тэлеграме пісаў Купалу: «Сардэчнае прывітанне нястомнаму саратніку, паэту, рэвалюцыянеру».

Рэвалюцыйны светапогляд Купалы склаўся пад уплывам перадавых прадстаўнікоў вялікага рускага народа, пад уплывам рэвалюцыйнага руху, які ўзначальваў рускі рабочы клас.

Настаўнікамі Купалы былі Пушкін, Някрасаў, Шаўчэнка, але асабліва вялікі ўплыў на яго зрабіў Максім Горкі. Аляксей Максімавіч адзін з першых заўважыў светлыя і шчырыя песні Купалы, пераклаў яго гнеўны гімн «А хто там ідзе?» на рускую мову, абнадзеіў маладога паэта, і праз усё сваё жыццё ён быў для Купалы лепшым настаўнікам і другам.

З асаблівай сілай паэзія Купалы расквітнела пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Мудрая палітыка бальшавіцкай партыі дапамагла Купалу правільна зразумець сэнс велізарных падзей, якія адбыліся ў гады рэвалюцыі і пасля яе. Купала цвёрда стаў у рады савецкай літаратуры, зрабіўся песняром сацыялістычнай Радзімы.

Купала ясна зразумеў мэты і абавязкі савецкага пісьменніка як слугі народа і выразніка яго дум. Яшчэ ў 1933 годзе ён заклікаў беларускіх пісьменнікаў «даць творы шчырыя, прамяністыя, якія заклікалі б да новых перамог, растлумачвалі б шляхі ў будучае». «Кожны савецкі пісьменнік,— пісаў Купала,— ці ён стары або малады, павінен з яснымі вачыма, з усёй адданасцю дапамагаць сілай свайго таленту тварыць гэтае новае жыццё». Надзвычай актуальна гучаць гэтыя словы Купалы і сёння.

Купала заўсёды быў цесна звязаны са сваім народам. У 1925 годзе, калі яму была нададзена годнасць народнага паэта, ён сказаў: «Сягонняшняе вялікае і незвычайнае свята для мяне з прычыны ўшанавання майго юбілею і, асабліва, надання мне годнасці беларускага народнага паэта — гэта ёсць трыумф вызваленай працоўнай Беларусі. Не я адзін

склаў свае песні, не я іх выдумляў, я толькі падслухаў думкі сардэчныя беларускага селяніна і работніка ды гэтыя думкі на паперу перавёў. Такім чынам, атрымалася як бы калектыўная праца, а разам з тым і сягонняшняе калектыўнае святкаванне беларускай песні».

Купала горача цікавіўся і арганізацыяй калгасаў, і будаўніцтвам новых заводаў, і духоўным ростам савецкіх людзей. Ён многа ездзіў па краіне, сустракаўся і гутарыў з рабочымі, калгаснікамі, чырвонаармейцамі, моладдзю. Яго можна было бачыць па барысаўскіх заводах і на Днепрагэсе, у палескіх калгасах і на заводзе «Чырвоны пуцілавец» у Ленінградзе. Глыбокае веданне жыцця, разуменне шляхоў і мэт нашага народа, уменне бачыць новыя з'явы, новыя адносіны паміж людзьмі сацыялістычнага грамадства дазволілі Купалу стварыць свае высокамастацкія і высокаідэйныя творы — «Лён», «Алеся», «Хлопчык і лётчык», «Выпраўляла маці сына», «Я калгасніца», «Як у госці сын прыехаў». Гэтыя творы — светлы і радасны гімн сацыялістычнай Радзіме, савецкім людзям.

Адметнае месца ў паэзіі Купалы займае яго паэма «Над ракою Арэсай». Гэта твор пра сацыялістычную перабудову вёскі. Купала намаляваў яркія вобразы калгаснікаў і рабочых саўгаса, людзей з камуністычнымі адносінамі да працы, якія ўсе сілы аддаюць для пабудовы сацыялізма. Гэта людзі смелыя, энергічныя, высакародныя, верныя сыны Радзімы, якія ператвараюць багністае Палессе ў квітнеючы край. Цікава адзначыць, што калгас імя БВА, пра які пісаў Купала, з'яўляецца і сёння адным з лепшых нашых калгасаў. У ім з'явіліся першыя Героі Сацыялістычнай Працы ў Беларусі.

Творчасць Купалы — разнастайная па тэматыцы, шматфарбная, глыбока патрыятычная і сапраўды народная.

Тэма савецкага патрыятызму займае асноўнае месца ў паслякастрычніцкай творчасці Янкі Купалы.

Калі нямецка-фашысцкія варвары напалі на нашу Радзіму, Іван Дамінікавіч быў у Літве. Па дарозе з Літвы ён сваімі вачыма бачыў, як фашысцкія драпежнікі руйнавалі нашы гарады і сёлы, бачыў забітых дзяцей і жанок, малых і старых.

Гнеўна і палымяна загучалі яго вершы і артыкулы, поўныя нянавісці да ворага, поўныя любові да Радзімы. Яго набатныя заклікі даходзілі ва ўсе куткі Беларусі, у акопы, дзе знаходзіліся байцы-беларусы і іх баявыя сябры. Заклік Янкі Купалы, каб кожнае зерне з нашых палёў ператваралася ў кулю, каб кожны яблык, да якога дакранецца рука чужынца, узарваўся гранатай, ператварыўся ў баявую гераічную сапраўднасць.

Янка Купала, знаходзячыся ў час Вялікай Айчыннай вайны ў Маскве і Казані, сваімі творамі і публіцыстычнымі выступленнямі дапамагаў знішчаць нямецкіх фашыстаў.

Усім вядома папулярнасць, якую заваяваў сярод беларускага народа верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам». Так заклікаць да перамогі, так гаварыць са сваім народам мог толькі самы адданы яго сын, які верыў у нязломныя сілы свайго народа, у сілу савецкага ладу, які бачыў шляхі да перамогі і абрысы будучай перамогі.

Паэтава вера ў вялікі рускі народ, у родную партыю была верай усіх беларускіх савецкіх людзей. Беларускі народ бязмежна ўдзячны вялікаму рускаму і ўсім братнім народам Савецкага Саюза за вызваленне ад нямецка-фашысцкага рабства. У сваю чаргу, беларускі народ гераічна змагаўся з захопнікамі ля сцен Сталінграда і Ленінграда, пад Масквой і Смаленскам, на Украіне і Каўказе.

Нам дарага, што рускія людзі шануюць, як сваіх сыноў, памяць Гастэлы і Даватара, Смалячкова і Талаліхіна. І мы, беларусы, ніколі не забудзем тых адважных воінаў, якія вызвалялі нашу Беларусь, тых, хто загінуў на нашай зямлі ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі. Дружба паміж рускім, украінскім, беларускім і ўсімі братнімі савецкімі народамі замацавана крывёю, і гэтай дружбы ніколі і нікому не парушыць!

У выхаванні высакароднага пачуцця дружбы паміж народамі адыграла вялікую ролю паэзія Янкі Купалы. Прачулымі словамі ён славіў стэпы Украіны і горы Каўказа, людзей Грузіі і Казахстана.

З асабліва вялікай любоўю Купала пісаў пра рускі народ, пра сэрца нашай Радзімы — Маскву.

Многа задушэўных вершаў і паэм прысвяціў Янка Купала сонечнай Украіне.

Вялікі кабзар украінскага народа Тарас Шаўчэнка быў адным з самых любімых паэтаў і настаўнікаў Янкі Купалы. Яму прысвяціў Купала сваю цудоўную паэму «Тарасова доля».

Многа вершаў Купала напісаў пра братнюю Грузію, Казахстан, Дагестан і іншыя савецкія рэспублікі. У гэтых творах паэт перадае ўсю сваю любоў да братніх народаў, павагу да іх жыцця, быту і працы. Такія вершы, як «Грузія», «Генацвале», «Джамбулу», «Сонечнаму Шата Руставелі», «Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага», з'яўляюцца каштоўным здабыткам нашай паэзіі.

Купала не толькі славіў дружбу народаў, але і шмат зрабіў для збліжэння культур братніх народаў, для папулярызацыі лепшых твораў паэзіі савецкіх рэспублік.

Іван Дамінікавіч пакінуў нам выдатныя пераклады з іншых моў. Варта прыгадаць яго цудоўны пераклад «Слова аб палку Ігаравым», «Меднага конніка» А. С. Пушкіна, пераклады з украінскай, грузінскай, польскай і іншых моў.

І сёння нам радасна ведаць, што вершы Янкі Купалы перакладзены амаль на ўсе мовы народаў Савецкага Саюза. Мнагатысячнымі тыражамі выдаецца Янка Купала на рускай мове.

Імя Янкі Купалы вядома далёка за межамі Савецкага Саюза.

Купалу заўсёды былі блізкімі працоўныя ўсіх краін, ён ведаў, што

Настане
Такая часіна,
І руняй савецкай
    уквецяцца гоні,
Дзе Віслы, дзе Сены,
Дзе Тэмзы даліны,
Дзе праца людская
Сягоння ў прыгоне.

Беларускі народ бязмежна любіць творчасць Янкі Купалы — першага савецкага паэта Беларусі, палымянага патрыёта і песняра сацыялістычнай Радзімы.

Гэтае пачуццё добра выказаў Максім Танк.

Ты вечна будзеш сярод нас,
І непаўторнай тваё імя
Легендай стане ў вяках, 1,12
Паходняй, што сваім праменнем
Паможа ў будучыню шлях
Прабіць наступным пакаленням.

Янка Купала — слава, гордасць, сумленне беларускага народа. Янка Купала — прыклад адданасці свайму народу, ідэям бальшавіцкай партыі, справе Леніна.

Мне б хацелася закончыць артыкул словамі выдатнага ўкраінскага паэта Паўло Тычыны: «Янка Купала — гэта першая з вяршынь беларускага Эльбруса паэзіі. Магутная яна і чыстая, высокая. Высокая, бо матывамі сваімі праўдзівая. Чыстая, бо мілагучная і майстэрская, а магутная, бо заўжды была яна з народам».

*1949*

## ПАЎЛЮК ТРУС

Ён прыйшоў у літаратуру, калі зямля яшчэ была гарачай ад баёў грамадзянскай вайны. Народ, упершыню ў гісторыі зрабіўшыся гаспадаром свайго лёсу, закасаў рукавы і ўзяўся будаваць першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву. Вялікі Кастрычнік разняволіў творчыя сілы мільённых мас, і па ўсёй савецкай зямлі буйна закрасавала сапраўды новае жыццё. Гэта было залатое ранне нашай краіны, якой патрэбны былі новыя песняры. Паўлюк Трус і стаў такім песняром.

Прыйшоў я з казкамі
у залатое ранне
Ад Сожа ціхага,
ад берагоў Дняпра.

Паўлюк Трус быў адным з першых беларускіх паэтаў, хто шчыра і ўсхвалявана ўславіў Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю, яе заваёвы. Ён убачыў і паказаў, як «звоніць кужэльная вёска, да Кастрычніка туліцца ўся». І ад імя народа, з глыбінь якога ён выйшаў і якому аддаў усе сілы і талент свайго кароткага, крыштальна чыстага жыцця, паэт з гордасцю сказаў:

Гнуцца больш нас не прымусяць,
Беларус з усімі роўны.

Паэт не толькі ўславіў Вялікі Кастрычнік, але і здолеў у многіх творах паэтычна-канкрэтна паказаць, што даў Кастрычнік нашаму народу, здолеў зразумець яго сусветна-гістарычнае значэнне.

...Нясуць у замежныя далі
Кліч прыгнечаным — кліч да змагання.
Прыйдзе час, і пад сцягам свабоды
Павянчаецца з Нёманам Вісла
І над Вільняй зазззяе свабодай,—
Хай панурыя хмары не віснуць!

*(«Сёмая гадавіна»)*

Творы П. Труса пра грамадзянскую вайну авеяны ўзнёслай рамантыкай. Любімымі вобразамі паэта з'яўляюцца вобразы буры, навальніцы, якія крышаць усё старое. Паэт з любоўю і захапленнем апаэтызаваў чырвоных байцоў і камандзіраў, беларускіх пар-

тызан, якія мужна змагаліся з белапольскімі акупантамі. Найбольш ярка гэтая тэма выпрашана ў паэмах «Юны змаганец» і «Астрожнік». Юны змаганец Янка — адважны беларускі партызан, выхаваны Ленінскім камсамолам. Паэт надаў яму характэрныя для камсамольца рысы: адвагу, мужнасць, адданасць пралетарскай справе. Хай паэту не ўдалося стварыць індывідуальна акрэслены вобраз, але гэта акупляецца праўдзівасцю эмоцый, цеплынёй пачуццяў. Паўней выпісаны вобраз камсамольца Якіма, які гераічна змагаўся з белапольскімі панамі і загінуў як сапраўдны малады рэвалюцыянер.

Грамадзянская вайна пераможна скончылася, але барацьба не спынілася, яна разгарэлася з новай сілай — барацьба з праклятай спадчынай капіталізму, барацьба за сацыялізм. Усюды рунелі парасткі новага.

Упусціла старое паводдзе,
Калі вір маладога нахлынуў,—

піша паэт, які сам глыбока акунуўся ў гэты вір маладога, новага, стаў песняром сацыялістычнага будаўніцтва.

«Я... сэрца к жыццю прыкаваў»,— кажа Паўлюк Трус, і гэта праўда. Ён распачаў сваю творчую дзейнасць на старонках газет. Чытаючы яго «газетныя» вершы — сатыры, фельетоны, частушкі, байкі, лірыку,— мы яскрава ўяўляем малюнкі тагачаснага жыцця беларускага сялянства. На вёсцы адбываецца жорсткая класавая барацьба. Кулакі, папы, шкоднікі, спекулянты злосна супраціўляюцца сацыялістычнаму наступу. Над сялянствам вісіць агідная імгла перажыткаў капіталізму. І Паўлюк Трус як сапраўдны паэт-барацьбіт нацэльвае сваё вострае і трапнае слова на змаганне з кулацтвам, рэлігійным дурманам, дробнаўласніцкім ідыятызмам, забабонамі. Няхай гэтыя вершы часамі недасканалыя. Важней тое, што яны былі патрэбнай і своечасовай зброяй у барацьбе. Для паэта не існавала высокіх і нізкіх тэм. Ён ведаў жыццё і біў па ворагу тым, чым было зручней.

У гэтым адчуваецца добры ўплыў на Труса баявой паэзіі Уладзіміра Маякоўскага.

Трапна заўважаючы і паэтычна перадаючы малюнкі новага, П. Трус заўсёды карыстаўся метадам

параўнання гэтага новага з праклятым мінулым. Ён пісаў:

Слёзы піў,
Гадаваўся ў бядзе,
Упіваўся я горкімі сокамі...
Вось затым мо сягоння з грудзей
Вырываецца песня бы сокалам.

*(«Ураджаю»)*

Паэт не толькі любіў і паказаў той дзень сваёй Радзімы, ён марыў, бачыў будучыню ў разнастайных праявах сацыялістычнага жыцця:

Скора трактар — конь стальнапалосы
Праімчыцца віхрам па мяжы!..
Скора вёска цераз радыёпрыёмнік
Павітае песнямі Маскву.

*(«Успомні»)*

Тэматычна творчасць Паўлюка Труса разнастайная. Ён пісаў пра сялян, рабочых, селькораў, студэнтаў, чырвонаармейцаў, піянераў, камсамольцаў, на замежныя тэмы. Тэма сацыялістычнага будаўніцтва — асноўная ў творчасці паэта. Ён заўсёды падкрэсліваў, што барацьбой за сацыялізм кіруе Камуністычная партыя, якую выкаваў бяссмертны Ленін. У вершы «На смерць Леніна» паэт гаворыць, што ў сэрцах пралетарыяў слова Ленін застанецца вечна.

Песню «Ленін»
Красулі дзяўчаткі
Прапяюць у жніво пад капою,
Прапяе і пастух каля статка
Пад зялёнакудрай вярбою.

У гады, калі тварыў П. Трус, савецкая паэзія яшчэ толькі намацвала сабе шляхі. Розныя буржуазныя эстэты, трацкісцкія вылюдкі, нацыяналісты ўсіх масцей імкнуліся скіраваць савецкую паэзію на няправільны шлях. Паўлюк Трус пайшоў па правільнай дарозе — дарозе савецкага паэта-патрыёта. Сёння, з вышыні трох дзесяцігоддзяў савецкага ладу, нам многае здаецца ў паэзіі Труса (ды і не толькі яго) наіўным і абстрактным. Але нас заўсёды будзе хваляваць надзвычайная шчырасць паэта, яго глыбокі лірызм, яго народнасць. Паэт быў улюбёны ў народную творчасць, народную песню, і яна шчодра жывіла яго паэзію. Ён добра адчуваў і разумеў народную творчасць, багата і ўмела карыстаўся ёю.

Чытача, які ўпершыню знаёміцца з творчасцю Паўлюка Труса, можа здзівіць значная колькасць лірычных вершаў, афарбаваных сумнымі матывамі. Боль і роспач душы, сэрца ў крыві і слязах, атрутны смех, дно душэўнай пустаты і г. д. Усе гэтыя азначэнні, якія сустракаюцца ў вершах, і вырашэнне некаторых тэм могуць нарадзіць думку: чым выклікаmakeны такія матывы?

Трэба памятаць, што ў той час у паэзіі адчуваўся даволі моцны ўплыў горшых бакоў творчасці С. Ясеніна. Для лепшых нашых паэтаў з'ява гэтая была глыбока чужой. Чужой яна была і для Паўлюка Труса. «Песімізм» і «адчай» у некаторых вершах паэта — не арганічныя, штучныя і ўспрымаюцца як даніна пачынаючага паэта літаратуршчыне, «трагічная» поза наіўнай маладосці.

Паўлюк Трус — паэт глыбока і шчыра аптымістычны. І калі з разгону ў яго часам вырываецца напышлівы радок — «душа паэта — плач і смех...», то хутка ён сам сябе ўпікае:

Навошта ж плач,
Навошта плач паэту,
Калі жыццё — парыў
Адвечнае красы?

Асноўны настрой усёй творчасці Труса выказаны ў словах: «Няма вялікшага, як будаваць і жыць». Гэтая думка паўтараецца ў паэта часта:

Мы прыходзім у свет,
Каб уславіць яго,—
Усё аддаць за жыццё і змаганне...
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Ой, як хочацца жыць,
Упівацца красой,
У моц краіны мне хочацца верыць.
*(«Як пажоўкнуць лісты»)*

Паўлюк Трус — паэт маладосці, паэт вясны. Ён кажа: «Хачу, каб вечна красавала прыгожа-светлая вясна». Таму і выяўленчыя сродкі паэта такія сакавітыя, сонечныя. Ён захапляецца шматбаковым жыццём, працай; душу яго перапаўняе радасць, і гэтай радасцю ён гатовы шчодра падзяліцца з людзьмі. Ён багаты ўражаннямі, адчуваннямі, пачуццямі, а каб выказаць іх, у маладога паэта не заўсёды хапае да-

кладных слоў, і мы бачым, як паэт у пачатку творчасці шчодра карыстаецца словамі-спарышамі: «смага-дым», «шыр-разгон», «рукі-сталь», «рань-вясна», «ясна-зорачкі», «буйна-горда» і г. д. З гэтай жа прычыны выкарыстанне ў вялікай колькасці выклічнікаў (у гэтым трэба бачыць часткова ўплыў народнай песні).

Самым каштоўным творам са спадчыны Паўлюка Труса па праву лічыцца яго выдатная паэма «Дзесяты падмурак». Яна натхнёная і паэтычна-крышталыная. Паэт праўдзіва і глыбока эмацыянальна паказаў у ёй лёс беларускага народа ў яго гістарычным развіцці, убачыў і зразумеў яго будучыню. Край крыжоў, магіл і тугі адышоў у нябыт. Перамог сацыялізм. Уся паэма і з'яўляецца радасным гімнам у гонар перамагаючага сацыялізма.

Паэма была напісана да дзесятай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Прайшло дваццаць два гады. І якіх! Ява стала ў тысячы разоў багацейшая і прыгажэйшая, чым мара паэта. Беларусь стала краем шырокіх калгасных палёў. Даўно звініць па вуліцах Мінска трамвай, і двойчы народжаны Асінбуд гарыць залатымі агнямі. І ўжо нельга назваць нашу Беларусь краем цішы. Тут яшчэ нядаўна бушавалі грамы-навальніцы Вялікай Айчыннай вайны, а цяпер усюды вырастаюць волаты-муры, будуюцца новыя фабрыкі.

Паўлюк Трус сёння з намі, бо ён бачыў «тыя сцежкі, што ў заўтра вядуць», бо ён жадаў

Здзейсніць мэту
І золата дум
Падарыць на карысць Беларусі.
*(«Брату»)*

Золата лепшых дум Паўлюка Труса ўвайшло ў выдатны фонд беларускай савецкай паэзіі.

*1949*

## ШЧЫРЫЯ СЛОВЫ

Мікола Аўрамчык належыць да пакалення, якое нарадзілася пасля Кастрычніка і паўналецце да якога прыйшло ў дні суровых выпрабаванняў Вялікай Айчыннай вайны. Шлях маладога паэта — тыповы для кожнага савецкага юнака: дні маленства, азораныя піянерскім кастром, мары пра подзвігі і будучыню, школа, а затым інстытут, суровыя салдацкія дарогі вайны і радасць адпаўленчай працы пасля перамогі.

Пра ўсё гэта і гаворыць Мікола Аўрамчык у сваім першым зборніку вершаў «Пярэдні край». Але вершы Аўрамчыка — гэта не паэтычны дзённік, не першыя наіўныя спробы пачынаючага паэта. Бачна, што малады паэт, багаты жыццёвым вопытам, адабраў для сваёй першай кнігі лепшыя, найбольш спелыя вершы. Ён піша пра тое, што найбольш уразіла яго на жыццёвай дарозе і пра што трэба было расказаць чытачу.

Пярэдні край... На фронце — гэта самае небяспечнае месца, дзе ворага бачыш у твар, дзе мужны ўчынак, храбрасць — звычайная справа. Тут удзень і ўначы адчуваеш гарачы подых вайны, тут рубеж, адкуль пачынаецца наступленне і перамога.

Гэты ваенны тэрмін — пярэдні край — шырока бытуе ў народзе і ў мірныя дні. Пярэдні край сёння знаходзіцца там, дзе найбольш горача і цяжка, хай гэта будзе барацьба за высокі ўраджай ці за звышпланавую здабычу вугалю.

Назва кнігі Аўрамчыка нібыта папярэджвае чытача, што тэмы вершаў паэта — самыя гарачыя, самыя надзённыя, што ў ёй будуць паказаны людзі пярэдняга краю: на вайне — гераічныя нашы воіны, у дні мірнай працы — перадавыя будаўнікі камунізма.

Вершы пра Айчынную вайну змешчаны ў раздзеле «У тыя дні». Трэба сказаць, што гэта найбольш слабае месца зборніка. Самі па сабе вершы неблагія. У іх ёсць і думка і пачуццё, але няма асноўнага: глыбокага разумення і паказу той велічнай барацьбы, якую вялі савецкія людзі з фашысцкімі захопні-

камі. Мы не адчуваем сапраўднага подыху пярэдняга краю.

Паэт бярэ альбо выключныя моманты (палонныя байцы ўцякаюць з лагера і выносяць свайго таварыша; палонныя матросы, якіх вядуць на расстрэл, знішчаюць нямецкую варту і ўцякаюць), альбо піша пра свае пачуцці, часам мімалётныя і выпадковыя. У вершах «У доме паэта», «Песня», «Уначы перад наступленнем» паэт як бы знаходзіцца на парозе тэмы, але самой тэмы барацьбы не раскрывае.

У вершы «Песня» М. Аўрамчык піша:

Не зналі яны напярод,
Што іхныя ратныя справы
Вялікі савецкі народ
У песнях навекі праславіць.

Вось маладому паэту і трэба было праславіць іменна ратныя справы гераічных воінаў, каб маладое пакаленне зразумела, што адбывалася ў тыя дні і чаму мы перамаглі.

Найбольш удалыя з гэтага цыкла вершы пра дні перамогі, пра высакародныя пачуцці савецкіх салдат-пераможцаў, пра любоў да Радзімы, пра тое, як яны на чужыне сумуюць па роднай зямлі.

Кранае сваёй шчырасцю і непасрэднасцю верш «Калі для кулі стану я мішэнню».

Трэба папракнуць Аўрамчыка за налёт легкадумнасці ў вершы «Уначы перад наступленнем». У гэтую ноч паэт думае, што недзе ў роднай вёсцы тужыць яго старая маці, спрабуе нават варажыць пра лёс сына. Сын, правільна сцвердзіўшы, што варажба — хлусня, раіць:

Нават марна час не трэць, старая,
Без клапот спакойна спі да дня...

Нягледзячы на недахопы, і ў вершах часоў вайны перад намі паўстае лірычны герой, які аддана любіць сваю Радзіму і ненавідзіць ворагаў, хоць гэты герой і не паказаны глыбока, непасрэдна на пярэднім краі.

Але не гэтыя вершы вызначаюць твар першага зборніка паэта. Мікола Аўрамчык паўстае перад намі як таленавіты шматабяцаючы паэт у вершах пра Радзіму, пра людзей, якія аднаўляюць сваю рэспубліку, у вершах пра Данбас. Проста і задушэўна піша

Аўрамчык пра сваіх сяброў, якія ўмеюць, «...скінуўшы шынелі, валодаць і варштатам і сякерай», якія адчыняюць для чалавецтва сонечныя дзверы ў камунізм.

Героі Міколы Аўрамчыка — гэта выхаваныя бальшавіцкай партыяй маладыя савецкія патрыёты, якія «пад Сталінградам на выручку старэйшым... не спазніліся ні на хвіліну», якія «пад Сталінградам і каля Берліна... здалі экзамены на сталасць».

Пакаленне, да якога належыць паэт, выхоўвалася на прыкладзе вялікага жыцця Леніна, на прыкладзе тытанічнай дзейнасці Камуністычнай партыі. Пачуцці чыстай і гарачай любові да партыі, да нашай Радзімы паэт добра перадаў у вершах «Дом I з'езда РСДРП», «Масква», «Навагоднія ёлкі».

Мы бачым і герояў, якія з'яўляюцца прыкладам у жыцці і барацьбе для лірычнага героя Аўрамчыка. У маленстве — гэта Чапаеў, у часе вайны — Мікалай Гастэла.

Надзвычай паэтычна гучыць верш «Песня пра Мікалая Гастэлу»:

...Ты з вышыні ў твар чужынцам кінуў
Нянавісцю палаючае сэрца.
Успыхнуўшае полымем вялізным,
Яно чужынцам вочы асляпіла,
А нам яшчэ ярчэй да камунізма
У барацьбе дарогі асвятліла.
Як метэор, што азарае свет,
Ты прамільгнуў над Беларуссю роднай,
Навек пакінуўшы глыбокі след
У неўміручай памяці народнай.

Паэт кажа, што народ не развітваецца з мужным сокалам, бо ён жыве і будзе жыць у нашых сэрцах.

З другіх вершаў мы даведваемся, каго любіць, паважае, з кім дружыць паэт. Гэта яго землякі-калгаснікі, якія цяпер не ўяўляюць і дня без калектыву. Гэта аднарукі калгасны пастух дзядзька Максім, у якога ёсць магчымасць жыць без турбот, але ён любіць калгасную працу, клапатліва беражэ маладняк і не баіцца «вымакнуць больш за другіх». Гэта данбаскі шахцёр, які «з кожным навічком-шахцёрам раздзеліць радасць папалам», які «гатовы кожнага ў шахце, як брата, выручыць з бяды».

Пра жыццё і працу рабочага класа ў беларускай паэзіі напісана мала. Тым большая заслуга маладога

паэта, што ён смела ўзяўся за гэтую тэму і напісаў таленавітыя вершы пра шахцёраў Данбаса.

Не за жменяй зернеяў залатых
У Данбас прыехаў кожны з нас,
Я хачу узняць адсюль пласты,
Асвятляць каб родны свої калгас,
Зыркае святло каб біла ў твар
З новых плошчаў, вуліц і двароў.

Тут бачна і яшчэ адна прывабная рыса паэзіі Міколы Аўрамчыка — гарачая зацікаўленасць у тым, каб савецкая зямля штогод харашэла, багацела.

Якая радасць для цябе тады!
Ты ж у жыцці знайшоў такі занятак,
Што радасцю сваёй у халады
Сагрэеш і другіх людзей у хатах.

Мікола Аўрамчык — паэт удумлівы і шчыры. У яго кніжцы няма абыякавых радкоў. У вершы «Паўналецце» ён з гордасцю гаворыць пра дасягненні роднай Беларусі, пра тое, што «наступіла наша паўналецце». Паэт добра разумее, што сваіх вялікіх поспехаў беларускі народ дасягнуў пры дапамозе ўсіх братніх народаў. Добра гэтую думку паэт выказаў у вершы «Ленінградскі трамвай»:

Выклікае ў сэрцах радасць
Падарунак для мінчан
Ад працоўных Ленінграда.

Трамвай ідзе па мінскай вуліцы. У яго вокнах адлюстраваны новыя будынкі беларускай сталіцы. Многія з пасажыраў, што едуць у трамваі, успамінаюць, як такі ж самы трамвай вёз іх ад цэнтра Ленінграда проста на пярэдні край, дзе яны змагаліся з фашыстамі.

І калі ў Данбасе здабываецца вугаль, каб светла было ў беларускіх хатах, то і Беларусь пасылае ў данбаскія штольні моцныя стойкі з нашай духмянай сасны (верш «Беларуская сасна»).

Так паэтычна ўдала паказаў паэт у гэтых двух вершах дружбу і ўзаемадапамогу братніх народаў.

Мікола Аўрамчык знаходзіцца ў пачатку свайго паэтычнага шляху. Мяркуючы па яго першай кнізе, гэты шлях будзе светлы і плённы.

*1949*

## У ПЕРШЫХ РАДАХ БАРАЦЬБІТОЎ ЗА МІР

Яшчэ савецкія воіны пралівалі сваю кроў, вызваляючы Еўропу ад фашысцкай нечысці; яшчэ дыміліся руіны тысяч гарадоў і сёл; яшчэ на вачах удоў і сірот не абсохлі горкія слёзы,— а падпальшчыкі вайны на чале з крыважэрным Чэрчылем па ўказцы уол-стрыцкіх магнатаў пачалі падрыхтоўку да новай вайны.

Адчуваючы сваю немінучую гібель, сусветныя імперыялісты азвярэлі ад страху і нянавісці. Яны залілі крывёй Грэцыю, В'етнам, Інданезію. Яны прыгалубілі ката Франка, бандыцкіх гітлераўскіх генералаў, японскіх імперыялістаў, здраднікаў, шпіёнаў і забойцаў, якім удалося да пары да часу ўцячы ад гневу народаў дэмакратычных рэспублік. Размахваючы атамнай бомбай, амерыканскія агрэсары ліхаманкава будуюць ва ўсіх частках зямное кулі ваенныя базы, купляюць прадажныя буржуазныя ўрады. Ад іх прэсы, радыё, кіно тхне гніллю і разлажэннем. Раздзьмухваючы ваенны псіхоз, палохаючы «чырвонай небяспекай», амерыканскія генералы самі вар'яцеюць ад страху і выкідваюцца праз вокны на брук...

Кангрэсы міру адбыліся ў Парыжы і Празе, Маскве і Пекіне, Нью-Йорку і Лондане, Будапешце і Улан-Батары і ў многіх іншых гарадах. За плячыма ўдзельнікаў кангрэсаў стаялі і стаяць сотні мільёнаў людзей, якія не дапусцяць новай вайны. На чале сусветнага руху за мір стаіць вялікі Савецкі Саюз.

У першых радах барацьбітоў за мір знаходзяцца і савецкія пісьменнікі. Мы чуем іх палымяны голас з трыбун кангрэсаў, з Парыжа і Нью-Йорка, з Прагі і Пекіна. Усё больш і больш з'яўляецца ў друку вершаў, паэм, п'ес, памфлетаў, у якіх выкрываюцца падпальшчыкі новай вайны, у якіх гучыць вогненны заклік да народаў — адстаяць мір!

Шырока вядомы палымяныя прамовы Аляксандра Фадзеева, Канстанціна Сіманава, Мікалая Ціханава, Якуба Коласа і іншых пісьменнікаў. Няма ніводнага савецкага пісьменніка, які не аддаў бы сваё баявое слова на ўзбраенне прыхільнікаў міру.

Украінскі паэт Мікола Бажан — у Англіі, таджыкскі паэт Мірзо Турсун-задэ — у Індыі пільнымі вачыма савецкіх патрыётаў убачылі ненавісны твар амерыканскага агрэсара, які гойсае па свеце, шукаючы гарматнага мяса і новыя плацдармы. Але і там яны бачылі мільёны сяброў, якія гавораць: «Мы за мір!» Пра гэта паэты напісалі таленавітыя кнігі, якія адразу заваявалі шырокую папулярнасць.

Можа, найбольш востры і баявой з усіх кніг, напісаных на тэму барацьбы за мір, з'яўляецца кніга Канстанціна Сіманава «Сябры і ворагі». У адным з вершаў «Мітынг у Канадзе» паэт расказвае, як наймітьі падпальшчыкаў вайны імкнуліся сарваць выступленне савецкага дэлегата і для гэтага занялі ў зале тры першыя рады. Але гэта ім не ўдалося, бо ўся астатняя зала была запоўнена простымі людзьмі — прыхільнікамі міру. У канцы верша Сіманаў піша:

Но я конца не рассказал.
А он простой. Теперь, когда
Войной грозят нам, иногда
Я вспоминаю этот зал.
Зал!
А не первых три ряда.

Беларускія савецкія паэты таксама напісалі нямала баявых і палымяных твораў, накіраваных супраць падпальшчыкаў вайны, у абарону міру. Варта прыгадаць вершы Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Кастуся Кірэенкі, Анатоля Вялюгіна і іншых.

У калектыўнай паэме «Ад усяго сэрца» паэты з гордасцю пішуць:

На нарадах, дзе справы рашаюць краіны,
З усіх частак зямлі, як свет белы вялік,
Фронт трымаюць за мір, фронт трымаюць адзіны
Прадстаўнік СССР, прадстаўнік Украіны,
Беларусі Савецкае прадстаўнік.

Беларускаму народу вайна прынесла шмат гора, незлічона страт. І ад імя свайго народа паэты заяўляюць:

Жыць мы хочам у працы, тварыць у спакоі,
Не баімся пагрозаў падпальшчыкаў тых,
А палезуць — сухімі трымаем набоі,
Цвёрда знаем, што пекла іх атамнай зброі
Стане пеклам смяротным для іх жа саміх.

Аркадзь Куляшоў нядаўна апублікаваў новую паэму «Простыя людзі», якую ўжо высока ацаніла савецкая грамадскасць. Расказаўшы гісторыю пра савецкага салдата Мірона Гукая, якога напярэдадні ўзяцця Берліна засыпала ў акопе зямлёй і які пераможа, здавалася б, немінучую смерць, каб вярнуцца да мірнай працы,— Куляшоў заключыў паэму палымяным эпілогам, у якім абагуліў думкі і пачуцці простых людзей, накіраваныя супроць вайны.

«Капіталістам,— гаворыць аўтар,— хацелася б зноў засыпаць простага чалавека зямлёю. Яны прагнуць заваяваць увесь свет. Але простыя людзі гэтага не дазволяць. Яны адкажуць гэтым «грамадзянам» свету, што ім зямная планета адмовіла ў грамадзянстве, што для іх не засталося месца на свеце, і адзіная кватэра, якая іх чакае,— гэта магіла пад халодным каменем, на якім напісаны праклён чалавецтва».

Тут Куляшоў паэтычна выказаў пачуцці простых людзей, узняўся да значнага мастацкага абагульнення.

З твораў, якія з'явіліся ў апошні час, звяртае на сябе ўвагу новая паэма Максіма Танка «Дзённік міру» («Звязда», № 165). Гэта нават не паэма, а цыкл вершаў, пранізаных адзінай ідэяй і пачуццём.

Максім Танк, як вядома, быў дэлегаваны ў Парыж на Сусветны кангрэс прыхільнікаў міру. Рэакцыйныя французскія ўлады, да смерці баючыся гэтага мірнага, але грознага кангрэса, не дапусцілі ў Парыж большасць дэлегатаў, у тым ліку і М. Танка. Частка кангрэса праводзіла з гэтай прычыны сваю працу ў сталіцы Чэхаславакіі — Празе. Пра свае ўражанні, пачуцці, хвалюючыя сустрэчы і апавядае паэт у творы.

Спачатку аўтар расказвае пра палёт над роднай зямлёй, над братняй Чэхаславакіяй. Ён прасякнуты пачуццём высокай адказнасці за сваю місію, што ўсклаў на яго беларускі народ,— «падаць голас свой супраць вайны». Паэт упэўнены, што «...мы слова сваё датрымаем», бо гэта не проста кангрэс, а дзень бітвы за мір і за жыццё на свеце.

Першы, каго ўспомніў паэт, ступіўшы на пражскі брук, быў Фучык — адважны сын чэшскага народа, нязломны барацьбіт супраць фашызму і вайны.

І гэта не выпадкова, бо ў памяці ўсяго чалавецтва сёння, магчыма, мацней чым калі гучыць перадсмяротнае папярэджанне мужнага рэвалюцыянера: «Людзі, я любіў вас! Будзьце пільнымі!»

Кангрэс міру быў той вяршыняй, з якой простыя людзі ўсяго свету ясна ўбачылі, хто пагражае іх жыццю, іх свабодзе, іх будучыні. І таму паэт звяртаецца да працоўных з заклікам:

Трэба пільна сачыць,
Сталявар з Мосейбі,
Каб са сталі тваёй
Не пасмелі рабіць
Ні штыкоў, ні гарматных ствалоў.
І табе,— у далёкім Манчэстары, ткач,
Каб не змусілі зноў
Шынялі вытыкаць
І палотны ваенных сцягоў!
Трэба пільна сачыць,
З Аргенціны мой брат,
Каб твой хлеб
Не карміў Уол-стрыта салдат,
Не ляжаў у іх ранцах паходных;
Трэба, лонданскі грузчык,
За портам сачыць,
Каб не даць
Амуніцыяй, зброяй грузіць
Ні лінкоры, ні баржы ніводнай.

Гэтыя і іншыя радкі «Дзённіка» прасякнуты пачуццём пралетарскага інтэрнацыяналізму. У пятым раздзеле паэт расказвае пра незабыўныя сустрэчы з простымі людзьмі, якія прыехалі на кангрэс з усіх канцоў свету — з Суматры і Грэцыі, з Кітая і Сахары. Калі ж у залу прыйшлі весткі пра перамогу Кітайскай народна-вызваленчай арміі,— гэтая перамога была з вялікай радасцю і хваляваннем сустрэта ўсімі дэлегатамі. І гэта зразумела, бо перамога рэвалюцыйнага Кітая — перамога абаронцаў міру.

Максіму Танку добра ўдалося перадаць пачуццё савецкага гуманізму. Савецкія людзі прыязна адносяцца да ўсіх краін, да ўсіх народаў:

...Таму,
Каму дорагі мір і спакой,
Дружба вольных людзей
І блакіт над зямлёй...
Мы — майстры, хлеборобы,
Руку падаём,
Мы — байцы Сталінграда,
Руку падаём,

Мы — савецкія людзі,
Руку падаём.
І ніколі ніхто
Ні хлуснёй, ні агнём
Нашых не раз'яднае
Мазолістых рук!

Савецкія людзі — мірныя людзі. Савецкі Саюз — надзея і апора ўсіх міралюбівых народаў. І той, хто шукае ў нас дружбу і песню,— знойдзе іх. Аўтару радасна адзначыць, якой любоўю і павагай карыстаецца наша сацыялістычная дзяржава ў мільёнаў і мільёнаў людзей.

Усе радкі паэта прасякнуты верай у тое, што ворагам міру ніколі не ўдасца пагасіць сонца, што простыя людзі ўсяго свету на чале з савецкім народам — непераможная сіла. Вярнуўшыся на Радзіму, паэт з асаблівым хваляваннем праходзіць па Маскве, па Краснай плошчы, па горадзе, які з'яўляецца штабам барацьбітоў за мір.

Няхай жаззяе у вяках
Масква — свабоды, шчасця горад,
Масква — неперможны сцяг
І міру вечная апора!

У паэме прыкметна ўзрасло майстэрства паэта. Паэма глыбокая па думцы, шчырая па пачуццях, простая, але высокамастацкая па форме.

Пра вялікую бітву за мір калі-небудзь напішуць вялікія раманы і эпапеі. Але гарачыя словы сённяшніх паэтаў — барацьбітоў за мір назаўсёды застануцца ў народнай памяці, як прыклад служэння мастака народу, як прыклад баявой палітычнай лірыкі. І, бясспрэчна, твораў, накіраваных супраць падпальшчыкаў новай вайны, з кожным днём у нашай літаратуры будзе з'яўляцца ўсё больш і больш.

*1949*

## ПАЭЗІЯ КАСТУСЯ КІРЭЕНКІ

На нашай зямлі закрасавала вясна камунізма. На ўсю сілу развінуўся магутны талент савецкага народа. У нястрымным руху наперад савецкія людзі ахоплены небывалым уздымам. Працоўны подзвіг нашага народа ў дні пасляваеннай пяцігодкі будзе яшчэ доўгія гады натхняць нашых паэтаў і пісьменнікаў.

Бурны творчы ўздым перажывае і савецкая літаратура. Усё мацней гучаць галасы маладых пісьменнікаў. Многія з тых, што прыйшлі ў літаратуру пасля вайны, атрымалі шырокае прызнанне. Шмат новых здольных паэтаў прыйшло і ў беларускую савецкую літаратуру. Найбольш таленавітыя з іх і творча актыўныя — Кастусь Кірэенка, Анатоль Вялюгін, Міхась Калачынскі. Іх голас ужо чуцён і за межамі Беларусі.

Пара ўважліва прыгледзецца да іх творчасці і вызначыць, што новага, адметнага прынеслі яны ў нашу літаратуру, як іх паэзія дапамагае народу будаваць камунізм.

Ужо і сёння пра такога паэта, як Кастусь Кірэенка, трэба гаварыць як пра спелага майстра і аднаго з найбольш таленавітых маладых паэтаў.

Кастусь Кірэенка належыць да пакалення, якое вырасла і выхавалася пры Савецкай уладзе. Яго біяграфія — тыповая для маладога савецкага чалавека. Нарадзіўся ён у 1918 годзе ў сялянскай сям'і. Спачатку вучоба ў школе і праца ў калгасе, затым — літаратурны факультэт педагагічнага інстытута. З 1940 года і праз усю Вялікую Айчынную вайну Кірэенка служыў у Савецкай Арміі вайсковым карэспандэнтам. Ён пабываў на многіх франтах і за межамі Радзімы. Выхаванец камсамола, паэт на фронце ўступіў у рады бальшавіцкай партыі.

Пасля вайны К. Кірэенка выдаў свае першыя кніжкі паэзіі — «Ранак ідзе» (1945) і «Пасля навальніцы» (1947). За апошні час у газетах і часопісах ён надрукаваў некалькі дзесяткаў новых вершаў. Той, хто ўважліва сочыць за творчасцю К. Кірэенкі, не можа не парадавацца за паэта.

У яго вершах не знойдзеш ні літаратурнага штукарства, ні назаляючай «прыгажосці». Ад важкіх, вуглаватых радкоў вее суровай і радаснай праўдай жыцця.

Вядома, можна ў вершах паэта знайсці і недахопы. Напрыклад, такі верш, як «Што хаваеш ты ў сэрцы сваім», напісаны ў не ўласцівай Кірэенку манеры рамакса. Як пустыя паэтычныя забаўкі ўспрымаюцца вершы «Пралескі», «Успамін». Сустракаюцца паэтычныя недакладнасці і шурпатасці. Паэту часам не хапае дакладных слоў, каб выказаць усхваляваныя пачуцці, і тады ён на дапамогу кліча «гэй!», «ой!», «ай!» і г. д. Некаторыя строфы Кірэенкі, яго паэтычныя прыёмы часам перакрыжоўваюцца са строфамі іншых паэтаў. Але ўсё гэта другараднае. Апошнія творы паэта сведчаць, што гэта — хвароба росту. Ды няма нічога дзіўнага, калі вырашэнне пэўных тэм часам супадае з тым, што маецца ў творчасці іншых паэтаў. 1941—1948 гады, якімі пазначаны вершы Кірэенкі, былі гадамі, калі ўсе паэты жылі аднымі пачуццямі. Гэта былі пачуцці гарачай любові да Радзімы і нянавісці да ворага, шчасця перамогі і радасці аднаўлення роднай краіны. Больш важна іншае: Кастусь Кірэенка здолеў гэты велічны і непаўторны час па-свойму паэтычна асэнсаваць і выказаць.

Лірычнага героя Кірэенкі першы раз мы сустракаем на фронце. Гэта скромны радавы савецкі салдат, палымяны патрыёт Радзімы, які на полі бою «дбала працуе штыком». На яго радзіме, у родных мясцінах над Сожам, лютуе драпежны вораг. Сэрца салдата перапоўнена гневам і пякучай нянавісцю да акупантаў. Ён праходзіць праз усе жахі вайны, бачыць смерць сяброў і пакуты людзей. Але ён з такіх салдат, якія «сваю бяду не ставяць напаказ». Яго настрой: «Пакуль над краінай цемра — не хочам мы сонца бачыць». Ён не жадае ні адпачынку, ні спакою. Гэта мужны і адважны воін, які заўсёды наперадзе. Ён бясконца адданы сцягу Леніна. Лёс Радзімы — народа — яго ўласны лёс. З гэтым героем, як з надзейным другам, праходзім мы па дарогах вайны, вызваляем Беларусь і рушым далей па Захад, аж да перамогі. З ім разам мы распачынаем і мірную працу.

Для вершаў Кірэенкі, прысвечаных Айчыннай вайне, характэрны мужны і суровы тон. Скупымі дакладнымі фарбамі паэт стварае праўдзівыя малюнкі вайны, раскрывае пачуцці і подзвігі савецкіх воінаў. Вось распачаўся бой:

Стралкі за калючым дротам
глыбокі свідруюць снег,
Да самай зямлі свідруюць
крыві барвяністай згусткі.
А зброя звоніць пагрозна,
і прагне адплаты гнеў,
I грудзі агнём паліты,
і поле здаецца вузкім.
*(«Жывыя ідуць наперад»)*

Герой Кірэенкі — глыбока свядомы савецкі воін, які цвёрда і мужна пераносіць усе нягоды вайны. У яго ясная мэта: перамагчы ворага, вызваліць савецкую зямлю, вярнуцца да мірнай працы.

Кірэенку ўдалося добра паказаць наступальны парыў нашай арміі, арміі-вызваліцельніцы. У вершы «Пісьмо» аўтар расказвае, як маці паслала на фронт пад Сумы пісьмо сыну. А тым часам сын разам з усёй арміяй рушыў далей на захад. І так усюды: куды б пісьмо ні прыйшло, яно ўсё роўна не можа застаць адрасата: фронт зноў перасоўваўся на новыя рубяжы, і савецкі воін ужо вызваляў братнія землі. Гэты верш удала перадае гарачы подых тых незабыўных дзён. Заключныя радкі верша прасякнуты любоўю да савецкага чалавека, які заўсёды знаходзіцца ў росце і руху: «Якая песня, якое пісьмо яго, маладога, дагоніць?»

Другую сваю кніжку К. Кірэенка назваў «Пасля навальніцы». І сапраўды, уся пасляваенная творчасць паэта прысвечана тэме аднаўлення. Яго вершы актуальныя, яны ўслаўляюць справы, думы і пачуцці савецкага народа.

Паэт апявае будаўнікоў і сейбітаў, новыя збудаванні Мінска і багаты ўраджай, вырашчаны дбайнымі рукамі калгаснікаў. Лепшымі і найбольш характэрнымі вершамі з гэтага цыкла з'яўляюцца: «Колас», «Гармата», «Палац», «Грукні ў акно, вясна!», «Мара», «Над ракой» ды некаторыя іншыя. Радуе ўменне Кастуся Кірэенкі стварыць на канкрэтным матэрыяле сюжэтны, эмацыянальны верш, выказаць у ім глыбокія думкі, зрабіць значныя абагульненні.

У вершах «Палац», «Цягнік» і іншых Кірэенка ўслаўляе стваральную працу савецкіх людзей, дружбу народаў. Ён паказвае, што толькі дапамога братніх рэспублік і ў першую чаргу вялікага рускага народа дае нам мажлівасць залячыць страшэнныя раны вайны, аднавіць сваю краіну. У гэтым сіла савецкага ладу.

Спрадвечныя мары працоўных у краіне сацыялізма становяцца явай. І балоты, па якіх бегла маленькая затванелая рачулка, калісьці названая нібы ў насмешку прыгожым імем Мара, ператварыліся ў багатыя ўраджайныя палі. А расчышчаная Мара азарылася агнямі новай электрастанцыі («Мара»).

У вершах Кірэенкі не знойдзеш спакойных людзей, нерухомых альбо раўнадушных прадметаў. У яго кожная рэч, кожная паэтычная дэталь дзейсная, актыўная. Любімы прыём паэта — ажыўляць нежывыя рэчы: і цэгла, і сосны самі просяцца на будоўлі; гармата сама выказвае жаданне стаць трактарам; расліны просяць хмару, каб паліла іх дажджом, і г. д. Ад гэтага верш робіцца больш напружаным. Мы бачым, што паэт шчыра захапляецца і добрымі людзьмі, і роднай прыродай. Бачна і тое, што ён любіць і добра ведае народную творчасць і ў пошуках уласнай паэтычнай формы адштурхоўваецца ад народнай песні.

Праз усю паэзію Кастуся Кірэенкі чырвонай ніткай праходзіць яго галоўная тэма — тэма савецкага патрыятызму. З вялікай любоўю і цеплынёй піша паэт пра беларускія палі, лясы і сенажаці, пра паўнаводны Сож і новы Мінск, пра вялікую сталіцу нашай Радзімы Маскву. У пасляваенных вершах лірычны герой Кірэенкі паўстае перад чытачом як актыўны будаўнік камунізма, які бязмежна любіць сваю сацыялістычную Радзіму, турбуецца пра яе будучыню, аддае ёй усе свае сілы і здольнасці і гатовы без хістання аддаць за яе сваё жыццё. Ён адчувае сябе сынам не толькі Савецкай Беларусі, але і ўсяго Савецкага Саюза. Гэта пачуццё добра перадаецца ў вершы «Караблі» — адным з лепшых вершаў паэта:

Адкуль жа ў нас,
што ўзраслі на прылессі,
На ціхай няморскай зямлі,
Марацкія мары і флоцкія песні,

Жадаппе вадзіць караблі?
Напэўна, такая душа ўжо у нас. Мусіць,
Ад першай маленства вясны
Мы чуем, што мы не адной Беларусі,
А ўсёе Радзімы сыны.

Тэме савецкага патрыятызму прысвечаны лепшы твор Кастуся Кірэенкі — «Мая рэспубліка». Гэта шчырае палымянае слова палкага патрыёта савецкай Радзімы. У гэтым вершы найбольш поўна і ярка выявілася адметная рыса паэта: бачыць у нашым жыцці парасткі новага і ўмець праўдзіва і пераканальна паказаць гэта новае.

Успомніўшы былы горкі лёс беларускага народа, цяжкое мінулае Беларусі, паэт з асаблівай любасцю і гордасцю паказвае, як змяніўся воблік нашай рэспублікі. Мы чуем мужны і шчыры голас паэта-патрыёта, голас гаспадара і пераўтваральніка зямлі. Глыбокая ідэйнасць, высокі мастацкі ўзровень паставілі гэты верш у рад лепшых здабыткаў беларускай савецкай паэзіі апошніх гадоў. «Мая рэспубліка» — вялікі творчы поспех маладога паэта.

У асобе Кастуся Кірэенкі беларуская савецкая паэзія мае сур'ёзнага таленавітага мастака, паэта са свежым і моцным голасам.

*1949*

# НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА

Пушкін! Назавіце гэтае імя, і радасна, горача заб'ецца сэрца. У маленстве і юнацтве, у гады сталасці ўсе мы пілі і п'ём з невычэрпнай крыніцы празрыстай і жыватворчай пушкінскай паэзіі. Яшчэ не навучыўшыся пісаць ніводнай літары, мы чулі цудоўныя казкі пра разумнага Балду і цара Салтана, пра рыбака і рыбку, пра залатога пеўніка. А каго не кранälі чароўныя вершы паэта пра дружбу і вернасць, пра каханне!

З першых крокаў свядомага жыцця Пушкін для мяне, як і для кожнага з нас, стаў мудрым настаўнікам і задушэўным другам. Яго паэзія натхнёна заклікае: будзь смелым, мужным, гордым, вольналюбівым; любі сваю Радзіму, яе цудоўную прыроду; змагайся за шчасце свайго народа!

Яшчэ нікуды не выязджаўшы са свайго сяла, я ўжо яскрава ўяўляў і бяскрайнія рускія стэпы, і аснежаныя горы Каўказа, і велічнае цячэнне Нявы, і рокат паўднёвага мора.

І, напэўна, як многія паэты, што пачыналі пісаць са школьнай парты, я спачатку таксама пісаў «пад Пушкіна». Для кожнага з нас, хто знайшоў або шукае сваё месца ў паэзіі, геніяльны Пушкін быў і застанецца непаўторным прыкладам народнага паэта-патрыёта, мудрага і чалавечнага, празорлівага і бясконца працавітага. Пушкін — найсвятлейшае сонца рускай паэзіі, а значыць, і ўсёй паэзіі.

Не раз вылюдкі чалавецтва імкнуліся пагасіць гэтае сонца. Але хіба можна знішчыць пушкінскае слова? Яно бяссмертна!

Асабліва мяне прываблівае і хвалюе ў паэзіі Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна любоў да чалавека, вера ў яго нязмерную творчую сілу і талент, вера ў шчаслівую будучыню чалавецтва. Здаецца, кожны яго радок напоен сонцам, сагрэт мужнай чалавечай ласкай.

Нам, будаўнікам камунізма, блізкі і дарагі светлы і радасны настрой пушкінскай паэзіі, яе глыбіня і народнасць, яе непрымірымасць да ворагаў і бязмежная любоў да Радзімы. Разам са сваім народам у камунізм увойдзе і Пушкін!

Нам дорага не толькі кожнае слова вялікага паэта, але і кожнае месца, кожны след, звязаны з несмяротным імем Пушкіна. Нашы продкі бачылі яго ў Маскве і Пецярбурзе, Адэсе і Тбілісі, Кішынёве і Гурзуфе. Ён ехаў з царскай высылкі праз нашу Беларусь, па зялёным Магілёўскім тракце. Яго палымяныя вершы слухалі магіляўчане... Месцы, звязаныя з яго імем, мы называем пушкінскімі.

Сёння мы можам назваць пушкінскімі месцамі кожны куток нашай неабсяжнай сацыялістычнай Радзімы, бо няма такога дома на савецкай зямлі, дзе не пабываў бы наш любімы паэт. Ён прайшоў праз сэрцы кожнага савецкага чалавека!

Не сцяжынка, мноства шырокіх дарог вядзе сёння да нерукатворнага помніка паэту, які славіў дружбу паміж народамі. Няма такой мовы, на якой не гучалі б палымяныя словы Пушкіна. Без яго я не ўяўляю і нашай беларускай паэзіі. Эпічная мудрасць паэм Якуба Коласа, страсная лірыка Танка, ясная і празрыстая страфа Куляшова, святочная прыўзнятасць вершаў Глебкі — для ўсіх іх была вытокам невычэрпная, глыбокая, шматфарбная паэзія Пушкіна. З яе вечна будуць браць пачатак вялікія і малыя рэкі таленту ўсіх народаў.

Прыйшоў ты да нас
праз эпох непагоды,
Нам голас твой чуцен
і воблік відзён.
Ты — слава, ты — гордасць,
ты — песня народа,
Паэт і мінулых
і будучых дзён!
Чым больш расцвітаць
будзе наша Радзіма,
А нашы палі і лугі
прыгажэць —
Паэзія Пушкіна
радугай дзіўнай
Над імі
ярчэй будзе ў шчасці гарэць.

*1949*

# ВЯНОК ПАМЯЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Вуліца Энгельса. Сквер. Узыходзіш па ступеньках і адразу бачыш яго, мудрага і задуменнага. Мімаволі ўспамінаюцца радкі Міколы Аўрамчыка:

Яшчэ гушчар стагнаў ад мін,
Свінцом зямлянкі абдавала,
А ўжо нам сніўся новы Мінск
І з бронзы выліты Купала.

Так, яшчэ на фронце мы марылі пра аднаўленую краіну, снілі пра адроджаны Мінск. А з імі, гэтымі марамі, заўсёды неадлучна стаяў вобраз незабыўнага Янкі Купалы.

І вось глядзіць ён, бронзавы, як у нябачанай велічы і красе ўзнімаецца наша сталіца. Каля яго галавы то буйна кіпіць, то ледзь шапаціць зялёнае лісце. Ля падножжа помніка барвавеюць кветкі і звіняць дзіцячыя галасы. Штохвіліны спыняюцца людзі, глядзяць на воблік роднага паэта, чытаюць яго неўміручыя радкі.

Адкрылі помнік нядаўна, у дні Другога з'езда пісьменнікаў БССР. Працоўныя Мінска, прадстаўнікі братніх рэспублік урачыста ўшанавалі памяць паэта. Тут, у гэтым скверы, сардэчна прагучалі словы вялікай любві да Янкі Купалы. Рускія, беларускія, украінскія пісьменнікі і пісьменнікі іншых братніх рэспублік прынеслі да помніка вянкі з жывых кветак.

Да гэтых вянкоў далучыўся новы, не з кветак, а з жывых паэтычных слоў. Акадэмія навук БССР выдала зборнік «Янку Купалу».

Паэзія Янкі Купалы заўсёды служыла працоўнаму народу. Думы і імкненні паэта былі думамі і імкненнямі беларускага народа.

Яго натхнёныя песні заклікалі на змаганне за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне Беларусі. Пасля Кастрычніка Купала з вялікай сілай і майстэрствам уславіў савецкі лад, сацыялістычнае будаўніцтва, партыю бальшавікоў, уславіў будаўнікоў сацыялізма і дружбу народаў. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў паэзія Купалы была баявым сцягам беларускай літаратуры. Такой яна застаецца і сёння.

Вершы, прысвечаныя Янку Купалу, гавораць аб вялікай любві да народнага песняра як беларускіх паэтаў, так і паэтаў братніх рэспублік.

Сябра і паплечнік Янкі Купалы — Якуб Колас яшчэ ў трыццатым годзе даў такую паэтычную ацэнку вялікаму мастаку:

Знайшоў ты шлях, пясняр,
Пакрыўджаны свой дар
Панёс ты голасам трыбуна і баяна.
Трымаў твой кліч, іскрылася крыніца
Адточаных, як меч, і выказаных слоў.

Гэтыя адточаныя, як мячы, словы дапамагалі народу знішчаць прыгнёт. Колас заканчвае верш шчырым зваротам:

Грымі ж яшчэ, пясняр,
Нясі працоўным жар —
Грамчэй заві да новай перамогі.

І Янка Купала нястомна нёс жар свайго вялікага сэрца працоўным. Яго песні былі чутны далёка за межамі Беларусі, іх палюбілі рускія, украінцы, казахі, таджыкі і іншыя народы СССР.

І Янка, акын беларускіх палёў,
Лье песні цяплей, чымся крык жураўлёў,—

пісаў у 1936 годзе славуты казахскі акын Джамбул. Падобную ж думку выказвае і таджык Гасем Лахуці:

Песня яго не жальбою ліецца,
Песня грымець па-вясноваму стала.

Задушэўныя словы прысвяцілі Купалу ўкраінскія паэты М. Рыльскі, С. Крыжаніўскі, Т. Масэнка. Максім Рыльскі параўноўвае значэнне Янкі Купалы для беларускага народа з той роляй, якую адыграў для ўкраінскага народа Тарас Шаўчэнка:

Ён навучыў нас шанаваць глыбока
Святыню працавітае рукі,—
І увайшоў наш Янка ў вякі,
Як вобраз Беларусі яснавокай.

Амаль ва ўсіх вершах падкрэсліваецца непарыўная сувязь Янкі Купалы з народам. Гэта цудоўна выказвае вядомы рускі паэт Міхаіл Ісакоўскі:

З народам ты вырас, спяваў для народа,
І ў сэрца народная песня запала.

Максім Танк, Піліп Пестрак, Валянцін Таўлай, Міхась Машара ў сваіх вершах гавораць, што песня Купалы дапамагала ў змаганні працоўным Заходняй Беларусі.

Янка Купала быў мудрым і чулым настаўнікам для некалькіх пакаленняў беларускіх паэтаў. Вялікай павагай, любоўю, удзячнасцю да народнага песняра прасякнуты вершы Канстанцыі Буйлы і Паўлюка Труса, Петруся Броўкі і Максіма Танка, Пятра Глебкі і Кастуся Кірэенкі.

Палымяныя словы Янкі Купалы грозна і гнеўна гучалі ў дні Вялікай Айчыннай вайны. Ён бязмежна верыў у нашу перамогу. Аб гэтым піша рускі паэт Сяргей Васільеў у вершы «Мінск свабодны»:

Я помню, як Янка Купала
Калісь з хваляваннем сказаў:
«Мая Беларусь не прапала,
Фашыст ў Беларусі прапаў.
І нашы гарматы і танкі
Шчэ пойдуць праз Мінск на Берлін!..»

Прароцтва паэта — палымянага патрыёта Радзімы — збылося. Але сам Купала не дажыў да радасных дзён перамогі, не ўбачыў, як вызвалены народ пачаў аднаўляць яго любімую Беларусь. Смерць Янкі Купалы выклікала вялікую жальбу, вялікі чалавечы смутак у працоўных Беларусі і братніх рэспублік.

Парваліся струны. Разбіты
Цудоўныя гуслі твае.
Краіна жалобай спавіта:
Байца-песняра не стае.
Спі спакойна, спачывай —
Не забудзе цябе край,—

кажа Якуб Колас у вершы «Над магілай друга».

Песня Купалы засталася. Яна, баявая і гарачая, крочыла побач з нашымі воінамі па дарогах наступлення. Звяртаючыся да вялікага Купалы, паэт-франтавік Алесь Бачыла ў 1942 годзе пісаў:

Мы адваюем палі Беларусі,
Волю ёй з песняй тваёй прынясём.

У вершах беларускіх, рускіх, украінскіх паэтаў гучыць адна думка, што вялікі пясняр Беларусі, які ўсё сваё жыццё аддаў за шчасце Радзімы,— бессмяротны, што і сёння ён з намі ў працы і барацьбе:

Не скасіла смерць
І не забрала,
Ты жывы сягоння, наш Купала!

*П. Броўка*

Не засыпаў зямлёю твой голас,
Песня Янкі Купалы жыве.

*М. Галодны*

У зборніку змешчаны таксама вершы Э. Агняцвет, М. Асеева, А. Астрэйкі, А. Вялюгіна, С. Гарадзецкага, М. Калачынскага і іншых.

Зборнік «Янку Купалу» — гэта першы паэтычны вянок на магілу паэта. Тут сабрана далёка не ўсё, прысвечанае слаўнаму песняру. Але беларускі чытач, безумоўна, з хваляваннем успрымае шчырыя словы савецкіх паэтаў пра незабыўнага Янку Купалу.

*1949*

# СЛОВА ДА МАЛАДЫХ ПАЭТАЎ

«Няма добрых вершаў», «паэтаў не чытаюць», «зборнікі вершаў не купляюць» — вось ужо некальki год чуваць гэтае лямантаванне. Мы так прывыклі да гэтага хору раўнадушных да паэзіі людзей, што нават не стараемся разабрацца, у чым жа тут справа.

Няўжо наш народ, які ўсё жыццё дружыць з песняй, з маленства запамінае любімыя вершы, заўсёды шчыра засмяецца на вострае слова байкі, раптам разлюбіў паэзію? Не, гэта не так!

Выхаванне пачуцця прыгожага пачынаецца з дзіцячых гадоў. Настаўнік пачатковай школы, выкладчык мовы і літаратуры павінны першымі паказаць дзецям хараство мастацкага твора. На жаль, некаторыя настаўнікі амаль усю сваю ўвагу аддаюць разгляду ідэйнай задумы верша (што, вядома, патрэбна) і зусім мала раскрываюць мастацкія вартасці, асаблівасці паэзіі. Некаторыя ўхітраюцца нават у лірычным вершы пра васілёк перш за ўсё падкрэсліць, што гэта пустазелле.

Да гэтага трэба дадаць, што і падручнікі (асабліва чытанкі) складзены не заўсёды з лепшых узораў мастацкай літаратуры, а праграмы перагружаны цяжкімі і часам непатрэбнымі патрабаваннямі.

Далей — бібліятэка. Як хочацца ля паліц з кнігамі ўбачыць не абыякавага рэгістратара, а культурнага, разумнага дарадчыка, які сам любіць кнігі і можа выхаваць гэтую любоў у чытачоў, і не толькі любоў, але і добры густ. А то здараецца так, што пройдзе пагудка: «Ой, якая цікавая кніга», і глядзіш — за ёю чарга, а на справе бывае, што гэта шэранькая, сентыментальная аповесцейка, скляпаная спрытным рамеснікам. Праўда, добрая кніга сама знойдзе дарогу да сэрца чытача. Але гэтая дарога не заўсёды гладкая.

А як цяжка выдаць першы зборнік вершаў! Малады паэт (я гавару пра таленавітага чалавека) друкуецца тры-чатыры, а то і больш гадоў у газетах і часопісах. Вершы радуюць свежасцю, шчырасцю. Іх заўважылі. Глядзіш — юнак ужо стаў членам Саюза пісьменнікаў і часта сустракаецца ў справаздачных спісах, у памінальных артыкулах. А кніжкі няма.

У выдавецтве моршчацца: «З паэзіяй цяжка...», «перарасход...», «кнігагандаль не бярэ...» І, нарэшце, бадзёрае пахлопванне па плячы: «Што ж, працуйце, працуйце! Выдадзім».

Вось калі паэт з гучным імем, дык выдавецкія застаўкі адкрываюцца больш ахвотна: «Нясі том, двухтомнік, трохтомнік, мы выдадзім, перавыдадзім і нават не паглядзім уважліва, што ў гэтых фундаментальных цаглінах — паэзія ці яшчэ што». І стаяць часам у бібліятэчным зацішку салідныя паўпудовыя кнігі, толькі хіба новы кандыдат у вучоныя возьме іх, каб напісаць манаграфію. Можа, і ўзяў бы юнак вершы вядомага паэта, каб пачытаць дзе-небудзь ля рэчкі сваёй сяброўцы, ды цяжка несці. Забыліся нашы выдаўцы, як прыемна было ўзяць у рукі маленькія, цудоўна афармленыя томікі лірыкі Пушкіна, Лермантава, Блока, Ясеніна; забыліся аб просьбе Маякоўскага: выдаваць яго дажджом брашур. А такая патрэба — выдаваць сапраўды лепшыя творы паэтаў невялікімі, прыгожымі на выгляд, таннымі кнігамі — вялікая.

Кніжны магазін. Хто з аматараў кнігі не перажываў хвалюючых хвілін, калі ў руках новая кніга, якая яшчэ пахне фарбаю, якая абяцае раскрыць нешта цікавае, узбагаціць і ўзрушыць цябе. Як прыемна перабіраць, разглядаць новыя хрумсткія кніжкі, пагутарыць са знаўцам, параіцца, выбраць сабе кнігу па душы. Але мала з кім можна параіцца ў кніжным магазіне. Дарэмна шукаеш вітрыны «Навінкі паэзіі» або «Першая кніга маладога пісьменніка» з адпаведнымі анатацыямі. Механічная выпіска чэкаў. Выкананне фінансавага плана. Пры слове «вершы» многіх работнікаў кнігагандлю ахоплівае жах: «Не купляюць! Не бяруць! Не трэба!» І гэта ў буйных гарадах. А што ж сказаць пра тыя неахайна складзеныя кнігі, якія засунуты ў сельмагах за мяхі з соллю, ці пра тыя скрынкі з кнігамі, якія выкарыстоўваюць кіяскёры замест табурэтаў?

Хацелася б далікатна запытаць у работнікаў кнігагандлю: ці чытаюць яны хоць зрэдку тыя кнігі, якія павінны прапанаваць людзям? Ці ведаюць прычыны, чаму кепска разыходзяцца зборнікі вершаў?

Здарыўся ж канфуз з маскоўскімі кнігапрадаўцамі, якія сцвярджалі, што паэзію не купляюць, а

пры праверцы аказалася, што ў маскоўскіх магазінах... няма вершаў.

Але я чую, як мяне ўжо нецярпліва перабіваюць: «Гэта ўсё другараднае, а ты вось пра самую паэзію скажы: чым узрадавала чытача беларуская пасляваенная паэзія, якія вершы і паэмы і як напісаны для свайго народа? Якія яркія таленты заіскрыліся на паэтычным небасхіле?»

Катэгарычна сцвярджаць, што наша паэзія адстае, было б няпраўдай. Старэйшыя паэты выдалі некалькі сапраўды таленавітых кніг паэзіі. Іх няздрэнна ведае наш шырокі чытач. Дастаткова прыгадаць паэмы і вершы Аркадзя Куляшова, вершы Максіма Танка.

Адразу пасля заканчэння вайны ўпэўнена сказалі сваё свежае слова такія самабытныя і розныя паэты, як Кастусь Кірэенка, Антон Бялевіч, Анатоль Вялюгін, Мікола Аўрамчык, Уладзімір Корбан і некаторыя іншыя. Яны і зараз плённа працуюць, іх голас сталее, узбагачаецца новымі фарбамі.

За пасляваеннае дзесяцігоддзе выйшлі з друку дзесяткі кніжак вершаў. Не ўсе яны вытрымалі выпрабаванне часам.

Тут я лічу патрэбным сказаць, што, на маю думку, у нас — і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў перыядычным друку — не было дастатковай прынцыповасці і шчырасці ў ацэнцы паэтычных твораў. Амаль усё, што друкавалася, залічвалася ў актыў. Таму часта ў нашых дакладах, выступленнях, артыкулах дзесяткамі стракацелі прозвішчы, за якімі не відно было саміх твораў. Мала, зусім мала мы гаварылі пра майстэрства паэта. Чытачу і слухачу нялёгка было зразумець, чым жа адрозніваецца адзін паэт ад другога, у чым арыгінальнасць, свежасць, каштоўнасць таго ці іншага твора. «Важная тэма», «паэт вырас, але ёсць недахопы», «з аднаго боку і з другога боку» — такія або амаль такія шаблонныя выразы зрабіліся сапраўднай пошасцю. І вось гэты паток, гэты недыферэнцыяваны, неканкрэтны разгляд, узаемнае амністыраванне недахопаў і слабых твораў прывялі да таго, што многія з чытачоў (ды і саміх паэтаў) страцілі ўяўленне, што такое добра і што такое дрэнна. Значная частка крытыкаў пайшла па такім шляху: або хвалебная манаграфія пра славутага паэта, дзе

ўсё ідзе пад урачысты грукат клічнікаў, або наспех напісаныя рэцэнзіі, у якіх вылоўліваюцца добрыя і дрэнныя радкі.

Усё гэта прывяло некаторых паэтаў да страты адказнасці за сваю цяжкую паэтычную працу, да непатрабавальнасці, да страты добрага густу (вядома, калі ён быў).

Друкаванне мноства шэрых, калі можна так сказаць, сярэднеарыфметычных вершаў у нашых газетах і часопісах, можа, і з'яўляецца адной з асноўных прычын «абыякавых» адносін з боку чытачоў да нашай паэзіі апошніх год.

Гэта не магло не адбіцца і на росце маладой беларускай паэзіі.

Фармальна ўсё як быццам бы добра. Старонкі газет і часопісаў гасцінна раскрыты для маладых аўтараў. Праведзена многа абласных і рэспубліканскіх нарад маладых. Некалькі дзесяткаў здольных аўтараў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Зрэдку выдаюцца іх кнігі.

Выйшлі з друку зборнікі вершаў сапраўды таленавітых людзей — П. Макаля, С. Гаўрусёва, Н. Гілевіча, І. Муравейкі, М. Пянкрата. Запомніліся некаторыя свежыя вершы іншых аўтараў.

Але калі чытаеш рукапісы першых зборнікаў, а таксама дзесяткі і сотні вершаў літаратурнай моладзі, ахоплівае неспакой і шчырая трывога: а ў імя чаго ўсё гэта пішацца і друкуецца; што хвалюе маладых паэтаў; па чым баляць і чым радуюцца іх сэрцы; які свет, якую далячынь, якія думкі і пачуцці збіраюцца раскрыць яны народу?

У наш час навучыцца пісаць вершы няцяжка. Усе людзі пісьменныя, усе з адукацыяй, усе начытаныя. І многія пішуць вершы, дзе ёсць і правільная думка, і рытм, і рыфмы, а часам і дасціпнасць. Але ў большасці гэтых вершаў няма аднаго — сапраўднай паэзіі.

Без свайго адчування свету, без сваёй вобразнай паэтычнай думкі, без шчырасці і непасрэднасці нельга стварыць паэтычны твор. Гэта цяжка, для гэтага неабходны талент, веданне жыцця і штодзённая ўпартая праца.

Чытаючы і перачытваючы вершы маладых і пачынаючых, з сумам заўважаеш іх тэматычную, воб-

разную, пачуццёвую аднастайнасць. Як быццам нехта ім, зусім не падобным адзін да другога па характару, тэмпераменту, па ўмовах, у якіх кожны вырас, надзеў аднолькавыя акуляры з нейкім даволі цьмяным фокусам. Хай не крыўдуюць на мяне маладзейшыя сябры за гэтую рэзкасць, бо я шчыра веру ў іх здольнасці і хачу аднаго: каб яны хутчэй сталі сапраўднымі паэтамі са сваім свежым, непаўторным голасам.

У газеце «Чырвоная змена» неяк былі змешчаны адзін пад другім вершы маладых паэтаў Міхася Карпенкі і Марка Смагаровіча — «Гарачыня» і «Жніўны дзень».

Дазволю сабе працытаваць урыўкі:

Жніво прыйшло...
Спякота.
Кашулі ў гэты час
Ажно ва ўсіх ад поту
Наскрозь прамоклі ў нас.
А мы працуем дбайна
На полі ў дзень такі.
Ад караблёў-камбайнаў
Бягуць грузавікі.
І залатым патокам
На склады хлеб цячэ...

З другога верша:

Гарачым ён людзьмі названы,
Бо ён адказ нясе за год.
Уранні загулі камбайны
І дружна рушылі ў паход.
І пацяклі ў мяшкі зярняты,
Як залатыя раўчукі.
Салому ў стог кладуць дзяўчаты,
Ім памагаюць хлапчукі.
А на дарогах гоман шынаў,
Яму уторыць рэхам гай.
З палёў шматтонныя машыны
На склад павезлі ураджай.

Два вершы, два рытмы, а сказана адно і тое ж. Цяжка паверыць, што напісалі гэта розныя людзі. Прычына зразумелая: аўтары не пакутавалі, шукаючы сваіх важкіх слоў, а ўзялі тыя, што даўно раскіданы па чужых вершах. Так падпільнаваў маладых паэтаў іх страшны вораг — шаблон.

Вяртанне ў дні маленства, да родных мясцін, да любімых і блізкіх — вечная і хвалюючая тэма. Але

трэба заўсёды помніць, што пра гэта напісаны тысячы вершаў, сярод іх ёсць і сапраўдныя шэдэўры. На гэтую ж тэму ў апошні час надрукаваны вершы і П. Макаля, і Н. Гілевіча, і С. Гаўрусёва і вершы больш маладых: «У гасцях» В. Адамчыка, «Імчыцца поезд» М. Кусянкова, «Жаданне» В. Зуёнка.

Аддаючы належнае шчырасці гэтых вершаў, не можаш не заўважыць аднастайнасці выказаных пачуццяў і падабенства выяўленчых сродкаў. І мучыць цябе неадчэпная думка: дзе я гэта чытаў? А няма ж ніякага сумнення ў тым, што і дзяўчаты розныя, і Прыпяць не падобна да Дзвіны, і мінскія ўзгоркі адрозніваюцца ад гомельскіх раўнін і нізін.

Адзін з самых распаўсюджаных сюжэтаў у вершах маладых — гэта каханне хлопца да дзяўчыны або наадварот. Ходзіць гэты хлопец каля хаты дзявочай і не адважыцца зайсці, сустрэне ў соты раз дзяўчыну і не можа прызнацца ў каханні. Заканчваюцца такія вершы ці пязначным воблачкам суму, ці легкаважкім жартам. Нічога дрэннага няма ў такім нясмелым наіўным каханні, яму нават спачуваеш. Але калі гэтыя закаханыя амаль ва ўсіх маладых (ды і не толькі маладых) паэтаў аднолькавыя, часам хочацца проста падказаць: ды абдымі ты, нарэшце, сваю каханую! Вечар жа які добры, зоры і інш. Дык не. У другога паэта ўжо і свае дзеці растуць, а яго лірычны герой усё яшчэ тупае па трафарэтнай сцежцы каля трафарэтнай хаты і злёгку пакутуе.

Тут, мне здаецца, крыецца яшчэ адна небяспека: маладыя паэты баяцца гаварыць на поўны голас (вядома, не гучныя расказы), саромяцца сваёй шчырасці, а таму часта іранізуюць. Гэты прыніжаны, прыглушаны тонус характэрны для многіх, як быццам ім не вядомы вялікія пачуцці і жаданні: замест кахання — невыразнае захапленне, замест страсці — нейкая страсцішка, замест гневу і нянавісці — скарга ці бяззубае абурэнне. Адгэтуль і нярэдкі вынік: не сапраўдныя пачуцці, не сапраўдную любоў раскрывае такі паэт сваім словам, а ўмоўныя пачуцці. А адгэтуль і ўмоўная, а не сапраўдная паэзія. Рэдка за радкамі маладога паэта мы бачым яго біяграфію, характар, волю, імкненні, мары.

А ўспомнім, як шчыра, як магутна, як непаўторна і як па-рознаму пісалі пра каханне А. Пушкін і

А. Блок, У. Маякоўскі і С. Ясенін, Я. Купала і Я. Колас. Мне скажуць: «Дык гэта ж вялікія паэты». А мы і павінны, у меру сваіх сіл і здольнасцей, раўняцца на вялікіх, вучыцца ў вялікіх майстроў слова, а не перапяваць адзін другога.

Не магу не сказаць і пра тое, што за апошні час у маладой паэзіі назіраецца нейкае збядненне тэм, здрабненне думак і пачуццяў. Мала ўсхваляваных вершаў пра тытанічную працу нашага народа, няма дзейснага ўмяшання ў жыццё, гарачай зацікаўленасці ў перамозе нашых ідэй і ідэалаў. Я, вядома, супраць крыклівых, барабанных вершаў на сусветныя тэмы; я за тую паэтычную канкрэтнасць, калі можна і сонца паказаць у кроплі вады. Але маладым, як і ўсім паэтам, трэба больш пісаць пра тое, што хвалюе народ, больш аддаваць сіл грамадзянскай паэзіі. Немагчыма ж сур'ёзна ўспрымаць верш, дзе аўтар піша, як хлопец пайшоў на паляванне, убачыў дзяўчыну, ды такую прыгожую, што на міг забыў пра качак. У выніку і качак след прастыў і дзяўчына знікла. Але аўтар аптыміст:

> Толькі хлопцу сёння не шкада іх,
> Прамільгнуўшых, як кароткі сон.
> Хай сабе плывуць, куды жадаюць:
> І без іх не менш шчаслівы ён.

Вось як лёгка важыць шчасце маладога паэта! А чалавек жа ён здольны, ды і верш, як кажуць, напісаны «на ўзроўні».

Без глыбокай паэтычнай думкі, без сапраўднага пачуцця вершы заўсёды будуць пустацветамі. Толькі глыбока перажытае, перадуманае — гора гэта ці радасць; толькі праўда жыцця, толькі выпакутаваныя словы маюць права на жыццё. А інакш — першыя ўдачы засмокча дрыгва літаратуршчыны, штампу. Малады паэт, калі ёсць у яго талент, з першых крокаў свайго літаратурнага жыцця павінен глядзець на сваю працу, як на нястомны подзвіг на карысць народа. Гэтыя ісціны даўно ўсім вядомы, але іх не шкодзіць час ад часу паўтараць.

Трэба больш нам звярнуць увагі на выхаванне добрага паэтычнага густу. Нават такі вопытны малады паэт, як А. Вольскі, у якога ёсць сапраўды добрыя вершы, звяртаецца да свайго загінуўшага, пахаванага друга з такімі радкамі:

Нібы касцёр,
твае палаюць раны,
І той касцёр
мне адусюль відзён.

Прыгожа і... безгустоўна.

Ды і М. Смагаровічу варта было б нараіць не друкаваць такія «прыгожыя» радкі:

...Не горкі пот, а росы шчасця
Ва ўсіх на тварах зіхацяць.

Трэба пісаць прасцей, сардэчней і больш натуральна.

Я знарок не разбіраў падрабязна асобныя вершы, не паказаў іх дробныя промахі, гэта можна заўсёды зрабіць, ды гэтым часткова і будуць займацца на нарадзе маладых пры абмеркаванні твораў.

Куды важней дапамагчы маладому здольнаму аўтару ўбачыць, адчуць, дзе намеціўся яго ўласны голас, і, мажліва, перасцерагчы ад няправільных адносін да паэтычнай працы, ад памылак, якімі грашылі і грашаць не толькі маладыя паэты, але і старэйшыя. Тое, пра што я гаварыў у гэтым артыкуле, у той ці іншай ступені датычыць многіх паэтаў, і мяне асабіста. Не павучаць, а разабрацца ў нашай паэтычнай гаспадарцы — гэта наш абавязак, і асабліва абавязак вопытных майстроў.

Як я казаў, пісаць вершы навучыцца можна, але навучыць ствараць сапраўдныя творы паэзіі нельга. Той, хто валодае гэтым сакрэтам, і з'яўляецца паэтам, а не вершаскладальнікам. Кожны малады аўтар павінен знайсці свой паэтычны сакрэт.

Хочацца бачыць і радавацца, як маладыя паэты ўсё вышэй і вышэй узнімаюцца на сваіх паэтычных крылах.

*1954*

# АД ДУНАЯ ДА ЯДРАНА

## ФАРБЫ ЮГАСЛАВІІ

Далечыня і ноч пагасілі агні Будапешта, і цягнік памчаў нас праз венгерскую раўніну на поўдзень. Спаць не хацелася, ды, сказаць па праўдзе, і не было як. У купэ — шэсць чалавек, верхніх полак няма. Хоць на нашым вагоне і была шыльдачка з гучным словам «па̀рнас», мы сябе не адчувалі багамі. Я пачаў падазраваць, што гэтую шыльдачку прымацавалі да нашага вагона сумысле, відаць, намякаючы на нейкія нашы паэтычныя грахі. Больш вопытны вандроўнік, Максім Танк, мяне супакоіў: хочаш паездзіць па Еўропе — забудзь пра рускія прасторныя вагоны. І гучнае слова перакладалася вельмі празаічна: мяккі. Апрача чатырох пісьменнікаў у нашым «парнасе» размясціліся інжынеры, тэхнікі, урачы, выкладчыкі, навуковыя працаўнікі — 26 мінчан, дружная сям'я турыстаў.

На світанні развіталіся з Венгрыяй. Югаслаўскі пагранічнік, праверыўшы дакументы, сказаў: «Добра дошлі!» Гэтыя сардэчныя словы мы потым часта чулі ў розных кутках Югаславіі, чыталі на маляўнічых транспарантах пры ўездзе амаль у кожны горад.

За вокнамі праплываюць зялёныя нізіны Ваяводзіны — багацейшай жытніцы Сербіі. У мінулыя дні ішлі шчодрыя дажджы, многія палеткі былі затоплены. Над палямі і лугамі воблакамі слаўся туман. У вокны залятае салодкі і нейкі трывожны пах буйна расцвіўшых садоў. Замільгалі станцыі са славянскімі, такімі роднымі назвамі. Станцыйныя пероны пакрыты невялікімі навесамі, з-пад якіх звісаюць рознакаляровыя кошыкі з кветкамі.

Мінулі Новы Сад — вялікі прамысловы горад, цэнтр Ваяводзіны, і перад намі разгарнуўся ва ўсёй сваёй паўнаводнай красе Дунай, з якім мы ўжо сустракаліся ў Будапешце. І хоць воды яго нам здаліся мутна-жоўтымі, густа перамешанымі з сонечнымі праменнямі, мы, каб не парушыць традыцыі, дружна гукнулі: «Блакітны Дунай!»

Цягнік імчыцца праз зялёнае мора руні, праз сады і дубровы. Мінулі аэрадром, і на нас пачаў наплы-

ваць вялікі бела-шэры горад, які шырока і ўтульна размясціўся на зялёных узгорках. Дунай адышоў некуды налева, а мы пачалі пераязджаць шырокую Саву — прыток Дуная. Крыўдна назваць Саву прытокам, такая гэта магутная і прыгожая рака. Яна нясе свае воды праз Славенію, Харватыю і Сербію: звязвае з Бялградам буйнейшыя гарады рэспублікі — Загрэб і Любляну.

Ітак, мы ў Бялградзе. На шумнай прывакзальнай плошчы нас чакае камфартабельны аўтобус з надпісам: «Путнік» — вандроўнік. Знаёмімся з нашым гідам — стройнай чарнявай дзяўчынай, студэнткай Бялградскага універсітэта, якая валодае рускай мовай. Кароткі адпачынак, і пачалося наша цудоўнае знаёмства з югаслаўскай зямлёй, зямлёй герояў і будаўнікоў.

Бялград — Београд, як вымаўляюць сербы,— вялікі і прыгожы горад з паўмільённым насельніцтвам. Шырокія зялёныя праспекты і вуліцы, шматфарбныя, поўныя руху плошчы.

Запамінаецца велічны і ў той жа час лёгкі па формах будынак Народнай Скупшчыны. Вылучаюцца паміж іншых прыгожыя гмахі ЦК Саюза камуністаў Югаславіі, Народнага музея, цэнтральнай пошты, Саюзнага выканаўчага веча, атэляў «Масква» і «Балканы». Асабліва прыгожая і парсторная Тэразія — цэнтральная плошча, у якую ўліваецца праспект маршала Ціта. У канцы плошчы высіцца мясцовы небаскроб.

Бясконцым патокам плывуць па вуліцах машыны самых разнастайных марак. Шуршаць па нагрэтым асфальце тралейбусы і аўтобусы. Крыху ў баку ад цэнтра ціха пазвоньваюць трамваі. У горадзе адносная цішыня: шафёрам забаронена сігналіць.

Нямала магазінаў з багатымі вітрынамі. Шмат і дробных крамак, куды імкнуцца цябе залучыць іх гаспадары. Больш ажыўлена ў народных магазінах. Гарады і прадпрыемствы саюзных рэспублік Югаславіі маюць у сталіцы свае ўласныя магазіны.

Шыльды магазінаў, рэстарацый, устаноў напісаны то кірыліцай, то лацінкай. Але нам і тое, і другое зразумела: сербска-харвацкая мова мае шмат агульнага з беларускай. Мы даволі хутка асвоіліся з мілагучным, але крыху незвычайным сербскім вы-

маўленнем і самі пачынаем гаварыць: «Молім!» (у нас гэта азначае і «прашу», і «калі ласка», і «прабачце») і «Хвала лепо!» (літаральна — «прыгожа дзякую!»).

Часцей за іншыя ў вочы кідаюцца шыльды з надпісам «Зубар» і «Крояч» (зубны лекар і кравец).

Многа газетных кіёскаў. Побач з «Борбай» і «Палітыкай» ляжаць «Правда», «Известия», «Литературная газета».

Мы гадзінамі ходзім па югаслаўскай сталіцы. Пах адпрацаванага бензіну перамешваецца з салодка-гаркаватым пахам кофе. З Дуная і Савы прылятаюць хвалі свежага ветру — і тады лягчэй дыхаецца. Усюды «кафаны». Частка столікаў вынесена на тратуары, у цень векавых дрэў. Пад вясёлкавымі парасонамі людзі павольна п'юць кофе, ліманад, а хто і чарку моцнай ракіі. Народу на вуліцах многа, але тлуму няма. Людзі трымаюць сябе стрымана, з нейкай асаблівай годнасцю і ў той жа час ветліва і далікатна.

Куды ні глянеш — маладыя маці коцяць за сабой лёгкія каляскі, на якія нават і не азіраюцца. Маленькія бялградцы сядзяць спіной да матак, спусціўшы пульхныя ножкі, і, як відаць, адчуваюць сябе няблага. Па ўсім бачна, дзяцей тут любяць і добра даглядаюць. Ва ўсіх парках і скверах Бялграда чуцён звонкі шчэбет дзетвары.

Недалёка ад Тэразіі — дзіцячы аўтадром. Да столі прасторнага памяшкання прымацавана сетка, праз якую прапушчаны электрычны ток. Падлога зроблена з ізаляцыйнага матэрыялу. Больш дзесятка маленькіх аўтамабіляў з тралейбуснымі дугамі з шыпеннем і трэскам імчацца па крузе, абганяюць адзін аднаго. За рулём важна сядзяць шасці-дзевяцігадовыя хлопчыкі і дзяўчынкі. Час ад часу «машыны» сутыкаюцца. Чуваць устрывожаныя ўскрыкі матак. Але дарослыя шэфы хутка ліквідуюць «аварыі».

Жыхары Бялграда ганарацца сваімі паркамі. Іх многа, прасторных і прыгожых, над Савай і Дунаем. Найбольш выдатныя з іх: Калемегданскія алеі, Гайд-парк і Ташмайдан.

Калемегдан — гэта цэлы гістарычны запаведнік — сівы сведка бурных падзей мінулых стагоддзяў. Каго толькі не пабачылі сцены гэтай цытадэлі, рэшткі не-

калі непрыступнага замка. Тут пабывалі і кельты, і рымляне. Пра Сінгідупум (старажытная назва гэтай мясціны) успамінае Герадот. Візанційскіх цароў, Барбаросу і мадзьярскага караля Стэфана II, турэцкіх і аўстрыйскіх захопнікаў запомніла гэтая густа палітая кроўю зямля. Цяпер тут, у Калемегдане, ваенны музей і магілы герояў. Але пра гэта пазней...

У горадзе шмат музеяў і помнікаў. Князі і паэты, палкаводцы і выдатныя асветнікі велічна пазіраюць са сваіх п'едэсталаў. Але мяне асабліва ўразілі два помнікі. Некалі, у ліхія часы турэцкай навалы, на адной з вулачак пайшоў хлопчык да крыніцы напіцца вады. Тут яго туркі і застрэлілі. Так і ляжыць ён да сённяшняга дня, адкінуўшы руку і падкурчыўшы ногі. Ляжыць на белым пастаменце, адліты з бронзы, як гнеўны напамінак аб турэцкай няволі.

І другі помнік — гэта магіла Невядомага салдата на гары Авале. За кіламетраў дваццаць ад югаслаўскай сталіцы ўзвышаецца паўкіламетровая гара Авала, густа зарослая лесам. Урачыста і маўкліва ўзнімаюцца людзі па шматлікіх ступеньках. А на самай вяршыні ў цёмным мармуровым маўзалеі пад плітою ляжыць невядомы сербскі салдат. Скляпенні маўзалея падтрымліваюць суровыя засмучаныя фігуры жанчын. Кожная з іх сімвалізуе пэўную частку Югаславіі.

Увесь архітэктурна-мастацкі комплекс на Авале пакідае незабыўнае ўражанне. Гэта выдатнае тварэнне аднаго з лепшых югаслаўскіх скульптараў Івана Мештравіча. Авала — адно з самых любімых месцаў адпачынку бялградцаў. На гары і вакол яе размясціліся атэль, рэстараны, дамы адпачынку. З гары на многа вёрст кругом бачны ўзгоркі і нізіны, лясы і вінаграднікі багатай і прыгожай сербскай зямлі.

19 мая раніцою мы выехалі з Бялграда ў падарожжа па краіне. Я нямала паездзіў па горных дарогах, але такіх маляўнічых, разнастайных дарог, дзе на кожным кіламетры сустракаеш нечаканасць і прыгажосць, здаецца, не бачыў. Думаю, што мала дзе ў Еўропе знойдзеш такія мясціны, поўныя хараства і паэзіі, якія мы бачылі ў Босніі і Герцагавіне, Чарнагорыі і Далмацыі.

Спачатку нам насустрач шугалі густыя дубровы. Паабапал дарогі людзі аралі на валах і каровах. На

іншых палетках нешта праполвалі і акопвалі. Трэба сказаць, што ў Югаславіі кожны кавалачак прыгоднай зямлі клапатліва дагледжаны, перацёрты ў далонях. Тут людзі ўмеюць і любяць працаваць на зямлі.

Дарога пайшла ўверх. Мы ехалі над зялёнымі водамі Дрыны. Па гэтай бурлівай рацэ горцы сплаўляюць плыты з лясістай горнай Раманіі ў Саву. Спыніліся ненадоўга ў курортным гарадку Баня Кавыляча. Дарэчы, слова «баня» азначае курорт. Мясцовым жыхарам, відаць, прыелася курортная абыдзеншчына, і яны з задавальненнем паказваюць нам на карпусы камбіната, якія будуецца на беразе Дрыны. Пачуўшы рускую мову, да нас падышоў стары чалавек. Ён крыху саромеўся сваёй небагатай вопраткі і падзёртых чаравікаў, але жаданне пагаварыць з рускімі перамагло. Стары дастаў з кішэні пажоўклую фатаграфію часоў першай сусветнай вайны. У форме сербскага салдата ён, тады яшчэ малады, стаіць побач з рускімі воінамі. «Руския наши браты, добрыя людзі»,— сказаў стары чалавек. Мы, вядома, з гэтым з радасцю пагадзіліся і запісалі крышку пахвалы і на свой рахунак.

Далей, далей у глыб Югаславіі! Больш правільна было б сказаць: вышэй, вышэй у горы! Дарога стала вузкая, і Дрына адразу патанчэла і пачала віцца недзе глыбока ўнізе. А направа і налева ўзнімаліся касматыя ад лясоў верхавіны гор — былыя гнёзды партызанскіх атрадаў. Нарэшце пераадолелі перавал і падвечар прыехалі ў Сараева — сталіцу Босніі і Герцагавіны. Горад акружаны гарамі. Многія вулачкі і асобныя дамы ўзбеглі высока на схілы, і ўначы агенькі гарадскіх ускраін свяцілі недзе пад самым месяцам і пераміргваліся з зорамі.

Сараева — горад цяжкай і трагічнай долі ў мінулым. Хто толькі яго не рабаваў, хто толькі яго не разбураў! Тут доўга, вельмі доўга гаспадарылі раз'юшаныя янычары. Таптаў яго славу цяжкі аўстрыйскі бот. Рабаўніцкія дарогі ўсходніх і заходніх грабежнікаў тут спляталіся ў крывавы вузел. Таму ў Сараеве так і кідаюцца ў вочы кантрасты: гонкія мінарэты мячэцей узнімаюцца побач з прыземістымі праваслаўнымі цэрквамі, да каталіцкага касцёла прысуседзіўся звышмадэрнісцкі будынак. Вузкія

крывыя вуліцы старога горада. Краты на вокнах жаночых пакояў. Закапцелая турэцкая гасцініца. А недалёка раскошны палац у маўрытанскім стылі, пабудаваны аўстрыйцамі. Цяпер тут народная бібліятэка. Малады вучоны распытвае ў мяне пра Маскву. А ў чатырнаццатым годзе з гэтага будынка выйшаў апошні раз эрцгерцаг Фердынанд, каб зваліцца ад кулі Гаўрылы Прынцыпа — удзельніка арганізацыі «Маладая Боснія». Вось і тое месца, адкуль Прынцып страляў. У панелі выбіты два яго сляды. Побач невялікі музей.

Мы наведалі, каб нікога не пакрыўдзіць, і мячэць, і касцёл, і царкву. Ля мячэці прадавалі кнігу з экзатычнай назвай: «Кратка обука о намазу». У царкве святога архангела Міхаіла паслухалі імшу, паглядзелі на царкоўна-славянскія кнігі XIV—XVI стагоддзяў, якія захоўваюцца тут жа пры царкве ў невялікім музеі. Пабывалі мы і ў добрым, багатым музеі горада Сараева.

Так і не высвеціўшы, якая рэлігія горш — праваслаўная, каталіцкая ці мусульманская,— мы, паколькі гэта горад кантрастаў, апынуліся на мясцовым стадыёне. Бялградская каманда «Црвена звезда» гуляла з футбольнай камандай горада Сараева. Мы, як госці горада, хварэлі, вядома, за каманду Сараева, але любаваліся майстэрскай гульнёй футбалістаў «Црвенай звезды», якая, як мы даведаліся пазней, стала чэмпіёнам Югаславіі гэтага сезона. І тут мы не пазналі стрыманых югаславаў. Нарэшце выбухнуў паўднёвы тэмперамент. Ды і мы, мінчане, як маглі, з усіх сіл дапамагалі мясцовым балельшчыкам. На стадыёне пазнаёміліся з маладым інжынерам. Ён вучыўся ў Ленінградзе і з захапленнем успамінае гэты цудоўны горад.

Раніцой рушылі далей. Усё суровей і суровей рабіліся горы. Зніклі дрэвы. Шэрыя скалы, валуны зрэдку аздабляліся нізкарослымі кустамі. Куды ні кінеш вокам — бясконцы каменны вэрхал, суровы і страшнаваты краявід. Асабліва калі ўявіш сабе зіму, лютыя завеі, снегавыя і каменныя абвалы. Але і тут людзі жывуць, працуюць, як і ўсюды. Ды як працуюць! Колькі трэба было пакласці працы, каб зрабіць шматлікія каменныя агарожы: участкі для пашы, прытулак для жывёлы ў час буранаў. А ледзь

траплялася лапінка мякчэйшай пароды, яе разбівалі, угнойвалі, і — глядзіш — то там, то сям квітнеюць садзікі, каласіцца ячмень ды іншая збажына. І хаты зроблены моцна, надоўга. Вось вязе на маленькім асле тутэйшы чалавек два мяхі з нейкім грузам. Вось ідзе старая жанчына ў цёмным адзенні і, каб не прападаў марна час, круціць на хаду верацяно, прадзе воўну. Мы глядзім на гэтых людзей з глыбокай павагай.

Дарога пачала спускацца ўніз. Больш крутыя зрабіліся павароты. Адвесныя скалы ўздымаюцца вышэй і вышэй. Часамі яны навісаюць над дарогай. На скалах зноў з'явіліся сосны. Часцей замільгалі вінараднікі, плантацыі хмелю і тытуню. Хаты прыбраліся ў святлейшыя колеры. І вось з-за нейкага тысячнага павароту здалёк глянула нешта светлае ласкавае, бясконца шырокае сонечнае. Дык гэта ж Адрыятычнае мора! Праехаўшы ўпоперак усю Югаславію, мы спыніліся ў славутым горадзе Дуброўніку, на беразе сонечнага Ядрана.

## ЗЯМЛЯ ГЕРОЯЎ

Пра многае хацелася б расказаць у гэтых нататках. Пра ясны блакіт Адрыятычнага мора. Пра бясконцы ланцуг маляўнічых астравоў, які прыкрывае берагі Югаславіі. Пра марскія маякі, якія то разгараюцца, то гаснуць у густой цемры паўднёвай ночы. Пра пальмы і кіпарысы. Пра плітвіцкія горныя азёры і белапенныя вадаспады, якія грукочуць удзень і ўночы. Пра слаўныя гарады Дуброўнік, Спліт, Заграб. Пра ўвесь незабыўны шматкіламетровы шлях, які мы праехалі. Але зрабіць гэта ў кароткіх запісках немагчыма.

Наш вадзіцель — прыгожы, суровы на выгляд і негаваркі чалавек — былы партызан. Яму ўсяго крыху за трыццаць, але скроні пакрыты сівізной. Дарогі, па якіх мы ехалі, ён прайшоў з баямі. Ён не гаварыў нам ні пра цяжар партызанскага жыцця, ні пра голад, які так мужна пераносілі югаслаўскія мсціўцы, ні пра лютасць акупантаў, ні пра бессмяротныя подзвігі сяброў. Але ён усё помніў і ўсё хаваў у сэрцы. Ён зрэдку звяртаўся да нашай перакладчыцы, і мы

напружана ўглядаліся ў зялёныя прасторы Мочвы, дзе народна-вызваленчая армія разбіла буйныя сілы гітлераўцаў, якія адступалі з Бялграда і Сараева.

Нас вазілі ў Іліджу, што недалёка ад Сараева, да вытокаў Босны. Гэта прыгожая мясціна. Над намі ўзнімалася высачэзная зялёная гара, а з-пад яе, з некалькіх пячораў, з шумам вырываліся бурлівыя патокі і адразу ўтваралі шырокую раку. Наша машына спынілася каля сціплага гранітнага помніка. Мы з хваляваннем чыталі эпічны надпіс, які нам расказаў, што 27 студзеня 1942 года першая пралетарская брыгада, вырываючыся з акружэння, зрабіла праз горы 23-гадзінны марш. Стаяў 32-градусны мароз. Замерзла 180 байцоў.

Такія помнікі мы сустракалі часта, вельмі часта. А яшчэ часцей брацкія могілкі і асобныя магілы герояў. У кожным гарадку з белых мармуровых дошак на нас глядзелі імёны павешаных, забітых, спаленых партызан. І нам, беларусам, лёс якіх у многім падобны да лёсу патрыётаў Югаславіі, стала асабліва дарагой гэта зямля герояў.

З Дуброўніка мы накіраваліся ў Чарнагорыю. Дарога вілася паміж пальмаў і кіпарысаў. Са скалаў звісала доўгае зубчастае лісце агаў. Там-сям ляпіліся дробныя кактусы. І ўсюды каля дарогі — густыя вінаграднікі, апельсінавыя і лімонныя сады. А справа зіхацелі ярка-блакітныя воды Ядрана. Паехалі ў аб'езд цудоўнага Котарскага заліва.

За Котарам дарога пайшла крута ўверх. Уявіце сабе паўтаракіламетровую амаль адвесную гару, па якой серпанціннымі петлямі віецца вузкая дарога. Наш праваднік прыкметна засяродзіўся, але хуткасці амаль не зменшыў. Напружана раве матор. Вось, здаецца, зараз з усяго разгону паляцім у бездань. Але дакладны паварот руля, колы аўтобуса праходзяць па самым ускрайку абрыву, і мы каторы раз едзем упоперак гары. Размінуцца тут цяжка, можна гэта зрабіць толькі ў пэўных мясцінах. Часам прарэзліва скрыпяць тармазы. За два метры спыняецца сустрэчная машына, а пасля з паўкіламетра, а то і больш, асцярожна адыходзіць заднім ходам, і тут мы ўбачылі, што ўзаемавыручка — няпісаны закон горных дарог. Калі ў нашай машыне з кола адскочыла серабрыстая пакрышка, яе падняў вадзіцель сустрэч-

нага грузавіка, а пасля недзе развярнуўся і кіламетраў дваццаць імчаўся нам наўздагон.

З вяршыні бачна ўся бухта, усе гарады і сёлы. Караблі здаюцца дзіцячымі цацкамі. Глядзіш нібы з самалёта. Але вось новы паварот, і мы ўжо імчымся па высакагорным плато. Голыя шэрыя скалы. Зніклі дрэвы і травы. Бязлітасна паліць сонца. На вышэйшых скалах бялеюць, як чарапы, доты з цёмнымі шчылінамі байніц. Чарнагорыя! Краіна арлоў і бясстрашных людзей.

А вось і Цэціньe — яе старажытная сталіца.

Чарнагорцы нас сустрэлі надзвычай гасцінна. У кожным слове, у кожным поглядзе мы адчувалі сапраўдную братнюю любоў. Мы хадзілі, абкружаныя натоўпам дзетвары і падлеткаў. Нарасхват ішлі нашы скромныя падарункі: рубінавыя зорачкі з белым голубам, піянерскія значкі, паштоўкі з відамі Масквы і Мінска. У адказ нашы юныя сябры дэманстравалі свае поспехі ў рускай мове.

Мы пазнаёміліся з вясёлым, крыху сарамлівым Душанам Вукчавічам. Ён выкладае ў мясцовай гімназіі рускую мову і літаратуру. Бачна было, што ён рад сустрэчы з савецкімі людзьмі. Са скромнай гордасцю ён паказаў нам горад, музеі, палац чарнагорскага «цара Мікалая», як ён сказаў.

— Край наш заўсёды быў бедны,— пачаў Вукчавіч.— Народу ўсяго чатырыста тысяч, але ён нікому не паддаваўся і не прадаваўся. Рассячэ чарнагорац папалам янычара, насадзіць на кол турэцкую галаву каля хаты — вось яго багацце і слава. Рускія першыя нас прызналі, дапамаглі яны нам і мы ім. У народзе здаўна жыве прыказка: «Нас ды рускіх — сто восемдзесят мільёнаў». Гэтак некалі адказалі чарнагорцы на пагрозу аўстрыйскага імператара. У чатырох музеях Цэціньe мы ўсюды бачылі і дакументы, якія сведчаць аб моцнай руска-чарнагорскай дружбе. У гістарычным музеі мы чыталі грамату Пятра I ад 1715 года, у якой рускі цар дзякуе чарнагорцам за дапамогу ў вайне супраць туркаў. На сцягу, які быў прысланы з Расіі чарнагорскаму князю Мікалаю I, кароткі, але выразны надпіс: «Спадзяёмся».

Вялікім другам Расіі быў Пётр Негаш. Афіцыйна ён з'яўляўся духоўным і свецкім правіцелем Чарнагорыі. Мы хадзілі па яго пакоях, аглядалі асабі-

стыя рэчы, бібліятэку, партрэты і карціны; чыталі дыплом, выдадзены яму рускім сінодам. Але для чарнагорцаў Негаш з'яўляецца неўміручым сумленнем народа і яго найвялікшым песняром — аўтарам несмяротнага «Горнага вянка». Ён не любіў, як нам расказвалі мясцовыя жыхары, хадзіць у рызе, а прыбіраўся ў нацыянальны ўбор, вадзіў з простымі людзьмі карагоды. Ён і памёр, як сцвярджаюць, у карагодзе, маладым, 38-мі год ад нараджэння. Яго пахавалі ў нацыянальным адзенні, як ён і прасіў.

І ўсё ж найбольшае ўражанне на нас зрабіў у Цэціньe Музей вызваленчай вайны. З любоўю і беражлівасцю тут захоўваюцца зброя партызан, розныя рэчы, звязаныя з усенародным рухам, адозвы камуністычнай партыі і кіраўніцтва партызанскім рухам. Адна з самых суровых і прачулых адозваў пачынаецца так: «Храбрыя жанчыны Чорнай гары і Бокі, маткі і сёстры нашы!»

Са сцен глядзяць страшныя здымкі. Зруйнаваная фашыстамі Падгорыца — сталіца Чарнагорыі (цяпер Цітаград). Вось Шчэпанполе. Груды чарапоў і касцей. Тут акупанты забілі 480 параненых партызан. Вось здымак народнага героя Чэдо Чупіна — студэнта з Нікшыча — у момант абвяшчэння яму смяротнага прыгавору. Зараслы кучаравай бародкай малады прыгожы твар. На галаве кепка. На руках ланцугі. І гордая, мужная ўсмешка на твары. Вось Ёке Балецiч перад павешаннем. Суровы журботны твар і тая ж гордая ўсмешка на вуснах — усмешка пераможцы. А вось на кані ў скуранцы і чарнагорскай шапцы з пяцікутнай зоркай, з аўтаматам у руках вусаты Іван Мілуцінавіч — першы народны герой Югаславіі. А далей, на ўсіх сценах — партрэты загінуўшых народных герояў; больш чарнагорцаў, іх 223. Мы выходзім з музея, і Душан паказвае на вяршыню высокай гары — там магіла партызан, расстраляных італьянскімі фашыстамі. Гняздо арлінай славы.

У Югаславіі многа такіх музеяў. Кожная рэспубліка, кожны значны горад свята захоўвае памяць аб сваіх гераічных сынах.

У адной з гасцініц мы бачылі мемарыяльную дошку, дзе былі пералічаны ўсе афіцыянты і іншыя работнікі рэстарана і гасцініцы, якія загінулі ў час вызваленчай вайны.

Не магу не расказаць пра Музей народнай рэвалюцыі ў Загрэбе — сталіцы Харватыі. Тут захоўваецца чырвоная зорка, выразаная з крыла першага самалёта, на якім лётчык пераляцеў да партызан. На тэрыторыі Харватыі акупантамі было знішчана 2008 школ, забіта вельмі многа настаўнікаў, загінулі тысячы і тысячы ні ў чым не вінаватых дзяцей. Астатнія былі асуджаны на непісьменнасць. Але ў партызанскіх лагерах знаходзіліся добраахвотнікі, якія і там наладжвалі вучобу дзяцей.

У партызанскіх лагерах Харватыі былі свае друкарні, шпіталі, нават самадзейныя тэатры. І зноў мы думкамі перанесліся ў родную Беларусь партызанскіх гадоў.

Яшчэ два здымкі ўрэзаліся ў памяць. Аўгуст Цэсарац, харвацкі пісьменнік і культурны дзеяч. Ён бачыў Леніна і прывёз з Савецкай Расіі ў Харватыю першы партрэт Ільіча. Яго замучылі усташы. І яшчэ здымак. Стары Назор, славуты харвацкі паэт В. Назор, на кані выпраўляецца ў партызанскі атрад, каб уславіць у сваіх палымяных і мудрых вершах нябывалы подзвіг народа.

Ёсць у Загрэбе старажытная плошча. Яна цяпер носіць імя Сцяпана Радзіча, сялянскага правадыра Харватыі, які сустракаўся з Леніным, хоць і не быў камуністам. На гэтай плошчы — будынак Народнай Скупшчыны Харватыі. Побач старажытная царква Святога Марка. На яе чарапічным даху мазаічныя гербы Харватыі, Славеніі і Далмацыі. Старая царква памятае, як у 1573 годзе на гэтай плошчы «каранавалі» Мацію Губца, правадыра сялянскага паўстання супраць невыноснага прыгнёту як сваіх, так і аўстрыйскіх і мадзьярскіх феадалаў. На плошчы расклалі вялікі агонь і паставілі жалезнае крэсла. На гэты «распалены» трон пасадзілі мужыцкага караля і ўздзелі яму на галаву жалезную вогненную карону. Так загінуў ад сярэдневяковых прыгнятальнікаў Маціја Губец. Пра гэта таленавіта расказана ў рамане Аўгуста Шэноа «Сялянскае паўстанне». Мы, стоячы на гістарычным месцы, мімаволі звязалі далёкія часы з такімі нядаўнімі, не менш пакутлівымі і гераічнымі падзеямі, што адбываліся на зямлі герояў. Свабода, за якую загінуў Губец і іншыя праслаўленыя ў пес-

пях героі, была нарэшце заваёвана пад кіраўніцтвам камуністаў Югаславіі.

З Загрэба мы накіраваліся па шырокай аўтастрадзе ў Бялград. Мы вярталіся ў сталіцу Югаславіі, як у родны горад, поўныя ўражанняў і думак. Нам захацелася сустрэцца з рабочымі, былымі партызанамі і будаўнікамі сённяшняй Югаславіі. Просьба была задаволена.

На другі дзень мы паехалі на станкабудаўнічы завод імя Іво Рыбара, любімага кіраўніка югаслаўскай моладзі, народнага героя, які загінуў у баі з фашысцкімі захопнікамі. У дзень нашага першага прыезду ў Бялград мы наведалі яго магілу ў Калемегданскім парку. А цяпер ідзём на завод, названы яго слаўным імем.

Быў абедзенны перапынак. Рабочыя перакусвалі то на зялёных лугавінах, што акружалі цэхі, то побліз сваіх станкоў. Мы з цікавасцю агледзелі прасторныя, чыстыя цэхі. Тлумачэнні нам даваў сімпатычны інжынер Пётр Глебаў — па паходжанню рускі. Завод вырабляе прэсы розных памераў, карусельныя станкі і нават блюмінгі. Пазней мы ўбачылі, як умела шліфуюць велізарны вал гэтага агрэгата. Завод забяспечвае сваёй прадукцыяй новыя прадпрыемствы, частку яе пасылае на экспарт — у Бразілію і Аргенціну.

Наведалі мы і задругу — вінаробчы кааператыў, які існуе шмат гадоў. Ён не падобны да нашых калгасаў, але і тут ужо ёсць сацыялістычныя пачаткі. Знаходзіцца гэтая задруга на ўскраіне горада Смедэрава, на беразе Дуная. Тут пачынаецца лясны край Шумадзія («шум» па-сербску «лес»). Берагі Дуная зараслі буйным лазняком, вышэй — гушчары каштану і бэзу, а яшчэ вышэй, на схілах сонечных узгоркаў,— бясконцыя вінаграднікі. Вінаград — багацце гэтага краю.

Кожны член задругі вырошчвае і даглядае вінаград на сваім участку. Даспелы вінаград кожная гаспадарка ўносіць у агульныя склады: ад колькасці і якасці вінаграду і атрымлівае долю прыбытку.

Як растлумачыў тэхнолаг Боіслаў Васкавіч, гаспадарка рэнтабельная. У мінулым годзе атрымана прыкладна 12 мільёнаў дзінараў прыбытку. Каля шасцідзесяці працэнтаў прадукцыі (гронкамі і ві-

ном) ідзе на экспарт. Мы наведалі вінаробчы завод задругі і яе галоўны подрум (падвал, дзе захоўваюцца бочкі з віном).

У часе збору вінаграду гэты заводзік апрацоўвае да 25 вагонаў вінаграду ў дзень. Вялікія скляпенні скрозь застаўлены чырвонымі бочкамі вышынёй у два і тры чалавечыя росты. Нас гасцінна пачаставалі смедэраўкай — смачным натуральным віном, якое атрымала на вінных конкурсах ужо не адзін медаль. Мы, паспытаўшы смедэраўкі, зусім шчыра далучыліся да гэтай высокай ацэнкі.

Так, хоць і павярхоўна, але з глыбокай зацікаўленасцю, мы знаёміліся з жыццём нашых югаслаўскіх братоў. Не ўсё ідзе яшчэ тут добра і гладка. На палях вельмі мала машын. Не хапае кваліфікаваных кадраў. Людзі ў сёлах усё яшчэ беднавата апрануты. Цяжка без дадатковай тэхнікі пракладваць горныя дарогі, прабіваць тунелі, узводзіць шматпавярховыя будынкі, будаваць электрастанцыі. Але людзі ўпэўнены ў сваіх сілах, глыбока вераць у сваю сацыялістычную будучыню. Цяпер яны спадзяюцца і на вялікую дапамогу Савецкага Саюза.

Я ўспомніў словы аднаго нашага сербскага друга:

«Я аб'ездзіў з турыстамі Грэцыю, Турцыю, Італію. Усе простыя людзі на мяне там глядзелі з зайздрасцю. Кепска, цяжка там жывуць. А я маю тры касцюмы, жонка і дзеці добра апрануты. Атрымаў добрую кватэру. Узяў у дзяржавы пазыку на 150 тысяч дзінараў. Купіў прыгожую мэблю, радыёпрыёмнік і іншыя рэчы. Цяпер патроху выплачваю. Хутка зусім разлічуся. Ніколі яшчэ так добра не жылі сербскія рабочыя».

Да гэтых слоў, я ўпэўнены, могуць далучыцца і харваты, і славенцы, і македонцы, і чарнагорцы — увесь працоўны народ Югаславіі.

### ТАЛЕНТ НАРОДА

У паўднёвай Харватыі ёсць своеасаблівая горная вобласць Ліка.

Мы ехалі па гэтай мясцовасці ў нядзелю. Па дарозе ўвесь час сустракаліся людзі ў святочным убранні. Ля адной групы жанчын і дзяўчат мы спыніліся, пагутарылі і разам сфатаграфаваліся. Людзі, вядома,

былі слаўныя. Але на гэты раз нас захапіла іх адзенне. На галаве — чорныя, шытыя срэбрам шапачкі, павязаныя беласнежнымі хусткамі. Белыя і чорныя спадніцы. Жакеты ззялі і золатам, і срэбрам, і чырванню. Ды яшчэ ў дадатак пышныя вышываныя рукавы белых блузак. Усе ўборы простых сялян былі надзвычай прыгожыя, спалучэнне фарбаў і ўзораў вызначалася тонкім мастацкім густам. Яркасць нідзе не перарастала ў крыклівасць. І ўсё гэта выткана, вышыта самімі сялянкамі. Не менш прыгожае і мужчынскае адзенне. У сяле Вырліка вуліцы былі запруджаны такімі шматфарбнымі натоўпамі, нібыта жыхары гэтага сяла толькі што сышлі са сцэны нейкай дэкаднай оперы. Але гэта была не опера, а жыццё, і тутэйшыя людзі спрадвеку так апранаюцца ў нядзелю.

У высокім таленце народных майстроў, якіх многа ў кожнай вёсцы, у іх бездакорным гусце мы пераканаліся, наведаўшы этнаграфічны музей у Дуброўніку.

У музеі сабрана багацейшая калекцыя адзення, абутку, рэчаў побыту, убораў, дываноў, мастацкія вырабы з дрэва, гліны і шмат іншага. Поўнач Югаславіі мае больш светлыя фарбы, пераважаюць ільняныя вырабы. Поўдзень і паўднёвы захад маюць больш яркі і складаны арнамент. Вырабы пераважна з воўны. Залатая вышыўка, сярэбраныя паясы. Ёсць і ўсходні ўплыў, арыентальныя ўзоры. Уся гэтая народная творчасць у большасці вельмі самабытная. З цікавасцю мы агледзелі і югаслаўскія музычныя інструменты. Тут былі гуслі (не падобныя на нашы, са смычком), двойніцэ, фруя, дудкі, жалейкі.

Ды і сам Дуброўнік, калі не лічыць новых атэляў для турыстаў, з'яўляецца горадам-музеем. На скалістым паўвостраве шмат стагоддзяў назад была пабудавана непрыступная крэпасць. Яна захавалася і цяпер. Проста з мора выступаюць высачэзныя сцены з байніцамі. У горадзе вузенькія вуліцы, па многіх з іх праехаць нельга. Можна сядзець ля расчыненага акна і паціху размаўляць з суседам, які жыве насупраць. Паміж дамамі нацягнуты вяроўкі, на якіх сушыцца бялізна. Усё напамінае вуліцы з італьянскіх фільмаў. Ды гэта і не дзіўна. Тут некалі гаспадарылі рымскія імператары, будавалі касцёлы прыслужнікі

рымскіх пап. Правільней кажучы, будавалі ўсё тыя ж працавітыя і таленавітыя харваты, якія на Адрыятычным узбярэжжы называюць сябе далмацінцамі.

У Дамініканскім манастыры мы любаваліся карцінай Тыцыяна «Святая сям'я і святы Блазіус». Ёсць тут і іншыя палотны мастакоў школ Тыцыяна і Рафаэля. Але ў касцёлах мы бачылі і цудоўныя творы харвацкіх майстроў —Ніколы Бажыдаравіча і іншых, якія стварылі сваю арыгінальную школу. Твары святых на іх палотнах вельмі нагадваюць твары простых харватаў. Вялікае ўражанне пакідае карціна Влаха Букаваца «Збавенне» (мастак канца XIX — пачатку XX стагоддзя). Маці, якая стаіць перад святым айцом з хворым дзіцем на руках, напісана з надзвычайнай сілай і пачуццём.

Яшчэ больш слядоў Рыма ў партовым горадзе Спліце. Тут яшчэ захаваліся калоны грандыёзнага палаца рымскага імператара Дыяклетыяна і іншыя збудаванні, якія ўваходзілі ў адзін архітэктурны ансамбль. Захаваўся маўзалей імператара і сфінксы, якія былі сюды прывезены з Егіпта і некалі належалі Рамзесу II. Самую грабніцу даўно ўкралі нейкія захопнікі.

І зноў найбольшую цікавасць выклікае не рымская пышнасць, а высокамастацкая праца мясцовых майстроў, у прыватнасці Юрыя Далмацінца. Запомнілася карункавая драўляная разьба XIII стагоддзя. Мясцовыя патрыёты заўсёды моцна супраціўляліся чужаземнаму прыгнёту і ўплыву. Можа, таму каля палаца Дыяклетыяна стаяць два помнікі: манаху Грыгору, літаратару IX стагоддзя, які абараняў глаголіцу ад рымскай граматы, і паэту XV стагоддзя Марку Марулічу, які першы пачаў пісаць на роднай мове.

У наш час гордасцю югаслаўскага мастацтва з'яўляюцца творы выдатнейшага скульптара, мастака і архітэктара Івана Мештравіча і яго таленавітых вучняў. Сам Мештравіч быў некалі бедным пастушком, а ў 1952 годзе ён, сусветна вядомы скульптар, падараваў гораду Спліту карцінную галерэю, дзе багата яго арыгінальных работ, адлітых у бронзе, выразаных з дрэва, вылепленых з гіпсу, нарысаваных алоўкам і вугалем. Нягледзячы на тое, што некаторыя яго работы прасякнуты містыцызмам, усё ж у аснове сваёй

гэта рэаліст, народны мастак, які глыбока пранік у душу чалавека. Не ўсе мастакі ў сённяшняй Югаславіі, як мне здаецца, ідуць па цяжкой, але адзіна правільнай дарозе высокай творчасці.

Аднойчы ў Сараеве мы аглядалі старую турэцкую гасцініцу. Доўгія калідоры, маленькія дзверы нумароў, счарнелыя, закураныя дымам стагоддзяў бэлькі не выклікалі асаблівага энтузіязму. Нічога тут не было ні ад усходняй казкі, ні ад раскошы. Мы ўжо збіраліся мірна пакінуць былы прытулак турэцкіх «камандзіровачных», як наш гід паведаміў, што ў некаторых нумарах маладыя сараеўскія мастакі зрабілі сабе майстэрні. Неўзабаве нас запрасіў да сябе адзін з мастакоў.

— Вось гэта мая вучнёўская работа...— сказаў мастак, неяк вінавата ўсміхаючыся.

Мы з прыемнасцю глядзелі на партрэт, які быў напісаны, наколькі мы маглі меркаваць, сапраўды таленавіта. З партрэта на нас глядзелі ўдумлівыя чалавечыя вочы.

— А вось гэта мае новыя работы.

Тут ужо ўсміхнуліся вінавата і няёмка мы. На палотнах былі неахайна накіданы жоўта-зялёныя, шэра-карычневыя фарбы. Цьмяна выступалі нейкія хваравітыя абліччы і дзікаватыя рэчы. Усюды, відаць знарок, былі парушаны перспектыва і прапорцыі.

Убачыўшы нашу разгубленасць, мастак пачаў тлумачыць:

— Вы прывыклі да рэалізму, а мы шукаем у мастацтве новых шляхоў.

Вядома, шляхі мастацтва працярэбліваюцца ў пошуках. Але тое, што мы ўбачылі... «Што ж,—падумаў я нявесела,— захапіўся, дзівак, сюррэалізмам».

Праз некалькі дзён у Загрэбе мы наведалі XII выстаўку Саюза мастакоў Харватыі. І тут мы зразумелі, што захапленне сараеўскага мастака не выпадковасць, што розныя навейшыя буржуазныя «ізмы» ўзялі ў палон, і моцна ўзялі, многіх мастакоў Югаславіі.

Я ніколі не адважуся выказаць меркаванне аб стане ўсяго югаслаўскага мастацтва нашых дзён. На гэта я не маю права: мала кампетэнтны ў гэтай галіне, ды і мала пабачыў. Але, як звычайны глядач, які доўга прастойваў перад неўміручымі тварэннямі Леа-

нарда да Вінчы і Рэмбранта, Рафаэля і Веласкеса, Гоі і Мурыльё, Рэпіна і Сярова, я павінен прызнацца, што Загрэбская выстаўка на мяне зрабіла цяжкае ўражанне.

На выстаўцы экспаніравалася 90 палотнаў, гравюр, літаграфій, скульптур. На адной карціне накіданы зялёныя, чырвоныя і серабрыстыя плямы. Гэта называецца «Пасля п'янства». На другой — клубок чырвоных, шэрых і зялёных ліній. Гэта «Атамная бомба». Якар і чырвоная павуціна — «Рыбацкія сеці». Нацюрморт: тры галавы селядца. Невыразны яздок на чырвоным кані з шыяй жырафы. Гэта «Парад». І так бясконца. Я доўга ўглядаўся ў віхор жоўта-чырвоных плям і ліній, ды так і не зразумеў, што гэта такое, пакуль мне растлумачылі: «Дзве сялянкі абшчыпваюць пеўня».

Праўда, на выстаўцы было некалькі каларытных пейзажаў, на якія можна было з задавальненнем глядзець. Але размешчаны яны былі па кутках. І каля іх не віселі цыдулкі з надпісам «куплена», якія мы бачылі каля ўсіх звышмодных «шэдэўраў».

Выстаўка была прысвечана дню вызвалення Загрэба. Але вобразаў людзей, якія вызвалялі сталіцу Харватыі і зараз будуюць новае жыццё, мы на выстаўцы не ўбачылі. Не ўбачылі і нацыянальных мясцовых мастакоў. А між тым, насупраць выстаўкі, у скверы,— цудоўная скульптурная кампазіцыя Кршыніча «Вызваленне Харватыі». Кршыніч — вучань Івана Мештравіча. Дарэчы, мы многа і ў розных месцах сустракалі скульптуры і помнікі, якія стварылі таленавітыя вучні праслаўленага скульптара.

Мы пабывалі ў трох тэатрах Югаславіі: у Спліцкім народным «казалішчы», у Загрэбскай камедыі і ў Бялградскім народным «пазорышчы». У Спліце мы слухалі камічную оперу Якава Готаваца «Эро з таго свету». Падзеі ў оперы звязаны з народным жыццём. Выразная і яркая музыка, меладычныя арыі і хоры робяць прыемнае ўражанне. Аўтар, як відаць, добра выкарыстаў фальклорныя матывы. З салістаў ансамбля спадабаўся Андрыя Петрыч, які выконваў партыю млынара Сімы. Цяпер спліцкі тэатр рыхтуе пастаноўку балета С. Пракоф'ева «Рамэо і Джульета».

Вельмі цікавая аперэта «Створым рэвю» Марыяна Маіча, загрэбскага кампазітара. Тут глядач як бы

запрашаецца быць актыўным удзельнікам стварэння аперэты, ці, больш правільна, музычнага агляду. З гледачом раяцца, да яго апелірующь, яго вядуць за кулісы.

Дзве дзеючыя асобы — лібрэтыст і кампазітар — увесь час адзін аднаго абвінавачваюць то ў шаблоне, то ў запазычанні чужых мелодый. У пошуках новага зместу і формы яны паказваюць розныя, не падобныя адна на адну карціны жыцця начнога горада ў нейкай багатай капіталістычнай краіне, танцы Паўднёвай Амерыкі і г. д. На гэтым фоне мы сочым за паводзінамі акцёраў, рэжысёраў, тэатральнага махляра і іншых асоб. У некаторых карцінах вельмі моцныя элементы пародыі. Асабліва ўдалася пародыя на амерыканскі модны танец, якую выканаў артыст Янко Бушыч. Дасціпны дыялог, добрая музыка забяспечылі поспех гэтай аперэце.

У Бялградскім народным тэатры ішла опера Вердзі «Рыгалета». І пастаноўка, і майстэрства выканаўцаў былі на вельмі высокім узроўні. Артыст Станое Янкавіч адзначыў у гэты вечар свой своеасаблівы юбілей: ён у соты раз спяваў на гэтай сцэне партыю Рыгалета. З радасцю мы слухалі і артыста Ілію Глігарыевіча, які нядаўна прыязджаў у Мінск.

Народы Югаславіі — вельмі музычныя. Асабліва любяць песню ў Далмацыі. Мне ўспамінаецца Каштэль Стары на ўзбярэжжы Адрыятыкі.

Пасля чарговага пераезду мы крыху прытаміліся, але не сталі траціць часу на адпачынак і пайшлі да мора. Нас адразу абкружыла моладзь. Тут былі прыгожыя чарнавокія дзяўчаты — вучаніцы восьмага класа гімназіі з ласкавымі імёнамі: Ілонка, Разарыя, Аніца, Іваца; гімназісты Владо, Мірко, Бранко і яшчэ многія, імёны якіх мы не ведалі. Пачалася вясёлая сяброўская гутарка. Моладзь цікавіла ўсё: ці лёгка паступіць у Савецкім Саюзе ў вышэйшую навучальную ўстанову, якая наша кінаактрыса лічыцца лепшай, колькі каштуе кілаграм мяса, якую атрымліваюць стыпендыю студэнты і ці гуляе яшчэ ў футбол Хоміч. Мы падрабязна на ўсё адказалі. Гады варожасці зрабілі сваю благую справу: моладзь была кепска інфармавана аб жыцці савецкіх людзей. Але любоў да рускай культуры, да рускай мовы жыла ў маладых сэрцах. Трэба было паслухаць, як тоненькая

Ілонка натхнёна чытала пісьмо Таццяны з «Яўгенія Анегіна». Чытала па-руску. Мы раздарылі рэшткі запасу сваіх паштовак, надпісаўшы сардэчныя словы аб дружбе.

Увечары, калі над пальмамі загараліся цёплыя зоркі і месяц паклаў свае залатыя дарожкі ў моры, а ў цёмным кіпарысавым гаі аглушальна зацёхкалі салаўі,— падышлі з гітарай мясцовыя хлопцы: рыбакі, механікі, аграномы, сяляне, і пачаўся цудоўны вечар дружбы. Праспяваўшы пару беларускіх песень, мы пераканаліся, што нам не пад сілу спаборнічаць з мясцовымі спевакамі. Як яны спявалі! Чыстыя, прыгожыя галасы то ўздымалі мелодыю пад зоры, то ціха і пяшчотна апускалі ў сэрца. Асабліва нас усхвалявала песня рыбакоў. А паколькі да Італіі адгэтуль было ўсяго дзвесце кіламетраў, як нас запэўнілі, загучала і «Санта Лючыя» і іншыя італьянскія песні. Моладзь спявала ад душы, зладжана, амаль прафесійна. Вось яна, крыніца, адкуль чэрпаюць новыя таленты югаслаўскія тэатры.

Перабіраючы ў памяці іншыя ўражанні, хочацца адзначыць, што ў сталіцы Югаславіі і іншых гарадах краіны мы наглядалі самыя разнастайныя праявы культурнага жыцця. У кіёсках расхопліваліся свежыя газеты з паведамленнямі пра паездку югаслаўскай урадавай дэлегацыі ў Савецкі Саюз. У кніжных магазінах, якіх, дарэчы, тут многа, павялічыўся попыт на кнігі савецкіх пісьменнікаў. У Бялградскім батанічным садзе студэнты, як і ва ўсім свеце, зубрылі перад экзаменамі свае канспекты, але, убачыўшы нас, атакавалі пытаннямі. Яркія афішы на Тэразіі паведамлялі аб гастролях амерыканскага дырыжора Леапольда Стакоўскага і парыжскіх клоунаў братоў Жак. Шматлікія біяскопы (кінатэатры) былі перапоўнены. Ішлі пераважна амерыканскія фільмы. Мы глядзелі амерыканскі фільм «Апошні раз бачымся з Парыжам». Выдатная тэхніка, прыгожая актрыса, але... мы вытрымалі толькі да паловы фільма.

Цікавасць да савецкіх фільмаў узмацнілася ў сувязі з кінафестывалем нашых карцін. Але сапраўднай падзеяй у культурным жыцці Югаславіі з'явіліся гастролі МХАТа імя Горкага. Білеты на спектаклі было цяжка дастаць. Мы чулі ад жыхароў Бялграда, Сараева, Загрэба водгукі, поўныя захаплення. Былі

задаволены югаслаўскімі гледачамі і мхатаўцы, з якімі мы гутарылі.

Два тыдні праляцелі вельмі хутка. Мы бачылі далёка і далёка не ўсё. З многім знаёміліся паспешна і павярхоўна. Але і таго, што ўбачылі, з чым пазнаёміліся, з кім падружыліся, дастаткова, каб шчыра сказаць: мы палюбілі зямлю Югаславіі, яе горы і даліны, яе рэкі і гарады. Мы палюбілі добры і мужны югаслаўскі народ, яго ўпартасць у змаганні і працы, яго талент, яго сардэчнасць і гасціннасць.

Гэтае знаёмства год ад году мы будзем паглыбляць, а дружбу будзем умацоўваць і берагчы. І калі, ад'язджаючы з Бялграда, мы абнялі нашых новых сяброў і сказалі: «Да новай сустрэчы, дарагія сябры!», то гэта былі не проста словы турысцкай ветлівасці. Мы ўпэўнены, што з імі і з многімі другімі братамі з Югаславіі мы яшчэ сустрэнемся на шырокіх дарогах жыцця.

*1956*

## РОДНАЯ, ЗНАЁМАЯ СТАРОНКА

З вялікай любоўю да ўкраінскай зямлі, да яе народа, да літаратуры і мастацтва Украіны ставімся мы, беларусы. Мне пашанцавала больш, чым другім маім таварышам па пяру,— я многа разоў быў на Украіне. Ведаю многа яе цудоўных гарадоў і маляўнічых вёсак. І ў сваіх вершах — «Кіеву», «Запавет», «Казацкая дарога» я ўклаў душу, напоўненую любоўю да Украіны.

Першая мая творчая камандзіроўка на Украіну была ў 1939 годзе. У памяці захаваліся сустрэчы тых год, сардэчныя размовы з Іванам Качэргай. Не забудуцца і франтавыя сустрэчы з украінскімі пісьменнікамі — Леанідам Первамайскім, Андрэем Малышкам, Міколам Нагнібедай.

Нас, беларусаў і ўкраінцаў, моцна збліжае многае. Таму і еду я кожны раз на Украіну, як у родную, з дзіцячых год знаёмую старонку.

Сустракаць свята Вялікага Кастрычніка буду новым зборнікам вершаў. Асноўная тэма іх — савецкі патрыятызм, дружба народаў. Пішу да юбілею Савецкай улады вялікую паэму. Яна прысвячаецца майму пакаленню — аднагодкам Кастрычніка. Нядаўна выйшла мая новая кніжка гумарыстычных і сатырычных вершаў «Гарачы лівень».

*1957*

## АРЛІНЫ ЎЗЛЁТ

Перад святам я атрымаў больш лістоў, чым звычайна. У іх не толькі віншаванні ў сувязі са слаўным саракагоддзем Кастрычніцкай рэвалюцыі, але іх хвалюючы расказ пра лёс маіх сяброў, пра іх працу і намеры. Прачытаеш пад лістом іншае прозвішча і з цяжкасцю ўявіш аблічча свайго аднакласніка з глухога і беднага калісьці беларускага мястэчка. Ага, дык гэта ж кірпаносы Васіль. У яго было сем братоў і сясцёр. Калі яны садзіліся абедаць, маці насыпала ў агромністую гліняную місу бульбы ў мундзірах, а ў другую налівала капусты, запраўленай толькі сушанымі баравікамі. І як смачна было есці з гэтай сям'ёй няхітрую страву! А цяпер мой Васіль працуе інжынерам у Карагандзе.

Вось ліст ад другога сябра. Да вайны мы працавалі з ім вясковымі настаўнікамі ў Кіраўскім раёне. Цяпер ён падпалкоўнік і ў лісце асцярожна намякае на сваю новую, надзвычай цікавую вайсковую прафесію. Тэхніка!

Сярод маіх сяброў многа педагогаў, афіцэраў, журналістаў. Але часамі ў іх трапляюцца такія прафесіі, што я толкам і не ведаю, з чым іх ядуць.

Адно мне радасна, што маё пакаленне, народжанае ў дні Вялікай рэвалюцыі, знайшло сваё месца ў жыцці, што простыя беларускія хлопцы выйшлі на шырокі шлях працы і творчасці. Мы ніколі не забудзем і тых дарагіх сяброў, чые сэрцы былі прабіты фашысцкімі кулямі...

Гляджу я сёння на сваю цудоўную рэспубліку, на адбудаваныя гарады і сёлы, і ўсё радуе сэрца.

Кожны год, кожны дзень нашага савецкага жыцця да таго густа запоўнены выдатнымі падзеямі, працоўнымі подзвігамі, што часам няма сілы ўсяго ахапіць і як след ацаніць. У нас такі размах стваральнай працы, такі тэмп, такі высокі ўзлёт народнай мыслі, што нават бліскучыя дасягненні і адкрыцці на другі дзень здаюцца звычайнымі.

І толькі калі ад'едзеш на час у іншыя землі з іншым ладам, пачынаеш глыбей разумець усю веліч савецкіх людзей, мудрасць Камуністычнай партыі і прыгажосць нашага жыцця.



4 Зак. 3269

Мне давялося ў гэтым годзе пабываць у краінах Заходняй Еўропы. І хоць я пра многае ведаў раней, вельмі дзіка прагучалі для вуха такія выразы: «Гэта зямля належыць графу...», «Гэта дарога прыватная, трэба плаціць за праезд», «Гэта стаяць бяспраўныя», «Гэты атэль адкупілі амерыканцы» і г. д., і г. д.

Усё прадаецца, усё купляецца — ад гавані пад марскую базу да кахання. І ўсюды няўпэўненасць, газетныя крыклівыя пагрозы ў наш адрас і вялікі страх перад вайной, двудушная пышнасць набажэнстваў і шалёныя выбрыкі рок-н-рола.

Але і другое я ўбачыў: многа, вельмі многа на зямлі ў нас сапраўдных сяброў.

Сёння, калі мы святкуем са сваёй Радзімай светлае і радаснае саракагоддзе, нашы думкі вяртаюцца да бессмяротнага 1917 года, калі нарадзіўся новы, сацыялістычны свет, да тытанічнага вобраза Леніна, да гераічнага горада рэвалюцыі — Ленінграда. Аб гэтым я і пішу ў сваёй апошняй паэме, уступ да якой і прапаную ўвазе чытача:

Быў гэты дзень для нас усіх адметным!
Змывала даль начную сіняву,
А купал неба, залаты і медны,
Зваліўся у бяздонную Няву.

Гулі гудкі, лавілі рэха аркі.
І ўсё ж была такая цішыня,
Што чуўся за вярсту ад сініх паркаў
Патрабавальны голас птушанят.

Спяшаліся на працу ленінградцы,
І помнікі іскрыліся расой...
Прабачце мне, цудоўныя палацы,
Не вашай любаваўся я красой.

Я ў гэты ранак моўчкі пакланіцца
Прыйшоў табе, бяссмертны Ленінград,
Ад нашых ніў, і пушчаў, і крыніцаў:
Ты першы рэвалюцыі салдат.

Прастор Нявы, масты, і шпіль, і Зімні,
І кожны мур, і кожны камень твой
Гучаць у сэрцы, нібы словы ў гімне,
З якім бацькі выходзілі на бой.

Я не магу адплыць у шлях далёкі,
Пакуль душой не прыпаду ізноў
Да тых крыніц, да тых святых вытокаў,
Што успаілі племя змагароў.

Не будзе мне ні праўды, ні натхнення,
Пакуль я не прайду па месцах тых,
Дзе жыў, тварыў, гарэў наш светлы Ленін,
Каб разагнаць стагоддзяў змрок густы.

Гляджу з-пад крылляў аркі я на плошчу:
Вось тут каціўся грозны вал людзей.
І ў сэрца б'е далёкіх стрэлаў пошчак,
І плошчай Рэвалюцыя ідзе.

І я ўжо шчодра тым узнагароджан,
Да смерці буду гэтым даражыць,
Што быў я у Семнаццатым народжан
І ў новым свеце стаў адразу жыць.

Хваліцца гэтым права я не маю.
Даруй, Радзіма, ды ў сваім жыцці
Сябе тваёй галінкай адчуваю,
Якой на іншым дрэве не расці.

І па якіх дарогах ні паеду,
І па якіх марах ні паплыву,
І дзе ні прыпынюся, маці, ведай:
Тваім жыццём, табой адной жыву.

І, можа, нейкім землям непагодным,
Забраўшы ў сэрца ўсю тваю красу,
Я з полымя Семнаццатага года
Хоць іскарку малую занясу.

*1957*

# КАНСТЫТУЦЫІ СОНЕЧНАЕ СВЯТЛО

Полацк — адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі — хутка будзе святкаваць сваё 1100-годдзе. Гарадскія кварталы шырока раскінуліся на берагах Заходняй Дзвіны і Палаты. Не адзін раз Полацк знішчаўся захопнікамі. Гэтая зямля шчодра палітая крывёю патрыётаў. Адзін з мастоў праз Палату так і завецца — Чырвоны. У 1812 годзе тут адбываліся баі паміж рускімі і напалеонаўскімі арміямі.

У гады Вялікай Айчыннай вайны полацкая зямля праславілася гераічнымі справамі беларускіх партызан.

Сёння Полацк карыстаецца павышанай увагай усёй рэспублікі. Горад даўно залячыў цяжкія раны, добра адбудаваўся, зазелянеў новымі садамі і паркамі. Сюды часта прыязджаюць вучоныя, інжынеры, пісьменнікі, кампазітары, мастакі, артысты, студэнты.

Але не адны толькі старажытныя помнікі прываблiваюць цяпер сюды людзей. У Полацку будуецца першы ў Беларусі і адзін з буйнейшых у Савецкім Саюзе нафтаперапрацоўчы завод. Ён будзе забяспечваць нафтапрадуктамі не толькі нашу рэспубліку, але і ўсю Прыбалтыку, і суседнія вобласці Расійскай Федэрацыі. Нафта прыйдзе з далёкай Башкірыі. І калі я думаю пра дружбу народаў, перада мною ўзнікаюць не вершы і прамовы, якія б яны добрыя ні былі, а гэтая бясконцая нітка труб, якую цягнуць у Беларусь нашы браты — рускія і башкіры.

А з поўдня, з Украіны, усё набліжаецца да нас газаправод. У будучым годзе многія гарады Беларусі атрымаюць газ.

Я часта бываю ў Полацку. Працоўныя гэтага горада аказалі мне высокі гонар, абраўшы дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Але не толькі дэпутацкія абавязкі прымушаюць мяне наведваць Полацк. Я проста ўлюбіўся ў гэты слаўны горад на Заходняй Дзвіне і ў яго цудоўных людзей. Калі б мне даручылі растлумачыць скептычна настроеным іншаземцам, як у нас у рэспубліцы здзяйсняецца ў

жыццё ленінская нацыянальная палітыка, замацаваная ў Канстытуцыі, я абавязкова звазіў бы іх сюды. Глядзіце, як беларускі народ карыстаецца правам на працу, на адукацыю, на адпачынак! Вось нашы заводы і будоўлі, школы і вучылішчы, бальніцы і паліклінікі, бібліятэкі і клубы, наш краязнаўчы музей і наш народны тэатр... Вось наша палітыка раўнапраў'я, дружбы і братэрства, наша сацыялістычная дэмакратыя!

Над будаўніцтвам Полацкага нафтаперапрацоўчага завода шэфствуе камсамол рэспублікі. Большасць будаўнікоў маладыя, многа сярод іх учарашніх дзесяцікласнікаў.

Калі глядзіш, як працуе праслаўленая брыгада Пятра Блахіна, сэрца радуецца за гэтых умелых маладых хлопцаў. Так, гэтыя пабудуюць гігант першай сямігодкі. І добра пабудуюць. Гэтыя хлопцы працавітыя, простыя, сціплыя. Яны не вымаўляюць «прыгожых» фраз. Яны проста хораша працуюць, мараць, кахаюць, крытыкуюць «начальства» за не прывезены ў час цэмент. Большасць з іх дзе-небудзь вучыцца. Неяк летам я размаўляў з бетоншчыкам Аляксандрам Гугніным пра справы, пра вучобу, а пасля ён чытаў мне свае вершы.

...По спящей улице шагаю,
А ветер дует прямо в спину.
Пойми, товарищ, это утро
На теплый день не променяю.
Ведь в это ветреное утро
Я ощутил труда дыханье
И в строй вступил семьи рабочей,
Кующей для народа счастье.

З новымі адносінамі да працы сустракаешся ўсюды. Напісаў гэтыя словы і адразу ўспомніў цудоўную дзяўчыну Галю Сяргун. Яе брыгада тынкоўшчыц першай на будоўлі пачала змагацца за званне брыгады камуністычнай працы. Аднойчы я ўбачыў яе не на жарт разгневанай. Галя павяла мяне на другі паверх новага дома, дзе працавалі яе таварышы:

— Палюбуйцеся!

Я прыгледзеўся. Пліты, прымацаваныя да стольнага перакрыцця, былі некалькі дэфармаваны.

— Атынкоўку дапускаецца класці да сантыметра, а тут даводзіцца часам рабіць задзел да трох. Так

і план не выканаем, і заробак у людзей будзе малы. Ды справа не ў заробку. Ад папечак атынкоўка хутка адваліцца. А хто, запытаюць, атынкоўваў гэтыя кватэры? Брыгада камуністычнай працы Галі Сяргун. Сорамна і крыўдна.

Абавязкі дэпутата адказныя і разнастайныя. Вядома, ёсць просьбы аб кватэрах, ёсць у людзей буйныя і дробныя крыўды, няшчасці. У меру сваіх сіл імкнешся дапамагчы. Часам да цябе звяртаюцца з просьбамі крыху нечаканымі. На камбінаце будматэрыялаў мяне папрасілі:

— Дапамажыце дастаць інструменты для духавога аркестра. У нас, як бачыце, добры клуб, ёсць сродкі, а інструментаў купіць не можам.

Вось і думаеш: а дзе, сапраўды, дастаць гэтыя духавыя інструменты і чаму іх так мала выпускаюць?

Але, вядома, гэта не галоўнае. Калі жывеш і сустракаешся з цудоўнымі савецкімі людзьмі, глыбока адчуваеш, што будаўніцтва камунізма стала крэўнай справай кожнага савецкага чалавека. З вялікім натхненнем, энергіяй і адданасцю беларускі народ выконвае гістарычныя рашэнні XXI з'езда КПСС.

Савецкага чалавека цікавіць і хвалюе ўсё: і ўраджайнасць калгасных палёў, і будаўніцтва электрастанцый на сібірскіх рэках, і палёт касмічных ракет. Ніколі раней наша зямля не ведала такой кіпучай актыўнасці самых шырокіх мас. Ніколі раней нашай рэспубліцы не былі прадастаўлены такія шырокія правы, як цяпер. Усё жыццё народа пранізана небывалым дэмакратызмам.

Услед за сесіяй Вярхоўнага Савета СССР нядаўна адбылася сесія Вярхоўнага Савета БССР. Зацверджаны план развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі на 1960 год, бюджэт, прыняты новыя, важныя, патрэбныя законы. Цяпер дэпутаты раз'ехаліся па сваіх акругах.

Некалькі дзён назад сустракаўся і я са сваімі выбаршчыкамі. І што характэрна — гэта павышаная цікавасць да агульнарэспубліканскіх, агульнасаюзных і міжнародных пытанняў.

У людзей наглядаецца сапраўдны энтузіязм, сапраўдныя працоўныя подзвігі. Перавыкананы план прамысловасці рэспублікі. Бурна расце малады рабочы клас.

Так, непазнавальна змяніліся наша Беларусь, наш народ! Ён, народ, добра ведае свае абавязкі і свае правы, запісаныя залатымі літарамі ў нашай Канстытуцыі. Ён — сапраўды гаспадар свайго жыцця, гаспадар разумны, працавіты, бясконца адданы справе камунізма. Адгэтуль тая велізарная любоў і павага да Камуністычнай партыі, савецкага ладу, да нашых законаў. Адгэтуль тая ўпэўненасць, што грандыёзны план сямігодкі будзе выкананы датэрмінова.

*1959*

## ФАКЕЛЫ ДРУЖБЫ

У апошні нядзельны дзень кастрычніка ў Мінску стаяў густы туман. Асцярожна, амаль нячутна ішлі тралейбусы, аўтобусы, «Волгі» і «Масквічы», і чыйсці голас, шматразова ўзмоцнены рэпрадуктарам, раіў пешаходам захоўваць правілы вулічнага руху. А вуліцы, нягледзячы на дрэннае надвор'е, былі запоўнены народам. З усіх канцоў беларускай сталіцы людзі спяшаліся на Цэнтральную плошчу.

У гэты дзень закончана будаўніцтва магістральнага газаправода Дашава — Мінск. З перадгор'я Карпат у Мінск прыйшоў украінскі газ.

І вось на мінскай плошчы палыхае газавы факел — сапраўдны факел дружбы, бо на трасе працавалі рускія, украінцы, беларусы, сыны і дочкі многіх народаў Савецкай краіны.

Усхваляваны гэтым цудоўным святам працы, я доўга блукаў па Мінску і міжвольна ўспамінаў радкі Янкі Купалы:

Іграй, музыка, гулка, громка!
Дзяўчына, песні нам спявай!
Не пойдзе жабраваць з катомкай,
Як некалі, наш родны край.
Спявайце ж, грайце гулка, громка!..

А гэта ж Янку Купалу да Кастрычніцкай рэвалюцыі ведалі як песняра гора народнага і гневу народнага.

Так, Беларусь да Кастрычніцкай рэвалюцыі была прыгнечанай, непісьменнай, страшэнна беднай. Але яна не засталася сляпой і глухой, калі над зямлёй прагучалі словы ленінскай праўды. Не хістаючыся, беларускі народ пайшоў пад сцягі Кастрычніка за сваім старэйшым рускім братам, раз і назаўсёды паверыў у вялікую справу Леніна.

Услед за Янкам Купалам сёння мы ўсе дзівімся «вялікаму цуду», якое здзейснілася на беларускай зямлі за гады Савецкай улады. Нават апошняя вайна, якая бязлітасна і страшэнна разбурыла жыццё і гаспадарку рэспублікі, не здолела надоўга стрымаць наш рывок у будучае. Вялікая сацыялістычная Расія, Украіна, усе братнія народы прыйшлі на дапамогу сваёй беларускай сястры. Ішлі бясконцыя эшалоны з ураль-

скім жалезам, маскоўскімі і ленінградскімі станкамі, бакінскай нафтай, данецкім вугалем. З Яраслаўля і Валгаграда ў Мінск прыехалі рускія спецыялісты, і хутка пры іх неацэннай дапамозе на ўскраіне нашай, яшчэ не адбудаванай сталіцы выраслі індустрыяльныя гіганты — трактарны і аўтамабільны заводы.

Беларусь стала багатай, развітай індустрыяльна-калгаснай рэспублікай, краінай не толькі ўсеагульнай адукацыі, але і надзвычай высокай сацыялістычнай культуры.

Таварыш, калі табе давядзецца пабываць у Мінску, прайдзі па нашаму галоўнаму праспекту, і ты пабачыш многае.

Першым ты ўбачыш вялізарны Палац культуры прафсаюзаў. Затым, ніжэй, новыя васьміпавярховыя жылыя дамы, цэлыя сузор'і ярка асветленых вокнаў. Тут праспект перасякае вуліца Янкі Купалы. Справа агромністы, нядаўна пабудаваны цырк, дзе сёння выступаюць армянскія артысты. На ўзгорку, за цудоўным маладым паркам, Беларускі тэатр оперы і балета. Там сёння ідзе «Князь Ігар».

І далей — плошча Перамогі. У цэнтры ўзвышаецца велічны абеліск — у гонар памяці воінаў і партызан, што загінулі ў час вызвалення Беларусі. Ля падножжа манумента заўсёды многа кветак і вянкоў.

А вось манументальнае збудаванне Беларускай Акадэміі навук. Прэзідэнтам яе з'яўляецца сын беларускага селяніна, балтыйскі марак, які штурмаваў у векапомным кастрычніку 1917 года Зімні палац у Петраградзе.

Яшчэ далей зноў дамы, паркі, заводы... Наш Мінск стаў магутным індустрыяльным горадам.

25- і 40-тонныя мінскія самазвалы працуюць на вялікіх будоўлях Сібіры і Казахстана, а трактары «Беларусь» аруць палі не толькі ў роднай краіне, але і ў Кітаі, Індыі, Бірме, Егіпце і многіх другіх краінах.

І зноў я вяртаюся да шугаючага факела і думаю ўжо аб іншым, якому хутка гарэць блакітным полымем над Заходняй Дзвіной. Вялікі летапіс сямігодкі працягваецца. З Расійскай Федэрацыі, з-за волжскіх стэпаў ужо цягнуць у Беларусь гіганцкую нітку нафтаправода. У старажытны Полацк, дзе будуецца вя-

лікі нафтаперагонны завод, хутка прыйдзе нафта, як сёння ў Мінск прыйшоў газ.

Я чую, як сэрца майго народа б'ецца ў адзіным магутным рытме з сэрцам усіх савецкіх народаў. У гэтыя святочныя дні краіна даведалася аб новых поспехах працаўнікоў беларускага сяла, яны дабіліся далейшага росту калгаснай і саўгаснай вытворчасці. І няма нічога прыгажэй вялікага ленінскага братэрства народаў, азоранага факеламі дружбы, якія запаліў бессмяротны Кастрычнік.

*1960*

## ПАД ШЧАСЛІВАЙ ЗОРКАЙ

Мы сустракаем Новы год з добрымі пачуццямі і радасным настроем. Год 1959 назаўсёды застанецца і ў нашых сэрцах і ў гісторыі чалавецтва. Яго неўміручую славу стваралі працавітыя рукі савецкіх патрыётаў, мудрасць Камуністычнай партыі, навуковыя подзвігі нашых вучоных.

У студзені, верасні і кастрычніку мінулага года бязмежныя прасторы космасу азарыў жыватворны агонь трох савецкіх ракет. Адна з іх стала вечным спадарожнікам Сонца. Другая данесла наш горды вымпел на Месяц. Трэцяя — з аўтаматычнай міжпланетнай станцыяй — сфатаграфавала пябачны бок Месяца і перадала здымкі на Зямлю.

Гэты бяспрыкладны навуковы подзвіг зроблены ўпершыню ў гісторыі савецкімі людзьмі.

А на зямлі паспяхова прайшлі выпрабаванні першага ў свеце атамахода «Ленін».

А справы савецкага народа сапраўды вялікія. З велізарным натхненнем, энергіяй і адданасцю наш народ выконвае гістарычныя рашэнні XXI з'езда КПСС. Кантрольныя лічбы сямігодкі пераўтвараюцца ў магутныя заводы і электрастанцыі, у сотні тысяч жылых дамоў, у новыя школы і сады. Мы на парозе сапраўднага багацця і дастатку.

За адзін толькі год на нашай савецкай зямлі зроблена так многа, што ледзь не пра кожную справу можна сказаць: «Гэта ўпершыню ў гісторыі!» Усё наша жыццё, уся наша савецкая рэчаіснасць — гэта разведка шчаслівай будучыні, гэта гераічнае першаадкрыццё сонечных вышынь і ясных даляў камунізма.

Добра папрацавалі ў мінулым годзе юнакі і дзяўчаты, нашы слаўныя камсамольцы. Іх маладымі рукамі ўзводзяцца Полацкі нафтаперапрацоўчы гігант і Салігорскі калійны камбінат, пракладваецца газаправод і вырошчваецца шчодрая кукуруза. Нядаўна маладыя патрыёты Беларусі рапартавалі свайму XXI з'езду камсамола аб сваіх выдатных поспехах і ўзялі новыя высокія абавязацельствы.

Нашы дні абвеяны ветрам працоўных подзвігаў. І запяваламі нашых цудоўных дзён з'яўляюцца бры-

гады камуністычнай працы. Члены праслаўленых брыгад — гэта не ідэальныя «звышчалавекі», не плакатныя саладжавыя малайцы, а звычайныя савецкія юнакі і дзяўчаты, працавітыя і сціплыя, адукаваныя і культурныя, для якіх праца стала патрэбнасцю і асалодай, для якіх справа будаўніцтва камунізма зрабілася мэтай усяго жыцця. Яны такія, як Таісія Кобрынец з калгаса «Перамога» Пружанскага раёна, маладзёжнае звяно якой атрымала на плошчы 30 гектараў па 1725 цэнтнераў зялёнай масы кукурузы з пачаткамі ■ кожнага гектара. Яны такія, як жлобінскі машыніст Анатоль Шабуняеў, на грудзях якога гарыць Залатая Зорка Героя Сацыялістычнай Працы.

Неабсяжныя прасторы нашай Радзімы. Многа ў ёй высокіх гор, бяскрайніх стэпаў, поўнаводных і бурлівых рэк, шумлівых бароў і задуменных азёр. Кожны край мае сваю гісторыю, свае адметныя рысы, свае непаўторныя помнікі і легенды. Але ў наш імклівы век мы ўсё часцей і часцей уяўляем тую ці іншую мясціну нашай краіны не па легендах або старажытных помніках, а па справах яе сучасных гаспадароў.

Разанская вобласць — і мы адразу ўспамінаем небывалы подзвіг разанскіх жывёлаводаў, якім сёння ганарацца ўсе савецкія людзі. А пасля прыгадаем і шырокую Аку, і звонкія вершы Сяргея Ясеніна, і нават даўні фільм «Бабы разанскія».

Горад Калінін — і перад вачыма ўзнікае абаяльны воблік Валянціны Гаганавай, якая сваім высакародным учынкам адразу на многа крокаў наблізілася да камунізма і павяла за сабой вялікую армію патрыётаў.

Думаючы пра Ангару, мы перш за ўсё ўспамінаем будаўнікоў Брацкай ГЭС, а далёкая ледзяная Антарктыда свеціць нам цеплымі аганькамі паселка Мірны.

Геаграфічныя і астранамічныя назвы, разуменні і ўяўленні ўсё часцей саграваюцца гарачым чалавечым сэрцам. І нават Месяц, які тысячы гадоў маўкліва свяціў закаханым і паэтам усяго свету, з нядаўняй пары змяніўся. На ім — наш вымпел! На ім ёсць мора Масквы, кратары Ламаносаў і Цыялкоўскі, горны хрыбет Савецкі і мора Мары.

Давайце і мы памарым ля навагодняй ёлкі, як зменіцца наша зямля за год, за сямігодку, як зменімся мы самі.

Папрыгажэе, пабагацее ў 1960 годзе Савецкая Беларусь. Кукуруза, якая так добра ўрадзіла ў мінулым годзе, будзе красаваць на паўмільёнах гектараў. Калгасныя статкі стануць непараўнана большымі, а рэкі і азёры забялеюць ад гусіных чарод. Тысячы новых трактараў і новых збожжавых камбайнаў выйдуць на калгасныя палі.

Вырастуць новыя фабрыкі і заводы. Будзе арганізавана вытворчасць 73 новых дасканалых станкоў і машын. За адзін год у Беларусі будзе пабудавана высакавольтавых ліній столькі, колькі іх узводзілася за год у перадваенны перыяд ва ўсім Савецкім Саюзе. За кошт дзяржавы ў 1960 годзе будзе ўзведзена столькі жылых дамоў, колькі цяпер маюць такія буйныя гарады, як Віцебск і Магілёў, разам узятыя.

1960 год увойдзе ў гісторыю будаўніцтва камуністычнага грамадства ў нашай краіне як год заканчэння пераводу ўсіх рабочых і служачых на скарочаны 6—7-гадзінны рабочы дзень.

І гэта толькі частка таго, чым узбагаціцца за адзін год беларуская зямля.

Камсамольцы зноў выходзяць на новыя рубяжы сямігодкі. Яны добрыя шэфы многіх новабудоўляў рэспублікі. А ў гэтым годзе камсамол возьме пад свой руплівы нагляд, у свае працавітыя рукі большасць жывёлагадоўчых ферм і тэхніку калгасных гаспадарак.

Зменіцца выгляд нашых вёсак, вырастуць новыя сады і прысады, пасаджаныя рукамі моладзі. Прыгажэй пачнуць апранацца юнакі і дзяўчаты, званчэй загучаць новыя песні, а ў бібліятэках і на кніжных прылаўках з'явяцца новыя добрыя кнігі. І рэдка ўжо дзе адважыцца выйсці на вуліцу ачмурэлы п'яніца ці нахабны хуліган: баявыя дружыннікі канчаткова навядуць парадак ва ўсіх гарадах і вёсках. Пойдуць на злом апошнія апараты самагоншчыкаў, і гугнявы папоўскі голас не заманіць нікога ў царкву.

Гэта ўсё будзе так, калі камсамольцы Беларусі прыкладуць да кожнай справы свой розум, веды, гарачыя сэрцы і залатыя рукі.

Каб выканаць вялікія і пачэсныя задачы, якія паставіла партыя перад камсамолам, трэба вучыцца і яшчэ раз вучыцца. Праца і культура — непадзельныя.

У 1960 годзе камсамолу Беларусі спаўняецца 40 год. Гераічныя справы камсамольцаў часоў грамадзянскай і Айчыннай войнаў будуць прадоўжаны ў залатым летапісе нашага жыцця камсамольцамі і ўсёй моладдзю сённяшніх дзён. І ў новым годзе нас будзе весці наперад незгасальная шчаслівая зорка камунізма.

З Новым шчаслівым годам!

*1960*

# СЛОВА ПРА ДРУГА

Некалькі гадоў таму назад група беларускіх пісьменнікаў была запрошана ў Ленінград. Мы выступалі на прадпрыемствах, у клубах, бібліятэках, аглядалі гэты цудоўны і велічны горад. Усюды нашым праваднікам і гідам быў нястомны Аляксандр Пракоф'еў — выдатны рускі паэт, лаўрэат Ленінскай прэміі. Ён паказваў нам свой любімы горад як сапраўдны гаспадар. Паказваў не назойліва, а са сціплай гордасцю і заўсёды звяртаў нашу ўвагу на самае важнае, цікавае, прыгожае. Дзе б мы ні паяўляліся, міжвольна заўважалі, што Аляксандра Андрэевіча ўсюды ведаюць і любяць.

Помню, калі мы праходзілі па цэхах праслаўленага Кіраўскага завода, да Пракоф'ева падыходзілі пажылыя кіраўцы і з радасцю і павагай здароўкаліся з ім. А ён кожнага называў па імю і па бацьку. Тут адчулася старая і моцная дружба. Ды інакш яно і быць не магло. Усё жыццё паэта звязана з горадам Леніна. У гады Вялікай Айчыннай вайны, у доўгія і цяжкія месяцы блакады Аляксандр Пракоф'еў быў з ленінградцамі, дзяліў з імі і голад, і холад, і смяротную небяспеку, і бессмяротную мужнасць. Яго вершы, гнеўныя і пяшчотныя, саграваді і хвалявалі сэрцы абаронцаў горада Леніна.

І яшчэ ўспомнілася... Сядзелі мы вечарам на верандзе дачы Пракоф'ева ў Камарове, непадалёк ад Фінскага заліва, і горача аб нечым спрачаліся. Раптам падзьмуў моцны вецер. Аляксандр Андрэевіч нечакана спыніў размову і прапанаваў:

— Хлопцы, пойдзем паслухаем, як мае асінкі шумяць.

І ён павёў нас у змрок, да купы «яго асінак», якія трывожна і журботна шапацелі пад балтыйскім ветрам.

Мне падумалася тады, як моцна і натуральна паэт звязаны і з жывымі людзьмі, і з роднымі для яго, не менш жывымі асінкамі, бярозкамі, зорамі і пералескамі. Гэта натуральнасць і непасрэднасць — адна з найбольш прывабных рыс паэзіі Аляксандра Пракоф'ева, паэта мудрага і заўсёды ўсхваляванага, суровага, ласкавага і сапраўды рускага.

Любімыя героі Пракоф'ева — чырвонагвардзейцы, рабочыя, матросы, рыбакі, абаронцы Ленінграда і мноства сімпатычных хлопцаў і дзяўчат Ладажскага і Аланецкага краёў, якія любяць спяваць і скакаць пад гармонік, умеюць працаваць і сябраваць, глыбока і шчыра кахаць, а часам і пакутаваць.

Свет паэзіі Аляксандра Пракоф'ева багаты, шматфарбны і шматгалосы. Проста дзіву даешся, колькі паэт знаходзіць свежых слоў і яркіх вобразаў, каб уславіць паўночныя рэкі і азёры, карабельныя гаі і адзінокія бярозкі, духмяную пену чаромхі і салаўіны гром.

Але адна мелодыя гучыць у вершах і паэмах Пракоф'ева мацней і прыгажэй ад усіх, яна пранізвае ўсю творчасць паэта — гэта вялікая, страсная любоў да Расіі, да савецкай Радзімы.

Колькі зор агнявых, колькі сініх,
Колькі бур, колькі ліўняў з нябёс!
Салаўінае горла — Расія,
Беланогія пушчы бяроз.
Ды шырокая руская песня,
Што з пуцінак і сцежак бяжыць,
Што ўзляцела ў прасторы і весніць
Ды па-руску не знае мяжы.

Аляксандр Пракоф'еў — добры і даўні друг беларускага народа, беларускай літаратуры. Ён шмат гадоў сябраваў з Янкам Купалам і Якубам Коласам, перакладаў на рускую мову шмат іх твораў, а таксама твораў маладзейшых беларускіх паэтаў, нямала зрабіў для папулярызацыі беларускай літаратуры.

Паэзія Аляксандра Пракоф'ева, мужная і задуменная, трапяткая і радасная, па сваёй сутнасці, па свайму характару ніколі не будзе старэць. Яна заўсёды будзе маладая і сонечная.

*1961*

# З ВЫСОКАЙ АДКАЗНАСЦЮ

Нашаму вялікаму народу, пакарыцелю цаліны, Енісея і космаса, патрэбна вялікая літаратура, сонечнае мастацтва.

Мы, беларускія савецкія пісьменнікі, цвёрда і ўпэўнена стаім на нашай роднай і светлай савецкай зямлі. Для нас вышэйшае шчасце, радасць і сэнс жыцця — быць заўсёды і ўсюды са сваёй Камуністычнай партыяй, пісаць аб народзе і для народа. Рэзка і назаўсёды мы адхіляем подленькую ідэйку аб мірным суіснаванні сацыялістычнай і буржуазнай ідэалогій, якую імкнуўся сёй-той навязаць нам у сваіх мемуарах, артыкулах і аўтабіяграфіях. Мы будзем непрымірыма змагацца супраць фармалізму, абстракцыянізму і дзёгцямазання, супраць дэгераізацыі нашых сучаснікаў, а таксама супраць натуралізму і схематызму, драбнатэмнасці і лакіроўкі.

У гэтым годзе краіна будзе адзначаць семідзесяцігоддзе Уладзіміра Маякоўскага. Вось хто з'яўляецца вялікім і яркім прыкладам для нашых маладых (ды і не толькі маладых) пісьменнікаў! Усё яго жыццё, уся творчасць цалкам і поўнасцю адданы справе будаўніцтва камунізма. Паэзія Маякоўскага не шукала класавых кампрамісаў, была заўсёды атакуючай і мэтанакіраванай. Ён выязджаў у капіталістычныя краіны як паўнамоцны прадстаўнік савецкага народа, палымяны вяшчальнік ленінскіх ідэй. Была ў яго вялікая «собственная гордость» савецкага патрыёта і пагарда да пазалочаных бразготак буржуазнага побыту, баявое спачуванне да прыгнечаных усяго свету і лютая нянавісць да прыгнятальнікаў, да ворагаў сацыялізма. Маякоўскі заўсёды быў зліты са сваім народам, увесь быў накіраваны ў камуністычнае будучае.

«Отечество славлю, которое есть, но трижды, которое будет»,— гаварыў ён.

Пачуццём гарачага савецкага патрыятызму, умацаваннем праўды нашага жыцця прасякнуты вершы аб Амерыцы Петруся Броўкі і Максіма Танка. З вялікай сілай выкрывае правы капіталістычнага свету ў апошняй кнізе апавяданняў Міхась Лынькоў. У гэтых, як і ў многіх іншых нашых пісьменнікаў,— яс-

ная пазіцыя камуністаў і верныя сэрцы патрыётаў.

Праўду казаў Максім Танк, калі ў адным з сваіх вершаў пісаў, што колер мора такі, якімі вачыма на яго глядзіш. Мы глядзім на свет вачыма свайго народа, падзяляем усе яго радасці і нягоды. Усе поспехі нашай літаратуры залежалі і залежаць ад цеснай сувязі мастакоў слова з народам, ад глыбокага ведання яго жыцця, працы, накіраванасці, каб у гэтым упэўніцца, дастаткова кінуць беглы погляд на лепшыя кнігі, створаныя беларускімі пісьменнікамі за самы апошні час.

Мы ганарымся кнігай Петруся Броўкі «А дні ідуць...», адзначанай Ленінскай прэміяй. Вершы і паэмы гэтай кнігі вельмі ясныя, аптымістычныя, мэтанакіраваныя, па-сапраўднаму патрыятычныя. Паэт усхваляе чалавека працы, будаўніка камунізма. Броўка і за межамі краіны бачыць ісцінны твар капіталістычнага «раю»:

І хоць у сейфы Уол-стрыта
Ліецца золата ракой,
Мы знаем, як яно здабыта,—
На ручаях крыві людской.

Сталую, глыбокую па думцы, свежую і яркую па паэтычным пачуццям і вобразам кнігу «Мой хлеб надзённы» напісаў Максім Танк. Свет яго паэзіі разнастайны і шматфарбны. Вялікая любоў да роднай зямлі, да людзей працы выклікае ў паэта трывогу за мір на планеце і пачуццё вялікай адказнасці перад народам, перад гісторыяй:

Непакой за цябе, зямля мая,
За твой ураджай, спакойны сон,
За дрэва кожнае ў гаях,
За веснік песень неразвон,
Непакой за цябе, зямля мая,—
Мой хлеб надзённы.

Моцныя, чаканныя вершы, поўныя філасофскага роздуму аб чалавецтве, аб будучым, аб мужнасці і вернасці, напісаў Аркадзь Куляшоў.

Радуюць мяне і многія нашы празаікі. Раман Івана Мележа «Людзі на балоце» стаў выдатнай падзеяй у нашай літаратуры. Мележ знайшоў незвычайна верны фон у адлюстраванні беларускага сялянства паслякастрычніцкага перыяду. Глыбокае веданне працы, быту, псіхалогіі і класавай размежаванасці палескіх сялян, праўдзівыя і дакладныя фар-

бы дазволілі стварыць пісьменніку ўражлівую карціну народнага жыцця, самабытныя характары.

Добрай, таленавітай кнігай узрадаваў чытачоў Янка Брыль. Я кажу аб кнізе «Працяг размовы». Шчыра і ўсхвалявана расказвае пісьменнік аб сучасных днях, аб нашых людзях у цудоўным цыкле «Пад гоман вогнішча».

У адным шэрагу з вядомымі майстрамі ідзе і наша таленавітая літаратурная моладзь. Творчы поспех прыйшоў да тых, хто акунуўся ў гушчар народнага жыцця: Ул. Нядзвецкі, Р. Барадулін, Е. Лось, Г. Бураўкін часта былі ў Салігорску, Полацку, Светлагорску і на другіх вялікіх будоўлях нашай рэспублікі. У выніку на старонках нашых часопісаў і газет з'явіліся добрыя вершы, паэмы, цікавыя паэтычныя рэпартажы і нарысы.

Добрай пахвалы заслугоўвае паэтычная практыка Міколы Аўрамчыка і Сяргея Грахоўскага. Першы даўно аддадзены «шахцёрскай тэме». Яго новая кніга вершаў «Сустрэча былых канагонаў» заслугоўвае вельмі высокай ацэнкі.

Сяргей Грахоўскі на працягу многіх год цесна звязаны з будаўнікамі Полацкага нафтагіганта і з'яўляецца своеасаблівым летапісцам гэтай будоўлі.

Я прывёў толькі некалькі прыкладаў. Іх лік можна было б павялічыць. Але галоўнае — нашы беларускія пісьменнікі чуйна адгукнуліся на заклік партыі ўмацаваць сувязь з жыццём, з народам. Гэта зрабілася нашай першапачатковай патрэбнасцю.

Поспехі нашы відавочныя. Але было б недаравальнай легкадумнасцю ўстанаўліваць, што ўжо ўся паэтычная зброя ў баявой гатоўнасці, што ў нашай літаратуры ўжо няма недахопаў, промахаў і зрываў. Мала ў нас добрых кніг аб рабочым класе, не створаны такія вобразы нашых сучаснікаў, у якіх магла б вучыцца жыць і працаваць моладзь.

Не-не ды і прамільгне ў апавяданнях маладых «зорныя хлопчыкі», што здабылі сабе сумную славу. Вядома, у нашым жыцці ёсць некаторая колькасць і дармаедаў, і сціляг, і хісткіх няспелых юнцоў. Але сапраўды ж надакучылі і выклікаюць законнае здзіўленне, злосць і пратэст усе гэтыя хліпкія, скалечаныя, «героі», якія размаўляюць на блатным жаргоне і адрозніваюцца пустатой у душы.

Не, не такія юнакі і дзяўчаты пакаралі цаліну і Ангару. Інакшая моладзь працуе ў брыгадах камуністычнай працы. Не «зорныя хлопчыкі», а зорныя арлы — нашы гераічныя касманаўты павінны натхняць пісьменнікаў.

Узнікае сур'ёзнае, першараднае пытанне для пісьменнікаў, асабліва маладых: правільны выбар тэмы, героя, выяўленчых сродкаў твора і галоўнае — пытанне аб ідэйных пазіцыях аўтара. Памятаеце, яшчэ Горкі пісаў пра «кропку і купіну» зроку...

Мы, літаратары, павінны бачыць не маленькую паўпраўду, а вялікую праўду жыцця — праўду Леніна, Кастрычніцкай рэвалюцыі, Вялікай Айчыннай вайны, праўду паўсядзённага гераізму будаўнікоў камуністычнага грамадства.

Дрэнны быў бы той пісьменнік, які на будоўлі Полацкага нафтагіганта ўбачыў бы толькі незабрукаваную раз'езджаную дарогу ці часовы барак, сшыты на жывую нітку, а не заўважыў вялікага цуда стварэння, новы рабочы пасёлак, не ўзрадаваўся б, не ўсхваляваўся б працоўным подзвігам нафтабудаўнікоў, такімі людзьмі, як Іван Бахір, Анатоль Крэмень і многія іншыя.

Мы павінны рашуча асуджаць спробы некаторых пісьменнікаў і крытыкаў дэгераізаваць нашых людзей, нашу савецкую эпоху (у тым ліку і перыяд Вялікай Айчыннай вайны). Сапраўды, у нашага народа былі і ёсць цяжкасці, і горкія хвіліны, і цяжкія перажыванні. Але не гэта вызначае рытм, настрой і характар нашага часу. У кожнай эпохі, у кожнага грамадства свае песні, а нашы песні павінны быць светлымі і жыццесцвярджальнымі.

Мне даводзіцца перачытваць дзесяткі рукапісаў раманаў, аповесцяў і сотні новых вершаў і апавяданняў. Сустракаецца многа таленавітага, але... Ёсць нейкае прыцягненне да хібных герояў.

Так, у свеце гучаць і калыханкі, і паходныя маршы, і сімфоніі радасці, гучаць і рэквіемы. Але, божа мой, які жах (а можа, і раўнадушша) ахапіў бы людзей, калі б ад зары да зары гучалі б толькі жалобныя маршы. Гэта ненармальна ў нашым жыцці, стварэнні, у чалавеку.

Вельмі часта скептыцызм, неўрастэнічныя, упадніцкія настроі навеяны маладым пісьменнікам і іх

героям не жыццём, а ўзяты з пляча некаторых герояў Рэмарка, Хемінгуэя, Бёля, Сэлінджэра.

Наша літаратура ніколі не адхіляла вопыту і спадчыны замежнай, у тым ліку і буржуазнай літаратуры. Але зусім не дзеля таго, каб бяздумна перасаджваць на нашу глебу. Маладым патрэбна цвёрда ўсвядоміць, што ў чужым адзенні ў вялікую савецкую літаратуру не ўвойдзеш. Толькі жыццё свайго роднага народа з'яўляецца вечнай, невычэрпнай крыніцай для творчасці.

Але справа не толькі ў гэтым. Адлюстроўваць гора, расчараванне, незадаволенасць жыццём пісьменніку значна лягчэй, чым услаўляць радасць працы, чалавечую дружбу, высакароднасць, багацце духоўнага жыцця савецкага чалавека. У першым выпадку — агромністы вопыт сусветнай літаратуры, у другім — нязведаныя глыбіні чалавечага характару, няходжаныя дарогі і сцежкі. Толькі ведаючы справы, мыслі і думы людзей працы, прымаючы ўдзел у яго барацьбе за будучае, за камунізм, малады савецкі пісьменнік можа набыць свой непаўторны голас, сваю тэму, свае фарбы і стварыць твор, патрэбны партыі і народу. І тут з усёй сур'ёзнасцю павінны сказаць — не хапае ў нас баявой, прынцыповай партыйнай крытыкі. У секцыі крытыкі Саюза пісьменнікаў БССР на ўліку больш сарака чалавек. Але дзе яны, выхавальнікі пісьменніка і чытача, перакананыя барацьбіты за сацыялістычны рэалізм, непрымірымыя ворагі буржуазнай ідэалогіі, фармалістаў і дзёгцемазаў? Нешта слабы і баязлівы голас нашых крытыкаў. Некаторыя члены Саюза пісьменнікаў — літаратуразнаўцы і крытыкі — гадамі сядзяць у архіўным пыле, расчульваюцца над выпадкова знойдзеным радком артыкула, калі можна так выказацца, абкатанага гісторыяй пісьменніка, а жыццё савецкага народа, жыццё сучаснай літаратурнай арганізацыі праходзіць міма іх. Не таму ж у апошні час з'явілася многа блытаных, ідэйна няспелых артыкулаў маладых крытыкаў?

У наш час ідзе вялікая ідэалагічная барацьба за сэрцы і душы людзей. Мы, савецкія пісьменнікі, павінны адчуць і зразумець, наколькі ўзрасла наша адказнасць перад народам, партыяй, гісторыяй.

*1963*

# НЯЗГАСНЫ АГОНЬ

Кнігі Лермантава не пакрыліся пылам часу. Паўтара стагоддзя не пагасілі мяцежнага агню яго паэзіі. Для мільёнаў новых і новых чытачоў ён нараджаецца кожны год.

Сіла ўздзеяння гэтага паэта сапраўды дзівосная. Лермантаў прыходзіць да нас вельмі рана, у бясхмарнае маленства, і ўладарна прымушае думаць, трывожыцца, радавацца і абурацца.

Магчыма, ніхто іншы не ўмее так моцна абудзіць у маладых сэрцах пачуццё чалавечай годнасці, гонару, пякучай нянавісці да ўсялякай хлусні і несправядлівасці. І кожны з нас у сваю лермантаўскую ноч выходзіць адзін на крамяністую дарогу, каб паслухаць, як зорка з зоркай гаворыць, і памысліць пра жыццё.

Высокая рамантыка, самаахвярнае каханне, спрадвечныя пошукі праўды і сэнсу жыцця, імкненне да подзвігу ў імя высакароднай мэты, глыбокае пачуццё грамадзянскага абавязку — як гэта ўсё блізка нам, людзям сацыялістычнага грамадства.

Асабліва дарагая нам у паэзіі Лермантава любоў паэта да Радзімы — то светлая, то журботная,— ад жоўтай нівы да Барадзінскага поля. І па сённяшні дзень Міхаіл Юр'евіч застаецца першаадкрывальнікам многіх куткоў нашай вялікай Радзімы — ад Масквы да Каўказскага хрыбта, дакладным тлумачальнікам і ліхой апрычніны, і многіх іншых гістарычных падзей. А народнасць паэта, яго дэмакратызм, спачуванне прыгнечаным, прыніжаным, абражаным, яго нянавісць да «страны рабов, страны господ» перадавалася з пакалення ў пакаленне, як яркі светач розуму і сумлення перадавых людзей Расіі.

Калісьці Міхаіл Юр'евіч Лермантаў служыў у Гродзенскім гусарскім палку. І, мажліва, у яго верш, «облитый горечью и злостью», трапілі горкія кроплі з бязмернага мора пакут беларускага народа.

На Беларусі даўно ведаюць, любяць, захапляюцца і глыбока шануюць вялікага рускага паэта.

Лермантаў, з яго бязмежнай любоўю да Радзімы, услаўленнем герояў, прагай вялікага подзвігу, зрабіўся для нас асабліва блізкім і дарагім у гады Вялі-

кай Айчыннай вайны. Яго вершы часта гучалі ў партызанскіх зямлянках і заўсёды знаходзілі водгук у мужных сэрцах лясных салдат.

Аркадзь Куляшоў напісаў у 1942 суровым годзе цудоўную паэму «Сцяг брыгады». Напісаць гэтую паэму натхнілі Куляшова не толькі гераізм савецкага народа, мужнасць і адданасць Радзіме нашых воінаў, але і паэзія Лермантава.

Паэт-франтавік так і пачынае сваю паэму:

Як ад роднай галінкі
дубовы лісток адарваны,
Родны Мінск я пакінуў,
нямецкай бамбёжкаю гнаны.

Так, палымяная і мудрая, светлая і гнеўная, паэзія Лермантава дапамагала і дапамагае нам жыць, змагацца і перамагаць, каб кожны з нас, будаўнікоў камунізма, мог сёння з гордасцю вымавіць словы бессмяротнага паэта:

И счастье я могу постигнуть на земле...

*1964*

# НАШ КАБЗАР

Распачаўшы свой бег паміж рускіх узгоркаў, Дняпро перасякае з поўначы на поўдзень усю Усходнюю Беларусь, каб затым шырока і вольна несці свае воды па Украіне. Дняпро — рака вялікага братэрства трох народаў.

Даўным-даўно даляталі да нас вольныя казацкія атрады, і да іх далучаліся нашы паўстанцы. Прaплывалі ўверх па Дняпры, Прыпяці, Сожы і ўкраінскія песні. Таму ў беларускім фальклоры так многа казацкіх матываў.

Украінскія песні, украінскую паэзію лічаць ласкавай і сардэчнай. Гэта, безумоўна, правільна. Але калі я ўспамінаю дзіцячыя гады, першапачатковае ўспрыманне Украіны, якое прыйшло праз песню, было іншае... Бясконцы прастор, чумацкія шляхі, рухаецца агромністае казацкае войска, адбываюцца вялікія і грозныя падзеі. А яшчэ раве і стогне шырокі Дняпро. І заўсёды робіцца нешта значнае, вялікае, нават страшнае. І толькі недзе наводшыбе журыцца каля белай вішні дзяўчына альбо маці плача па забітаму сыну.

Так і вялікі Кабзар прыйшоў да нас спачатку песняй, каб назаўсёды зрабіцца любімым і родным.

Янка Купала пісаў: «Не праз кніжкі, а праз народ дзецьмі пазнавалі мы творчасць Тараса Шаўчэнкі. Цёмныя непісьменныя сяляне спявалі песні Тараса Шаўчэнкі, не ведаючы, хто іх складаў. Песня Шаўчэнкі безыменнай жыла ў беларускім народзе многія дзесяткі год».

Лёс нашага народа падобны да лёсу ўкраінцаў. Таму ўвесь неабдымны свет паэзіі Тараса Шаўчэнкі нам блізкі і зразумелы: любоў да аратаяў і жнеяў, спачуванне да ўсіх прыгнечаных і нянавісць да тыранаў, прага да справядлівасці і волі, сынава ўлюбёнасць у свой народ, у сваю зямлю. Гэта і наш свет, гэта адвечныя думы і пачуцці беларускага народа.

У наш час вершы і паэмы слаўнага Кабзара загучалі ў беларускіх школах, разышліся кнігамі па нашых гарадах і сёлах.

Калі перачытваеш Тараса Рыгоравіча, заўсёды здзіўляешся: які ён разнастайны, шматфарбны, невычэрпны.

Вось радкі, авеяныя смуткам, вельмі народныя:

Сонца гріє, вітер віє
З поля на долину,
Над водою гне з вербою
Червону калину...

А вось магутныя, велічныя, чаканныя строфы з «Каўказа»:

За горами гори, хмарою повиті,
Засіяни горем, кровію политі.

У 1847 годзе ў каземаце ён разважае пра смерць. Яна мроіцца паэту ў вобразе касца, якога нікому не ўлагодзіць, не ўпрасіць:

Не благай, не проси,
Не клепае коси:
Чи то пригород, чи город.
Мов бритвою, старий голить
Усе, що даси.

Чым не сучасная рыфмоўка? Але ў тым і веліч Шаўчэнкі, што пра яго тэхніку не думаеш; яна бярэ за сэрца вялікай праўдай, магутнай думкай, кіпучым словам.

Тарас Шаўчэнка зрабіў вялікі ўплыў на развіццё беларускай паэзіі. Пра яго пісалі, яго перакладалі Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Максім Танк і шмат іншых паэтаў.

Янка Купала напісаў паэму «Тарасова доля», у якой ёсць раздзел аб тым, як ішоў Тарас з абозам Энгельгарта ў Пецярбург праз бярозавыя гаі гаротнай Беларусі.

З пакалення ў пакаленне перадаецца ў нас любоў да творчасці Тараса Шаўчэнкі. З году ў год расце паломніцтва ў Канеў да яго магілы.

Пятрусь Броўка ў вершы «У Каневе» піша:

Таполяў варта над ракою,
Задумны сіні краявід.
Перад славутаю гарою
Стаім, спяваем «Запавіт».

Зямля, што сэрцамі сагрэта,
Ты зварухнулася ў цішы...
І словы мужныя паэта
Пераклікаюцца ў душы.

Беларускі народ здавён лічыць Тараса Шаўчэнку сваім родным паэтам і кажа: «Наш Кабзар».

Нават у чужых землях Шаўчэнка згуртоўвае выхадцаў з Украіны, Беларусі ды іншых славянскіх краін. Не гэтак даўно я пабываў у Канадзе ў складзе дэлегацыі таварыства «СССР — Канада». Сярод раз настайных яркіх уражанняў адно з мацнейшых — сустрэча з Тарасам Шаўчэнкам. Ён стаяў, бронзавы, на беразе возера Антарыо, каля горада Палерма. Навокал помніка вялікаму Кабзару цвілі ружы і ціха шалясцелі тры вярбы, што прывезены сюды з Канева. Тут жа непадалёку ёсць і музей яго імя. Музей берагуць і даглядаюць з любоўю, напаўняюць частыя наведвальнікі — украінцы, рускія, беларусы, славакі, македонцы, закінутыя лёсам некалі ў Канаду.

Неяк у нядзелю да помніка Шаўчэнку з'ехаліся тысячы ўкраінцаў, беларусаў, нямала было і іншых славян, продкі якіх даўно перасяліліся ў Канаду. Здавалася, што геніяльны паэт сабраў гэтых людзей у адзіную сям'ю. Усе мы ў той дзень шчыра і сардэчна гаварылі пра мір і дружбу, пра вялікага Кабзара. А пасля над начным Антарыо магутна лілася бессмяротная Тарасова песня «Реве та стогне Дніпр широкий».

*1964*

# ВЫ Ў НАШЫХ СЭРЦАХ НАЗАЎСЁДЫ

Сёлета, у сярэдзіне вясны, я атрымаў ад Максіма Рыльскага новы зборнік яго вершаў «Зимові записи». Прачытаў гэтую цудоўную кнігу і напісаў Максіму Фадзеевічу ліст. Я быў у захапленні ад яго вершаў і ад перакладаў польскіх паэтаў.

Адказу на свой ліст не атрымаў. Я не ведаў, што Максім Фадзеевіч ужо быў цяжка хворы і не мог адказаць.

І вось ударыла горкая вестка, што Максім Рыльскі памёр. Я не ўбачыў яго, дарагога Максіма Фадзеевіча, у труне. Ён для мяне заўсёды застанецца жывым, з яго непаўторным голасам, добрым, чалавечым позіркам мудрых вачэй.

Максім Фадзеевіч Рыльскі — вялікі паэт Украіны — быў бязмежна закаханы ў сваю Радзіму. А колькі добрых слоў ён сказаў пра нашу беларускую зямлю, пра яе пісьменнікаў!

Мне ўспамінаюцца шчырыя і добрыя размовы ў беларускім лесе пра паэзію, пра жыццё.

Аднойчы ён папракнуў нас:

— Вы мала цэніце свайго беларускага паэта Максіма Багдановіча, а гэта паэт — дай бог кожнай нацыі.

Успамінаецца і другое. Мы, беларускія пісьменнікі, гасцявалі ў яго прыветлівым доме. Нечакана Максім Фадзеевіч сеў за піяніна і сказаў:

— А цяпер, хлопцы, паслухайце: я трохі пафантазірую.

І загучалі мілыя і задушэўныя напевы ўкраінскай зямлі... І нешта большае. Максім Рыльскі — і гэта мала хто ведае — быў цудоўным кампазітарам...

Вы назаўсёды засталіся ў нашых беларускіх сэрцах.

*1964*

## РЫЦАР ПАЭЗІІ І ДАБРАТЫ

Памёр Міхаіл Святлоў. Дзікае, неверагоднае спалучэнне слоў.

Памёр мой брат, мой франтавы таварыш, мой настаўнік.

Ён быў сапраўдным пісьменнікам, вялікім і глыбокім паэтам. Такім ён і застанецца назаўжды ў сэрцах мільёнаў людзей. А для мяне другога такога чалавечнага чалавека ўжо не будзе.

Святлоў з гордасцю насіў франтавы шынель. Яго любілі і салдаты, і генералы і бераглі, як маглі. А ён з мудрай і засмучанай усмешкай даказваў, што аўтару «Каxоўкі» месца толькі на перадавой, ірваўся пад Старую Русу, дзе ў 1943 годзе адбываліся кровапралітныя баі. Ледзь не ў кожным нумары газеты «Гераічны штурм» друкаваліся яго палымяныя вершаваныя заклікі, гумарэскі. Тады ж былі напісаны вершы пра Лізу Чайкіну і «Італьянец», які хутка палюбіўся ўсёй 34-й арміі.

Паэзія заўсёды была яго першай і незгасальнай любоўю.

Вясёлы выдумшчык і фантазёр, дасціпнейшы субяседнік і ўсеагульны любімец, ён не раз гаварыў:

— Рыфмы гэта глупства. Трэба, каб пасля кожнага сапраўднага верша чалавек станавіўся дабрэйшым і лепшым.

Хай гэтыя словы будуць для нас святлоўскім запаветам.

Бывай, дарагі дружа!

Бывай, рыцар паэзіі і дабраты!

*1964*

# СВЕЖЫ ГОЛАС

На маім стале новая кніга вершаў. Гэта «Белая радуга» малдаўскага паэта Эміля Лацяну. Прачытаў яе з вялікай цікавасцю і хачу параіць вершы Лацяну ўсім аматарам паэзіі.

Паэт малады. І хоць ён называе «дзяржаву дзяцінства» далёкай, мы па вершах бачым, што гэта дзяржава не так ужо і далёка. І сёння ў яго прарываецца «хлапечае» бачанне: «Сквозь годы я гляжу, как сквозь забор...» Ёсць у вершы і дзіцячыя гульні, і адважны «капітан», і галубы, і школьны глобус.

Вертится глобус школьный,
Детских ладоней след
На себе неся.

Ад глобуса роздум вядзе паэта да лёсу зямнога шара, да лёсу людзей.

Лацяну любіць жывапісаць... У гаі гулялі дзеці і прыдумалі перафарбаваць снег. Яны пасыпалі яго чарнільным парашком, блакітнай фарбай, і снег загарэўся «синими огоньками, синими васильками». Гэта, вядома, грубы пераказ. Можна было б назваць гэты верш мілай замалёўкай, калі б не горкі ўспамін паэта аб тым, як ішлі на захад чырвоныя саставы і калі «были снега багровы, были снега кровавы». З'яўляецца сур'ёзная думка. Паэт гаворыць дзецям:

Красьте его, как хотите,
Милые живописцы.
Пусть он будет лиловым,
Зеленым
Или же красным,
Но пусть это будет краска,
А не кровь человечья.

Гартаючы старонкі, мы хутка даведваемся пра ўсе страсці і схільнасці паэта, запамінаем адрасы любові і нянавісці. Бачым мы і тое, што паэт вельмі любіць Лорку, жывапіс, а яшчэ больш жывыя, цёплыя фарбы зямлі, шматколерны свет вінаграднікаў і мора, птушак і зорак. Ён нават заўважыў паходку «обычную для облака».

Вершы Лацяну пранізвае гарачая ўлюбёнасць у родную малдаўскую зямлю, у людзей працы, у рукі каменячосаў і вінаградараў, ну, і, вядома:

Вот ты встала из пены белой —
Волшебство мое, колдовство,
И скатилось ручьями солнце
С тела белого твоего.

*(«Дунайский закат»)*

Пра каханне, пра каханую паэт умее пісаць пяшчотна і мужна. Мы самі як бы прысутнічаем пры ўзмужненні паэта.

Я б Жанну д'Арк, коль раньше родился,
Увел бы из горящего костра!

Але і ў наш час у паэта шмат турбот і трывог. У вершы «Слева, у меня в груди» паэт сур'ёзна і глыбока думае пра лёс зямлі:

И слева,
У меня в груди
Бессонно
Вращается огромная земля.
Во мне живет вся боль ее,
И ночью,
Покуда печь в Освенциме пылает,
Во мне моря
Колотятся от гнева,
И слезы
По щекам моим текут...

Моцнае ўражанне пакідаюць некаторыя балады Лацяну, асабліва «Гісторыя абрыкосавага дрэва».

У знаёмых і зусім не новых тэмах (космас, Хірасіма, барацьба за мір і г. д.) паэт знаходзіць нямала свежага і нечаканага для чытача.

Некаторыя вершы Эміля Лацяну псуе, на мой погляд, налёт «прыгожасці». (Не ведаю, чыя тут віна: паэта ці перакладчыка):

Были томны
Черты неземной красоты...

Ці:

Жар немыслимый
Грудь мою разом опаливал.

У вершах пра космас трохі старамодна гучыць:

О далекие звезды,
О невесты мои
Нареченные!

У добрым вершы «Послушай меня, капитан» залішне сур'ёзна сказана пра сяброў-хлапчукоў:

Пусть у старого бука
Сбегутся, как встарь,
Всей оравой чумазые черти.

Некаторыя недахопы і недакладнасці не засланяюць галоўнага: вершы таленавітыя.

Я шчыра радуюся, што ў вялікую сям'ю савецкіх паэтаў прыйшоў новы, добры паэт.

*1965*

## У ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ

У Беларусі Дзень паэзіі ўжо прайшоў. У кніжных магазінах Мінска нашы паэты чыталі вершы, аматары паэзіі атрымалі сотні кніг з аўтографамі.

У Дзень паэзіі адкрыўся новы кніжны магазін па вуліцы Валгаградскай. І тут было многа пакупнікоў, і гучалі галасы паэтаў.

Але самай радаснай падзеяй і для беларускіх паэтаў, і для іх чытачоў быў выхад першай кнігі «Дзень паэзіі», у якой прадстаўлена больш 80 аўтараў — беларускіх, рускіх, польскіх. Тут і новыя вершы і пераклады, эпіграмы і пародыі, крытычныя артыкулы і сяброўскія шаржы.

Беларуская паэзія разгарнулася, калі можна так сказаць, і ўшыр, і ўглыб. Пашырылася яе геаграфія, загучалі новыя галасы, паэты пачалі глыбей задумвацца аб лёсе чалавека, пра нашу неспакойную эпоху.

За апошні час я надрукаваў многа новых вершаў. Яны сабраны ў кнізе «Пры святле маланак». Імкнуўся сказаць самае галоўнае, самае набалеўшае. У новых вершах я, як стары салдат, часта вяртаюся на франтавыя дарогі...

*1965*

## МАЛАДЫЯ ЧАСОПІСА МАЛАДЫХ

Наш часопіс «Маладосць» заяўляе аб сваёй прыналежнасці ўжо самой назвай. Аднак імя толькі задатак, а не сутнасць.

І ўсё ж, мне здаецца, у нас ёсць усе падставы, каб сцвярджаць: «Маладосць» сапраўды часопіс маладых і для маладых. І не толькі таму, што мы ахвотна і паслядоўна аддаём свае старонкі навічкам у літаратуры (пра гэта яшчэ будзе спецыяльная размова). Разнастайнасць нашых інтарэсаў — ад спорту і праблем нацыянальнага касцюма да самых сур'ёзных філасофскіх пытанняў — таксама імпаніруе маладым, як і розныя конкурсы, цікавыя сустрэчы і г. д.

Вельмі характэрная дэталь. Шэсцьдзесят шосты год часопіс пачаў з навінкі — «Кнігарні «Маладосці»: з'явіўся раздзел кароткіх анатацый усяго, што варта раіць маладому чытачу, ад палітычнай брашуры да фантастыкі і прыгод.

Дастаткова багата «Маладосць» і жанрамі — навелы, апавяданні, раманы, вершы і паэмы, крытычныя эсэ, нарысы, яркія артыкулы, нататкі з блакнота, гумарэскі і г. д.

Са старонак нашага часопіса пайшлі на сцэны рэспубліканскіх тэатраў папулярныя п'есы («Папараць-кветка» і «Над ракою Серабранкай» І. Козела і інш.), паляцелі ў рабочыя і студэнцкія інтэрнаты новыя песні.

Паўтару яшчэ раз: часопіс верны свайму імені і па праву называе сябе часопісам для маладых. Але ж і тыя, што зараз выйшлі ў масцітыя, таксама калісьці лічыліся маладымі і тут жа, у «Маладосці», дэбютавалі.

Натуральна, што і цяпер яны складаюць актыў часопіса, прыносяць сюды свае лепшыя рэчы.

У рэдакцыі ганарацца, што мы першымі друкуем усе творы Васіля Быкава.

Мы апублікавалі «Жменю сонечных промняў» Янкі Брыля — цудоўныя старонкі з запісной кніжкі, лірычныя мініяцюры, дзе абавязкова свеціцца гарэзлівая ці іранічная, горкая ці радасная, але заўсёды глыбокая думка.

Смела можна сказаць, што ў «Маладосці» выраслі Іван Навуменка з яго мяккай рамантычнай палітрай і Васіль Быкаў з яго напружаным, бязлітасна праўдзівым аналізам, строгім да жорсткасці рэалізмам, які, аднак, не хавае яго ўнутранай, глыбіннай рамантычнасці. Інакш, адкуль было б узяцца гэтай ачышчальнай, праўдашукальніцкай і праўдасцвярджаючай накіраванасці яго творчасці, якая якраз і блізкая маладому чытачу — бо ён і сам у душы рамантык і змагар з усялякім злом.

У першым нумары новага года мы публікуем аповесць другога вядомага беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча «Вікторыя». У ёй пастаўлены важныя маральныя пытанні жыцця моладзі. Каханне, дружба, абавязак, сумленне... Адамовіч даследуе адносіны герояў без усялякага ценю павучання. Паказвае і прымушае чытача думаць.

Сучасная маладая жанчына зрабілася цэнтральным вобразам і новага твора Івана Шамякіна «Ах, Міхаліна, Міхаліна». У ім востра і цікава распрацаваны ледзь не вечны ў гісторыі літаратуры канфлікт педагагічных асноў, прынцыпаў і пачуццяў.

Акрамя таго, у рэдакцыйным партфелі «Маладосці» другая частка рамана Івана Навуменкі «Сасна пры дарозе», цыклы вершаў Аркадзя Куляшова і Петруся Броўкі, новыя апавяданні Янкі Брыля.

Раблю агаворку, што я не стаўлю сваёй мэтай падрабязна ахарактарызаваць творы гэтых вядомых беларускіх пісьменнікаў. Мая мэта іншая. Размова пра іх вялася таму, што хацелася паказаць: вось з кім побач давядзецца стаяць маладым. І трэба сказаць — такая думка рэдакцыі,— суседства гэта служыць на ўзаемную карысць, падахвочвае адных і прымушае другіх крытычна агледзецца на ўсё зробленае да гэтага часу. Тым больш што і пры добрым імені і значным літаратурным стажы бываюць самыя нечаканыя павароты.

Бывае, працуе паэт пяць, дзесяць гадоў. Усё, здаецца, адстаялася: манера, тэмы. Ужо ўсім зразумела — добры, моцны паэт. Адным словам, нібыта і чакаць нечаканасцей ад яго нельга. Ды не. Яшчэ якія раптам бываюць узлёты фантазіі, сапраўды паэтычнай!

Глядзіце з якімі цудоўнымі вершамі выступіў Аляксей Пысін. Выдатныя вершы, разумныя, глыбокія:

Байцам спявае рэквіем сасоннік,
Карэннем дол сплятаючы гусцей.
А я іх помню юнымі... І сёння
Па нейкіх рысках пазнаю дзяцей.

...Якую б даль пазнаць ні давялося,—
А ўсё ж навуку пройдзеце адну:
З драбнюткага зярнятка ўсе калоссі,
І толькі плуг ўзнімае цаліну.

Гэта сапраўдная вышыня лірызму, і, разам з тым, якія філасафічныя гэтыя вершы.

А вось зборнік яго вершаў, які нядаўна выйшаў у «Советском писателе», на маю думку, не дае такога ўяўлення пра паэта: пакуль зборнік быў у вытворчасці, мы пазналі іншага Аляксея Пысіна, яркага, самабытнага паэта, якім мы ганарымся і радуемся яго поспехам.

Калі сказаць высокім стылем, мы імкнёмся па меры сілы і магчымасці заўсёды слухаць пульс маладой беларускай літаратуры.

Па ініцыятыве «Маладосці» было праведзена тры нарады маладых пісьменнікаў. Пры патрэбе, калі компас у неабсяжным моры дасылаемых рукапісаў пачынае паслядоўна паказваць на аднатэмнасць, легкаважнасць і нуду, мы збіраем пашыранае пасяджэнне рэдкалегіі, дзе прымаем тэрміновыя меры па барацьбе з гэтымі нядобрымі з'явамі.

Але асноўны дэвіз часопіса застаецца нязменным: у кожным нумары новае імя.

Не буду сцвярджаць, што ўсе гэтыя навічкі з цягам часу зробяцца пісьменнікамі-прафесіяналамі. Бадай што, і не большасць з іх, хоць мастацкі цэнз і для першай публікацыі даволі высокі. Проста сумы жыццёвых назіранняў, якая стаіць за першым вершам, апавяданнем, можа не хапіць на наступныя. Вядома, гэта адна з прычын, аднак тут не месца аналізіраваць усе іх падрабязна.

Дастаткова сказаць, што і пры такой статыстыцы ніхто не шкадуе намаганняў — яны абавязкова акупяцца.

Маладому паэту Рыгору Барадуліну не патрэбны асаблівыя атэстацыі. Яму не вельмі шанцуе на пе-

ракладчыкаў, але яго імя добра вядома аматарам паэзіі ва ўсёй краіне, яно адно з самых яркіх у паэтычнай рубрыцы «Маладосці».

Барадулін, вядома, не эталон, але фігура ўжо настолькі прыкметная ў беларускай літаратуры, што ў штодзённай мове крытыкаў з'явілася вызначэнне — блізкі па манеры да Барадуліна і г. д.

Яшчэ адно імя ў «Маладосці» — Барыс Сачанка, чый літаратурны лёс развіваўся няпроста.

У прынцыпе пісьменнік схільны да малых формаў. Арыгінальная кніжка яго навел, што друкаваліся ў «Маладосці», шырока разышлася па рэспубліцы. А аповесць «Пакуль не развіднела» адкрыла новыя грані яго своеасаблівага даравання, з якім у гэтай новай якасці яшчэ пазнаёмяцца чытачы «Маладосці».

Пісьменнік узяў партызанскую тэму, да якой, здавалася б, цяпер, пасля эпапеі М. Лынькова, раманаў І. Шамякіна, А. Адамовіча, М. Ткачова, А. Асіпенкі, аповесцей Я. Брыля, І. Мележа, А. Кулакоўскага і яшчэ многіх і многіх, і падступіцца нельга. І ўсё ж, нягледзячы на такую шырокую распрацоўку тэмы ва ўсіх жанрах — ад дакументальнага да рамантычнага,— Сачанку чакала ўдача. І цяпер здаецца, такога твора якраз і не хапала ў нацыянальнай партызанскай эпапеі.

У востра псіхалагічнай аповесці дзеянне зведзена да адной ночы і перададзена ва ўспрыманні аднаго героя. Рэч атрымалася тонкая і разумная.

Сваім станаўленнем абавязан «Маладосці» і Іван Пташнікаў, адзін з найбольш таленавітых сярод пасляваеннага пакалення.

Малады рабочы Мінскага завода паточных ліній Валянцін Мысліве яшчэ ў мінулым годзе з'явіўся ў «Маладосці» з нарысам аб сённяшняй заводскай моладзі (заўважым, што моладзь часцей, чым пісьменнікі старэйшага і сярэдняга пакалення, звяртаецца да тэм рабочага класа). Гэта дакладныя дзённікавыя запісы, якія звязаны пэўным сюжэтам.

Прыносіў Мысліве у рэдакцыю і апавяданні, аднак гэта былі хутчэй спробы і пошукі, чым самастойныя творы. Гэтыя шуканні набылі акрэсленасць і выразнасць, вынікам якіх з'явілася яго першая аповесць «Сакавік — месяц вясельны».

Маладому пісьменніку ўдалося, не выдумляючы неверагодных здарэнняў, не беручыся дзеля займальнасці за іншыя белетрыстычныя хітрыкі, талкова і цікава запоўніць гэтыя гадзіны (дзеянне аповесці разгортваецца ўсяго адзін дзень) падзеямі, роздумам, пераключаючы іх у розныя псіхалагічныя планы, і г. д. А ўсяго і адбываецца ў аповесці, што ідзе герой на завод, займае сваё рабочае месца і... разам з тым расце, робіцца больш дарослым, мужнее.

Усяго некалькі гадоў назад у «Маладосць» прынёс сваё першае апавяданне Алесь Савіцкі. Зараз ён член рэдкалегіі часопіса і дарадчык многіх пачынаючых. Зусім нядаўна Савіцкі надрукаваў у нас сваю новую аповесць — «Самы высокі паверх».

Сярод тых, хто сур'ёзна працуе ў літаратуры, варта згадаць частых гасцей на старонках «Маладосці» апавядальнікаў Вячаслава Адамчыка, Івана Чыгрынава, Уладзіміра Дамашэвіча...

Некалькі слоў пра паэтаў апошняга прызыву.

Першы зборнік Анатоля Сербантовіча яшчэ ў наборы, але большасць вершаў, якія ўвайшлі ў яго, знаёмы чытачам «Маладосці».

Назва зборніка — «Азбука» — у нейкай меры праясняе дух паэзіі Анатоля Сербантовіча: уяўная азбучнасць звычных ісцін набывае ў яго вершах першапачатковы сэнс.

Іншае мы бачым у Генадзя Бураўкіна — паэтычная палымянасць, пафас грамадзянскасці. Ён ужо моцна стаў на ногі.

На старонках «Маладосці» зрабіліся звычнымі імёны Васіля Зуёнка, Івана Арабейкі, Міхася Рудкоўскага, Веры Вярбы, Дануты Бічэль, празрыстая, раздумлівая лірыка якой уся пра родны край, пра родны народ. Карэннямі, усёй існасцю сваёй яна звязана з імі. Тут вытокі яе ярка нацыянальнай і таму самабытнай паэтыкі.

У сучаснай літаратурнай моладзі, у тым ліку і ў маладых аўтараў нашага часопіса, ёсць сярод іншых адно бясспрэчнае правіла: гэта абавязкова людзі значнай культуры і шырокага далягляду.

Пра гэта, менавіта, сведчаць іх шырокія сувязі з пісьменнікамі брацкіх зарубежных літаратур, асабліва чэшскай, польскай, балгарскай.

Ведаючы мовы, яны ўспрымаюць усе навінкі, напрыклад, польскай літаратуры, з першых рук; наглядаюць, параўноўваюць, робяць вывады.

Паэта Ніла Гілевіча мы ў апошнія гады атэстуем паўпрэдам беларускай культуры ў Балгарыі. Ён спецыялізуецца ў галіне славянскай філалогіі, знаёміць чытачоў «Маладосці» з лепшымі творамі балгарскай паэзіі. Яго стараннасцю зрабіліся вядомымі ў Балгарыі і многія творы нашай літаратуры.

Гілевіч не адзінокі на гэтай лініі сувязі. Літаратар Аляксандра Захарэнка ў адным з нумароў «Маладосці» надрукавала нарыс «Ненапісаная аповесць», прысвечаны беларускай партызанцы, гераіні балгарскага народа Ліляне Карастаянавай. Нарыс адразу перадрукавалі на яе радзіме ў Балгарыі. Даволі цікавая яе праца пра камсамольцаў-падпольшчыкаў з Палесся.

Яшчэ адна серыя пытанняў, якія хвалююць маладых і ў пэўнай меры знаходзяць адлюстраванне на старонках «Маладосці»,— стыль, яго чысціня і выяўленчыя магчымасці.

Паколькі беларуская літаратурная мова з прычыны пэўных гістарычных умоў з'явілася ў асноўным непасрэдным адбіткам мовы народнай, вуснай, пісьменнікі рэспублікі і цяпер з асаблівай руплівасцю і тэарэтычна і ў літаратурнай практыцы вывучаюць і правяраюць законы і якасці выразнасці вуснай мовы. У гэтым плане зрабіўся актуальным, зноўтакі з прычыны спецыфікі беларускага ў параўнанні з мовамі, якія даўно сфарміраваліся, працэс адбору лексічных багаццяў з дыялектаў.

У прыватнасці ў свой час узнікла дыскусія пра стыль Ц. Гартнага, у ходзе якой многія даследчыкі папракалі аднаго з пачынальнікаў беларускай прозы, што ён злоўжываў дыялектызмамі. Адзін з аўтараў «Маладосці» малады даследчык А. Яскевіч даказаў, што ў першапачатковы перыяд станаўлення беларускай прозы, калі стаяла задача зачэрпаць багацце народнага слова з усіх куткоў Беларусі і ўвесці ў літаратурную мову, такое шырокае выкарыстанне народнай дыялектнай лексікі было адзіна правільным.

З другога боку, звяртаючыся да сённяшняй прозы, менавіта маладыя выступаюць за строгі адбор

дыялектызмаў. З гэтых пазіцый пісьменнік і крытык Міхась Стральцоў, пастаянны аўтар «Маладосці», выступіў з разборам стылістычнай манеры пісьменнікаў старэйшага пакалення, у прыватнасці Аляксея Кулакоўскага, папракаючы яго ў залішняй схільнасці да дыялектызмаў. Ды і агульная маса маладых упэўнена ў тым, што на сучасным этапе літаратурнае слова, выверанае дзесяцігоддзямі, мае перавагу перад словам мясцовага ўжытку.

Дарэчы, вялікую ролю у выпрацоўцы стылю, развіцці лексічных пластоў адыгрывае пераклад, які вымагае ад літаратуры мабілізаваць увесь арсенал сродкаў, які яна мае. А перакладамі моладзь займаецца многа і ахвотна.

Зараз уся беларуская пісьменніцкая арганізацыя жыве ў чаканні чарговага з'езда літаратараў рэспублікі. Натуральна, што да яго рыхтуецца і наша «Маладосць», бо для яе гэта будзе агляд сіл новага папаўнення.

У кожным нумары часопіса публікуюцца матэрыялы пад дэвізам з'езда: артыкулы і роздумы, планы і меркаванні, трывогі маладых і масцітых.

*1966*

## ГІМН ЧАЛАВЕКУ

У гэтыя верасnёўскія дні грузінскі народ, а разам з ім і ўсё чалавецтва адзначаюць васьмівяковы юбілей геніяльнага паэта і філосафа Шата Руставелі.

З цемры сярэднявечча дайшлі да нашых дзён магутныя і пяшчотныя, неўміручыя строфы яго паэмы «Віцязь у тыгравай шкуры».

Гуманістычны пафас паэмы, услаўленне чалавечнасці, кахання і вернай дружбы, мужнасці і братэрства параднілі паэму вялікага Шата з нашым часам, з усімі савецкімі людзьмі.

Беларускі народ даўно ведае, любіць і высока цэніць натхнёную паэзію Руставелі.

Мы і сёння з гордасцю паўтараем мудрыя, блізкія нам па духу радкі Шата Руставелі, якія гучаць гімнам чалавеку:

«Лучше гибель, но со славай,
Чем бесславных дней позор».
«Надо жить во имя жизни,
За живущих жизнь отдать».

*1966*

# СЦЯГІ ВЫЗВАЛЕННЯ

Чырвоныя сцягі і зялёнае лісце... Два колеры валадараць сёння над прасторамі Беларусі. Наш народ святкуе дваццаць пятую гадавіну вызвалення ад фашысцкай навалы.

У Мінск з'ехаліся праслаўленыя героі чатырох франтоў: палкаводцы, афіцэры, салдаты.

Горача абдымаюцца пасівелыя партызаны, успамінаюць апошнія бітвы, наведваюць апошнія стаянкі сваіх легендарных брыгад.

На нашых вуснах зноў гучаць словы ўдзячнасці салдатам і афіцэрам часцей і злучэнняў, якія носяць назвы Мінскіх, Віцебскіх, Магілёўскіх, Бабруйскіх, Барысаўскіх...

Але першы нізкі паклон тым, хто навечна застаўся ў беларускай зямлі, аддаў жыццё за яе вызваленне. Іх цяжка пералічыць, але забыць немагчыма. Светлыя імёны герояў навечна высечаны на тысячах помнікаў гарадоў і вёсак Беларусі, у памяці народа. Мы ганарымся сваімі прыгожымі гарадамі, заводамі, калгаснымі сёламі. Але мы добра ведаем і тое, што не было б такога росквіту, такой індустрыі, такой радасці, каб не дапамога братніх народаў.

Як жа не славіць нам сацыялістычнае братэрства, без якога мы не ўяўляем свайго жыцця, жыцця нашых дзяцей, нашых нашчадкаў!

Нястомная, палымяная праца Камуністычнай партыі зрадніла ўсе савецкія народы. Мы ўсе жывём у самай моцнай, самай працавітай, самай шчырай інтэрнацыянальнай сям'і.

Успамінаюцца шматлікія сустрэчы ў розных кутках савецкай зямлі. На Житоміршчыне нас акружылі ўкраінцы — беларускія партызаны. Асабліва запомнілася адна жанчына. Яе, параненую сувязную, выратавалі брагінскія партызаны.

У Тбілісі да нас у гасцініцу прыйшоў генерал, былы лётчык, які пачаў біць нямецкіх асаў з першага дня вайны над Беластокам. А мы грузінскім сябрам расказалі пра месца, дзе пахаваны слаўны воін і паэт Мірзо Гелавані.

У Маскве і Кіеве, Ташкенце і Алма-Аце, на Енісеі і Волзе жывуць нашы дарагія браты і сёстры, што

вызвалялі Беларусь ці змагаліся ў беларускіх партызанскіх атрадах. У нас і ў іх сёння агульнае, крэўнае свята.

Але і ў дні ўрачыстасці — прыслухайцеся,— жалобна і трывожна гучаць хатынскія званы. Святая зямля 136 вёсак, спаленых разам з жыхарамі, захавана на хатынскім папялішчы. А мне ўспамінаецца вёска Казулічы, дзе я калісьці настаўнічаў. Маіх добрых суседзяў фашысты сагналі ў вятрак і спалілі...

Гэты боль беларускай зямлі, вялікі і непагасны, як непагасна і наша нянавісць да фашызму. Тое, што перажыў беларускі народ, проста няма з чым параўнаць. У тыя горкія дні я пісаў:

Зямля беларуская, кім ты прызначана
Арэнаю быць нечуваных баёў?
Дзяржавы прыходзяць свой лёс перайначваць
Да рэчак тваіх, паплавоў і гаёў.

Агнём і касцямі, крывёй і жалезам
Угнойваюць войны твае балаты.
З усёй планеты салдаты лезуць
Памерці на нашых пясках залатых...

Крывёю набухлі дубровы і травы,
Блакіт спапяляюць крывавыя зоры.
Ты маеш, ты маеш, зямля мая, права
На большае шчасце, на меншае гора.

Гады фашысцкага пекла зрабілі сваю чорную справу. Беларусь была зруйнавана, спустошана. Маршал Савецкага Саюза Г. К. Жукаў успамінае: «Самае цяжкае ўражанне рабілі людзі, жыхары Мінска. Большасць іх была дарэшты знясілена, змардавана, па тварах многіх каціліся слёзы...» Гэта былі першыя слёзы радасці. Пра гэтыя слёзы, пра бясконцую ноч фашысцкай няволі, пра гераізм беларускіх партызан і падпольшчыкаў, пра ўсенародны патрыятызм савецкіх людзей напісалі добрыя кнігі і самі партызаны, і пісьменнікі розных пакаленняў. Асабліва пераканальна гучаць раманы, аповесці, апавяданні і вершы тых, хто сам усё гэта перажыў, чыё растаптанае вайной маленства да канца жыцця будзе самым горкім успамінам.

А вось пра гераізм савецкіх воінаў, пра нашу магутную і непераможную армію напісана мала. Вочы, якія бачылі гора і смерць на акупіраванай бела-

рускай зямлі, павінны часцей успамінаць воблік воінаў з чырвонай зоркай на пілотках, іх бяссмяротныя подзвігі. Мы, пісьменнікі, у неаплатным даўгу перад Чырвонай Арміяй і перад тымі рабочымі, жанчынамі, падлеткамі, якія кавалі нашу перамогу на Урале і Сібіры, на Волзе і за Волгай.

Няма тэмы больш важнай для пісьменніка, чым савецкі патрыятызм, гераізм нашых людзей. Вялікай любоўю да Радзімы і Ленінскай партыі мы павінны асвятляць усе нашы кнігі, каб агонь патрыятызму і гераізму ніколі не пагасаў у сэрцах нашых дзяцей і ўнукаў, у сэрцах будучых пакаленняў. Гэтага патрабуюць чалавечая памяць, імёны загінуўшых, наш суровы і трывожны час, свежыя магілы вострава Даманскага... Шалёны голас новых фашыстаў даносіцца з-пад Рэйна.

Мы святкуем слаўную гадавіну вызвалення, але ні на хвіліну не павінны забываць, што народ В'етнама дзень і ноч адважна змагаецца за сваё вызваленне. Званы Хатыні пераклікаюцца з журботнымі гонгамі В'етнама.

Сэрца пісьменніка павінна чуйна слухаць грозны голас нашай эпохі і быць заўсёды на варце.

*1969*

# НАШ НЕЗАБЫЎНЫ ДРУГ *

Памёр Мікалай Іванавіч Рыленкаў — выдатны рускі савецкі паэт.

Цяжка пісаць пра смерць нашага добрага друга, цудоўнай душы чалавека. Сорак гадоў усхвалявана гучаў ясны і чысты паэтычны голас Мікалая Рыленкава.

Шчырая любоў да роднай зямлі, да людзей, якія жывуць ля старой смаленскай дарогі, напоўніла дваццаць яго таленавітых кніг. Мікалай Іванавіч жыў у Смаленску, але паэтам ён быў усесаюзнага гучання. У самых далёкіх кутках нашай неабдымнай Радзімы чытаюць і будуць чытаць яго празрыстыя вершы пра непаўторную прыроду рускага Прыдняпроўя, спяваюць песню пра дзяўчынку, якая ходзіць па полі, дзе цвіце блакітны лён.

Заўсёды савецкія людзі, удзячныя чытачы будуць зноў і зноў звяртацца да мудрай філасофскай лірыкі паэта.

Мікалай Іванавіч быў нашым добрым суседам. Беларускія паэты гасцілі ў яго старажытным Смаленску, а Рыленкаў часта наведваў Беларусь, добра ведаў і любіў беларускі народ, яго песні, яго літаратуру.

Мікалай Рыленкаў зрабіў нямала высокамастацкіх перакладаў з нашай паэзіі, і мы яму бясконца за гэта ўдзячны.

Ён прыязджаў да нас не толькі ў дні юбілеяў ці з'ездаў. Паэт часта выступаў у нас на нарадах маладых пісьменнікаў, на семінарах перакладчыкаў, выступаў з чытаннем сваіх твораў у многіх гарадах і вёсках Беларусі. Мікалай Іванавіч актыўна ўдзельнічаў у нашых надзённых справах: і ў Маскве, і ў Мінску ён выступаў у абмеркаваннях беларускіх часопісаў, кніг, праблемных пытанняў.

Яго слова заўсёды было важкае, аўтарытэтнае і горача ўспрымалася слухачамі. У мінулым годзе Вярхоўны Савет БССР узнагародзіў Мікалая Рыленкава Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

---

* Слова напісана сумесна з Петрусём Броўкам і Максімам Танкам.

Мы ніколі не забудзем шматлікія сяброўскія размовы з Мікалаем Іванавічам. Ён многае ведаў, глыбока і нечакана пра многае думаў. Яго заўсёды нешта хвалявала, і жыў паэт у вечным неспакоі.

«Слова аб палку Ігаравым» і лёс старажытных храмаў, праблемы мовы і мастацкага перакладу, справы музеяў і ахова лясоў і азёр, забытыя паэты і новыя таленты — да ўсяго ў Мікалая Іванавіча была непагасная і дзейсная зацікаўленасць.

Ва ўсіх словах і справах Рыленкава ярка праяўляўся цэльны, непаўторны воблік рускага народнага паэта, савецкага патрыёта.

Беларускія пісьменнікі ў жалобе схіляюць сёння галовы над магілай нашага дарагога друга і брата.

*1969*

# У СЭРЦАХ БЕЛАРУСАЎ

Буйнейшы майстар рускай паэзіі Міхаіл Васільевіч Ісакоўскі ўдастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы. Беларускія пісьменнікі ад усёй душы віншуюць нашага дарагога друга са слаўным сямідзесяцігоддзем і высокай узнагародай.

Уся творчасць Міхаіла Васільевіча — гэта паэтычная гісторыя савецкага грамадства. Ды адны толькі яго песні — неацэнны скарб рускай культуры!

Часцей за ўсё мы запамінаем імя кампазітара, які напісаў песню. А вось калі назваць: «Дан приказ: ему — на запад», «И кто его знает», «Провожанье», «Катюша», «Шел со службы пограничник», «Где ж вы, где ж вы, очи карие?» — кожны скажа, што гэта песні Ісакоўскага.

Дарэчы, пра карыя вочы і добрую краіну Балгарыю. У верасні мінулага года балгарскія сябры запрасілі групу савецкіх пісьменнікаў прыняць удзел у юбілейным святкаванні. Гаспадары і госці горача спрачаліся пра літаратуру, прамаўлялі тосты братэрства, спявалі песні. І, нібыта выпадкова, балгарскія спявачкі для кожнага госця выконвалі песню пра яго рэспубліку ці родны горад. Для беларускага паэта яны раптам заспявалі «Ой, туманы мои, растуманы...» Пра тое, як выпраўляліся ў паход партызаны і на старой смаленскай дарозе сустрэлі няzваных гасцей. І яшчэ там былі прарочыя словы аб вялікай нашай журбе, аб народнай помсце. І зноў сціснулася сэрца, як заўсёды, калі чуеш гэту цудоўную песню Міхаіла Ісакоўскага. Гэтую песню любяць не толькі землякі Міхаіла Васільевіча, нашы добрыя сябры і суседзі — смаляне, яе любіць увесь беларускі Народ-Партызан. У нас і журба, і радасць агульныя, і ніколі не будуць забыты тыя дні, калі на старой смаленскай дарозе, як браты, мы змагаліся супраць лютага ворага.

Беларусам заўсёды асабліва блізкая лірыка Ісакоўскага, яе мудрая прастата, сапраўдная народнасць, добры гумар. Міхаіл Васільевіч быў сябрам нашых Янкі Купалы і Якуба Коласа, многа перакладаў іх, а таксама Максіма Багдановіча, Аркадзя Ку-

ляшова і іншых нашых паэтаў. Перакладаў ён і беларускія народныя песні. Ды і сама тэма Беларусі займае значнае месца ў творчасці паэта («Восень 1939 года», «Беларуская песня» і іншыя). Мы ўдзячны Міхаілу Васільевічу і за выдатны пераклад песні «Бывайце здаровы, жывіце багата», якая цяпер вядома ўсёй краіне.

Многа твораў Ісакоўскага перакладзена на беларускую мову.

Некалькі пакаленняў нашых паэтаў сустракаліся ў пачатку творчага шляху з Міхаілам Васільевічам, чулым, але строгім настаўнікам. І заўсёды ён называў дакладны адрас паэзіі: жыццё народа, ідэі Леніна, любоў да Радзімы, чыстая крыніца роднай мовы.

Жадаю вялікаму працаўніку і майстру добрага здароўя. Звяртаючыся сёння да Міхаіла Васільевіча Ісакоўскага, хачу сказаць яго ж словамі:

Поклоном благодарным
Поклонятся тебе;
Поклонятся всем сердцем
За все твои дела...

*1970*

## ЧЫМ ЖА «КАМЕННЕ» ЛЕПШ ЗА «ПЯСОК»?

Васіль Раслякоў выступіў з грунтоўным артыкулам, падмацаваўшы свае вывады мноствам вершаваных цытат. Прыклады добрай паэзіі, якія прывёў аўтар, інакш і не назавеш, як залатымі. Гэтыя цудоўныя строфы і радкі цытавалі і пяць, і дзесяць, і дваццаць гадоў таму назад. Чытачы і крытыкі адзінадушна прызналі іх шэдэўрамі. Таму сваю ўвагу В. Раслякоў сканцэнтраваў на іншым: «...Размова ідзе пра выдатна напісаныя, але пустыя і дробныя вершы». Але, прабачце, выдатна напісаныя вершы і ёсць выдатныя вершы, і нішто іншае! Такім чынам, папрок удзельнікаў дыскусіі з прычыны гэтага сцвярджэння В. Раслякова зусім абгрунтаваны.

Акрамя таго, мне здалося, што ў яго артыкуле там-сям прамільгнула нейкая паблажлівая перавага крытыка над паэтамі. Праўда, часамі прарываецца і захапленне: расказваючы, як Е. Ісаеў чытае «нікому яшчэ невядомае» з сваёй будучай паэмы, Б. Раслякоў піша: «...не пясок паміж пальцамі — каменні падаюць, кожнае слова каменем падае». І гэта пра паэзію! Прызнацца, я так і не зразумеў, чым каменне, якое падае, лепш за пясок, які сыплецца. Баранісі божа такую пахвалу міма, калі тут сапраўды выказана адабрэнне паэту!

Прырода не церпіць аднастайнасці. Так і паэзія. Яна жыве і развіваецца і часцей, як гэта здаецца В. Раслякову, радуе чытача. І ці варта было, прачытаўшы цудоўныя вершы Сяргея Арлова «Его зарыли в шар земной...»,— адразу ўпірацца ў іх ілбом? Савецкая паэзія багатая сваёй разнастайнасцю і самабытнасцю, глыбінёй і шматфарбнасцю. А дрэнныя вершы — не паэзія.

Усім нам дарага творчасць Твардоўскага, Смелякова, Турсун-задэ, Гамзатава, Броўкі, Куляшова, Танка, Мустая Карыма, Каладзе, Куліева, Кугульцінава, Бажана, Межэлайціса, Марцынкявічуса, Бергольц... Іх вершы хочацца чытаць, перачытваць цытаваць. А я ж назваў усяго некалькі імён. Але нават творы гэтых буйнейшых майстроў ужо з'яўляюцца неацэнным багаццем савецкай літаратуры. Коль-

касць сапраўдных паэтаў, якія плённа працуюць у ёй, куды большая, і ні пра якое збядненне паэтычнай нівы не можа ісці гаворкі.

Прывяду некалькі прыкладаў.

У другой кнізе «Нового мира» за 1971 год надрукаваны цудоўныя вершы Леаніда Первамайскага, мужныя, магутныя, шчырыя. У вершы «Раны» ёсць такія радкі:

Нет, сердце помнит все,
 Никак не сладишь с ним,
Хоть с тесною тюрьмой
 грудная клетка схожа.
Плати! И если боль
 ты причинил другим,
Она, как бумеранг,
 тебя сразила тоже.
*(Пераклад Я. Хелемскага)*

А перачытайце вершы апошніх гадоў Аляксандра Твардоўскага — яны мудрыя, прасветленыя, хоць трохі і журботныя...

Альбо вось выдатныя, на мой погляд, кнігі М. Танка «Мой хлеб надзённы» і «Глыток вады».

Асацыятыўны свет паэта шырокі і арыгінальны. Яго вершы, прысвечаныя землякам-калгаснікам,— гэта і трапна схопленыя, важныя імгненні, і карціны жыцця, і раздумье, і глыбокае перажыванне адначасова. Мы адчуваем карнявую сувязь паэта з роднай беларускай зямлёй, з усёй вялікай Радзімай. Адчуваем натуральную, заўсёды па-свойму пранізлівую чалавечнасць вялікага майстра, які не мысліць сябе адлучаным ад турбот і трывог нашага неспакойнага веку.

А вось вершы пра каханне. І пра багацце роднай мовы. Мы ізноў чуем тую ж хвалюючую мелодыю праслаўлення чалавека, пафас усепераможнага жыццесцвярджэння:

Растуць нашы словы, як дрэвы.
Вазьмі хоць бы слова «Любоў»
І прасачы ўсе напевы
Галінак яго і лістоў.

Любоў мая. Любачка. Любка.
А Любчаў, Любанеў — больш ста.
Прылюбчыкаў, Любчыкаў — лубка.
Ну, проста адна любата!

Як дрэвы, растуць усе словы,
Ўздымаючы кроны свае,
Дзе вецер гуляе вясновы,
Птушынае племя пяе.

Нядаўна выйшаў новы зборнік вершаў і паэм Аркадзя Куляшова «Сасна і бяроза». Тэмы спрадвечныя, але заўсёды новыя пад таленавітым пяром, нараджаюць цуд сапраўднай паэзіі.

Роздум пра чалавека, жыццё, час — сутнасць паэзіі. Але, агаворваюся, не пасіўна-сузіральны, а гарачы і актыўны, са спачуваннем і надзеяй у сэрцы.

Новая кніга Аркадзя Куляшова, як і вершы Максіма Танка, прасякнута пачуццём высокай адказнасці перад народам, партыяй за сваю паэтычную працу. Гэтыя вершы і па-зямному канкрэтныя, і глыбока філасафічныя...

Дазвольце прывесці цалкам адзін верш з кнігі А. Куляшова «Сасна і бяроза»:

Палын не трэба ні млынам, ні зводкам.
Нядолі дар, ён быў адвечным сродкам
Гаротных жней, якія ад грудзей
Гаркотаю адважвалі дзяцей,—

Каб стаць хутчэй маглі яны на ногі,
Каб адкрывалі з дапамогай рук
Хат курадымных бітыя парогі...
Я з ім жыццё прайшоў — былы хлапчук —

Ад першых крокаў пад бацькоўскай лавай
Да баявых сцягоў, што мы са славай,
Не падаючы, неслі праз вайну,—
За гэта ўсё мы ўдзячны палыну!

Палын — і клопат матчын, і дарога,
І слёзы, і ўспамін сіроцкіх меж,
І горыч малака таго, якога
Ніякай смагай з вуснаў не сатрэш.

Калі чытаеш такія вершы, зусім не думаеш пра праблему змястоўнасці паэзіі, але з хваляваннем і ўдзячнасцю паэту вяртаешся да іх зноў і зноў.

Яшчэ прыклад — кніга Аляксандра Межырава «Познія вершы». У гэтым зборніку мы знойдзем і даўно знаёмыя радкі, якія мы палюбілі, і новыя. Але нарадзілася цэласная кніга, поўная ўнутранага драматычнага адзінства.

Просыпаюсь и курю...
Засыпаю и в тревожном
Спе о подлинном и ложном
С командиром говорю.

Паэзія наша непазбыўная, як само наша жыццё з яго пастунальным рухам.

Што і казаць, вершы Андрэя Вазнясенскага, Яўгенія Еўтушэнкі, Роберта Раждзественскага, Мікалая Рубцова, Уладзіміра Сакалова палюбіла моладзь. Адкуль гэта ўвага? Эстрада? Імкненне знайсці новыя, незвычайныя, часам экстравагантныя формы? Але ж такое было ва ўсе часы. Было і праходзіла. Дык у чым жа прычына той устойлівай цікавасці, якую праяўляем усе мы да творчасці названых паэтаў? Прычына ў важкасці і неардынарнасці зместу (змястоўнасці) іх паэзіі.

Талент, шчырасць, здольнасць улавіць дух часу і выказаць яго пякучымі словамі — вось што прываблівае і будзе прываблівацьчытачоў да лепшых. Выдаткі? Зрывы? А калі і ў каго іх не было? Уся справа ў здольнасці своечасова іх пераадолець.

У беларускай паэзіі таксама ўзмужала і працуе на поўную сілу нямала таленавітых паэтаў: Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Янка Сіпакоў, Юрась Свірка, Вера Вярба. Тэма іх вершаў — сучаснасць. Але яны часта пішуць і пра вайну. А, уласна кажучы, хто паставіў «табу» на гэтай тэме, калі за яе бярэцца не ўдзельнік вайны? Паэты, якіх я назваў, былі ў тыя гады дзецьмі. Яны столькі зазналі гора, гэтыя партызанскія дзеці, столькі пабачылі смерці і пажараў... Не сумняваюся, што гэта пакаленне беларускіх паэтаў, якое працуе з зайздроснай актыўнасцю, скажа сваё слова і на ваенную тэму. Я не раблю ім лíслівыя закіды. Дарэчы, такія творы ўжо ёсць. Гэта, напрыклад, цудоўныя вершы Рыгора Барадуліна, яго паэма «Блакада».

Я заўсёды з прагнасцю накідваюся на новыя вершы Івана Драча, Віталія Кароціча, Аяра Вацыеціса, Алжаса Суляйменава і некаторых іншых паэтаў з розных рэспублік нашай краіны, якія мне палюбіліся.

Але бываюць і засмучэнні. Вось, як кажуць, зусім свежы прыклад. У сёмым нумары «Юности» змешчаны вершы добрага рускага паэта Станіслава Куняе-

ва, першыя кнігі якога былі сустрэты ўсімі так добразычліва. На вялікі жаль, у новых сваіх вершах паэт не пазбег банальнасці, а то і проста безгустоўнасці:

Слова звучали невпопад,
Сияли два прекрасных глаза,
И колыхался белый бант
От звуков городского джаза.

Для таленавітага беларускага лірыка Аляксея Русецкага заўсёды было характэрным імкненне знайсці новую тэму, а старую «вечную» тэму павярнуць па-новаму. Але ў апошніх вершах, не гэтак даўно апублікаваных часопісам «Полымя», паэта спасцігла відавочная няўдача. Асабіста мяне вельмі засмуціў верш пра Месяц «у нябесным адзенні», які праплывае накшталт выспы таемнага кахання.

Шкада, што паэт, які піша пра заваёву Космасу, выкарыстаў словы і вобразы з асартыменту сентыментальнага раманса.

...Васіль Раслякоў раіць паэтам: «Памаўчы трохі, дай душы тваёй назапасіць новыя сілы, новыя словы, новыя клятвы, новыя праклёны, перачакай, напаі сябе патрачаным святлом, жыццём, яго гукамі, фарбамі, плачам яго і смехам». Што і казаць — добрая парада.

А як жа быць з дрэннымі вершамі? Іх не трэба друкаваць. Можаце сказаць: наіўна. Але задумайцеся, колькі ў нашай краіне выдавецкіх працаўнікоў, літаратурных кансультантаў! І калі паток шэрых, рамесніцкіх твораў усё яшчэ прарываецца праз заслоны, заставы, кардоны, значыць, трэба падумаць: ці ўсё добра ў літаратурных аддзелах нашых часопісаў, газет, выдавецтваў? Ды і шматлікі атрад крытыкаў абавязаны працаваць больш смела, аператыўна, прынцыпова.

*1971*

## СЛОВА ПАВАГІ І ЎДЗЯЧНАСЦІ

Пасля вайны ў Мінску пачаў выходзіць сатырычны часопіс «Вожык». Працавалі ў ім пісьменнікі і мастакі — былыя франтавікі і партызаны, народ вясёлы, вопытны.

Мы збіраліся раніцай (уся рэдакцыя змяшчалася ў невялікім пакоі ў Доме друку) і браліся за справу: правілі допісы, пісалі фельетоны, рабілі подпісы пад карыкатурамі. Было шмат жартаў, смеху, але «знаходак» было мала. Затым прыходзіў галоўны рэдактар Кандрат Кандратавіч Крапіва і хітравата пытаў:

— Ну, ці многа нарагаталі?

Уважліва чытаючы нашы подпісы, Кандрат Кандратавіч ніколі не гаварыў: «Гэта кепска, слаба, не смешна». Ён як бы раіўся: «А можа, так будзе лепш?» Зменены радок, тры-чатыры словы, дапісаныя Крапівой, надавалі дасціпнасць і з'едлівасць сатырычным подпісам.

Мне ўспомнілася сумесная праца ў «Вожыку» таму, што ўсе мы бачылі сапраўднага чалавека, камуніста, для якога праца для народа, для партыі былі важней за ўсё.

У 1941 годзе мне пашчасціла разам з Крапівой працаваць у франтавым друку на Заходнім і Бранскім франтах. Кандрат Кандратавіч быў для нас прыкладам сапраўднага воіна, вытрыманага, дысцыплінаванага, бязмежна адданага Радзіме, які ні на хвіліну не сумняваўся ў перамозе. У той час патрыятычнае слова пісьменніка — журботнае ці гнеўнае, лірычнае альбо сатырычнае — значыла вельмі многа. І сёння, калі беларускі народ адзначае 75-годдзе свайго вялікага сына, я пасылаю старэйшаму таварышу і настаўніку Кандрату Кандратавічу Крапіве словы гарачай любові, глыбокай павагі і ўдзячнасці.

*1971*

## ПРА СЯБЕ

Задоўга да імперыялістычнай вайны мае бацькі — беларускія сяляне — паехалі ў Прыбалтыку ў пошуках заробку і пачалі працаваць на судабудаўнічым заводзе ў Рэвелі (цяпер Талін), там я і нарадзіўся 23 жніўня 1917 года.

Сам я і Талін, і Рыгу, і Балтыйскае мора па-сапраўднаму ўбачыў у канцы саракавых гадоў. Убачыў і моцна палюбіў. Зрэшты, любоў да балтыйскіх земляў і гарадоў, да іх людзей ува мне жыла заўсёды. Бясконцыя расказы маці, эстонскія і латышскія словы і сказы, якія яна часамі ўжывала, успаміны аб тым, як у Рэвелі рабілі рэвалюцыю, ды і свае нейкія невыразныя прывіды мора і караблёў — пакінулі трывалы след.

У мястэчку Бягомль, у дрымучых лясах вярхоўя Бярэзіны, прайшло маё дзяцінства.

Пасля грамадзянскай вайны бацька працаваў дзесятнікам, аб'ездчыкам, прарабам, ляснічым. Я часта ездзіў з ім то на пасадку лесу, то на новыя распрацоўкі і кожны раз бачыў многа новага і цікавага ў жыцці леснікоў, лесарубаў, возчыкаў, падсочніц, сплаўшчыкаў. Мяне заўсёды здзіўляла, якія ў нас разнастайныя, непаўторныя лясы: магутныя пушчы, заўсёды ўсхваляваныя асіннікі, звонкія высокія бары, прасторныя дубровы, вясёлыя бярозавыя гаі, застыўшыя ў непрыступных калонах ельнікі, калінавыя і чарэмхавыя зараснікі... Для беларускіх хлапчукоў лес — першая школа, зялёная энцыклапедыя. Ён шуміць, пяе, шалясціць, кукуе, перагукваецца, вые, гудзе, грозна маўчыць. Духмяная звонкая зямля, родны дом, напоўнены казкамі, паданнямі, легендамі. З малых гадоў усе мы вучыліся пасвіць у лесе кароў, збіраць ягады і грыбы, вязаць венікі, выразаць з балотнай бярозы чачоткавыя кіі, а з лазы дудкі і свісткі, знаходзіць птушыныя гнёзды, запасаць на зіму арэхі і рабіну. Мы ніколі не баяліся свайго лесу. Пазней, у гады Айчыннай вайны, беларускі лес для многіх стаў надзейным абаронцам.

У Бягомлі я закончыў сямігодку, прачытаў ледзь не ўсе кнігі ў школьнай і раённай бібліятэках. Бягомльскі раён быў адным з самых бедных у рэспуб-

ліцы. Зямля радзіла мала — яна была густа пасыпана каменнямі. Збяруць іх вясной, засеюць палі, а на другі год каменя вылазіць яшчэ болей. Раён наш быў награнічным, і мы з піянерскіх гадоў былі прывучаны глядзець: ці не з'явіўся ў нашых лясах чужынец, шпіён. Пры ўсёй нашай павышанай класавай свядомасці мы ўсё ж пабойваліся лесуноў, заломаў, любілі святкаваць купалле, каляды, вялікдзень.

Калі мне споўнілася трынаццаць гадоў, я ўпершыню трапіў у Мінск — дэлегатам Усебеларускага злёту піянераў.

Потым мы пераехалі ў Бабруйск.

У шаснаццаць гадоў я стаў рабочым Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната, дзе пачалі працаваць і мае бацькі.

З восені 1934 года я быў настаўнікам у Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласці, спачатку ў пачатковай школе, а пасля ў сярэдняй, і вучыўся ў Мінскім настаўніцкім інстытуце.

Сельскі настаўнік заўсёды перагружаны. Падрыхтоўка да ўрокаў, гурткі і даклады, антырэлігійная прапаганда і многае-многае іншае.

Тады было страшэннае бездарожжа. Праўленне калгаса выдзеліла для мяне каня; я і цяпер успамінаю вясновую бездараж і разбухшыя ад гразі палявыя дарогі, па якіх я паціху ехаў на куставую настаўніцкую нараду і вяртаўся цёмнай ноччу ў сваю вёску. Канікулы праводзіў у Мінску. Былі прачытаны абавязковыя і неабавязковыя інстытуцкія класікі, але класіка мяне ў той час мала цікавіла. Усё часцей і часцей я заглядваў у трохпавярховы зялёны Дом пісьменніка, каб паслухаць ці проста паглядзець на нашых жывых пісьменнікаў — Купалу, Коласа, Бядулю. З Мінска заўсёды прывозіў чамадан кніг. Для мяне адкрываўся новы паэтычны сусвет.

Самым «маім», самым неабходным на ўсё жыццё зрабіўся для мяне Уладзімір Маякоўскі.

Друкавацца я пачаў у 1934 годзе. У 1938 годзе выйшаў мой першы зборнік вершаў «Упэўненасць». У тым жа годзе я быў прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў.

Наязджаючы ў Мінск на пісьменніцкія пленумы, я слухаў бясконцае мноства палымяных прамоў, а ў душы нарастала нейкая няясная трывога.

Я не «вывучаў жыццё», я проста жыў у вёсцы, сярод калгаснікаў, і ўсе іх радасці і беды былі маімі.

Крыклівая бадзёрасць і барабанныя оды не мелі нічога агульнага з нашай верай у рэвалюцыю, сацыялізм, з аптымістычнай асновай нашага жыцця.

У 1939 годзе я прыехаў у Мінск.

Удзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі.

З восені 1939 па 1946 год служыў у Чырвонай Арміі. Пачалася служба мая ў армейскай газеце. Тут мяне і застала вайна. Ніколі не забуду адступлення. Штаб фронту мы адшукалі пад Магілёвам. Спачатку я працаваў у франтавой газеце «Красноармейская правда». У ліпені 1941 года была створана франтавая газета «За Савецкую Беларусь». У нас быў невялікі, але добры пісьменніцкі калектыў: Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва, Ілья Гурскі, Пятро Глебка, Васіль Барысенка, Алесь Стаховіч.

Пазней з Масквы прыехалі Пятрусь Броўка, Максім Танк, Алесь Кучар.

У 1942 годзе служыў у франтавой газеце «За свабодную Беларусь» на Калінінскім фронце.

Увесь 1943 год правёў на Паўночна-Заходнім фронце. Тут я быў прыняты ў рады партыі.

У армейскай газеце «Героический штурм» я пазнаёміўся, а пазней і пасябраваў з Міхаілам Аркадзьевічам Святловым. Як паэта я ведаў і высока цаніў яго даўно. Але такога разумнага, сардэчнага, сапраўднага чалавека з вялікай літары я, здаецца, сустрэў упершыню. Каля года мы былі разам. Скажу адно: мне пашанцавала.

У 1944 годзе наш штаб з-пад Старой Русы перакінулі ў Іран. Тут я праслужыў два гады.

У 1946 годзе дэмабілізаваўся.

За больш чым трыццацігадовую працу былі выдадзены кнігі: «Вераснёвыя сцягі», «Дарога вайны», «Далёкія станцыі», «Гарачыя вятры», «Прысяга», «Шырокі свет», «Кніга вандраванняў і любові», «Гарачы лівень», «Нью-Йоркскія малюнкі», «Чатыры кантыненты», «Тысяча небасхілаў», «Пры святле маланак» і іншыя.

Больш дзесяці зборнікаў выйшла ў перакладзе па рускую мову.

Выдадзены кнігі маіх вершаў на ўкраінскай, латышскай, чэшскай, балгарскай і іншых мовах.

Усё больш думаю аб адказнасці паэта. У наш складаны суровы час сорамна займацца вершаванымі забаўкамі, засядацельскай мітуснёй, калупацца ў мішуры прывіднай славы і дробязных крыўдаў.

Для мяне самае важнае ў паэзіі — праўда жыцця,— праўда пачуццяў маіх сучаснікаў, чалавечнасць. Мяне не захапляе сузіральная лірыка, якую іншы раз выдаюць за філасофскую. Я за актыўную грамадзянскую паэзію. І пра родную вёску і пра космас можна напісаць аднолькава дрэнна. Калі паэт не здольны адчуць пульс нашага жыцця, яму не дапамогуць ні наватарства, ні традыцыйнасць. У нашай паэзіі вельмі доўга гасцілі одапісанне, ідылічнасць, агульшчына. Вайна навучыла маё пакаленне ненавідзець і любіць не абстрактна.

Адна з любімых маіх тэм — гэта дарога. Ніколі яшчэ людзі не былі ў такім безупынным руху, як цяпер. Вечная дарога, частыя перасяленні, вандраванні, паскораны тэмп жыцця і яго здзіўляючая кантраснасць, «змяшанне» народаў, лёсаў, звычаяў — гэта таксама адзнака нашага часу.

І з вялікай любоўю і надзеяй углядваюся я ў вялікую савецкую літаратуру. Цяжкія франтавыя гады, горкі роздум не прайшлі дарэмна.

У Мінску выдадзены трохтомны збор маіх твораў. Працую над новым зборнікам лірыкі.

Турбот многа, і адказнасць перад людзьмі велізарная. Але гэта і ёсць тая сустрэча з сапраўдным жыццём, якая не застаецца бясследнай для літаратурнай працы.

*1971*

# КВЕТКІ БЯЗМЕЖНАЙ ЛЮБОВІ

Творчасць Янкі Купалы, яго імя, яго асоба заўсёды былі сагрэты ўсенароднай любоўю і — думайце, што хочаце,— нейкім замілаваннем. Я сам гэта адчуў юнаком. Слухаў яго і нібыта не чуў. І расчулена ўсміхаўся. А ў сэрцы... Не, пра сваё сэрца лепш памаўчу.

Тыя, хто стаў «людзьмі звацца», шчодра адаралі паэта прызнаннем, удзячнасцю, любоўю. Бо і сам Купала любіў свой народ, сваю зямлю бязмежна. Лічу, што верш «Я ад вас далёка...», напісаны ў 1910 годзе, можна паставіць упоравень з шэдэўрамі Пушкіна і Шэкспіра.

Цёмная, гаротная старонка, якую многія нават Беларуссю не звалі. А паэт дзень і ноч горнецца да яе сэрцам:

А хоць дасць мне доля
у дамавіне месца,—
Ўстане цень з зямлі мой,
на крыж абапрэцца
І ў той бок глядзеці будзе
век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі
роднай.

Трэба ж так магутна напісаць!

Здаецца, мінулі тыя часы, калі некаторыя крытыкі і паэты гаварылі пра Янку Купалу як пра таленавітага самародка. Песеннасць, ледзь не імітацыя фальклору; прастата, што мяжуе з прымітыўнасцю,— гэта не раз далікатна падкрэслівалі вучоныя «добразычліўцы».

Можна пагадзіцца, што паэзія Купалы ясная і простая, як народная песня. І ў той жа час яна складаная, мудрая і шматфарбная. А галоўнае: Купала — выразнік лёсу беларускага народа.

Паэт быў вельмі чуйны да ўсяго новага. Сіла Купалы ў тым, што ён здолеў паэтычна выразіць карэнныя тэмы, паказаць глыбінныя зрухі нашага грамадства, светаадчуванне беларускага селяніна на самых важных этапах.

Янка Купала быў паэтам высокай культуры, валодаў усімі сродкамі паэтыкі нашага часу. Ён мог,

калі хацеў, так густа напоўніць верш яркай вобразнасцю, алітэрацыямі, падтэкстам, што дзіву даешся. Вось радкі з верша «Шоў я пушчаю...»:

За яснотай, каб не збочыць,
Мкнуся, пруся, верас трушчу —
Праз карчоўе, праз ламочча —
Хай звяр'ё там пушчу лушча.

Але Купала пісаў для народа, і асноўнае для яго было: думка, яснасць, ідэйная мэтанакіраванасць. Варта сказаць і пра незлічонае багацце Купалавай мовы. Уласна кажучы, Янка Купала і яго вялікі друг і паплечнік Якуб Колас былі стваральнікамі літаратурнай мовы беларускага народа, заканадаўцамі яе нормаў. Усе пілі і п'ём з крыштальнай Купалавай крыніцы: і лірыкі, і творцы эпічных паэм, камедый, драм.

У розныя гады Купалу ўспрымаеш па-рознаму. Многае мне дорага ў паэзіі Янкі Купалы. Але сёння я хачу расказаць пра вялікі ўплыў, што зрабілі на мяне яго грамадзянскасць, партыйная пазіцыя, яго палемічная публіцыстычнасць. Вазьму для прыкладу верш «На тэму крытыкі і самакрытыкі». Не магу ўстрымацца ад выпісак:

У век наш крытыкі сур'ёзнай
І самакрытык агнявых
Мы падыходзім вельмі грозна
Не да сябе, а да другіх.
Пылінку бачым у суседа,
Ды што? — ў яго іх не адна!
А ў сваім воку, даўнім следам,
Не заўважаем бервяна.

І яшчэ:

А крытыкі?.. Майстры
з разборам,—
Не ўзнімуць воч вышэй халяў;
З гразёй змяшае, што яшчэ
ўчора
Так падхалімна выхваляў.

Колькі ў гэтым вершы розуму, гнуткасці, дасціпнасці, іроніі. І які ён сучасны!

Прашу прабачэння: вялікая спакуса цытаваць і далей, бо лепш за Купалу не скажаш:

Мы інжынеры... А не ўмеем
Рамантаваць сваіх жа душ...

Купала глыбока адчуваў адказнасць пісьменніка перад народам і турбаваўся, з чым ідуць паэты да народа-гаспадара:

А ці падумаў лепшы-першы,
Як прыме гэта гаспадар?
Той гаспадар, што сее зёрны,
Што косіць, жне, дае нам хлеб,
Што сталь гартуе ў кузні
горнах...

Вось і сказана пра паэзію галоўнае. Не трэба і дакладаў.

Я многа разоў слухаў, як Янка Купала чытае вершы, выступае з прамовамі. Разы чатыры мне давялося ўдзельнічаць у гутарках з ім (не сам-насам, а ў кампаніі). Але пісаць успаміны пра гэта лічу нясціплым: быў я тады на самым пачатку літаратурнай дарогі.

І ўсё ж пра адно журботнае спатканне раскажу. Наш вялікі песняр вельмі любіў Маскву, і Масква яго любіла і шчыра паважала.

Калі мы трохі аддыхаліся пасля вайны, урад БССР вырашыў перанесці урну з прахам Івана Дамінікавіча ў Мінск. Зрабіць гэта было даручана невялікай дэлегацыі пісьменнікаў, у склад якой уваходзіў і я.

Масква. Данскі манастыр. Цярушыцца золкі дождж ык... Канстанцін Федзін, Аляксей Суркоў і нашы крыху пасівелыя вучні Купалы — Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка — пасля жалобнага мітынгу нясуць да машыны урну... Народны паэт навекі будзе з роднай зямлёй.

А сёння да яго велічнага бронзавага помніка мы ўскладаем кветкі бязмежнай любові.

*1972*

## НАШАЙ ДРУЖБЕ МАЦНЕЦЬ

Дзе вытокі, дзе пачатак нашай вялікай дружбы? Дзе тая крыніца, з якой мы разам — грузіны, армяне, азербайджанцы, беларусы — п'ём ужо які час цудадзейнае пітво шчырай любові і ўзаемапавагі?

Мажліва, тыя вытокі яшчэ ў неўміручых словах Шата Руставелі — «другу верны друг паможа»... Або ў творчасці Давіда Мачыбелі, які з бязмежнай любоўю ўславіў у сваёй паэме паэта-дзекабрыста Аляксандра Бястужава-Марлінскага? І тое ж горача высакароднае імкненне да дружбы з народамі Закаўказзя ў творах Грыбаедава, Пушкіна, Лермантава?

Гэтых вытокаў многа... Адно ясна: парасткі плённай дружбы з'явіліся даўно. А расквітнелі па-сапраўднаму нашы сяброўскія стасункі толькі пасля Вялікага Кастрычніка, які аб'яднаў народы дарэвалюцыйнай царскай Расіі ў адзіную магутную сям'ю.

Памяць вяртае мяне ў трыццатыя гады... Думаю, што мы, літаратары, адкрылі для сябе Грузію як краіну менавіта ў гэты час. І першаадкрывальнікам быў не хто іншы, як наш незабыўны пясняр Янка Купала. Яго шчодрае на любоў да людзей сэрца не магло не адгукнуцца на такое ж пачуццё грузінскіх сяброў. Грузіі паэт прысвячае шэраг вершаў — «Грузія», «Сонечнаму Шата Руставелі», «Генацвале»... Многа і пераклаў ён твораў грузінскіх аўтараў на беларускую мову. Пазней Вярхоўны Савет Грузінскай ССР нават узнагародзіў Янку Купалу Ганаровай граматай за пераклады твораў А. Цэрэтэлі.

Беларусь наведалі грузінскія пісьменнікі Жгенці, Джавахішвілі, В. Буачыдзе, К. Лордкіпанідзе, Гветадзе, Кутатэлі, Дадыяні і іншыя. Выязджалі ў Грузію Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, П. Глебка, М. Лынькоў, Э. Самуйлёнак, Б. Мікуліч, В. Вольскі і інш. Паездка дала, як вядома, вельмі добрыя вынікі — пісьменнікі расказалі аб Грузіі ў сваіх празаічных і паэтычных творах.

А колькі з'явілася перакладаў у нас за апошні час з грузінскай мовы! Колькі перакладзена твораў беларускіх празаікаў і паэтаў у Грузіі! Раманы І. Шамякіна і П. Броўкі, зборнікі «Беларускія апа-

вяданні» і «Беларуская савецкая паэзія», апавяданні Я. Брыля і І. Мележа, вершы М. Танка і А. Пысіна, А. Куляшова і М. Аўрамчыка, Р. Барадуліна і Г. Бураўкіна — ды ці ўсё пералічыш? І гэта, безумоўна, найлепшым чынам сведчыць аб нашых сталых творчых сувязях. І не толькі аб сувязях літаратурных... Умацаваліся сувязі беларусаў як з грузінскім, так і з іншымі народамі Закаўказзя і ў галіне эканомікі. За гады Савецкай улады Грузіяператварылася ў індустрыяльную рэспубліку з перадавой сацыялістычнай эканомікай і культурай.

Жыватворнае супрацоўніцтва і дружба наша, якой вось-вось будзе пяцьдзесят год, як ніколі ўмацаваліся ў грозныя гады Вялікай Айчыннай вайны. Грузіны з іншымі народамі СССР геаічна змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Мы выйшлі з гэтага цяжкага выпрабавання пераможцамі. І нам, беларусам, прыемна ўспамінаць, што сярод беларускіх партызан было нямала і грузін, бязмежна адданых сваёй Савецкай Радзіме, мужных людзей. А «ці ёсць на свеце што-небудзь больш цудоўнае, чым мужнасць храбраца, які трапіў у бяду?» Гэтыя мудрыя, дзівосныя словы належаць грузінскаму пісьменніку Канстанціну Лордкіпанідзе, які сам прайшоў цяжкімі дарогамі Вялікай Айчыннай вайны і ў сваёй творчасці адлюстраваў гэты гераічны час.

На нашай беларускай зямлі ніколі не забудуць тых, хто аддаў жыццё за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы.

Мне нярэдка даводзіцца бываць на Віцебшчыне, і я чуў, з якой любоўю і ўдзячнасцю гавораць мясцовыя жыхары аб грузінскім паэце, воіне Мірзо Гелавані, які загінуў тут у гады вайны...

Асабіста мне пашанцавала наведаць Грузію толькі ў 1966 годзе, калі я з групай беларускіх пісьменнікаў прымаў удзел у святкаванні 800-годдзя з дня нараджэння Шата Руставелі. У Тбілісі тады адбыўся аб'яднаны Пленум праўлення СП СССР і Грузіі. Было многа гасцей — прадстаўнікі ўсіх братніх рэспублік, дэлегацыі з-за мяжы... І тады, магчыма, я ўпершыню адчуў, якая гэта цудоўная краіна, якой павагай карыстаецца яна не толькі ў вялікім сузор'і братніх рэспублік, але і ва ўсім свеце. Памятаю, на юбілейных урачыстасцях выступаў адзін англійскі

вучоны, і гаварыў ён на чыстай грузінскай мове, якую вывучыў з-за пашаны да культуры старажытнай краіны.

Мы, беларускія літаратары, прывезлі на гэта ўсенароднае свята свой падарунак — новы пераклад неўміручай паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры»... І дні, якія правялі мы ў Грузіі, запомніліся на ўсё жыццё. Праехалі краіну ад Тбілісі да горнага гарадка Вардзія, бліжэй пазнаёміліся з надзвычай працавітымі і шчырымі людзьмі, з іх мінулым і сучасным, з іх дасягненнямі і на кожным кроку адчувалі незвычайную гасціннасць гаспадароў. Уразіла нас і маляўнічая прырода гэтага паўднёвага краю... Яна такая ж шчодрая, як і сэрцы грузін. Нават ведаючы, што ў грузін, параўнаўча невялікага народа, багатая фальклорная спадчына, мы былі ўражаны тымі шматлікімі песнямі, паданнямі, што пачулі, і тымі прыгожымі танцамі, што ўбачылі... А сярод унікальных помнікаў старажытнай культуры народа асабліва запомнілася мне наведанне ў Мцхета кафедральнага сабора Свеці-Цхавелі, пабудаванага таленавітым грузінскім дойлідам Арсукідзе ў 1010—1029 гг. Сабор — адзін з найбольш вядомых узораў старажытна-грузінскага дойлідства і сведчыць аб таленавітасці гэтага народа.

Сяброўскія творчыя сувязі з грузінскімі пісьменнікамі даўно ўвайшлі ў маё жыццё. Я сустракаўся з імі і ў час творчых нарад у Маскве, і на святкаваннях розных юбілеяў у братніх рэспубліках. І я не памылюся, калі скажу, што мне як паэту многае дала творчасць такіх вядомых песняроў Грузіі, як Тыцыян Табідзе, Чыкавані, Каладзе, Леанідзе. У іх вельмі яркая паэзія, выразная па думцы, афарыстычная, надзвычай каларытная, якая напоўнена, бы той сакавіты вінаград, пяшчотай і сілай паўднёвага сонца...

Асабліва добрыя стасункі ўсталяваліся ў мяне з Міхаілам Квлівідзе. Гэта — своеасаблівы, таленавіты паэт, харошы сябра. Мне падабаюцца ў яго лірычных вершах і гарачая страснасць, і сур'ёзная разважлівасць, і тая афарыстычнасць, пра якую я ўжо гаварыў. З вялікай радасцю я падпісаўся б пад такімі гучнымі радкамі паэта, якія прыводжу з рускага зборніка:

Мне не утратить к людям интереса,
и я, надеюсь, им необходим.
Что я один!
Я — как кусок железа —
звеню тогда, когда столкнусь с другим...

...Традыцыі нашых творчых сувязей з грузінскімі, армянскімі і азербайджанскімі пісьменнікамі працягваюцца. Эстафету гэтай плённай дружбы зараз падхапіла маладзейшае пакаленне літаратараў рэспублікі. Максім Горкі ў свой час вельмі трапна і слушна гаварыў аб ганаровай і адказнай місіі пісьменнікаў у справе ўмацавання дружбы — праз літаратуру народы знаёмяцца адзін з адным... Дык будзем жа заўсёды памятаць гэты важны запавет вялікага пралетарскага пісьменніка і настойліва ператвараць яго ў жыццё.

*1972*

## ЁН БАЧЫЎ СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ

Недалёка ад вёскі Вязынка, дзе нарадзіўся Янка Купала, стаіць помнік Мікалаю Гастэлу. Выпрастаўшы плечы, герой глядзіць на бясконцую шашу. Тут ён, чалавек з арлінага племя савецкай моладзі, выхаваны партыяй, зрабіў свой бессмяротны подзвіг. Да гэтага пакалення яшчэ ў 1923 годзе звяртаўся ў вершы «Арлянятам» Янка Купала. Паэт горача заклікаў маладых берагчы крывёй здабытую свабоду роднай краіны, і калі хто паквапіцца на яе, устаць грознаю хваляй.

У дні Вялікай Айчыннай вайны беларускі народ даказаў сваю бязмежную вернасць сацыялістычнай Айчыне. Увесь свет ведае воінаў-беларусаў — герояў Брэсцкай крэпасці, праслаўленых военачальнікаў, народных мсціўцаў. У нашых лясах і пушчах былі створаны сотні партызанскіх атрадаў і брыгад, якія бязлітасна грамілі акупантаў. Гэта да іх у самым пачатку вайны звярнуўся народны паэт:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!

У друку, па радыё Купала палымяна заклікаў сваіх землякоў:

«Падымайся, народ мой, на вялікую расплату!»

Ён верыў: «Блізка час, калі зноў мы збяромся ў шчасці і радасці, вялікай сям'ёй на роднай зямлі, для вялікай працы аднаўлення і творчасці».

Даўно падняты з попелу нашы гарады і вёскі, пабудаваны нанава і пабудаваны вельмі добра. У шмат разоў павялічылася індустрыяльная магутнасць рэспублікі. Нашыя некалі бедныя палі радуюць нечуванымі ўраджаямі ў 25, 30, 40 цэнтнераў з гектара — гэта сённяшні дзень калгаснай Беларусі.

Адным з першых, хто ўбачыў прыгажосць калгаснага жыцця, быў Янка Купала. Ён яшчэ ў 30-х гадах напісаў аб гэтым свежа і моцна. Жыццерадасныя, сонечныя вершы «Алеся», «Хлопчык і лётчык», «Вечарынка», «Лён», «Сыны», «Госці», «Выпраўляла маці сына» — гордасць нашай паэзіі.

Паэт сапраўды народны. Янка Купала ўсё сваё жыццё прысвяціў барацьбе за свабоду роднага краю.

Пачынаючы з 1905 года сваімі вершамі і паэмамі Янка Купала, як несціханы звон, абуджаў свядомасць народа, заклікаў яго да барацьбы з прыгнятальнікамі, каб беларусы змаглі «людзьмі звацца». Горкі першым заўважыў таленавітага паэта, пераклаў яго верш «А хто там ідзе?». У 1935 годзе А. М. Горкі назваў Янку Купалу сваім саратнікам, паэтам-рэвалюцыянерам. А. В. Луначарскі пісаў: «...бацькам новай беларускай літаратуры, якога беларусы недарэмна параўноўваюць з Шаўчэнкам і па сутнасці ягонай паэзіі, і па той ролі, якую ён адыгрывае ў іх роднай літаратуры, з'яўляецца, безумоўна, Янка Купала». Джамбул называў Янку Купалу акынам беларускіх палёў. Н. Асееў, М. Ісакоўскі, А. Твардоўскі, М. Рыльскі, П. Тычына і многія іншыя выдатныя паэты сучаснасці вельмі высока цанілі магутную паэзію Янкі Купалы.

Сёння імя нашага народнага паэта, яго творчасць ведаюць на ўсёй савецкай зямлі і далёка за яе межамі. І гэта не дзіўна — творчасць кожнага вялікага нацыянальнага паэта з'яўляецца здабыткам усяго чалавецтва. Янка Купала ўслаўляў дружбу народаў, быў перакананым інтэрнацыяналістам. Сапраўды, гэта ён, Купала, пераклаў на беларускую мову «Слово о полку Игореве», «Медный всадник», вершы Някрасава, Крылова, Кальцова, Шаўчэнкі, Міцкевіча, Канапніцкай... Ён горача і аддана любіў вялікі рускі народ, Украіну, Грузію, сваю сацыялістычную Айчыну. Вось назвы толькі некаторых вершаў Купалы, у якіх ярка выражана пачуццё вялікай інтэрнацыянальнай супольнасці савецкага народа: «Дзень добры, Масква!..», «Украіна», «Грузія», «Генацвале», «Сонечнаму Шата Руставелі», «Джамбулу», «Памяці дагестанскага ашуга Сулеймана Стальскага», «Памяці Максіма Горкага» і шмат, шмат іншых. Янку Купалу вылучала высокая культура, сапраўдная інтэлігентнасць, высакароднасць і добразычлівасць. А колькі таленавітых пісьменнікаў вылецела з-пад яго крыла!

Лірыка Янкі Купалы заўсёды была грамадска значнай, грамадзянскай, вастравокай. Ён умеў прадбачыць будучае, дакладна акрэсліць сацыяльны сэнс і ўзаемасувязь з'яў і падзей.

«Паэзія Я. Купалы,— гаварыў Ісакоўскі,— гэта не проста выдатныя, высокамастацкія вершы, гэта — акрамя ўсяго — своеасаблівая гісторыя жыцця беларускага народа з ягоным характарам і звычаямі, з ягонымі думамі і надзеямі, з ягонай барацьбой і перамогай. І калі я ўпершыню ўзяў у рукі кнігі Я. Купалы, мяне ўразілі не толькі незабыўныя строфы паэта, але і тая асаблівасць, што я, быццам сваімі вачыма, убачыў жывую Беларусь, яе раўніны і ўзгоркі, яе лугі і пералескі, рэкі і азёры. Я глыбока зразумеў жыццё працалюбівага і гераічнага беларускага народа. Я ўсёй душой палюбіў Беларусь, хоць ні разу там не быў раней».

Сёння ў беларускага народа свята. Мы гаворым словы любові і ўдзячнасці свайму першаму вялікаму паэту — Янку Купалу. Дзевяноста гадоў таму назад ён нарадзіўся ў беднай вёсачцы, а цяпер яго імем названы вуліцы, школы, тэатры, бібліятэкі, калгасы. Любоў да Янкі Купалы ўсенародная і бязмежная.

Я ўспамінаю той дзень 1939 года, калі Іван Дамінікавіч вяртаўся з Беластока, дзе выступаў на ўсенародным сходзе працоўных Заходніх земляў Беларусі. Яго твар быў гордым і шчаслівым. І вельмі добрым. Ён гаварыў, што цяпер трэба працаваць у два разы больш і лепш. І ён працаваў многа і нястомна. І сёння яго паэзія ў сэрцы народным.

*1972*

## КАМУНІСТ

У апошнія гады жыцця Ілья Данілавіч Гурскі любіў гуляць у купалаўскім парку. Часамі да яго далучаўся і я. Некалі тут густа стаялі драўляныя дамы. На месцы, дзе цяпер музей Купалы, патанаў між дрэў яго невялікі дом. Вайна растаўкла і спаліла гэты квартал. Мы любілі ўспамінаць, дзе і што калісьці тут было. Да вайны наўскасяк ад дома Купалы, бліжэй да Свіслачы, мясцілася лазня і цырульня, дзе наш народны паэт любіў галіцца (Бачыла, Няхай і я, яшчэ зусім маладыя, часам знарок прыходзілі паглядзець, як голіцца Іван Дамінікавіч). Гурскі добра ведаў Купалу і ўспамінаў яго з вялікай любоўю і павагай.

Ілья Данілавіч быў камуністам да мазга касцей. Ён жыў жыццём партыі і народа. Яго радавалі добрыя ўраджаі і палёты ў космас, засмучалі нашы непаладкі, абуралі раўнадушша некаторых пісьменнікаў да грамадскай працы.

З недаверам ён ставіўся да тых, хто падаваў заяву ў партыю з нейкімі затоенымі карыслівымі мэтамі. Пра аднаго такога гаварыў:

— Адчуваю: не дарос ён да звання камуніста, але і нягоднікам не назавеш. Круціцца як уюн на патэльні...

Пра другога пісьменніка, які ўступіў у КПСС у старым узросце, Ілья Данілавіч з насмешкай сказаў:

— Любіў усё жыццё жыць спакойна, без турбот, а тут глядзі ты — у партыю падаўся...

А наогул, Ілья Гурскі не любіў насміхацца над людзьмі, кпіць з чужых недахопаў, слабасцей, дзівоцтваў. «Усе людзі»,— казаў ён. Толькі ворагаў — фашысты гэта былі ці нацыяналісты — ён ненавідзеў усёй душой.

Недалюбліваў ён і нашых «мадэрністаў», тых, хто ганяўся за літаратурнай модай.

А да сваіх сяброў, таварышаў па партыі, па працы ён ставіўся заўсёды вельмі прыязна, клапатліва. Я быў знаёмы з Гурскім больш трыццаці гадоў, разам прайшлі франты, пасля вайны жылі суседзямі — і ніводнага разу паміж намі не было нават дробнага

непаразумення. Дружылі, добра адзін да другога ставіліся.

Часамі Ілья Данілавіч пытаўся, ці чытаў я яго раманы «У агні», «Вецер веку». Я, вядома, чытаў, гаварыў яму, якія раздзелы мне найбольш спадабаліся. Выказваў і свае думкі пра асобныя, як мне здавалася, промахі і хібы. Ён ніколі не крыўдзіўся на заўвагі, абы ты гаварыў сумленна і шчыра.

Аднаго разу ён мне сказаў:

— Некаторыя з маладзейшых дзівяцца, чаму я бяруся за такія вялікія тэмы: пішу пра Рэвалюцыю, пра Леніна. Для іх гэта гісторыя, літаратура, кінафільмы. А для мяне гэта маё жыццё, мая біяграфія.

З Іллём Данілавічам Гурскім я пазнаёміўся ў канцы трыццатых гадоў. Сваю журналісцкую працу я пачаў у 1939 годзе ў газеце «Літаратура і мастацтва», якую ён тады рэдагаваў.

У Ільі Данілавіча многія з нас прайшлі выдатную школу газетнай справы. Яго дэвізам было: «Пішыце канкрэтна і цікава». Патрабаваў аператыўнасці, але не цярпеў паспешлівасці і неахайнасці. Добра ведаў шрыфты, усе сакрэты вёрсткі, друкавання; умеў нават сам набіраць.

Па характару Ілья Данілавіч быў міралюбівы, з ім было добра жыць і працаваць. Але бачыў я яго (праўда, рэдка) і ў злосці, асабліва калі хто дрэнна рабіў працу, не стрымліваў дадзенага слова, абы-як выконваў даручэнне ці загад. Але заўсёды хутка адыходзіў і лагаднеў. Іншым разам бываў упарты, калі ў чым-небудзь быў цвёрда перакананы.

Аднойчы на Калінінскім фронце я часова застаўся за сакратара рэдакцыі нашай франтавой газеты (Глебку камандзіравалі ў Маскву). Захацелася мне неяк па-новаму звярстаць чарговы нумар, што я і зрабіў. Ілья Данілавіч адразу паказаў на недахопы маёй вёрсткі. Я з ім не пагадзіўся, хоць у ваенны час гэта рабіць не можна было. Заўпарціўся і ён. Але вельмі ж мы добра ведалі характар адзін другога. Я пераставіў асноўны (палітычны) матэрыял на тое месца, дзе ён паказаў, а астатняе звярсталі па майму макету.

Гурскі ўмеў паважаць людзей, падтрымаць, падбадзёрыць. А сам заўсёды заставаўся сціплым, ніколі не вытыркаўся наперад, не любіў падхалімаў, пра-

лаз і кар'ерыстаў. Сам быў працавіты да знямогі і ніколі не скардзіўся, што цяжка.

З Іллём Данілавічам я разам быў у паходзе па вызваленню Заходняй Беларусі, з чэрвеня 1941 года па 1943 год разам былі на Заходнім, Цэнтральным, Бранскім і Калінінскім франтах. Магу засведчыць: Ілья Гурскі быў храбры і вытрыманы салдат.

Раскажу крыху пра 1942 год.

Эшалон, дзе размясцілася і рэдакцыя нашай франтавой газеты «За свабодную Беларусь», накіраваўся на Калінінскі фронт. Але па нейчаму недагляду нас адправілі далей, чым трэба было. Ноччу эшалон разбамбілі. Загінулі людзі, якія прайшлі спецыяльную падрыхтоўку і павінны былі пераправіцца праз лінію фронту да партызан. Горка было ад цяжкай страты. Мы размясціліся па хатах у гарадку Пена. Не было чаго есці. Многае з нашай рэдакцыйнай гаспадаркі, як і прадукты, загінула. У мясцовых жыхароў усё забралі немцы. Вайсковых часцей тут не было. Стаяў маленькі гарнізон, чалавек дваццаць. Ілья Данілавіч здолеў хораша пагаварыць з салдатамі, і тыя падзяліліся хлебам і камбітлушчам.

— Шукайце пад снегам бурты бульбы, распытайце мясцовых людзей, а мы з Пімепам паедзем у штаб фронту.

На папутных машынах мы паехалі, як кажуць, «зваротным курсам». У штабе фронту мы пайшлі да члена Ваеннага савета карпуснога камісара Лявонава. Ілья Данілавіч далажыў аб нашай бядзе. У гэты час у прыёмнай члена Ваеннага савета пачулася гучная каманда: «Устаць!» Увайшоў камандуючы Калінінскім фронтам генерал І. С. Конеў. Мы павайскоўваму ўсталі і выцягнуліся. Таварыш Лявонаў расказаў нашу гісторыю. Конеў спахмурнеў:

— А які дурань іх туды загнаў? Трэба дапамагчы беларусам. Аддай загад, каб усё выдалі. І машыну. Выклікай Маскву...

Мяне чамусьці ўразілі сінія-сінія вочы вядомага палкаводца...

Мы выйшлі падбадзёраныя. Хутка атрымалі грузавік, прадукты і ўсё, што мы прасілі. Паехалі павесялелыя парадаваць свой невялікі калектыў.

Ацалелыя вагоны адагналі на ўсход, а мы з рэдакцыяй размясціліся там, дзе нам загадалі. Праца-

валі з энтузіязмам. Ілья Данілавіч, Глебка, Кучар, Вішнеўскі і я пісалі артыкулы, адозвы.

Часта гутарылі з партызанамі, якія ўвесь час ішлі праз віцебскі «калідор» то ў Беларусь, то з Беларусі. Ілья Данілавіч быў з многімі знаёмы па даваеннаму жыццю.

Аднаго разу ён сказаў Глебку і мне:

— Сумнаватая наша газета. Давайце сатыру і гумар.

Давялося зрабіцца сатырыкамі і гумарыстамі. У газеце спачатку з'явілася рубрыка «Па карку недавярку», а пазней пачалі выпускаць маленькі сатырычны часопіс «Партызанская дубінка». Нашы сябры, што працавалі ў гэты час у Маскве, пачалі падсылаць па нашай просьбе свае творы, у тым ліку і сатырычныя.

Пазней, калі я ўжо ў 1943 годзе служыў на Паўночна-Заходнім фронце, Ілля не забываў мяне. Вось урывак з пісьма, якое ён прыслаў мне з Масквы: «Добры дзень, Пімен! Ты што ж, старык, не пішаш? Чакаў я, чакаў ад цябе пісьма і вырашыў сам напісаць. Думалася, што ты хутка будзеш у Маскве, аднак сарвалася... Кніжка твая хутка выйдзе з друку, затрымалася па віне аднаго начальніка, які выдае дазвол (захацелася яму, каб ты некалькі радкоў перарабіў). Хоць ён і глупства пляце, але, каб не затрымліваць кніжкі, вырашылі перарабіць гэтыя радкі».

Гэта была кніга маіх франтавых вершаў «Дарога вайны». Яна выйшла ў Маскве ў 1943 годзе.

Пасля вайны Ілья Данілавіч, акрамя сваёй літаратурнай працы і рэдагавання часопіса «Беларусь», шмат гадоў выбіраўся сакратаром нашай партыйнай арганізацыі. Ён, камуніст з 1919 года, заўсёды працаваў з людзьмі так, як вучыў Ленін: прынцыпова, канкрэтна, уважліва. А я ніколі не забываў, што мой друг Ілья Гурскі быў адным з тых, хто на фронце рэкамендаваў мяне ў родную камуністычную партыю.

*1972*

## ШЧОДРАСЦЬ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Мякка ісці новаму году па нашых палях, якія так шчодра сёлета засыпаны снегам. Радасна і мне думаць пра калгасныя палі, на якіх людзі вырасцілі багаты ўраджай. Я разам з маімі сябрамі-пісьменнікамі ездзіў па гэтых палях, сустракаўся з мужчынамі, жанчынамі, моладдзю. Трэба сказаць, што апошнія гады вельмі змянілі нашы вёскі, у іх іншы выгляд.

Новыя жывёлагадоўчыя комплексы — гэта індустрыяльная вытворчасць, механізацыя, аўтаматыка, чысціня, культура.

Не пазнаю я і сваю Бягомльшчыну, дзе прайшло маё маленства. Зніклі неўрадлівыя камяністыя палі, шумяць на прыбранай і дагледжанай зямлі 30—40-цэнтнеравыя ўраджаі. Маёй землячцы Ульяне Крышталевіч прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. У спісу Герояў і звеннявая Ефрасіння Дрозд з Кіраўскага раёна, дзе я перад вайной настаўнічаў.

Быў я мінулай восенню і ў Сібіры, у Краснаярскім краі. Любаваўся Саянскімі гарамі, велічным Енісеем, магутнай Краснаярскай ГЭС. Наведаў святыя для нас мясціны: Шушанскае, Мінусінск, дзе некалі адбываў ссылку Уладзімір Ільіч Ленін. Пазнаёміўся і там, у Сібіры, з цудоўнымі людзьмі. Гордасць перапаўняе сэрца за нашу вялікую краіну, за шчодрасць роднай зямлі.

У 1974 годзе Беларусь будзе ўрачыста святкаваць трыццатую гадавіну вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў. Мы запросім на свята шмат гасцей, бо нашу зямлю вызвалялі сыны і дочкі ўсіх народаў Савецкага Саюза. З трапяткім хваляваннем мы ўскладзём вянкі і кветкі да помнікаў героям, на брацкія магілы, якіх так многа на нашай гераічнай зямлі. Але перад гэтым будзе яшчэ вясна, і на палі выйдуць тысячы трактароў.

Мы, пісьменнікі, у нечым трохі падобныя да хлебаробаў. І мы ўзорваем, даследуем пласты народнага жыцця, сеем словы праўды і чалавечнасці. І мы рады свайму ўраджаю: кнігам, якія прызнае народ і далучыць да свайго духоўнага скарбу.

Я пасылаю свае навагоднія прывітанні сваім таварышам у розныя рэспублікі нашага Саюза. Я пасылаю віншаванні сваім сябрам у розныя краіны, якія я наведаў за апошнія гады, у Польшчу і Балгарыю, Чэхаславакію і Англію. Я віншую і маіх добрых канадскіх сяброў з Таронта, успамінаючы смачныя аладкі з кляновым сокам, якімі яны мяне частавалі.

Хай будзе Новы, 1974 год мірны, радасны і сонечны!

*1973*

# «Я ЗЯМЛЮ ГЭТУ ЛЮБЛЮ!..»

Для кожнага савецкага чалавека Маякоўскі робіцца неабходным з маленства. Бацькі чытаюць дашкольнікам «Что такое хорошо и что такое плохо». Малады чалавек, які ўпершыню атрымлівае пашпарт, і той, хто бывае ў замежных падарожжах, сэрцам паўтараюць словы паэта: «Читайте, завидуйте: я гражданин Советского Союза». Сотні яркіх афарыстычных радкоў Маякоўскага арганічна ўвайшлі ў нашу мову, у наша жыццё, у наш быт, зрабіліся народнымі прымаўкамі.

Даўно забыліся імёны нахабных праціўнікаў Маякоўскага, нядобразычліўцаў розных масцей, якія ў сто глотак крычалі: «Маякоўскі, вас не разумеюць, вашы вершы хутка забудуць». Маякоўскі ў той час адказваў: «Давайце сустрэнемся праз сто гадоў і тады пагаворым!»

Не прайшло і пяцідзесяці гадоў пасля яго смерці, як само жыццё адкінула недарэчныя паклёпы на творчасць вялікага паэта. Успамінаецца яшчэ адзін злосны закід у адрас Маякоўскага: «Што вы ўвесь час пішаце «я» ды «я», а яшчэ лічыце сябе калектывістам». Паэт дасціпна адбіваў такія наскокі: «Цар Мікалай гаварыў і пісаў: «Мы, Мікалай другі», але ніхто яго не лічыць калектывістам».

У сувязі з гэтым паэтычным «я» варта прывесці словы рускага крытыка Дзмітрыя Іванавіча Пісарава:

«...Падумайце ўсё-такі, што такое лірыка? Гэта ж проста публічная споведзь чалавека? Цудоўна. А навошта нам патрэбна публічная споведзь такога чалавека, які абсалютна нічым, акрамя свайго жадання спавядацца, не можа прыцягнуць да сябе ўвагу?.. Лірыка ёсць самае высокае і самае цяжкое выяўленне мастацтва. Лірыкамі маюць права быць толькі першакласныя геніі, таму што толькі каласальная асоба можа прыносіць грамадству карысць, звяртаючы яго ўвагу на сваё ўласнае прыватнае і псіхічнае жыццё». Як бачым, гэта максімальна строгія крытэрыі.

Такой каласальнай асобай і быў Уладзімір Маякоўскі.

«Я — паэт. Гэтым і цікавы. Пра гэта і пішу». У Маякоўскім сканцэнтраваліся ўвесь боль і ўся радасць працоўнага чалавека, нянавісць да царызму, буржуазіі, імперыялістычнай вайны; вера ў перамогу рэвалюцыі і сацыялізма; найвялікшая любоў і павага да Леніна.

Вытокі яго творчасці трэба шукаць у народным жыцці, у сацыял-дэмакратычным руху. Пятнаццацігадовым юнаком паэт уступіў у партыю РСДРП (бальшавікоў). Тройчы яго арыштоўвала царская ахранка. Адзінаццаць месяцаў ён прасядзеў у Бутырскай турме.

Таму, калі прыйшоў Вялікі Кастрычнік, для яго пытання «прымаць ці не прымаць» — не было. Паэт у сваёй аўтабіяграфіі піша: «Мая рэвалюцыя. Пайшоў у Смольны. Працаваў».

Пазней, да дзесятай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі Маякоўскі напісаў паэму «Хорошо!». Гэта глыбока-прачулы гімн нашай сацыялістычнай рэвалюцыі. Эпас пераможнай рэвалюцыі шчыльна зніталаўся з лірычнай усхваляванасцю паэта. Любоў Маякоўскага да савецкай зямлі бязмежна.

Я
землю
эту
люблю! —
Можно
забыть,
где и когда
Пузы растил
и зобы,
Но землю,
с которой
вдвоем голодал,—
Нельзя
никогда
забыть.

Вялікая сынава любоў да сацыялістычнай бацькаўшчыны нарадзіла глыбокі аптымізм паэта: «И жизнь хороша, и жить хорошо», «Ненавижу всяческую мертвечину, обожаю всяческую жизнь», «Лет до ста расти нам без старости», «Жизнь прекрасна и удивительна».

Маякоўскі быў сапраўдным байцом. Вартасць сваіх твораў ён правяраў, сустракаючыся з народам. Сотні паездак у розныя мясціны Савецкага Саюза

былі для яго і школай жыцця, і сцвярджэннем неабходнасці для людзей яго рэвалюцыйнай паэзіі.

Маякоўскі — гэта новы тып паэта-трыбуна, які праклаў шляхі да ўсёй савецкай паэзіі. Тое, што сёння савецкія пісьменнікі часта сустракаюцца з рабочымі, калгаснікамі ў самых далёкіх кутках нашай Радзімы,— заслуга Маякоўскага. Ён першы пратаптаў гэтыя сцежкі, першы пісаў пра рабочых Кузнецка, пра ўсё новае, чым так багата савецкая рэчаіснасць.

Яшчэ пры жыцці паэта яго паэзія рабіла вялікую справу выхавання працоўных мас у патрыятычным, інтэрнацыянальным духу. Савецкім патрыятызмам прасякнуты ўсе творы лепшага паэта нашага часу.

Маякоўскі быў палымяным песняром дружбы і братэрства народаў. Паважаючы кожны народ, ён быў супраць нацыянальных перагародак, ярасна змагаўся з нацыяналістамі і шавіністамі ўсіх колераў. Як запавет новым пакаленням гучаць словы паэта:

> Да будь я и негром преклонных
> годов,
> И то б без унынья и лени
> Я русский бы выучил только за то,
> Что им разговаривал Ленин.

Усе трывогі нашага веку, увесь боль працоўнага чалавецтва прайшлі праз сэрца паэта. Яму хацелася, каб на слова таварыш — «оборачивалась вся земля».

Маякоўскі пісаў пра чырвонагвардзейцаў, салдат рэвалюцыі, герояў Перакопа, рабочых, рэвалюцыянераў. Ён ведаў, з каго рабіць жыццё. Нас і сёння хвалююць радкі паэта: «Разве не лучше, как Феликс Эдмундович, сердце отдать временам на разрыв!»

Найвышэйшай меркай чалавека і рэвалюцыянера для Маякоўскага было жыццё Уладзіміра Ільіча Леніна.

Аддаючы «всю свою звонкую силу поэта» атакуючаму класу, Маякоўскі да скрыгату зубоў ненавідзеў ворагаў Савецкай краіны, абывацеляў, мяшчанства. Усю навальнічную сілу сваёй сатыры ён накіроўваў супраць тых, хто нам перашкаджае будаваць і жыць.

Не адзін раз Маякоўскі выязджаў і ў Беларусь: выступаў у Мінску, Віцебску і іншых гарадах.

Вось што піша ў сваёй кнізе «Маяковский едет по Союзу» Павел Ільіч Лавут, літаратар і арганізатар паездак Уладзіміра Уладзіміравіча:

«А сёмай гадзіне кур'ерскі прывёз нас у Мінск.

Маякоўскі запытаў:

— Колькі ў нас сталіц?

— Многа.

— А ў колькіх вы бывалі?

— Амаль ва ўсіх.

— Я быў не ўсюды, але павінен быць усюды.

...І заўважыў:

— Як добра гучыць: «Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларусі». Мы часта не ўсведамляем сабе, што адбылося за кароткі тэрмін: народ мае сваю Рэспубліку — гэта грандыёзна!»

Маякоўскі сустракаўся з працоўнымі Беларусі, моладдзю, беларускімі пісьменнікамі, быў госцем Старшыні Савета Народных Камісараў БССР Язэпа Аляксандравіча Адамовіча.

Паэт радаваўся росквіту савецкіх рэспублік і брацкіх літаратур.

У 1927 годзе Маякоўскі быў у Варшаве па запрашэнні мясцовага ПЭНклуба. З ім гутарыў рэдактар часопіса «Польска вольносць». Паэт расказваў пра літаратараў Расіі, Грузіі, Украіны.

«З беларусаў хачу звярнуць вашу ўвагу на Коласа».

Амаль усе беларускія паэты паслякастрычніцкай пары адчулі на сабе жыватворны ўплыў паэзіі Уладзіміра Маякоўскага. Яны вучыліся і вучацца ў Маякоўскага не толькі высокаму майстэрству, але і выразнай класавай пазіцыі, партыйнасці і народнасці. Маякоўскі — вельмі народны паэт.

Народнасць ён разумеў не як імітацыю фальклорных матываў, а як уменне ў найбольш дасканалай мастацкай форме выказаць самыя важныя, самыя галоўныя падзеі жыцця свайго народа, яго думы і надзеі; перадаць веліч свайго часу і маштабнасць мыслення савецкага народа.

Толькі вульгарная крытыка не хацела заўважаць, што ўся паэзія Маякоўскага пранізана народнымі размоўнымі інтанацыямі, а яго небывалыя метафары і гіпербалы маюць радню ў народных казках і былінах. Маякоўскі часта звяртаў увагу сваіх шматлі-

кіх слухачоў на тое, як умее народ па-майстэрску, з гумарам складаць свае песні.

Нядобрасумленная крытыка спрабавала супрацьпаставіць класікаў Маякоўскаму, усяляк смакуючы і высмейваючы яго некаторыя выказванні.

Але жыццё і сам Маякоўскі па гэта далі ясны адказ. Маякоўскі казаў: «Выращылі: калі я не пішу, як Пушкін, значыць, з'яўляюся яго праціўнікам. Даводзіцца ледзь не апраўдвацца, а ў чым і сам не ведаеш. Падумайце,— дадаў ён,— як можна, не любячы Пушкіна, ведаць на памяць масу яго вершаў? Смешна!»

На вечарах ён не раз прыводзіў свае любімыя радкі з «Яўгенія Анегіна».

У вершы «Юбилейное», звяртаючыся да Пушкіна, Маякоўскі сказаў вельмі выразна:

После
смерти
нам
стоять почти что
рядом...

І яны стаяць побач і на маскоўскіх плошчах, і ў літаратуры — два гіганты вялікай рускай культуры.

Яшчэ бліжэй Маякоўскаму была грамадзянская паэзія Някрасава. Ён з гордасцю гаварыў, што сярод «лефаў» стаў першым «някрасаўцам».

У сатыры, у камедыях Маякоўскага мы знаходзім творчыя прыёмы ў стварэнні характараў, якія збліжаюць яго з Гогалем і Салтыковым-Шчадрыным.

Маякоўскі — вялікі наватар, але з'явіўся ён не на голым месцы, а на добра ўзаранай ніве рускай рэалістычнай літаратуры.

Маякоўскі любіў прадметнасць, добра зробленыя рэчы. «Бруклинский мост — да... это вещь». І сам марыў, каб «сработать стих годочков на сто». Ён пісаў:

Я себя
советским чувствую
заводом,
Вырабатывающим счастье.

Маякоўскі часта і ў вершах, і ў публіцыстычных выступленнях разважае аб прызначэнні паэта, аб яго вялікай адказнасці перад народам, перад эпохай. Ён ведаў сілу мастацкага слова.

Паэт пачаў гаварыць на ўвесь голас, і яму хацелася так многа чаго сказаць «векам, истории и мирозданию».

Усе яго справы і помыслы накіраваны ў будучыню. Паэт звяртаецца да лабастага вучонага будучыні і просіць:

Воскреси
хотя б за то,
что я
поэтом
Ждал тебя,
откинув будничную чушь!
Воскреси меня
хотя б за это!
Воскреси —
свое дожить хочу!

Яго ўваскрасіла ўсенародная любоў. Ён з намі. Жывуць, свецяць і змагаюцца ўсе сто тамоў яго партыйных кніжак.

Імя Маякоўскага, слова Маякоўскага будуць жыць у вяках.

*1973*

## І МАЛАДОСЦЬ, І СТАЛАСЦЬ

Юнакі не спраўляюць юбілеі. Яны, поўныя сілы і надзей, шукаюць свой шлях, набіраюцца ведаў, вопыту і сціпла адзначаюць дзень свайго нараджэння.

Дваццацігадовая «Маладосць» можа парадавацца сваімі першымі поспехамі. А яны, на маю думку, значныя. Вырасла армія адданых сяброў «Маладосці» — яе чытачоў. Часопіс папрыгажэў, зрабіўся больш разнастайным па тэматыцы. На яго старонках гучалі мудрыя словы Леніна, успаміны ленінцаў. Героі Вялікай Айчыннай вайны перадавалі эстафету маладым рабочым Мінска, будаўнікам Наваполацка і Салігорска, Светлагорска і Лукомля.

Са старонак «Маладосці» ўсміхаліся першыя касманаўты, маладыя Героі Сацыялістычнай Працы, дактары навук, якім яшчэ не было і трыццаці.

А як радасна было чытаць пра Аляксандра Мядзведзя, Алену Бялову, а зусім нядаўна пра алімпійскую чэмпіёнку Вольгу Корбут. Славутыя народныя паэты друкавалі ў «Маладосці» трапяткія вясновыя вершы. Ярка і звонка пачыналі тут свае песні таленавітыя паэты: Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч і Пятрусь Макаль, Анатоль Вярцінскі і Янка Сіпакоў, Алег Лойка і Васіль Зуёнак, Юрась Свірка і Вера Вярба, Раман Тармола і Рыгор Семашкевіч, Яўгенія Янішчыц і Леанід Дайнека. А якіх цудоўных празаікаў вывела на творчую дарогу «Маладосць»: Іван Чыгрынаў, Міхась Стральцоў, Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Барыс Сачанка, Анатоль Кудравец...

І вядомыя далёка за межамі Беларусі старэйшыя майстры не цураюцца камсамольскага часопіса: Янка Брыль, Васіль Быкаў, Іван Навуменка, Алесь Асіпенка... Зусім нядаўна ў «Маладосці» былі надрукаваны аповесці «Дажыць да світання» Васіля Быкава і «Хатынская аповесць» Алеся Адамовіча.

Жадаю любімаму часопісу не старэць, не адставаць ад жыцця, друкаваць болей баявой публіцыстыкі і высокамастацкіх твораў пра нашага сучасніка. Хочацца, каб равеснікі часопіса маглі сказаць: «Так, гэта нашы справы, гэта мы, гэта наша маладосць!»

*1973*

## НА СЛУЖБЕ Ў ЧАЛАВЕЧНАСЦІ

— Лірычныя вершы часцей за ўсё пішуцца ад першай асобы. Гэтае «я» ў літаратуразнаўстве называюць лірычным героем, праводзячы тым самым у нейкай ступені мяжу паміж паэтам і яго лірычным героем. Але чытач, як правіла, не прызнае мяжы і атаясамлівае паэтычнае «я» з самім аўтарам. Якія ў Вас адносіны з лірычным героем?

— Толькі тое атрымліваецца па-сапраўднаму, што пераўжыта самім аўтарам, што прайшло праз яго сэрца. Нельга, знаходзячыся ў глыбокім тыле, пісаць франтавыя вершы. Талент не выратуе ад фальшу. Усё, аб чым я пісаў, маё, перажытае, адпакутаванае. Таму лірычны герой маіх вершаў і я сам — адна асоба. Выключэнне — некалькі вершаў і паэма «Іспанская ноч», якую я лічу няўдалай.

— Вашы думкі, вашы пачуцці ў вершах, але ўсё ж гэта не аўтабіяграфія, якой, дарэчы, няма ні ў адным Вашым зборніку. Хацелася б, каб Вы расказалі пра сябе.

— Бацькі мае, беларускія сяляне, задоўга да імперыялістычнай вайны паехалі на заробкі ў Прыбалтыку. Бацька стаў рабочым суднабудаўнічага завода «Бекер і К°» у Рэвелі (цяпер Талін). Там я і нарадзіўся ў 1917 годзе і пражыў свае першыя тры гады. У памяці засталіся туманныя вобразы мора і караблёў і бясконцыя расказы маці.

Дзяцінства прайшло ў мястэчку Бягомль, у дрымучых лясах па-над Бярэзінай. Бацька, камуніст з 1918 года, пасля грамадзянскай вайны працаваў дзесятнікам, аб'ездчыкам, прарабам, ляснічым. Я часта ездзіў з ім і заўсёды здзіўляўся, якія ў нас багатыя лясы: непраходныя пушчы, звонкія бары, прасторныя дубровы, вясёлыя бярэзнікі, застылыя ў непрыступных калонах ельнікі, рабінавыя, калінавыя і чаромхавыя зараснікі. Для нас, хлопчыкаў, лес быў першай школай, зялёнай энцыклапедыяй.

У Бягомлі я скончыў сямігодку, прачытаў амаль усе кнігі ў школьнай і раённай бібліятэках. Калі мне споўнілася 13 год, я ўпершыню паехаў у Мінск — дэлегатам першага Усебеларускага злёту піянераў. Потым мы пераехалі ў Бабруйск, у шаснаццаць я

стаў рабочым Бабруйскага камбіната. Скончыў настаўніцкія курсы і пяць год настаўнічаў на Бабруйшчыне, адначасова завочна вучыўся ў настаўніцкім інстытуце.

Друкавацца пачаў у 1934 годзе, у 1938-м выйшаў мой першы зборнік вершаў «Упэўненасць».

З 1939 па 1946 год служыў у Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі. У час Вялікай Айчыннай вайны быў ваенным карэспандэнтам армейскіх і франтавых газет. У армейскай газеце «Геройский штурм» на Паўночна-Заходнім фронце я пазнаёміўся, а пазней і пасябраваў з Міхаілам Святловым. Як паэта я ведаў і шанаваў яго даўно. Амаль увесь 1943 год мы былі разам.

У 1944 годзе наш штаб з-пад Старай Русы перакінулі ў Іран. Тут я праслужыў два гады. У 1946 годзе дэмабілізаваўся і цалкам аддаўся літаратурнай працы. Працаваў у «Вожыку», у альманаху «Советская Отчизна», быў намеснікам рэдактара «Літаратура і мастацтва», рэдактарам «Маладосці». Напісаў каля 20 кніжак.

— Пімен Емельянавіч, ваенны перыяд быў вельмі плённы ў Вашай творчасці. Дзе друкаваліся ў той час Вашы вершы?

— У асноўным у газетах. Ужо ў ліпені 1941 года была створана франтавая газета «За Савецкую Беларусь», якая выходзіла на беларускай мове. Рэдактарам яе быў Міхась Лынькоў, а супрацоўнікамі Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Пятро Глебка і іншыя беларускія пісьменнікі. З 1942 года на Калінінскім фронце пачала выходзіць газета «За Свабодную Беларусь». У гэтых газетах друкаваліся і ваенныя карэспандэнцыі, і нарысы, і вершы.

Пісаць даводзілася ў нялёгкіх умовах, часам спешна, у наступны нумар. Але столькі моцных пачуццяў перапаўняла сэрца, што працавалася лёгка і хутка. З Вялікай зямлі газеты перапраўлялі партызанам, іншы раз з самалётаў скідвалі над беларускімі вёскамі, акупіраванымі ворагам. Вершы многіх беларускіх паэтаў адразу перакладаліся і друкаваліся ў «Праўдзе» і іншых газетах.

— Больш за дзесяць Вашых зборнікаў выйшла на рускай мове. Вершы перакладаліся на мовы на-

родаў нашай краіны і замежныя. Ці заўсёды Вас, як аўтара, задавальнялі пераклады?

— На рускую мову мяне перакладалі многія паэты: А. Пракоф'еў, П. Кабзарэўскі, М. Браўн, В. Шэфнер, М. Камісарава, У. Раждзественскі і іншыя. Але не заўсёды, на мой погляд, гэта атрымлівалася ўдала, часам неяк прыгладжана. Больш мне падабаюцца пераклады М. Асеева, Я. Хелемскага, Б. Слуцкага, Д. Кавалёва. І, здаецца, лепш гучаць мае вершы па-ўкраінску. Паводле водгукаў, добра атрымаўся пераклад у чэшскай паэтэсы Ганны Врбовай. Паэтычныя зборнікі выйшлі на латышскай і балгарскай мовах. Асобныя вершы перакладаліся амаль на ўсе еўрапейскія мовы.

— Вашы вершы разляцеліся па свеце, але Вы і сам заўзяты падарожнік, нават адзін са зборнікаў назвалі «Кнігай вандраванняў і любові». Чым узбагацілі Вашу творчасць шматлікія паездкі?

— Сапраўды, у апошнія гады многа паездзіў па свеце. Як афіцыйная асоба быў членам беларускай дэлегацыі на XIII сесіі ААН, у складзе пісьменніцкіх дэлегацый пабываў у Канадзе, Англіі, Балгарыі, Польшчы. Як турыст бачыў Францыю, Італію, Фінляндыю, Бельгію, Туніс, Марока, Бераг Слановай Косці... Зразумела, такія паездкі ўзбагачаюць ведамі, уражаннямі. Але галоўнае, знаходзячыся ўдалечыні ад дому, атрымліваеш магчымасць убачыць яго ў іншым, больш чыстым, пазбаўленым будзённых клопатаў святле. Адчуваеш тую злітнасць, якая яднае цябе з Радзімай. Пачынаеш па-новаму цаніць тое, да чаго прызвычаіўся.

У час знаходжання ў Злучаных Штатах Амерыкі ў мяне была магчымасць пазнаёміцца з амерыканскімі школамі. Слоў няма, школы, якія рыхтуюць да паступлення ў вышэйшыя тэхнічныя навучальныя ўстановы, выдатныя. Але іх некалькі на ўвесь Нью-Йорк. А вось агульнаадукацыйныя школы зрабілі на мяне сумнае ўражанне і ў ніякае параўнанне не ідуць з нашымі дзесяцігодкамі.

У адной амерыканскай школе нас чакаў сюрпрыз. У класе, куды мы прыйшлі на ўрок, на дошцы было напісана па-руску: «Добро пожаловать!» «Ці даўно ў вас у школе вывучаюць рускую мову?» — спыталі

мы і пачулі адказ: «Пасля запуску рускага спадарожніка».

Запомнілася цёплая сустрэча з землякамі-беларусамі ў Таронта, дзе мы прысутнічалі і выступалі на вялікім мітынгу, наладжаным Федэрацыяй рускіх канадцаў. Нас абкружылі, пыталіся, ці не былі мы ў той ці іншай вёсцы, як там жыццё. Чуліся словы, якія ў нас даўно не ўжываюцца,— губерня, воласць.

Дарога — адна з любімых маіх тэм. Ніколі яшчэ людзі не былі ў такім безупынным руху, як цяпер. Дарогі, перасяленні, падарожжы, «змяшанне» народаў, лёсаў, звычаяў — гэта таксама прыкмета нашага часу.

— Чалавек, які ўступае на нялёгкі пісьменніцкі шлях, карыстаецца вопытам дзесяткаў, сотняў сваіх папярэднікаў, але толькі адзін ці некалькі аўтараў становяцца яго духоўнымі настаўнікамі. Каго б назвалі Вы?

— Янку Купалу. Яго лірыка блізкая мне па духу. І яшчэ самым «маім», самым неабходным на ўсё жыццё стаў для мяне Уладзімір Маякоўскі. Многа дала мне сумесная работа ў час вайны з Броўкам, Танкам, Куляшовым, Крапівой.

Да ліку сваіх настаўнікаў я магу далучыць і вайну. Вайна навучыла маё пакаленне ненавідзець і любіць не абстрактна. Для мяне самае важнае ў паэзіі — праўда жыцця, праўда пачуццяў маіх сучаснікаў. Мяне не вабіць сузіральная лірыка, якую іншы раз выдаюць за філасофскую. Я за актыўную грамадзянскую паэзію. І пра родную вёску, і пра космас можна напісаць аднолькава дрэнна. Калі паэт не можа адчуць пульса нашага жыцця, яму не дапамогуць ні наватарства, ні традыцыйнасць.

— Нядаўна газета «Літаратура і мастацтва» надрукавала нізку Вашых новых вершаў. Яны, магчыма, з будучага зборніка?

— Так, зараз працую над вершамі, якія складуць новы зборнік. У асноўным гэта лірычныя вершы, аднак у іх не толькі асабістае, але і роздум аб нашым часе, аб лёсе чалавецтва.

Працую і над перакладамі Рыльскага, Малышкі і Первамайскага, іх вершы ўвойдуць у анталогію ўкраінскай паэзіі. Пераклады даюцца мне нялёгка,

трэба ўвесь час сябе стрымліваць, каб не перакройваць верш на свой густ.

Рыхтуюся ў падарожжа. Не ў далёкае, у Пінск. Хочацца паглядзець, як ідуць справы ў палескіх меліяратараў. Я ж дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, маю кандыдатуру вылучылі рабочыя Пінскага рамонтна-экскаватарнага завода. Калі атрымаецца, наведаю родную Бягомльшчыну.

І галоўнае — трэба працаваць, працаваць, каб апраўдаць той высокі гонар, якога ўдастоіў мяне народ.

*1973*

## ВЫДАТНЫ МАЙСТАР ПАЭЗІІ

Звычайна ў такі дзень пра юбіляра пішуць: «Не верыцца, што яму споўнілася...»

Калі я перачытваў кнігі паэта, я парадаваўся за друга: як многа ім зроблена, вельмі многа! Дзесяткі паэтычных зборнікаў, каля дваццаці паэм, кнігі майстэрскіх перакладаў А. Пушкіна, М. Лермантава, І. Катлярэўскага, А. Малышкі, М. Нагнібеды, К. Куліева, Г. Лангфела і многіх іншых паэтаў, плённая праца кінадраматурга — гэтага хапіла б на некалькі паэтаў.

Варта прыгадаць і актыўную грамадскую дзейнасць А. Куляшова: дэпутат Вярхоўнага Савета БССР многіх скліканняў, шматгадовы старшыня Беларускага камітэта абароны міру, член прэзідыума Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР і член Праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, член рэдкалегіі часопісаў «Полымя» і «Новый мир».

Удзельнічаў у Сусветнай канферэнцыі моладзі ў Лондане, быў членам беларускай дэлегацыі на Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку. А. Куляшоў узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга і многімі іншымі высокімі ўзнагародамі, адзначан дзвюма Дзяржаўнымі прэміямі СССР па літаратуры.

Галоўная яго работа — паэзія.

Аркадзь Куляшоў — паэт рэдкага таленту, высокай культуры, выключнай працаздольнасці. Ён нарадзіўся на ўсходзе Магілёўшчыны, гадаваўся на берагах Віхры і Беседзі. Зялёныя дубровы і ельнікі, родныя рэкі, высокае неба Магілёўшчыны заўсёды жывуць у яго паэзіі.

Друкавацца Куляшоў пачаў з дванаццаці год. Ад празрыстых, бясхітрасных, але не прымітыўных ранніх вершаў — да сапраўдных шэдэўраў савецкай паэзіі — такі шлях яго амаль паўвекавой творчай дзейнасці.

Можна знайсці ў вершах і паэмах Куляшова сляды ўплыву Купалы і Лермантава, уплыў (прычым узаемны) яго вялікага друга Аляксандра Твардоўскага.

Але Аркадзь Куляшоў заўсёды быў і застаецца паэтам арыгінальным, самабытным, нечаканым і глыбока народным.

Жыццё народа — яго невычэрпная паэма, народная мудрасць — крыніца яго паэзіі, а Ленінскае вучэнне — яго крылы. Сацыялістычная рэчаіснасць нарадзіла новыя канфлікты, характары, адносіны, быт, светаадчуванне. Калі мастак нашага часу сапраўды таленавіты, ён у той жа час і наватар. Фармальныя асаблівасці — справа другарадная.

Антон Паўлавіч Чэхаў некалі казаў: «Новае толькі тое, што таленавіта. Што таленавіта, тое і новае».

Жыццёвыя падзеі, з'явы, якія даследаваў паэт, неабсяжныя па шырыні ахопу. Пакуты людзей, пагнаных на імперыялістычную вайну, класавая барацьба на вёсцы, рамантыка і гераізм грамадзянскай вайны, калектывізацыя, Вялікая Айчынная вайна, пасляваеннае аднаўленне, космас і думы пра будучыню — гэта няпоўны, сухі і павярхоўны пералік тых вялікіх падзей нашага жыцця, да якіх дакраналася неспакойнае пяро Куляшова.

Можна смела сказаць, што паэзія Аркадзя Куляшова — духоўная энцыклапедыя яго пакалення

Паэзія Аркадзя Куляшова палымяная, партыйная. Варта прыгадаць вершы пра Леніна («Жывая рака», «Мой прэзідыум» і інш.), «Слова да Аб'яднаных Нацый», «Камуністы». Дарэчы, такую назву мае і цэлая кніга паэта пра камуністаў.

Вершы і паэмы Куляшова не старэюць, бо яны таленавіта ўвасобілі ў сабе і канкрэтныя адзнакі нашага часу і авеяны дыханнем вечнасці.

Паэт глыбока лірычны, ён стварыў свой непаўторны паэтычны свет. Я зайздрошчу тым юным чытачам, тым новым пакаленням моладзі, якім яшчэ давядзецца адкрываць цудоўную краіну куляшоўскай паэзіі, далучыцца да яе хараства, сілы і мудрасці. Цікавы і вельмі самабытны Куляшоў і як эпічны паэт. Тут ён прываблівае глыбінёй паказу народнага жыцця і стварэннем тыповых характараў, у пераважнасці гераічных.

Калгаснікі кнігі «Медзі дождж», Хрысціна («У Зялёнай дуброве»), пагранічнік Васіль Баранаў, Антон Шандыбала, хлопцы апошняй вайны, Алесь Рыбка, камісар Зарудны, Лізавета і здраднік са «Сцяга бры-

гады», героі з паэм «Новае рэчышча», «Толькі ўперад», «Грозная пушча», юны герой з «Камсамольскага білета», бацька Мінай...

У Аркадзя Куляшова заўсёды было сваё бачанне свету, свой слоўнік, свае яркія метафары. Ён ніколі не быў паэтам правінцыяльным, ставіўся з маладых гадоў да літаратурнай працы сур'ёзна, з вялікай адказнасцю. Не быў ён ніколі ні эпігонам, ні ілюстратарам. У яго радках заўсёды гучала трапяткая праўда жыцця. Часта ён апярэджваў падзеі і, як сапраўдны інтэрнацыяналіст, кранаў сэрцы людзей глыбокім роздумам аб надыходзячай вайне з фашызмам, а пазней аб пагрозе ўсёзнішчальнай ядзернай вайны.

Паэма «Сцяг брыгады» — адна з вяршынь усёй савецкай паэзіі. Гэта паэма поўная трагізму і вялікай веры ў перамогу. Яе хацелася б цытаваць бясконца, але чытачы, спадзяюся, ведаюць гэтую паэму і любяць не менш, чым я.

Філасофская, афарыстычная «Новая кніга» была не толькі новым творчым узлётам паэта, але і адкрыла перад беларускай паэзіяй шырэйшыя далягляды, наблізіла зоркі да сэрцаў, далёкія землі да нашых бароў, зрадніла акіян з яго роднай Бесяддзю.

Куляшоў, як ніхто, любіць паэтычную дэталь; шліфуе верш, каб ён іскрыўся ўсімі гранямі чалавечых пачуццяў; ён чуйны да самых тонкіх рухаў чалавечай душы. Але дэталі, падрабязнасць паказу чалавечага жыцця ніколі не засланяюць асноўную гуманістычную ідэю.

Цяпер крыху пра асабістае.

Пазнаёміўся я з Аркадзем недзе ў сярэдзіне трыццатых гадоў. Дружба наша пачалася даўно, і я ўдзячны лёсу за гэта. Але пра адно хацелася б нагадаць у дзень юбілею. Калі я пачаў пісаць вершы (вядома, слабыя), адзін з першых прыслаў мне добрыя парады і абнадзеянне Аркадзь Куляшоў. Ён тады і сам быў малады, але ўжо вядомы паэт. Першая нізка маіх вершаў была папраўлена рукой Куляшова. За гэта я яму буду заўсёды ўдзячны. Ды хіба я адзін...

Мы сустракаліся і на франтавых дарогах, і ў Маскве, і на Нарачы, і разам плавалі па Волзе. І заўсёды бясконцыя гаворкі пра жыццё, пра паэзію, пра далёкія сузор'і, якія так вабяць нашага слаўнага паэта.

Я часта бяру якую-небудзь кнігу друга і чытаю свае любімыя строфы з «Юнацкага свету», са «Сцяга брыгады», з «Новай кнігі». Як гэтыя:

Палын не трэба ні млынам, ні зводкам.
Нядолі дар, ён быў адвечным сродкам
Гаротных жней, якія ах грудзей
Гаркотаю адважвалі дзяцей,—
Каб стаць хутчэй маглі яны на ногі,
Каб адкрывалі з дапамогай рук
Хат курадымных бітыя парогі.

Я з ім жыццё прайшоў — былы хлапчук —
Ад першых крокаў пад бацькоўскай лавай
Да баявых сцягоў, што мы са славай,
Не падаючы, неслі праз вайну,—
За гэта ўсе мы ўдзячны палыну.
Палын — і клопат матчын, і дарога,
І слёзы, і ўспамін сіроцкіх меж,
І горыч малака таго, якога
Ніякай смагай з вуснаў не сатрэш.

Складанасць жыцця, яго слодыч і горыч. І вечны рух, і любоў, і чалавечнасць.

Альбо такія:

Спакойнага шчасця
не зычу нікому...

І яшчэ:

Няхай злуюцца хвалі. Выклік смелы
Я пасылаю сам насустрач ім —
Свайго жыцця чырвоны сцяг. А белы —
Я пакідаю ворагам маім.

Пажадаем жа Аркадзю Куляшову, выдатнаму майстру паэзіі, здароўя, шчасця і новых кніг.

Беларускі народ можа ганарыцца такім сынам.

*1974*

## ДА СЭНСУ СЭРЦАМ ДАБРАЦЦА

Чырвоныя сцены Брэсцкай крэпасці згрызены, здзяўбаны сталлю і свінцом. У музеі — партрэты бессмяротнага гарнізона, партыйныя і камсамольскія білеты, залітыя крывёю, баявая зброя абаронцаў крэпасці, перадсмяротныя надпісы на камнях і запіскі, пакінутыя ў гільзах патронаў. І сцягі, адкапаныя шмат гадоў пасля з абгарэлай зямлі.

Патрыятызм, адвага, нязломная воля, пераадоленая пакута, воінская годнасць, вера ў перамогу — усё гэта так канкрэтна, так ярка, так скандэнсавана ў музеі Брэсцкай крэпасці, што былым франтавікам пад канец агляду ўжо няма чым дыхаць, вайна цяжка навальваецца на сэрца, і мімаволі хочацца глынуць вады з Буга. Як тым, першым героям Айчыннай, што знемагаліся тут ад ран і смагі. Гэта франтавікам...

А вось Рыгор Барадулін у сваёй паэме «Балада Брэсцкай крэпасці» піша:

Замнога, музей,
Не тлумач ты,
Нябыт не вяртай.
Хай з нябыту
Штыка адгранёная мачта
Трымае ветразь блакіту!

І гэта не боязь застацца вельмі доўга з вока на вока з жорсткай праўдай вайны, з нясцерпным святлом мужнасці і болю. Паэту, як і ветэранам, цяжка ўсё пераажыць зноўку. Занадта асабіста ён усё ўспрымае. І не дзіўна. Рыгор Барадулін — сын партызана, які зведаў і голад, і блакаду, і страшэнныя бамбёжкі, і многае іншае, што давялося зазнаць падчас вайны беларускім, і не толькі беларускім дзецям. Магчыма, тыя гарматы, што білі па абаронцах Брэста, крышылі снарадамі і партызанскія лясы Віцебшчыны. Паэт мужна вырашае:

Памяць,
Усё наноў
Перапакутуй зноў
За байцоў — абаронцаў.

У паэме — баявыя эпізоды, батальныя сцэны, імёны герояў, колер агню і колер сцяга і камуністы, што

ў цесных радах шчыльней, чым патроны ў абойме. І бязмежная адвага ў імя Айчыны. Пра даўно вядомыя і праслаўленыя подзвігі Барадулін напісаў свежа і моцна.

Дык пра што ж паэма? Пра небывалы гераізм савецкіх воінаў? Так. Пра веліч Радзімы? Правільна. Пра нязломнае адзінства сыноў і дачок усіх народаў нашай краіны? І пра гэта.

Але галоўнае — асэнсаванне подзвігу абаронцаў Брэсцкай крэпасці з вышыні нашых дзён. Паэт жадае «да сэнсу сэрцам дабрацца».

Калі ў першых зборніках Барадуліна ўражвала буйная метафарычнасць, гульня фарбаў і слоў, багацце дэталей (амаль заўсёды нечаканых і дакладных), то ў апошніх вершах і паэмах (напрыклад, у «Блакадзе») паэт піша больш строга і эканомна. Пры гэтым голас паэта не страціў ні сваёй індывідуальнасці, ні яркасці.

Сурова і мужна гучыць голас Барадуліна і ў новай паэме. Паэт разумее, што Брэст — не толькі подзвіг, але і трагедыя.

У пачатку паэмы ўжо гучыць прыглушана напамінак, што спіскі герояў будуць складацца пасмяротна. Ідзе бой.

У абаронцаў
Слова цвёрдае,
Пагляд прыкіпеў да мушкі.
Потым будуць
Пасмяротна ордэнскія —
Патрэбны цяпер
Кулямётныя стужкі.

Паэт верыць, што «крэпасць не здасца, крэпасць выстаіць, да патрона апошняга, да апошняга чалавека!».

І калі ў сорак другім годзе з аднаго казёмата выйшаў безымянны баец, зарослы і змардаваны, ён гаварыў захопнікам не пра літасць:

— Я выйшаў
Перакапацца
ў вашым бяссіллі!..

Так паэт сэрцам дабіраецца да суровай праўды, пазнае, «адкуль яна, вера, адкуль яна, непахіснасць?!.».

Магчыма, паэма прагучала б трохі манатонна, калі б не лірычныя, вельмі чалавечныя адступленні, дарэчы ўжытыя фальклорныя вобразы, пранізлівыя радкі накшталт тых, дзе, нібы кнігаўкі, дзеці просяць «піць». Здаецца, і рацыя вымаўляе: «піць-піць», і кулі свішчуць: «піць-піць!»

Той, хто чытае паэму, нібыта знаходзіцца ў цэнтры тых векапомных падзей, паміж агню і дыму, груката і стогнаў.

Але адначасова ён заглядвае і ў глыбіню гісторыі гэтага цудоўнага палескага краю, дзе і паўнаводныя рэкі, і Белавежская пушча, і добрыя працавітыя людзі.

А паэт увесь час, ледзь прыкметнымі штрыхамі, напамінае, што ён належыць сучаснасці, сённяшняму дню і што ўсе яго думы накіраваны ў заўтра, у будучыню. Паэту дапамагае яго багатае асацыятыўнае мысленне.

Брэст. Пагранічны раён. Паэту здаецца, што над гэтым раёнам гараць сузор'і Кіжаватава, Нагапава, Зубачова — бессмяротных герояў Брэста.

А ці патрэбны тут зоркі? Патрэбны. Бо тут побач нарадзіўся і жыў хлопчык Петрык, збіраў у крэпасці патронныя гільзы, слухаў легенды пра волатаў і воінаў, а пазней, праз многа гадоў, паляцеў да зорак. Хлопчык Петрык стаў праслаўленым касманаўтам Пятром Клімуком. Сын Зубачова павёў з Брэста паравоз па прасторах Радзімы. А ў рэвалюцыйную Кубу плыве з нафтай танкер «Героі Брэста».

Сувязь часоў, пераемнасць пакаленняў.

На плошчы крэпасці баец, высечаны з граніту, прытрымліваючы аўтамат, цягнецца каскай да вады, каб наталіць смяртэльную смагу. А высокі адгранены штых трымае, як ветразь, блакітнае мірнае неба.

Рыгор Барадулін заканчвае паэму:

Прыходзьце сюды
Не з пустою біклагай
Вады легендарнай напіцца —
На вернасць СЦЯГУ
Даваць ПРЫСЯГУ.
Нязломнасці нашай
Вучыцца!

*1974*

# КАБ ЖЫЦЦЁ НЕ АБДЗЯЛІЛА

Малады паэт.

У роздуме пра лёс паэзіі менавіта з ім, маладым паэтам, звязаны нашы надзеі. Радасна, калі, сустрэўшыся з не вядомым пакуль табе імем, адкрываеш новы свет думак, пачуццяў, вобразаў.

На памяці ў мяне нямала такіх сустрэч. Але спачатку я хацеў бы пагаварыць пра тое, чым нярэдка засмучае маладая паэзія. Гэта перш за ўсё нясмеласць, драбнатэм'е, інерцыя мыслення, што насцярожвае не проста як сума прыватных няўдач (яны могуць быць у кожнага), а набывае ў апошні час характар з'явы, атрымаўшай знішчальную назву — «шэрая» паэзія.

Возьмем вершаваную прадукцыю літаратурных штомесячнікаў Беларусі. «Полымя», «Маладосць», «Неман» — часопісы сур'ёзныя, патрабавальныя. На іх старонках часта з'яўляюцца сапраўды таленавітыя паэтычныя творы. Але нярэдка друкуюцца і вершы слабыя, прахадныя, якія вельмі і вельмі далёка стаяць ад лепшых дасягненняў сучаснай беларускай паэзіі.

«Шэрая» паэзія... Здавалася б, яе прыкметы агульнавядомыя. Але вось які парадокс выявіўся ў паэзіі маладых: яна не абавязкова бясколерная. Не, наадварот, яна не цураецца імкнення ўразіць чытача рознага роду эфектамі: каляровымі і гукавымі.

Чырвоныя, ружовыя, сінія коні, якія табунамі скачуць па старонках часопісаў,— не што іншае, як знак «рамантычнага стылю», які сцвярджаецца да таго ж з дапамогай фанфараў, што яшчэ больш падкрэслівае яго прэтэнцыёзнасць. У банальных сюжэтах на збітыя матывы эстрадных песенак нібыта знікае сама жывая рэальнасць, а спроба падмяніць яе ўмоўным тэатралізаваным дзеяннем, натуральна, да поспеху не прыводзіць.

З другога боку, некаторыя маладыя паэты, якія даўно ўжо гарадскія жыхары, з мілай бяздумнасцю ўяўляюць, як яны аруць, малоцяць. З такога «прылучэння» да працы (пераважна да старой сялянскай) таксама нічога добрага не можа атрымацца. Адзін паэт, які напісаў дакладныя вершы пра зямлю і пе-

ба, убачаныя вачыма авіятара (прафесія аўтара), раптам палічыў патрэбным скласці радкі: «Ці пішу, ці мянташу касу...» Я не бяру на сябе смеласць сумнявацца ў шчырасці душэўнага парыву Ул. Скарынкіна. Але чаму ж тады ўражанне выпадковасці, неабавязковасці, паўторнасці (вторичности) такіх радкоў?

Вельмі многа вершаў пра дзяцінства. Вядома, успаміны пра маленства — невычарпальная крыніца паэзіі. Так было і так будзе. Але калі чытаеш усё пра тую ж сцяжынку, ловіш сябе на думцы: чуллíва — так, але да чаго ж аднастайна, сумна!

З часопіса ў часопіс вандруюць усё тыя ж мілыя сэрцу бярозкі, рабіны. Ідуць дажджы ціхія, сцюдзёныя, цёплыя. Часамі неяк раўнадушна прагрукоча навальніца. І — зноўку цішыня. Ідылія. Вершы пра лясную лазню. І проста лазню. Пра грыбы піша, здаецца, кожны трэці паэт. Мільгае мноства назваў родных рэчак, вёсачак, сёлаў. Але яны не затрымліваюцца ў памяці, таму што за імі няма рэальна непаўторнага, запаветнага перажывання. Скажаш пра гэта аўтару, ён абураецца: як жа так? Ён пісаў не пра чужое, а пра сваё дзяцінства. Так, але тым не менш бытавы факт не зрабіўся фактам паэзіі. Перад намі чарговае ўвасабленне стандартнасці пачуцця, увасабленне ходкага погляду пра маленства як пра нейкі благаслаўлёны астравок, на які не пранікалі турботы і трывогі «дарослага» свету. Адгэтуль і сузіральнасць, і элегічнасць, якія ўзялі літаральна ў палон дзесяткі маладых паэтаў (а часам і не толькі маладых). Адгэтуль і адсутнасць колькі-небудзь арыгінальнай думкі, драбнатэм'е, якое проста гняце.

Калі няма пэўнай унутранай пазіцыі, а пісаць трэба, бо лічыш сябе паэтам, тады і нараджаюцца вершы пра няўдалае каханне, пра расчараванне ў некім і ў нечым.

Вось паэтэса Н. Загорская:

Сустрэча выпадковая  
Мне засланіла свет,  
Лягла на лёс падковаю,  
На самы першы след...  
І быццам не любіла я,  
Маланкай не была.

*(«Полымя», № 3, 1974)*

Легкадумна піша на гэту тэму і Ю. Лакербай, якога не назавеш пачынаючым:

Уходишь
от верб
на зернистом снегу
В майские снеги акаций.
Уходишь,
А я за тобой не бегу,
Не умоляю остаться.
Уходишь —
Извечный сюжет на двоих,
С горчинкой
осенних восходов.
О, дар!
О, лазейка созданий земных! —
Возможность простого ухода.
Свободен, как птица,
И сам себе — бог!

*(«Неман», № 4, 1973)*

У маладога паэта В. Трусава таксама ўсё лёгка і проста:

Ох, этот май! —
Бери, ломай,
Не мучайся, приятель! —
Давай расти,
Да не грусти —
Весна приходит кстати.
— Цинь-цинь, цинь-цинь! —
Цветет сирень,
Сирень, сирень — и только.
И целый день
На наш плетень
Поглядывает Ленька.

*(«Неман», № 2, 1975)*

У Н. Ганчарова таксама не надта што якія турботы:

Я стою.
На ладонях
Играет вода,
А вокруг все
По-прежнему голосно...
Эх, как хочется, чтоб всегда
Только снег
Серебрил всем волосы...

*(«Неман», № 6, 1974)*

Прачытаў напісанае і падумаў: ці не вельмі строга? Так, строга. І мне не хочацца змякчаць, абкладваць ватай вывады, якія напрошваюцца самі сабой: размова ідзе пра рэчы больш чым сур'ёзныя — пра

паэзію, пра лёс людзей. Тым больш што і самі паэты пачынаюць разумець: пара вызваліцца ад камернасці, выйсці з абмежаванага ўласнымі турботамі і перажываннямі кутка. З глыбокай шчырасцю гаворыць пра гэта Вольга Іпатава, перад якой «так расступіўся... свет», што

> Нібы луску, усю з сябе здыму
> Слоў драбязу і дробных спраў паспешнасць.
> *(«Полымя», № 3, 1974)*

Чым жа выклікана мая трывога? Адчуваннем тупіка, у якім непазбежна апынецца паэт, калі ён не мае сур'ёзнага жыццёвага вопыту, актыўна не ўдзельнічае ў стваральнай працы народа. У рэшце рэшт гаворка ідзе пра маральнае права паэта звяртацца да народа, да высокіх грамадзянскіх тэм і гаварыць ад імя народа.

«Ты, гражданственность — флаг, а не флюгер» — Я. Еўтушэнка знайшоў, на маю думку, дакладную паэтычную формулу, у якой выказана ідэйна-маральная сутнасць творчасці, яе ідэал, імкненне да якога здольна ўдыхнуць у паэзію свежыя сілы, пашырыць яе далягляд...

Грамадзянская сталасць — вынік сапраўднай творчай біяграфіі, лёсу, спалучанага з лёсам усёй краіны. Не цяжка прывесці для прыкладу біяграфіі дзесяткаў вядомых савецкіх паэтаў — Ул. Маякоўскага, Якуба Коласа, М. Ціханава, А. Суркова, П. Тычыны і многіх іншых, каб даказаць, што іх жыццё стала фактам глыбока патрыятычнай, высакароднай, сапраўды партыйнай паэзіі. Можа, гэтыя прыклады выключныя? Не, тыповыя! Колькі паэтаў з гордасцю ўспамінаюць пра сваю працу на Магнітцы, на будаўніцтве Маскоўскага метрапалітэна, у калгасе...

А ці ж час цяперашніх пяцігодак менш гераічны? Касмічныя палёты і Цюмень, цаліна і КамАЗ. Саянская ГЭС і БАМ — гэтым жыве і дыхае ўвесь народ. І ў нашай рэспубліцы, як і ў іншых, ідзе вялікая будоўля, карэнным чынам змянілася сельская гаспадарка, воблік вёскі. І галоўнае — людзі змяніліся. Як патрэбны тут вострыя вочы маладых паэтаў, якія ўмеюць любіць і ганарыцца Радзімай!

А як жа складваюцца біяграфіі маладых паэтаў, сярод якіх ёсць і члены Саюза пісьменнікаў? Ся-

рэдняя школа — універсітэт ці інстытут — першыя вершы — першая кніга. І адразу — праца ў рэдакцыях газет, часопісаў, выдавецтваў, на радыё і тэлебачанні. Ранняя прафесіяналізацыя. Другая кніга амаль заўсёды слабейшая. Пачынаюцца перапевы. Потым — першая крыўда, хваравітае самалюбства...

Бясспрэчная і даўняя ісціна ў тым, што ў рэшце рэшт усё вырашае талент, асоба паэта. Але я пераконаны, што адсутнасць жыццёвага вопыту не можа быць кампенсавана самым высокім «натхненнем». Толькі ў жыцці можна знайсці свае тэмы.

Крыўдна неяк, што некаторыя маладыя паэты мала цікавяцца жыццём, што «раве за бортам».

Паслухаем Аляксандра Твардоўскага:

«Магу сказаць, што, калі Смаленшчына, з усёй яе непаўторнай і неацэннай для мяне памяццю, выпала мне, як кажуць, ад бацькі з маці, то ўжо, напрыклад, Сібір з яе суровай і велічнай красой, прыроднымі багаццямі, гіганцкімі будоўлямі і казачна шырокімі перспектывамі, я здабыў для сябе ўжо сам у сталыя гады...

Гэту новую маю сувязь — сувязь з «иными краями» — я свядома развіваю і ўмацоўваю з канца саракавых гадоў, калі ўпершыню пабываў на ўсходзе краіны, і яна непасрэдна адбілася ў галоўнай маёй працы пяцідзесятых гадоў — кнізе «За даллю — даль».

Хочацца параіць маладым паэтам актыўна ствараць сваю біяграфію — і жыццёвую, і творчую».

Хто прыслухаўся да слоў выдатнага савецкага паэта, той і парадаваў чытача добрымі вершамі і паэмамі. Рыгор Барадулін, калі яшчэ быў студэнтам, працаваў на цаліне. Вынік — кніга «Маладзік над стэпам». А за гэтай паездкай — Латвія, Енісей, многія іншыя краі — і цудоўныя вершы, напоўненыя любоўю да Радзімы, да шматплямённых братоў. Гэтыя паездкі дапамагалі Барадуліну інакш, свежа і ярка напісаць і пра сваю Беларусь.

Генадзь Бураўкін, паэт шчыры, прынцыповы, па-грамадзянску мужны, пачаўся як паэтычная індывідуальнасць у вершах пра Полацкі нафтабуд. Потым былі Алтай, Ленінград, фестываль моладзі ў Хельсінкі — і новыя вершы.

Янка Сіпакоў пабываў у Сібіры, у Запаляр'і і на-

пісаў не толькі добрыя вершы, але і кнігу нарысаў «Па зялёную маланку». А перад падарожжам на Поўнач ён аб'ездзіў Палессе і таксама напісаў і вершы, і кнігу нарысаў.

Зусім нядаўна малады паэт Мікола Федзюковіч пажыў сярод нафтавікоў Беларусі, вынік — цікавая паэма «Рэчыцкі гарызонт». У канцы паэмы ён піша:

Я думаю: паменш трэба гасціць
Там, дзе работа просіцца да пальцаў...
Калі гасіць пажар — дык нам гасіць,
Калі агні запальваць — нам запальваць.

*(«Маладосць», № 5, 1974)*

Моцна, многаабяцаюча пачалі свой шлях маладыя паэты Л. Дайнека, Н. Мацяш, А. Разанаў, Ул. Някляеў. У іх хоць і невялікі, але добры жыццёвы вопыт. І ў вершах б'ецца жывая паэтычная думка.

Шчаслівы той, хто ўслед за нашым вялікім паэтам можа сказаць: «Нет, жизнь меня не обделила...»

Пройдуць гады. І будзе сумна, калі аднойчы малады зараз паэт, агляну ўшыся на пройдзены шлях, са страхам пераканаецца, што жыццё яго абдзяліла. Па ўласнай віне.

*1974*

# У КОЖНЫМ ДОМЕ, У КОЖНЫМ СЭРЦЫ

Напісаць пра Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна нават некалькі радкоў цяжка. Пра яго было сказана столькі захапляючых дзівосных слоў, прызнанняў, дакладных вызначэнняў, што мімаволі адчуваеш нясмеласць і хваляванне.

Але кожнае пакаленне, кожны ўзрост па-свойму чытае Пушкіна. У кожнага чалавека ёсць свой Пушкін.

Да мяне ён прыйшоў у лясную беларускую вёску разам з матчынай песняй. Я яшчэ не ўмеў чытаць, але ўжо ведаў пра рыбака і залатую рыбку, пра прагнага папа і кемлівага работніка Балду.

Потым былі гады вучобы, і нам усё больш раскрывалася прыгажосць, мудрасць, магутнасць Пушкіна. Я, здаецца, не ведаю другога паэта, чые б вершы былі так адкрыты к суперажыванню.

Вялікі паэт нібыта растварыўся ў нас, і мы часта глядзелі на свет яго вачыма, і яго словы рабіліся нашымі, асабістымі...

Ходзіш па асенняму лесу, і само па сабе ўзнікае: «Роняет лес багряный свой убор», «Печальная пора, очей очарованье...» І няма лепшага за гэтыя чароўныя словы. І заўсёды здзіўляешся: адкуль, як узнікае цуд з самых простых слоў?

Калі я ўпершыню хадзіў па ленінградскіх набярэжных, стаяў каля Меднага конніка ці іншай парой упершыню пралятаў над Каўказскім хрыбтом, у сэрцы ціха гучалі цудоўныя пушкінскія радкі: «Невы державное теченье, береговой ее гранит...», «Куда ты скачешь, гордый конь, и где опустишь ты копыта?», «Кавказ подо мною...»

Пушкіна перачытваю часта.

Здаецца, зрадніўся з кожным радком, з кожным словам. Усё знаёмае і блізкае. Але, дзіўная рэч, праз некаторы час ізноў чытаеш і зноў здзіўляешся: «Як жа я гэта не заўважыў? Як мог не зразумець?»

Пушкін проста невычэрпны. І заўсёды сучасны. Пра што б мы сёння ні гаварылі: пра свабоду і братэрства народаў, пра нянавісць да прыгнятальнікаў, пра каханне і вернасць — Пушкін да здзіўлення на-

туральна ўваходзіць у наша сённяшняе светаадчуванне, ён блізкі нашым маральным паняццям.

Беларускі народ любіць і шануе Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Ён для нас не толькі вялікі рускі паэт, ён наш агульнанародны геній.

Я не ўяўляю сабе не толькі рускую літаратуру, але і беларускую культуру без Пушкіна.

Пушкіна многа і добра перакладалі на беларускую мову лепшыя нашы паэты Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк. І вялікі рускі паэт духоўна ўзбагаціў беларускую паэзію, душу народа.

Добра сказаў пра Аляксандра Сяргеевіча наш Янка Купала: «Люблю я Пушкіна за яго прыгожы чароўны верш. Люблю за яго багацце думак, за сюжэтнасць, за зразумеласць яго мовы для ўсіх ад малога да вялікага. Люблю я Пушкіна за яго гордасць, за свядомасць чалавечай дастойнасці... Я люблю Пушкіна за тое, што ён жывы барацьбіт за свабоду, за шчасце чалавецтва».

Месцы, што звязаны з жыццём ці нават кароткім знаходжаннем паэта, мы называем пушкінскімі.

Яны для нас святыя.

Але сёння мы можам назваць пушкінскім кожны горад, кожную вёску, бо Пушкін жыве ў кожным доме, у кожным сэрцы савецкага чалавека.

*1974*

## ТАКІМ ЯГО ПОМНЮ

З прымятай фотакарткі (нямала яна павандравала са мной па свеце) глядзіць строгі, схуднелы твар Пятра Фёдаравіча Глебкі. Пышныя вусы, непрычасаная чупрына. У пятліцах па дзве «шпалы». На адвароце здымка надпіс: «Міламу і дарагому Пімену» і жартоўныя радкі:

Я завёў дзеля красы
Невялікія вусы,
Можа, нават і малыя,
Але пышныя, рудыя...
Стала Пімену зайздросна,
Паглядзеў на іх ён злосна.
І вось я заснуў на міг,—
Пімен мне вусы абстрыг.
Хай жа ён на вус глядзіць
І мяне заўсёды сніць.

І дата: 29.8.42 г.

Вядома, вусы яму ніхто не абстрыгаў. Мы ў жніўні сорак другога прыехалі з Глебкам у Маскву на грузавіку з Калінінскага фронту па справах нашай газеты: патрэбна было раздабыць шрыфты, клішэ, зайсці ў ЦК КПБ.

Сваю машыну мы загналі ў двор Саюза пісьменнікаў СССР на вуліцы Вароўскага. Вось там нас і «падлавіў» вечны фатограф Саюза пісьменнікаў.

Некалькі дзён, што мы мелі на Маскву, былі загружаны на макаўку. Рабілі справы, сустракаліся з сябрамі, заказвалі артыкулы, вершы. Часу было мала, і я рваўся на аўтобус ці метро. Але Пятро Фёдаравіч супыняў:

— Давай пройдзем пешкам, паглядзім на Маскву.

Я занепакоіўся, што ён падаб'ецца, але Пятро запэўніў, што ён пасля сорак першага года — адмысловы хадок.

А тое чорнае лета далося яму ў знакі: амаль паўрэспублікі ён прайшоў пешкам у лапцях і надта хваліў гэты абутак. Пасля на доўгі час ён абуў вайсковыя боты.

Пазванілі Уладзіславе Францаўне — удаве Янкі Купалы. Рана ад страты нашага вялікага паэта яшчэ не загоілася, і размова па тэлефоне была нялёгкая.

Але Глебка здолеў крыху развеяць горкі настрой цёткі Уладзі і пад канец сказаў:

— Заўтра прыйдзем да вас на бульбу з селядцом.

Сказаў проста так, бо з прадуктамі ў Маскве тады было цяжка.

І як мы здзівіліся, калі на другі дзень вельмі рана нам у гасцініцу пазваніла Уладзіслава Францаўна і загадала:

— Хутчэй прыходзьце снедаць! Ёсць бульба і селядзец.

Такі ўжо слаўны чалавек была наша Уладзіслава Францаўна.

Пасядзелі, пагаварылі. Цётка Уладзя і Пятро Фёдаравіч успаміналі дарагія сэрцу драбніцы. Гаспадыня мне шапнула:

— Янка вельмі любіў абодвух Петрусёў.

Але было гэта ўсё пазней, а пазнаёміўся я з Пятром Фёдаравічам у сярэдзіне трыццатых гадоў. Мяне і Усевалада Краўчанку выклікалі ў Мінск і ў клубе пісьменнікаў зрабілі невялікі літаратурны вечар. З ацэнкай нашых твораў (яшчэ вельмі слабых) выступілі З. Бядуля, А. Александровіч, М. Хведаровіч, Р. Бярозкін і іншыя пісьменнікі. Грунтоўнае слова сказаў Глебка. Я надта саромеўся, бо паэтам сябе тады яшчэ не лічыў. Але слушныя парады Пятра Фёдаравіча запомніліся моцна.

Пазней мы разам былі ў паходзе па вызваленай Заходняй Беларусі, а ў часе Айчыннай вайны служылі ў франтавых газетах, добра пасябравалі.

І тут я хачу сказаць пра некаторыя рысы паэта, асноўныя, як мне здаецца, рысы яго характару: добрасумленнасць, грунтоўнасць, добразычлівасць, вытрымка. А яшчэ Глебка быў проста мілы, абаяльны чалавек.

У яго было многа знаёмых і сяброў.

Ён умеў гаварыць з людзьмі розных прафесій, а галоўнае, умеў зацікаўлена выслухаць кожнага чалавека; мяне заўсёды захапляла яго тактоўнасць, яго адзіна правільны тон у гутарках з людзьмі рознага асяроддзя.

У пачатку сорак другога года мы былі пасланы на Калінінскі фронт.

У нашым эшалоне акрамя рэдакцыі франтавой газеты «За свабодную Беларусь» і паходнай друкар-

ні была вялікая група беларускіх хлопцаў і дзяўчат, якіх перапраўлялі за лінію фронту. Узначальваў гэту групу сакратар Віцебскага падпольнага абкома Стулаў.

І ледзь не цэлую ноч Глебка і Стулаў вялі навуковыя спрэчкі, забраліся ў такі філасофскі гушчар, што астатнія спасавалі і захінуліся шынялямі.

А перад гэтым жа мы з Пятром былі ў вагоне, дзе ехала моладзь, жартавалі, расказвалі пра свае франтавыя прыгоды, пра пісьменнікаў, якіх яны ведалі, чыталі і любілі.

Тады нас напаткала бяда.

Недалёка ад горада Пена ўначы нямецкі бамбардзіроўшчык скінуў на эшалон бомбы. Былі ахвяры. Вельмі шкада было тых дзяўчат і хлопцаў, што так і не дабраліся да роднай зямлі.

І добра было ў цяжкі час мець верных сяброў, такога спакойнага і разважлівага таварыша, як Пятро Глебка. Ён умеў хаваць свае горкія думы і перажыванні.

Некалькі дзён мы пражылі ў гэтым невялікім рускім гарадку на беразе Волгі, які быў нядаўна вызвалены ад акупантаў. Мы схадзілі на тое месца, дзе фашысты расстралялі Лізу Чайкіну, наслухаліся жахлівых гісторый ад мясцовых жыхароў.

Наша рэдакцыя размясцілася ў невялікай прыфрантавой вёсцы. У суседніх вёсках былі рэдакцыі іншых франтавых газет на рускай і нямецкай мовах.

Штат рэдакцыі быў невялікі, і нам даводзілася быць майстрамі на ўсе рукі: пісаць артыкулы, правіць гранкі, складаць лістоўкі, быць экспедытарамі і ўхітрацца яшчэ пісаць вершы. Часамі людзі былі ў паездках, і ўсю працу рабілі два-тры чалавекі. З Глебкам працаваць было прыемна: ніякай мітуслівасці, ніякай нервознасці, таварыскасць і ўзаемавыручка. Дапамагала нам і Глебкава дасціпнасць.

Узнікла ідэя выпускаць невялікі сатырычны часопіс. ЦК КПБ і Палітупраўленне фронту нас падтрымалі. Быў у нас малады маскоўскі мастак Валодзя Мінаеў.

Мы з Глебкам пісалі сатырычныя вершы, рабілі кароткія подпісы пад карыкатурамі. Большасць ішло без подпісаў, а некаторыя падпісвалі. Глебка выбраў псеўданім Язэп Касіла, я — Тарас Паляшук. Пазней

пачалі нам дасылаць свае вершы Крапіва, Броўка, Танк, Вітка.

Праз Калінінскі фронт увесь час цяклі дзве партызанскія ручаіны: у тыл ворага і назад — падлячыць раны альбо па выкліку штаба партызанскага руху. Для нас кожная сустрэча з партызанамі была святам: вельмі мы сумавалі па Беларусі.

Зрэдку выпадала зацішная гадзіна. Тады мы з Пятром ішлі ў бліжэйшы лясок, ляжалі на траве і ўспаміналі родную зямлю, перабіралі імёны знаёмых людзей, назвы гарадоў і вёсак, дзе мы бывалі; назвы траў, кветак, птушак. Аднойчы мы панапісвалі на скавалачках паперы словы «кнігаўка», «зязюля», «салавей», «дрозд», «журавель» і іншыя. Скінулі ўсё ў пілотку і дамовіліся, якую хто птушку выцягне — пра тое і верш напіша. Неадкладна, на лясной паляны. Пятру дастаўся салавей, мне — зязюля. Так з'явіліся вершы: «Аб чым спяваюць салаўі» і «Ты скажы мне, зязюля».

Многа напісана ў той год... Я лічу, што франтавыя вершы Пятра Глебкі — адна з ярчэйшых старонак яго творчасці.

Часамі здаралася, мы па-рознаму ацэньвалі некаторыя творы, учынкі знаёмых людзей, але ніколі не імкнуліся навязаць адзін другому сваю думку. Ды часцей нашы думкі і густы сыходзіліся.

Калі-небудзь напішу пра свайго франтавога друга больш. А зараз перабіраю пажоўклыя лісты яго пісем і нібыта чую спакойны, разумны і сардэчны голас Пятра Фёдаравіча Глебкі.

*1975*

## ГОЛАСАМ СЭРЦА

Сем тамоў новага Збору твораў Петруся Броўкі сабралі лепшыя творы, напісаныя за паўвека нашым выдатным паэтам.

Чытаючы том за томам, мы пройдзем разам з паэтам вялікую дарогу, дзе было многа радасці і шчасця, гора і страт, але заўсёды ярка свяціла і свеціць зорка веры, надзеі і ўпэўненасці.

Творчасць Броўкі — паэтычны летапіс народнага жыцця не толькі роднай Беларусі, але і ўсёй нашай цудоўнай Радзімы. Мы ўбачым, як сталеў, набываў самабытныя рысы голас паэта; як да юнацкай непасрэднасці прыходзілі ўсё больш і больш глыбокія думкі.

Паэтычная дзяржава Петруся Броўкі немалая: яе мерыдыяны раскінуліся ад енісейскай тайгі да амерыканскага кантынента. Але найбольш светлыя і шчырыя песні ён праспяваў роднай зямлі, таму чароўнаму краю, што раскінуў свае сасновыя бары паміж Заходняй Дзвіной і Бярозай.

Калі Броўка надрукаваў свае першыя вершы, Кастрычніцкай рэвалюцыі ішоў дзевяты год. Краіна была разбурана войнамі, знясілена галадухай і хваробамі.

Па бягомльскіх і ўшацкіх лясах шасталі недабітыя банды.

Побач была дзяржаўная граніца. Часта сярод начы гучалі стрэлы, і за нешматлікімі тады камуністамі і камсамольцамі ўзнімалася па трывозе вясковая бедната і тыя мужчыны, што яшчэ насілі будзёнаўкі. Усё гэта перажываў і Пятрусь Броўка. Новы лад усталяваўся на беларускай зямлі назаўсёды. Вялікая ленінская праўда знайшла дарогу да сэрца селяніна. У тыя гады, калі не сціхала жорсткая класавая барацьба, паэт напісаў: «Не буду я стаяць на раздарожжы, вачамі сумнымі глядзець удалячынь». І тое, што сказаў дваццацігадовы юнак, паэт пацвердзіў усім сваім жыццём. Ён ніколі не стаяў на раздарожжы. Рэзка акрэсленая пазіцыя, выразная мэтанакіраванасць жыцця і творчасці, трапяткая любоў да роднай зямлі і свайго народа, вернасць рэвалюцыі і справе Леніна — гэта прайшло праз усе гады, праз

дзесяткі кніг, напісаных паэтам. Ён заслужыў права так напісаць пра агні Кастрычніка:

Мы неслі іх праз зімы, вёсны,
Цераз хрыбты цяжкіх гадоў,
І мы пранеслі іх пачэсна,
Не асаромеўшы бацькоў.

У першых зборніках Петруся Броўкі пераважала інтанацыя прамоўцы, заклік. Ён пільна прыкмячаў усё новае, што прынесла на беларускую зямлю Савецкая ўлада, быў палымяным прапагандыстам камуністычных ідэй.

Савецкая паэзія была ў вялікім пошуку. Паэты ставілі бескампрамісны бой са старымі звычаямі, старым бытам, рэлігіяй, забабонамі, з палыновымі межамі, з цёмным светам уласніцтва.

Пятрусь Броўка таксама быў у творчых пошуках. У яго паэзію ўвайшлі і заводскі цэх, і Асінбуд, і Красная плошча, і данецкая шахта. Праўда, асваенне новай тэматыкі нараджала часамі агульнасць, а то і набывала залішне глабальны характар. Але гэта былі выдаткі творчага росту.

У далейшым некалькі паэтычных плыняў — лірычна-рамантычная, публіцыстычная, эпічная — струменілі побач, перапляталіся, зліваліся, каб утварыць тую раку, якую мы называем паэзіяй Петруся Броўкі.

Суровай рамантыкай грамадзянскай вайны дыхае ад яго яркай паэмы «Праз горы і стэп».

Іншыя фарбы, важкія словы знайшоў паэт для сваёй антываеннай эпічнай паэмы «1914».

І ўсё ж такі Пятрусь Броўка па складу сваёй душы з'яўляецца ў асноўным лірычным паэтам.

Ён загучаў, гэты шчыры лірычны голас, яшчэ ў тым першым вершы пра бярозку, якая шаптала ў ліпнёвы вечар юнацтва.

Пасля мы чыталі дзіўныя радкі пра вясну: «Вясна. Красавік. Наліваецца сінімі почкамі сад».

Але, бадай, самай сакавітай даваеннай кнігай паэта была кніга «Шляхамі баравымі». Вочы паэта пачалі пільней углядацца ў твары людзей, у абрысы роднага краю, лесу, поля.

У самым значным, у самым простым — усюды была паэзія. Знайшліся свежыя фарбы, самыя трапныя словы. А людзі, што жылі амаль побач, аказаліся

надзвычайна цікавымі: і дзед Тарас, і садоўнік, і рыбак, і прыгожая Маланка, і цікавы нават бычок па мянушцы Мышасты.

Дружба, каханне, радасць сумеснай працы — увесь добры свет людскіх узаемаадносін, чалавечых пачуццяў зрабіўся невычарпальнай крыніцай для броўкаўскай паэзіі.

Прачытайце верш «Палессе», напісаны ў 1935 годзе.

Возера, глыбокае, як памяць,
Ад вады узняўся сіні дым,
І дубы шырокімі лістамі
Б'юць, нібы далонямі, над ім.

Як свежа і дакладна ўсё напісана, які радасны малюнак новага Палесся створан паэтам. Запамінаецца і «апошні чараўнік на печы з барадой зялёнаю да пят».

А затым пачаліся страшэнныя гады вайны.

Вайна захапіла Петруся Броўку разам з Янкам Купалам і Міхасём Лыньковым у Літве, дзе яны былі па запрашэнні літоўскіх пісьменнікаў. Сотні кіламетраў па Літве, па Беларусі, на якія падалі фашысцкія бомбы, былі той вогненнай дарогай, якая ніколі не канчаецца ні ў памяці, ні ў паэзіі.

Пасля была суровая, прыцемненая Масква, налёты нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў, грукат зенітак і бясконцы боль за родную краіну, за блізкіх людзей. А яшчэ была пякучая нянавісць да ворага і гнеўныя радкі вершаў.

Сустрэліся мы з Петрусём Усцінавічам пасля працяглай разлукі на Бранскім фронце. Па стану здароўя ён быў вызвалены ад службы ў арміі. Але Броўка добраахвотна пайшоў на фронт.

Гэта былі самыя цяжкія месяцы 1941 года, месяцы вялікіх страт і звышчалавечага гераізму. З Бранскага фронту было бліжэй да Беларусі. Група беларускіх пісьменнікаў служыла ў франтавой газеце «За Савецкую Беларусь». Пісалі артыкулы, лістоўкі і, вядома, вершы. Самалёты перакідвалі нашу газету за лінію фронту. Глыбокай восенню сорак першага танкавая армія ворага ўрэзалася ў наш фронт. Мы перажылі горкія дні яшчэ аднаго адступлення...

Франтавыя вершы Петруся Броўкі «Маці», «Пісьмо землякам», «Роднае», «Каўказ», «Надзя-На-

дзейка», «Кастусь Каліноўскі», «Паэма пра Смалячкова», як і творы іншых паэтаў-франтавікоў, займаюць асобае месца ў беларускай літаратуры: яны не толькі аб вайне, аб патрыятычным подзвігу савецкага народа, яны напісаны ў часе вайны і многія з іх непасрэдна на фронце. Гэта вершы-салдаты. Франтавая тэма будзе гучаць у гэтых паэтаў да канца жыцця.

Пасля вайны талент Петруся Броўкі раскрываецца перад чытачом у новай сіле.

Як і раней, у вершах паэта — грамадзянская палымянасць, зацікаўленасць усімі справамі свайго народа. Яшчэ ўважлівей ён ставіцца да людзей працы. Яго новыя кнігі густа заселены людзьмі. Вось героі Петруся Броўкі: каваль, архітэктар, калгасны мельнік, плытагон, кладаўшчык, ляснік, бондар, рахункавод... Можна было б доўга пералічваць.

Сярод герояў паэзіі Петруся Броўкі ёсць людзі, якіх добра ведае наш народ: Кірыла Арлоўскі, Ціхан Бумажкоў ды іншыя. Іх паэт добра ведаў, дружыў з імі і словы знайшоў, вартыя іх гераічнага жыцця.

Многа прачулых радкоў прысвяціў паэт сваім настаўнікам і старэйшым сябрам Янку Купалу і Якубу Коласу.

Сагрэты шматгадовай дружбай нашых выдатных паэтаў, Пятрусь Броўка і ў сваёй творчасці застаецца верны іх гуманістычным запаветам, народнасці, праўдзе жыцця.

Асобна трэба сказаць пра паэму «Голас сэрца», прысвечаную памяці маці паэта, якая загінула ў Асвенціме. Тут самыя высокія паэтычныя меркі здаюцца недарэчнымі. Гэта плач душы, пякучы боль, які ніколі не сціхне. Рэквіем, створаны паэтам, заўсёды знойдзе чуйны водгук у людскіх сэрцах.

Калі раскласці карту свету і пазначыць сцяжкамі тыя мясціны, пра якія пісаў Пятрусь Броўка, сцяжкоў было б густа: Масква, Ленінград, Кіеў, Паронікна, Ківач, Петразаводск, Бухарэст, Чорнае мора, Дунай, Марава, Будапешт, Варшава, Міхайлаўскае, Вільнюс, Лондан, Кунцава, Ташкент, Амерыка, Прага, Енісей, Тбілісі і многа-многа іншых краін, гарадоў, вёсак, гор, рэк. І, вядома, уся Беларусь. І гэта не проста выпадковыя назвы. Усюды паэт пабываў: то ў складзе дэлегацыі, то ў якасці дыпламата. Таму

так моцна гучыць у творчасці Броўкі тэма дружбы народаў, тэма інтэрнацыяналізму. Але дзе б паэт ні быў, ён заўсёды сумаваў па Радзіме, па Беларусі, па беларускіх лясах.

І тут трэба сказаць яшчэ пра аднаго героя паэзіі Петруся Броўкі — родную прыроду. Яна жыве ў кожнай кнізе, амаль у кожным вершы. Смалістыя наддзвінскія лясы і сама Заходняя Дзвіна, Браслаўскія і Лепельскія азёры, чырвоныя рабіны, белыя рамонкі, Бярэзінскі запаведнік, зубры і буслы, зялёныя дубы і ніцыя вербы — усё гэта паэт любіць глыбока, з маленства. Ён разумее мову дрэў і траў, яму хараша і асеннім лістападам, і ранняй вясной. У яго прырода заўсёды жывая, трапяткая, адухоўленая. Грозная ў часы нягод і навальніц і ласкавая ў мірныя дні, з пошумам збажыны, з гулам векавых бароў.

Прырода дапамагае паэту выявіць самыя інтымныя пачуцці, як у вершы «Александрына» — такім чыстым і светлым. Недарма гэты верш стаў адной з лепшых песень, якую так хараша спяваюць «Песняры» і якую палюбіў народ.

Мне здаецца, што найбольшага творчага поспеху за пасляваенны час Пятрусь Броўка дасягнуў у кнігах «А дні ідуць», «Між чырвоных рабін», «Калі ласка».

Паэт пачаў пісаць менш гучна, больш проста (але не спрошчана), вельмі канкрэтна. З'явілася тая добрая прастата, за якой стаяць багаты вопыт, жыццёвая мудрасць, майстэрства.

І, галоўнае, нарадзілася даверлівая лірычная інтанацыя, калі паэт хоча выказаць самае запаветнае, самае глыбокае, і чытач заўсёды адгукнецца на такую шчырасць.

Дарогі доўгія ў жыцці
Нам без памылак не прайсці.
Ад невялікіх — не гаруй,
Ёсць слова добрае — «даруй»!
Чым боль пакутліва хаваць,
Не бойся ты «даруй!» сказаць
Ані пакрыўджаным бацькам,
Ані таварышам-сябрам.

І паэту верыш, калі ён піша:

Мне да ўсяго сягоння справа,
Усё мне блізка да душы.

Паэзія Петруся Броўкі атрымала шырокае прызнанне і ў Беларусі і далёка за яе межамі. Яго кнігі шмат разоў выходзілі на рускай мове, на мовах многіх братніх народаў і за межамі нашай радзімы.

Думаю, што чытачы з вялікай цікавасцю пазнаёмяцца з прозай і публіцыстыкай Петруся Броўкі, упершыню так поўна сабранай у гэтым Зборы. Броўка пачаў пісаць нарысы, аповесці, артыкулы яшчэ ў маладосці. Але шырокую вядомасць як празаік ён набыў тады, калі напісаў шматпланавы раман «Калі зліваюцца рэкі». Асновай для рамана паслужыла будаўніцтва электрастанцыі на возеры Дрысвяты, дружба паміж беларускім, літоўскім і латышскім народамі.

У апошнія гады пісьменнік надрукаваў апавяданні і аповесць, у якіх уваскрашае першыя гады станаўлення Савецкай улады на роднай ушацкай зямлі. Запамінаюцца самабытныя характары людзей той пары: вясковых хлопцаў і дзяўчат, камісара і, асабліва, добрага дзіўнаватага няўдачніка і фантазёра Донькі-Даніэля.

Мне не адзін раз даводзілася быць з Броўкам у блізкіх і далёкіх дарогах. І заўсёды з вялікай павагай і любоўю яго сустракалі ў Віцебску і Бягомлі, у Кіеве і ў Закарпацці, у Тбілісі і Ташкенце. У яго ўсюды многа сяброў. Здаецца, няма ніводнага вядомага савецкага пісьменніка, з якім бы не дружыў Пятрусь Усцінавіч.

Я ўспамінаю, як ён выступаў у Ленінградзе на Кіраўскім заводзе, а вечарам на дачы Аляксандра Пракоф'ева да поўначы гулі бясконцыя жарты.

І ноч у Ташкенце, калі нас добра трасанула і мы хадзілі па начным садзе каля тэатра імя Наваі.

І перавал на Карпатах, дзе мы з чабанамі-гуцуламі пяклі бульбу і елі яе са смачнай брынзай.

А яшчэ бачу, як ужо немалады Пятрусь Броўка ўстае, як заўсёды, вельмі рана і дзівіцца на свае чырвоныя рабіны, што растуць каля яго хаты. А пакуль паэт здольны здзіўляцца, ён будзе і здзіўляць чытачоў новымі таленавітымі творамі.

*1975*

# ВЯЛІКАЯ САЛДАЦКАЯ ДАРОГА

Шлях, які ляжыць паміж Масквой і Мінскам, масквічы называюць Мінскай шашой, а мінчане — Маскоўскай. Але яе па праву можна назваць вялікай салдацкай дарогай. Тут стваралася гісторыя нашай Радзімы. Барадзіно і разгром немцаў пад Масквой; крывавыя бai за Смаленск, Ярцава, Вязьму; першыя залпы рэактыўных мінамётаў пад Рудняй і Оршай. У Оршы і навакольных лясах дзейнічаў адзін з самых адважных беларускіх партызан Герой Савецкага Саюза Канстанцін Заслонаў.

Барысаў. Бярэзіна. Гібель адступаючых напалеонаўскіх войск. У гэтую вайну адгэтуль пачалі рухацца да Мінска і першымі ўварваліся ў разбураную беларускую сталіцу танкісты генерала Бурдзейнага, ганаровага грамадзяніна горада Мінска.

Гэтая дарога памятае конніцу Будзённага.

З Мінскам звязаны легендарныя імёны Фрунзе, Тухачэўскага, Убарэвіча, Гая, Жукава, Цімашэнкі і іншых выдатных палкаводцаў. У баях за Мінск праславілася 100-я дывізія Русіянава, якая стала Першай Гвардзейскай.

Недалёка ад Мінска знаходзіцца вёска Вязынка. Там нарадзіўся Янка Купала. І побач здзейсніў свой подзвіг Мікалай Гастэла.

Каля Мінска ёсць вёскі з назвамі Каралёў Стан, Каралішчавічы. Тут некалі былі стаянкі шведскага караля Карла. Дарэчы, у Каралішчавічах наш Дом творчасці.

Калі ехаць далей, на захад Беларусі, па дарозе сустрэнецца невялікі горад Кобрын. Тут некалі стаяў штаб Суворава, а цяпер ёсць добры музей яго імя.

І, нарэшце, на самай граніцы — Брэст. Героі Брэста былі літаральна ўваскрэшаны энергіяй, шчодрым сэрцам і талентам Сяргея Сяргеевіча Смірнова.

І зусім заканамерна, што на гэтай дарозе на сцягах трох гарадоў ззяюць залатыя зоркі Герояў; што каля гэтай дарогі нарадзіліся касманаўты Юрый Гагарын і Пётр Клімук.

Але больш за ўсё каля гэтай дарогі салдацкіх і партызанскіх магіл.

Гэта дарога назаўсёды ўвайшла ў рускую класічную і савецкую літаратуру.

З першых дзён вайны на гэтай і на іншых беларускіх дарогах мы сустракалі Аляксандра Твардоўскага, Канстанціна Сімана́ва, Аляксея Суркова, Вадзіма Кажэўнікава, Міхаіла Матусоўскага і многіх іншых нашых франтавых дарагіх таварышаў.

У Беларусі храбра змагаліся Юрый Збанацкі, Платон Варанько, Анатоль Ананьеў, Уладзімір Карпаў. Мы ганарымся беларускімі партызанамі Закі Нуры і Міхаілам Хонінавым.

Мы свята беражом магілы загінуўшых на беларускай зямлі рускага пісьменніка Івана Меньшыкава, грузінскага паэта Мірзо Гелавані, узбекскага паэта Султана Джуры.

Мне здаецца, што ніхто не папракне нас у нясціпласці, калі мы заявім, што беларускія пісьменнікі ў час вайны выканалі абавязак перад Радзімай, перад савецкім народам.

З самага пачатку вайны Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Анатоль Вялюгін, Кастусь Кірэенка, Аляксей Пысін і іншыя пісьменнікі сталі франтавікамі. Многія змагаліся ў партызанскіх атрадах. Некалькі нашых пісьменнікаў, якія не былі ваеннаабавязанымі, пераходзілі лінію фронту, пабывалі ў партызанскіх атрадах (брыгадах), а адзін з іх, Анатоль Астрэйка, нават надрукаваў у партызанскім злучэнні зборнік вершаў «Слуцкі пояс».

Беларускія паэты ганарацца, што іх вершы, надрукаваныя лістоўкамі, скідваліся на родную, часова акупіраваную зямлю баявымі самалётамі.

Лепшае, што створана ў гады вайны, жыве і сёння: гэта сапраўды народная паэма Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады», лірыка Петруся Броўкі, Максіма Танка, вершы іншых паэтаў.

Знішчэнне фашызму — гэта праяўленне найвялікшага гуманізму. Усе мы памятаем цудоўныя святлоўскія радкі з «Італьянца»:

> Я стреляю — и нет справедливости
> справедливее пули моей!

У першыя месяцы вайны вельмі патрэбны былі шчырыя заклікаючыя вершы, такія, як «Убей его!» К. Сіманава, такія, як вершы Янкі Купалы:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны,
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Пасля цяжкіх, пакутлівых месяцаў адступлення, навучыўшыся добра ваяваць, уся армія заспявала «Землянку» А. Суркова. З'явіліся вершы і першыя раздзелы «Василия Теркина» А. Твардоўскага, з'явіўся цудоўны верш К. Сіманава «Жди меня». Ніякі цяперашні эстрадны поспех паэтаў не можа параўнацца з папулярнасцю гэтага шэдэўра франтавой паэзіі.

Безумоўна, і ў час вайны, і асабліва ў першыя гады пасля вайны нямала было дрэнных і фальшывых твораў і ў нашай літаратуры, і ў кіно. З мастацкім фальшам мне давялося сустрэцца яшчэ ў час вайны. Гэта было ў 1943 годзе на Паўночна-Заходнім фронце, у 34-й арміі. З перадавой адвялі адну часць у параўнаўча ціхае, лясное месца, каб адпачыць, папоўніць свае рады і г. д. У наспех пабудаваным вялікім бараку байцам у некалькі змен паказвалі фільм, які быў зняты ў глыбокім тыле, нібы аб партызанскай барацьбе. Папулярны артыст паказаў гэткага бадзёрага ў вышыванай кашулі дзядулю-партызана, які заманьваў кудысьці немцаў. Гітлераўцы ішлі па лесе ў новенькіх мундзірах, ланцугамі, плячо ў плячо. А дзядуля, напяваючы песню «Галя, Галя, Галя маладая!», заманьваў іх усё глыбей у лес. Нарэшце яны ўбачылі нейкі хлеў, дзе было раскідана сена. Дзядуля з гранатай за поясам лёг на сена, і калі з'явілася дзесяткі са два немцаў, ён узарваў і сябе і ворагаў.

Нібыта трагедыя, а байцы пасмейваліся. Было няёмка за артыста, які раней стварыў вобраз маладога рэвалюцыянера. Тыя, хто паставіў гэты фальшывы фільм, не бачылі і не ведалі вайну. А салдаты ўжо прайшлі ўсё пекла, вярнуліся з перадавой.

Заслуга такіх пісьменнікаў, як М. Шолахаў, К. Сіманаў, Ю. Бондараў, В. Быкаў, А. Ганчар, у тым, што яны сумленна і таленавіта расказалі праўду аб вайне, хоць яна нярэдка вельмі цяжкая.

Таму што, як гаварыў вялікі савецкі паэт Аляксандр Твардоўскі, нельга пражыць...

Без правды сущей,
Правды, прямо в душу бьющей,
Да была б она погуще,
Как бы ни была горька.

Мы рады, што пасляваеннае пакаленне беларускіх паэтаў (Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, П. Макаль, А. Грачанікаў, В. Зуёнак і многія іншыя), чыё дзяцінства было апалена вайной, стала дастойным пераемнікам паэтаў-франтавікоў.

Але сталасць кожнай літаратуры, як вядома, вызначае ў наш час проза. Безумоўна, у нас было два-тры добрых празаікі і да вайны.

Але толькі з'яўленне раманаў і аповесцей аб Вялікай Айчыннай вайне пазбавіла беларускую прозу ад абмежаванасці, ад налёту правінцыялізму. Такія раманы і аповесці, як «Мінскі напрамак» І. Мележа, дзе аўтару ўдалося стварыць вобраз камандуючага фронтам Чарняхоўскага, яго палескія раманы; «Агонь і снег», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы» І. Шамякіна, апавяданні і аповесці Я. Брыля, трылогія І. Навуменкі, дылогія і «Хатынская аповесць» А. Адамовіча сталі цікавымі, неабходнымі ўсесаюзнаму чытачу.

Асобна трэба сказаць аб творчасці Васіля Быкава. Да яго прыйшло вялікае і заслужанае прызнанне. Аб яго творчасці добра гаварыў Леў Рыгоравіч Якіменка. Я хацеў бы на гэтай нарадзе падкрэсліць грамадзянскую і эстэтычную прынцыповасць нашага Васіля Быкава.

Ваенна-патрыятычную тэму паспяхова асвойваюць І. Чыгрынаў, І. Пташнікаў, А. Асіпенка, Б. Сачанка, В. Адамчык, узбагачаючы беларускую прозу новымі адкрыццямі.

Карыстаюся выпадкам, каб сардэчна падзякаваць нашым сябрам рускім пісьменнікам-перакладчыкам. Іх вялікая таленавітая праца, вялікая руская мова адкрылі шырокую дарогу лепшым кнігам беларускіх пісьменнікаў.

Я хацеў бы звярнуць увагу ўдзельнікаў нарады на такі факт. Ад Брэста да Краснаярска (далей не быў, не ведаю) кніжныя магазіны забіты кнігамі, якія не разыходзяцца і мала чытаюцца. У той жа час людзі не могуць дастаць кніг любімых пісьменнікаў М. Шолахава, А. Твардоўскага, К. Сіманава, А. Ган-

чара, Ч. Айтматава, Б. Палявога, М. Грыбачова, І. Мележа, Ю. Бондарава, В. Быкава, А. Чакоўскага, Д. Граніна, Р. Барадуліна, М. Стэльмаха, І. Шамякіна, Я. Брыля, А. Ананьева, М. Аляксеева, Р. Бакланава, Р. Канавалава, А. Адамовіча і іншых добрых пісьменнікаў. Да раённых і сельскіх бібліятэк яны амаль не даходзяць. На часопісы, дзе друкуюцца новыя раманы і аповесці гэтых пісьменнікаў, запісваюцца ў чаргу. Трэба ўлічыць і тое, што ў сельскіх і школьных бібліятэках бюджэт невялікі, і яны не заўсёды могуць выпісваць «тоўстыя» часопісы.

Тое, што кнігі нашых лепшых пісьменнікаў, і ў прыватнасці кнігі аб Вялікай Айчыннай вайне, не даходзяць да «глыбінак» — па-мойму, гэта з'ява антыграмадская. Думаю, што лепшыя кнігі савецкіх пісьменнікаў трэба выдаваць не проста вялікімі, а вялізнымі тыражамі — для нашага вялікага народа.

Нашы абласныя, краявыя, рэспубліканскія і нават цэнтральныя літаратурна-мастацкія часопісы пагалоўна друкуюць замежныя дэтэктывы. (Гэта, маўляў, для лепшай чытабельнасці, для павелічэння тыражу). Але нярэдка гэта нядобраякасныя вырабы ды і героі не тыя, а жыццё ж, подзвігі, лёс нашых разведчыкаў, падпольшчыкаў, партызан, нашых франтавікоў нават сорамна параўноўваць з паходжаннямі гангстэраў і сышчыкаў.

Прыгадаем, з якой цікавасцю ўсе чыталі ўспаміны Е. Мухінай «Восемь сантиметров», надрукаваныя ў «Новом мире».

Нядаўна тэлебачанне паказвала добры шматсерыйны фільм «Руіны страляюць», створаны па дакументальных кнігах беларускага пісьменніка Івана Новікава. Апошні прыклад — кніга «Я — з вогненнай вёскі...» А. Адамовіча, Я. Брыля і Ул. Калесніка — кніга незвычайнай сілы і горкай праўды. Праца гэтых пісьменнікаў заслужыла ўсеагульнага адабрэння. Гэта пісьменніцкі подзвіг, інакш назваць не магу.

Але колькі сапраўдных герояў, асабліва сярод сціплых радавых салдат і партызан, колькі падзей абыдзены пісьменніцкай увагай. Я поўнасцю далучаюся да слоў Пятра Міронавіча Машэрава, які гаворыць, што трэба спяшацца, рады ветэранаў вайны радзеюць, можна спазніцца.

І апошняе. У падручніках і кнігах для чытання падзеі мінулай вайны часам падаюцца ў прымітыўным пераказе. Цяпер у нас вучаць малышоў алгебры, абстрактнаму мысленню. Ці не час больш мэтанакіравана вучыць дзяцей канкрэтнаму мысленню, такім рэчам, як савецкі патрыятызм, подзвіг народа, цяжкая праца салдата, мужнасць, сумленнасць, праўда. Таму што мнагавата расце вельмі практычных маладых людзей-спажыўцоў, для якіх высокія ідэалы, чысціня і самаахвярнасць салдат Вялікай Айчыннай вайны здаюцца непатрэбнымі, старамоднымі. І, безумоўна, выхоўваць дзяцей трэба на лепшых творах літаратуры аб вайне. Я мяркую, што варта ўключаць урыўкі з раманаў і аповесцей такіх пісьменнікаў, як К. Сіманаў, Ю. Бондараў, В. Быкаў, у кнігі для чытання самых маленькіх. Зразумеюць. І абавязкова ў праграмы па літаратуры для старшакласнікаў.

Кожнае лета ў нас ва ўсіх лясах збіраюцца былыя партызаны. Калі ў гэты час вечарам праляцець над Беларуссю, то можна ўбачыць, як на ўсёй нашай зямлі гараць партызанскія кастры. На стыку трох рэспублік — Расійскай Федэрацыі, Латвіі і Беларусі — насыпаны Курган Дружбы. Рускія, беларусы і латышы, прадстаўнікі іншых народаў, былыя партызаны, а цяпер рабочыя, калгаснікі, міністры, ваенныя, вучоныя збіраюцца, каб прыгадаць былыя паходы, баі, блакады. Яны прыязджаюць са сваімі сынамі, дочкамі, унукамі. Гэтыя пасівелыя людзі да драбніц памятаюць кожны бой, кожны выхад на чыгунку. Яны яшчэ часам могуць паспрачацца, хто першы ўдарыў па гітлераўскім гарнізоне. Гэтыя сустрэчы незвычайна цікавыя і павучальныя. Тут і непарушнае братэрства народаў, і абмен цяперашнім вопытам, і цудоўная школа для моладзі.

Удзельнікі гэтай нарады, абмеркаваўшы свае важныя літаратурныя справы, раз'едуцца па нашай рэспубліцы. Мы верым, што ў час сустрэч нашых выдатных пісьменнікаў з беларускім народам ярка разгарацца кастры дружбы і братэрства.

Для нас, беларускіх пісьменнікаў-франтавікоў, тэма вялікага подзвігу савецкага народа застанецца галоўнай тэмай і галоўнай справай на ўсё жыццё.

*1975*

## ЦЯЖКАЯ СТРАТА

Цяжка вымавіць, цяжка напісаць два словы: «Ён быў». Горкая вестка балюча ўдарыла па сэрцы, хоць мы даўно ведалі, што Міхась Ціханавіч вельмі хворы.

Пазней будуць падрабязныя ўспаміны, і воблік Міхася Ціханавіча Лынькова паўстане ва ўсёй сваёй велічы і непаўторнасці. А цяпер затуманеная горам памяць выхоплівае асобныя выпадкі і падзеі з яго жыцця. І ўсё глыбей адчуваецца непапраўнае: мы страцілі выдатнага пісьменніка, выдатнага чалавека, выдатнага камуніста.

Я ведаў яго каля сарака гадоў. Для мяне ён заўсёды быў настаўнікам, добрым прыкладам, старэйшым таварышам.

Я быў разам з ім у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь, а ў часе Айчыннай вайны служыў у франтавой газеце «За Савецкую Беларусь», якую рэдагаваў старшы батальённы камісар (а пасля падпалкоўнік) Міхась Ціханавіч Лынькоў. Мужны і смелы, заўсёды вытрыманы, надзвычайна ўважлівы да кожнага чалавека, а дзе трэба, строгі і патрабавальны, добразычлівы і таварыскі, ён быў сапраўдным нашым камісарам.

Да сваіх абавязкаў — службовых, партыйных, грамадскіх — ён ставіўся сур'ёзна і працаваў з поўнай аддачай. Ён быў глыбока прынцыповы, чалавек цвёрдага слова, мы верылі яму, як нікому. Пра сябе ніколі не клапаціўся, бярог сябе мала. Пра яго незвычайную сціпласць можна было б расказваць і расказваць...

У яго жыцці было нямала гора. Але ён нікому не спавядаўся ў сваіх перажываннях, пераносіў бяду ў сваім сэрцы. Але мы бачылі, як ён тужыць аб сыне і жонцы, забітых фашыстамі, імкнуліся яго ашчаджаць...

Мне бязмежна дарагі Міхась Ціханавіч яшчэ і таму, што ў цяжкія дні адступлення ён даў мне рэкамендацыю ў партыю. Міхась Ціханавіч Лынькоў быў руплівым і мудрым выхавацелем маладых беларускіх пісьменнікаў, непрымірымым ворагам халтуры, безыдэйнасці.

Мы цяпер часцей і часцей успамінаем яго прынцыповыя даклады, выступленні, артыкулы: Міхась Ціханавіч умеў дрэнныя творы назваць дрэннымі, а добрыя — добрымі заўсёды доказна, і сапраўдныя літаратары ніколі не крыўдзіліся на яго крытыку, а вучыліся.

Таленавітыя, самабытныя кнігі Міхася Лынькова прайшлі з намі з маленства праз усё жыццё: на іх праўдзе вучацца нашы дзеці, будуць вучыцца ўнукі і праўнукі. Гэта неўміручая частка нашай культуры.

А яшчэ Міхась Ціханавіч вельмі любіў раскладаць кастры, любіў агонь. Мы не раз яшчэ распалім касцёр і заўсёды будзем успамінаць нашага дарагога незабыўнага камісара.

*1975*

## ТРОХІ ПРА ДЗЯДЗЬКУ ЯКУБА

У нас любяць цытаваць цудоўныя радкі Якуба Коласа: «Мой родны кут, як ты мне мілы...» Некаторыя пісьменнікі сцвярджаюць, што яны запалі ў сэрца са школьных гадоў. Не адважуся аспрэчваць. Але за першым радком ідзе такое: «Забыць цябе не маю сілы». Гэта напісана чалавекам сталым, калі падступаюць неадчэпна ўспаміны пра маленства, пра родныя месцы.

Я па-сапраўднаму ацаніў сілу і прывабнасць гэтых радкоў, калі маладосць засталася недзе далёка-далёка; адбушавала вайна, спаліла нашы вёскі і гарады, парыла снарадамі і бомбамі родныя сцежкі. Ды і па свеце давялося паездзіць нямала. Вось тады, успамінаючы свае дзіцячыя гады і непараўнаныя бягомльскія лясы, і загучалі ў маім сэрцы светлыя і шчымлівыя радкі: «Мой родны кут, як ты мне мілы...»

А ў школьныя гады найбольш уразілі і запомніліся на ўсё жыццё такія раздзелы з «Новай зямлі», як «Раніца ў нядзельку», «Дзядзька ў Вільні».

Дзень быў святы, яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне...

Гэта было блізкае, наш свет. Нават пахла тымі блінцамі.

Грукоча дзядзька наш па бруку,
Адзін за дзесяць робіць груку.

Надта прывабны быў для нас гэты мудры дзядзька Антось. Вельмі любілі мы дарэвалюцыйныя сатырычныя вершы Якуба Коласа, накшталт «Асадзі назад», а таксама аповесці «На прасторах жыцця», «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся».

А родны кут Якуба Коласа я, на вялікі жаль, наведаў пазнавата, калі ўжо на беразе Нёмана стаяў будынак філіяла коласаўскага музея.

Па гасцінным запрашэнні сына паэта, Данілы Канстанцінавіча, мы з Максімам Танкам і Янкам Брылём пабывалі на радзіме Якуба Коласа: і ў Мікалаеўшчыне, і ў Альбуці; нахадзіліся ў яго лясах, пастаялі на беразе Нёмана, сустрэліся з землякамі і раднёй паэта.

Непаўторныя мясціны, дзіўная прыгажосць...

А вяртаючыся ў Мінск, сустрэлі магутнага лася, які з упэўненай годнасцю нетаропка бег праз поле ў другі лес. Але пра гэта ўжо напісаў Янка Брыль.

Якуба Коласа я ўпершыню ўбачыў недзе ў сярэдзіне трыццатых гадоў. Я тады працаваў вясковым настаўнікам і часта прыязджаў у Мінск на заліковыя сесіі (вучыўся завочна ў настаўніцкім інстытуце).

Уразіла мяне яго самавітая постаць, ціхая паходка, нягучны голас. Але асабліва — высокі лоб і ўвесь твар: вельмі спакойны і, не магу сказаць інакш, мудры. Здавалася, ніякія эмоцыі не могуць змяніць яго выраз. Многа разоў чуў я выступленні дзядзькі Якуба на пісьменніцкіх з'ездах, пленумах, на розных сходах і ўрачыстасцях. Гаварыў ён ціха, глухавата, але выразна. Так і вершы чытаў, без усялякіх «спеваў і завыванняў», чым грашылі і грашаць некаторыя паэты.

У яго не было бяздумных выступленняў, заўсёды адчувалася турбота пра стан роднай літаратуры, пра якасць беларускай паэзіі. Можа, і не з усімі яго ацэнкамі мы пагаджаліся, але гэта здаралася рэдка.

Найбольш ён любіў гаварыць пра жыццё, пра людзей, пра надзённыя справы народа, рэспублікі. Ён глядзеў на ўсё разумна і цвяроза, ■ практычнасцю працавітага селяніна і з захапленнем паэта, народнага паэта.

Памятаю, як адна прамова Коласа выклікала ў нас пэўную разгубленасць і некаторае расчараванне. Усе чакалі, што Канстанцін Міхайлавіч будзе гаварыць пра справы літаратурныя. А ён з глыбокім абгрунтаваннем пачаў даводзіць, што трэба з беларускіх палёў збіраць каменне: колькі зямлі прыбавіцца, колькі хлеба вырасце!

Значна пазней, калі ўжо Коласа не было ў жывых, па ініцыятыве ЦК КПБ вялікая група пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў наведала Докшыцкі раён, куды ўвайшла і мая родная Бягомльшчына, край, спрадвеку густа засыпаны каменнем: ад гарохавага россыпу да велізарных валуноў. Бягомльскі раён быў бадай самы бедны і неўрадлівы ў Беларусі.

І мы ўбачылі цуд. Адданыя калгаснай зямлі людзі і магутная тэхніка вызвалілі тутэйшыя палі ад каменнага засілля, і яны шчодра аддзякавалі: далі ў

некаторых калгасах і саўгасах па 35—40 і болей цэнтнераў збожжа.

Далёка глядзеў і добра бачыў наш Якуб Колас.

Калі я пазнаёміўся бліжэй з Канстанцінам Міхайлавічам, пачаў зрэдку бываць у яго доме, жыць побач у Каралішчавічах, я прывык да яго мудрай прастаты, натуральнасці размовы, неаслабнай цікавасці да розных падзей; любові да зямлі, да лесу, да грыбоў; да ўсялякай людской працы, асабліва сялянскай. І манументальна-спакойны твар не такі ўжо быў спакойны і нязменлівы. Як ён умеў, дзядзька Якуб, цікава расказаць даўнюю гісторыю, здарэнне, нават анекдот. Як ён умеў уважліва слухаць талковага і дасціпнага субяседніка, светла і добра ўсміхацца.

Давялося мне чуць, як ён і нязвычна чытаў свае новыя вершы, і голас яго перасякаўся глыбокім хваляваннем. Вясной 1946 года ў Маскве мы з Антонам Бялевічам рашылі наведаць Канстанціна Міхайлавіча. Тады якраз ішла сесія Вярхоўнага Савета СССР, і Колас жыў у гасцініцы «Метраполь». Вайсковец, які сядзеў у вестыбюлі, праверыў у нас дакументы (тады было строга) і пазваніў па тэлефоне: «Таварыш Міцкевіч, ці можна да вас...»

Дзядзька Якуб, як мне здалося, узрадаваўся нашаму прыходу, бо мы вызвалілі яго ад нейкай надакучлівай наведвальніцы (ён сам у гэтым прызнаўся). Заказаў піва, сыр. Расказалі яму нейкія дробныя навіны, а пасля ён, нібы крыху вагаючыся, сказаў:

— Можа, вы, хлопцы, паслухаеце мае новыя вершы?

І вось тады мы пачулі, як голас Якуба Коласа перасякаўся ад хвалявання. Вершы былі прысвечаны памяці яго жонкі Марыі Дзмітрыеўны. Пранізлівыя вершы. Здаецца, «Ляжыш ты ў зямлі, мая зорка...»

Запомнілася і паездка ў Ленінград, куды нас запрасілі на тыдзень беларускай літаратуры. Кіраўніком дэлегацыі быў Якуб Колас. Сустрэлі нас надзвычай гасцінна, пасялілі ў лепшым атэлі «Асторыя». У гэтым бессмяротным гераічным горадзе, колькі б разоў ты яго ні наведваў, заўсёды знойдзеш многа новага, нечаканага, велічнага, фантастычнага. І старое, бачанае, кожны раз успрымаеш інакш, глыбей.

Быў гарадскі літаратурны вечар, які, як кажуць, прайшоў з вялікім поспехам. Гэтаму спрыяла і агульнасць лёсу нашых гарадоў: мы востра адчувалі і разумелі, што перажылі ленінградцы ў часы блакады; а ленінградцы выказвалі ўзаемную павагу і братнюю шчырасць народу-партызану. Сярод абаронцаў горада Леніна было шмат воінаў-беларусаў. У памяць праслаўленага снайпера Хвядоса Смалячкова названа яго імем адна з вуліц Ленінграда. Ды і жывуць на берагах Нявы сотні тысяч выхадцаў з Беларусі.

Адбылося шмат сустрэч з людзьмі. Асабліва цікавым было наведванне праслаўленага Кіраўскага завода. Мы абышлі некаторыя цэхі. Усюды, дзе б мы ні з'яўляліся, нас сустракалі з гарачай прыязнасцю і сардэчнасцю. Вочы рабочых былі накіраваны перш за ўсё на Якуба Коласа.

На прасторнай пляцоўцы адбыўся мітынг. Нас віталі, мы чыталі вершы, гаварылі пра подзвіг кіраўцаў у часы вайны, пра дружбу народаў. Якуб Колас з уздымам прачытаў верш.

Кожнаму члену дэлегацыі кіраўцы падаравалі па важкаму тому «Гісторыі Кіраўскага завода» з цёплым надпісам.

Ленінградскія пісьменнікі — нашы даўнія добрыя сябры. І Аляксандр Пракоф'еў, і Мікалай Браўн, і Марыя Камісарава, і Усевалад Раждзественскі, і Браніслаў Кежун, і Павел Кабзарэўскі, і многія іншыя не раз перакладалі беларускіх паэтаў. І, вядома, у першую чаргу, Янку Купалу і Якуба Коласа. Ды і нашы кнігі там выходзілі: і Броўкі, і Танка, і мае. Мы добра помнілі, што Пецярбург быў калыскай першых выданняў нашых выдатных паэтаў і пісьменнікаў. Ганарыліся гэтым і нашы ленінградскія сябры.

Незлічоныя скарбы музеяў, мастацкія шэдэўры, гістарычныя месцы, помнікі, апошнюю кватэру Пушкіна — усё нам паказалі клапатлівыя гаспадары. Пазнаёмілі з тым, што праграмай не было прадугледжана. Па спецыяльных прапусках мы наведалі «падземныя» фонды Эрмітажа, дзе скіфскае золата аж сляпіла вочы. Аглядвалі залы, дзе развешаны былі славутыя карціны яшчэ больш славутых еўрапейскіх мастакоў.

Выязджалі за горад, на ўзбярэжжа, любаваліся здалёк Кранштатам, наведалі рэпінскую Куокалу (цяпер Рэпіна), гасцявалі на дачы ў Аляксандра Пракоф'ева. І ўсюды ў цэнтры ўвагі быў Якуб Колас.

У Мінску зноў пачалося турботнае і крыху мітуслівае жыццё з творчай радасцю і засмучэннем.

Аднойчы мне пазваніў Максім Танк і сказаў, што Канстанцін Міхайлавіч запрашае нас прыйсці да яго падвечар. Мы, вядома, дакладна ў назначаны час былі ў доме Коласа. Там ужо сядзеў Пятро Глебка.

У той вечар дзядзька Якуб папрасіў нас прачытаць яго новую паэму «Рыбакова хата» і зрабіць заўвагі. Пачаў чытаць паэму я. Прачытаў дзве-тры старонкі і ўбачыў, што мае чытанне не вельмі па густу аўтару. Перадаў рукапіс Пятру Глебку. Той слыў знаным чытальнікам. Але на гэты раз і Пятро не надта спадабаўся Канстанціну Міхайлавічу, хоць і стараўся чытаць як мага выразней. Астатнюю частку (лічы, што ўсю паэму) прачытаў-праспяваў Максім Танк. Тут адыграла сваю ролю не толькі майстэрства Максіма, але і матэрыял паэмы — жыццё Заходняй Беларусі.

Рабілі перапынкі, частаваліся смачнымі, як заўсёды ў гэтым доме, закускамі і чыталі далей. Недзе пад поўнач селі за стол. Паэма спадабалася. Дзядзька Якуб патрабаваў, каб рабілі крытычныя заўвагі. Я сказаў пра нейкія драбніцы. Глебка гаварыў нешта пра асобныя інверсіі і знакі прыпынку. А вось Максім Танк пачаў з Канстанцінам Міхайлавічам даволі доўгую дыскусію пра тонкасці заходнебеларускага жыцця і рэвалюцыйнай барацьбы. З гэтай прычыны мы з Пятром выпілі па дзве лішнія чаркі.

Дзядзька Якуб даволі ўпарта адстойваў сваю пазіцыю і быў крыху незадаволены Максімавай гарачнасцю. Што рабіць, і класікі, як і мы, грэшныя, не вельмі любілі крытыку...

У гады, калі Канстанцін Міхайлавіч улетку працаваў і адпачываў у Каралішчавічах, у Доме творчасці пісьменнікаў, мне даводзілася сустракацца з ім амаль кожны дзень. Тут адпачывалі з сем'ямі, працавалі ледзь не ўсе пісьменнікі, у тым ліку і мае сябры-франтавікі.

Лес быў ціхі, дзікаваты, яшчэ не «асвоены» мінскімі турыстамі. Па грыбы не трэба было далёка ха-

дзіць, яны раслі пад кожнай сасной і елкай. У баравіковую пару ўсе прыходзілі з поўнымі кашамі, і пательні астывалі толькі ўначы.

І дзядзька Якуб тупаў непадалёку ад Дома творчасці і радаваўся, калі знаходзіў тугія чорнагаловікі. А збіраць ён умеў, некаторымі сакрэтамі дзяліўся і з намі. То ў Петруся Броўкі, то ў каго іншага ладзіўся багаты грыбны пачастунак, на які заўсёды запрашалі Канстанціна Міхайлавіча. Калі ён адчуваў сябе адносна здаровым, заўсёды любіў пасядзець на такой бяседзе. Частаваўся ён баравікамі і ў маім доміку.

І пра што толькі не гаварылася ў тыя гадзіны...

Але я заўважыў, што Якуб Колас заўсёды пачынаў з самага простага, будзённага: пра дождж ці жыта, пра кепскія дарогі ці пра тое, што трэба з'ездзіць у Маскву, ды нядужыцца. Ніколі не чуў я ад яго напышлівыя фразы, ніколі ён не даваў нікому адчуць пры ім сябе нязначным. Кідалася ў вочы, што ён вельмі любіў абодвух Петрусёў — і Броўку, і Глебку. Пры іх твар Коласа мякчэў, дабрэў, часцей свяціўся ўсмешкамі. Ну, а што Пятрусь і мы ўсе яго любілі, паважалі, аберагалі яго спакой, не назалялі, пра гэта і гаварыць не трэба.

Але нас усё ж цягнула да дзядзькі Якуба, хацелася яго паслухаць, ды і яму, як мне здавалася, чалася сам было аднаму маркотна. А ён быў уважлівы да ўсіх і далікатны, хоць знешне гэта праяўлялася ціха і сціпла.

Любіў Канстанцін Міхайлавіч і дзяцей. Калі майму сыну было гады тры-чатыры, дзядзька Якуб, праходзячы каля нашага століка, здароўкаўся з малым, як з дарослым:

— Добры вечар, Андрэй Піменавіч!

І заўсёды клаў каля яго пячэнне ці яшчэ што-небудзь з салодкага.

Размоў было нямала, але адна запомнілася ярчэй, бо пасля яе я напісаў верш.

Неяк пасля сняданку Канстанцін Міхайлавіч сядзеў у саламяным крэсле пад сасной нейкі пахмурны і прыцішаны. Мы з Пятром Глебкам падышлі да яго, павіталіся і запыталі, ці не перашкодзілі. Не, не перашкодзілі, наадварот. Мы падселі і рашылі развярушыць дзядзьку Якуба. Успаміналі розныя смеш-

пыя гісторыі, што здараліся з намі і нашымі сябрамі на фронце. А пасля непрыкметна перайшлі на сур'ёзнае. Канстанцін Міхайлавіч бедаваў, што многа людзей яшчэ жыве кепска, не мае жылля; што ў вёсках мала хлапцоў і маладых мужчын.

Я расказаў, што ў 1942 годзе эшалон, дзе схала і наша рэдакцыя франтавой газеты «За Свабодную Беларусь», трапіў ноччу пад нямецкую бамбёжку. Быў разбіты паравоз.

Аднойчы я бачыў на ўскраіне горада могільнік і ледзь не аслупянеў ад нечаканасці: паміж крыжоў стаялі прысыпаныя снегам дамавіны. Мясцовыя жыхары нам расказалі, што стаялі лютыя маразы і ў жанчын не хапіла сілы магілы вырыць.

— Вось пра гэта і трэба пісаць,— сказаў Канстанцін Міхайлавіч.

Пазней я напісаў верш «Незакапаныя дамавіны».

Апошні раз я сустрэў Канстанціна Міхайлавіча незадоўга да яго смерці ў тых жа Каралішчавічах.

Мы сядзелі ўтрох — Кандрат Крапіва, Андрэй Макаёнак і я — у цяньку за столікам пад кашлатымі елкамі. Да двухпавярховага дома пад'ехала машына. З яе выйшаў дзядзька Якуб. Мы пайшлі насустрач. Прывіталіся.

— Вось прыехаў да Петруся, а яго няма,— сказаў Канстанцін Міхайлавіч і папярэдзіў: — Не цісніце моцна руку, баліць.

— Можа, мы ўтрох заменім Петруся,— пажартаваў у адказ Кандрат Кандратавіч.— Броўку выклікалі па справе.

Зайшлі ўсе ў пакой Кандрата Кандратавіча. Канстанцін Міхайлавіч вельмі змяніўся. Адна рука была забінтавана, на другой высыпалі карычневыя плямкі. Мы ведалі, што ён доўга хварэў, ляжаў у крамлёўскай бальніцы, і непакоіліся пра яго здароўе. Яшчэ не акрыяўшы, яму давялося быць на сесіі Вярхоўнага Савета СССР. Расказаў крыху пра сесію, пра амерыканскі шпіёнскі самалёт, а пасля неяк нечакана ціха сказаў:

— Памру я хутка, хлопцы...

Мы пачалі наперабой яму пярэчыць, нешта горача даказваць, а ён нібыта нас і не чуў, сядзеў заглыблены ў свае думкі. І зноў нечакана прамовіў:

— Хацелася б да смерці дзве работы зрабіць: закончыць паэму «На шляхах волі» і напісаць аўтабіяграфію.

Я заўважыў, што трылогія «На ростанях» усімі ўспрымаецца як аўтабіяграфічная.

— Трылогія,— адказаў дзядзька Якуб,— мастацкі твор, а мне хочацца напісаць толькі праўду і ўсё назваць сваімі імёнамі.

Пад канец сустрэчы Канстанцін Міхайлавіч палагаднеў, заўсміхаўся. Мы горача і ласкава развіталіся.

Хутка, вельмі хутка мы пабачылі яго, ды толькі ў труне. То былі дні ўсенароднай жалобы...

І вось я зноўку праводжу лета ў Каралішчавічах, у Доме творчасці, які цяпер носіць імя Якуба Коласа. Са мною жонка, унук і ўнучка. Пісьменнікаў цяпер тут мала, больш людзі незнаёмыя. Усё тут пастарэла і крыху запушчана. Хіба што падраслі падлескі.

Ды і мне ў наступным годзе стукне шэсцьдзесят. Надыходзіць старасць...

Я хаджу па коласаўскіх сцежках, гляджу на дрэвы, на якія глядзеў і ён.

Я моршчуся, калі сустракаю наіўны літаратурны прыём: «Вось, здаецца, ён зараз выйдзе з-за дрэў...» Не, мне гэта не здаецца. І пісаць так не буду, не толькі таму, што гэта шаблон. Гэта проста не стасуецца да Якуба Коласа.

Якуб Колас — уся гэта зялёная зямля, і гэты лес, і неба, і воблакі, што павольна плывуць над намі.

І дождж, што льецца з неба на яго любімае жыта.

І вершы, якія я тут пішу,— таксама яго бацькоўскае блаславенне.

А блаславенне такое было.

Калі я вярнуўся з арміі, у снежні 1945 года, я быў у гасцях у Канстанціна Міхайлавіча. І ён падараваў тоненькую кніжку на рускай мове «Голос земли», выдадзеную ў Ташкенце ў 1942 годзе, з надпісам:

«Дасканаламу, таленавітаму паэту Пімену Панчанку на памяць».

Я гэта пішу не для таго, каб пахваліцца дарагім аўтографам. Мне быў выдадзены непамерна багаты аванс. Я пішу, каб паказаць, як ставіўся Колас да маладых, якая ў яго была шчодрая душа.

У 1946 годзе ён падараваў мне кнігу «Паэмы», надрукаваную ўжо ў Мінску, яшчэ на кепскай пасляваеннай паперы. «Дарагому Пімену Панчанку. Дык будзь жа, браток, паэтам-летапісцам і далей. Якуб Колас».

Гэты надпіс — яго запавет.

Чым больш я жыву і працую, тым больш пераконваюся, як цяжка быць хоць і малым летапісцам жыцця свайго народа. А дасканаласць — рэч амаль недасягальная. Імкненне да праўды, да высокага майстэрства — можа, і ёсць наша творчае шчасце.

*1976*

## ПАРА АКТЫЎНАЙ МУДРАСЦІ

Вокладку гэтага зборніка (Кондрат Крапива. Драмы и комедии. Перевод с белорусского. М., «Искусство», 1975) наўскос перасякае чырвоная стужка. Падобная на тыя, што прымацоўвалі да сваіх папах партызаны ў гады грамадзянскай вайны.

Гэтая дэталь афармлення кнігі, на мой погляд, значна больш, чым толькі ўдалая знаходка мастака, які ілюстраваў зборнік, дзе ў ліку сямі іншых п'ес аднаго са старэйшых пісьменнікаў Савецкай Беларусі змешчана і народная драма Кандрата Крапівы «Партызаны».

Я сказаў бы так: чырвоны колер партызанскай стужкі на вокладцы кнігі — гэта быццам апазнавальны знак лёсу самога пісьменніка, які са зброяй у руках ваяваў «за зямлю і волю, за народную долю» на палях грамадзянскай, у баях з белафінамі і на франтах Вялікай Айчыннай вайны...

Страявы камандзір; пазней — пісьменнік франтавых газет; салдат, на грудзях якога сярод многіх іншых высокіх узнагарод ордэн Баявога Чырвонага Сцяга і Чырвонай Зоркі,— Кандрат Крапіва змагаўся з фашызмам зброяй сваіх гнеўных сатырычных вершаў і фельетонаў, якія амаль кожны дзень публікаваліся на старонках газеты «За Савецкую Беларусь» — яна выдавалася на Заходнім і Бранскім франтах і закідвалася на тэрыторыю рэспублікі.

А многія вершы папулярнага паэта і драматурга друкаваліся асобнымі лістоўкамі, якія савецкія лётчыкі закідвалі ў тыл ворага. Ці быў подпіс пад тымі вершаванымі памфлетамі і чатырохрадкоўямі, ці не было, але партызанская Беларусь пазнавала голас любімага пісьменніка.

Напрыклад, помню: лістоўка была ўсяго з аднаго сказа: «Гітлер хваліцца, а фрыцы валяцца».

Гэтыя словы партызаны і падпольшчыкі вырэзвалі на вялікіх пячатках і ставілі як кляймо на шматлікіх загадах фашыстаў — на вуліцах і плошчах беларускіх гарадоў.

Не выпадкова размову пра Крапіву-драматурга я пачаў з напамінку пра паэта Кандрата Крапіву, па

сатырычных вершах, паэмах, байках якога выхавапа не адно пакаленне народа маёй рэспублікі.

Вастрыня, дасціпнасць і дакладнасць характарыстык паэта-сатырыка нібыта ўзбуйнена ў творчасці драматурга К. Крапівы.

П'есы, якія ўвайшлі ў зборнік і пра якія ідзе размова, даціраваны рознымі гадамі. Але характэрна, што, раздзеленыя часам дзесяцігоддзямі, яны ўспрымаюцца як часткі адной вялікай аповесці пра жыццё народнае.

І ў такіх п'есах, як «Партызаны» (дзеянне адбываецца ў Беларусі часоў грамадзянскай вайны), «Проба агнём», «З народам», «Людзі і д'яблы», што расказваюць пра подзвіг савецкага народа ў баі супраць варожай сілы, пра мужнасць і маральную чысціню савецкіх людзей, дзе цесна пераплецены драматычныя і трагічныя калізіі, мы сустракаемся і з сатырычнымі сцэнкамі і са смешнымі бытавымі сітуацыямі. Журботнае і смешнае «суседствуюць» у такіх дакладна знойдзеных прапорцыях і абставінах, што гэта не выклікае пратэсту ці неразумення: так менавіта ў жыцці і бывае...

Зусім у іншай танальнасці напісана камедыя «Пяюць жаваранкі» — жыццярадасная, жыццесцвярджальная, прасякнутая светлым лірызмам і добрым гумарам.

Асноўная тэма гэтай п'есы — узаемаадносіны паняццяў «маё» і «наша», інакш кажучы, асабістага і грамадскага, у свядомасці людзей. Насця Вярбіцкая — гераіня п'есы — чалавек энергічны, мэтанакіраваны. Прынцыповая і патрабавальная да сябе і да іншых, нават да самага блізкага чалавека, яна не прызнае кампрамісаў і, безумоўна, з'яўляецца выразніцай грамадзянскай пазіцыі самога аўтара.

Жывая і вобразная мова камедыі, перасыпаная народнымі пагаворкамі і прымаўкамі,— гэта таксама яркая вартасць драматургічнага твора, у якога доўгае і шчаслівае жыццё на сцэнах многіх савецкіх тэатраў.

У гэтай кнізе змешчана і самая, напэўна, вядомая камедыя Кандрата Крапівы — «Хто смяецца апошнім», якая была пастаўлена ў 120 савецкіх тэатрах і ў многіх тэатрах сацыялістычных краін. Не буду пераказваць яе змест: ён вядомы. Напомню

толькі чытачу, якую цікавую галерэю чалавечых тыпаў і характараў стварыў драматург. Напрыклад, дырэктар інстытута геалогіі Гарлахвацкі, кар'ерыст і невуч, хам і правакатар. Адзін з тых, пра каго можна сказаць: «вучоная нікчэмнасць». Ён займаецца інтрыгамі, плёткамі, запалохвае сумленных людзей, і ўсё для таго, каб утрымацца на сваім высокім крэсле. Не спыняецца нават перад крадзяжом чужых ідэй, прымушае пісаць за яго навуковую працу свайго калегу па прозвішчу Туляга, чалавека, запалоханага тым, што падобны ён, небарака, на нейкага дзянікінскага палкоўніка... Аднак фінал камедыі, упершыню пастаўленай у 1939—1940 гадах, пераконвае гледача і чытача, што справядлівасць, чалавечая годнасць, талент выходзяць пераможцамі ў паядынку з подласцю і інтрыгай.

Кандрат Крапіва, я сказаў бы, камедыёграф сур'ёзны. Ён заўсёды чэрпае тэмы і характары з глыбіні народнага жыцця, піша пра тое, што ў народа накіпела на душы. Нездарма імёны многіх персанажаў камедый Крапівы ў беларускага народа зрабіліся агульнавядомымі, амаль мянушкамі, укараніліся ў бытавую, гутарковую мову (Гарлахвацкі, Туляга, Жлукта).

У адным з артыкулаў Крапіва пісаў: «...Рэзананс сатырычнага твора, пры ўсіх іншых аднолькавых умовах, залежыць ад значнасці аб'екта, на які гэты твор накіраваны. Аб'ект сатыры падобны да звона: калі па вялікім звоне ўдарыць нават маленькім малаточкам, дык гук будзе вялікі, а па маленькім звоне хоць бі вялікім молатам, гуку вялікага не будзе».

Нядаўна драматург напісаў новую камедыю «Брама неўміручасці», якую ён назваў фантастычнай.

Пошукі эліксіру вечнага жыцця, тэма неўміручасці ў сусветнай літаратуры не новая. Многіх пісьменнікаў розных эпох прываблівала гэта сапраўды фантастычная ідэя, і яны пісалі ў духу свайго часу і са сваіх пазіцый.

І Крапіва напісаў па-свойму: арыгінальна і вельмі смешна. Фантастыка фантастыкай, але вось перад намі жыццё, як яно ёсць.

Вучонаму-геронтолагу Дабрыяну ўдалося адкрыць закон бяссмерця. Усе помыслы вучонага —

пра шчасце людзей, пра тое, як прадоўжыць і зрабіць больш радасным іх жыццё. Вядома, ён не адзінокі ў сваёй працы: ёсць у яго і верныя памочнікі і надзейныя сябры. Але, даведаўшыся аб адкрыцці, заварушыліся, развілі шалёную энергію розныя дажывалавы: пранырлівыя дзялягі, людзі з «былых», нават злодзей. Увайсці, што б там ні было, у браму неўміручасці! Любой цаной, любымі сродкамі. Нават нядрэнныя, сумленныя людзі і тыя пахіснуліся перад спакусай бяссмерця. І толькі прастадушная калгасніца-пенсіянерка Алена Максімаўна просіць зрабіць яе карову неўміручай: «...мне і ўнукам малачко — першая страва».

Праўда, прастадушша гэта ўяўнае, умоўнае, бабуля добра ведае свае правы і законы нашага грамадства і збіраецца пісаць «Ураду», каб людзі дзяржаўныя самі разабраліся, да каго ў першую чаргу павінна прыйсці неўміручасць...

Надзвычайныя абставіны, у якіх драматург разгортвае сцэнічнае дзеянне, дапамаглі яму стварыць многа яркіх характараў, закрануць вельмі важныя сацыяльныя і маральныя праблемы нашага жыцця. Камедыя «Брама неўміручасці» пастаўлена ў Беларускім драматычным тэатры імя Янкі Купалы і з поспехам ідзе і ў іншых тэатрах нашай краіны.

*1976*

## МАСКВА,
## СНЕЖАНЬ ТРЫЦЦАЦЬ ВОСЬМАГА

У самым канцы лістапада 1938 года ехалі ў Маскву маладыя беларускія пісьменнікі. Адзін з іх — Грыша Бярозкін, студэнт, даволі ўжо вядомы крытык. Другі — я, вясковы настаўнік, у якога нядаўна выйшла з друку першая кніжка вершаў «Упэўненасць».

Нас дэлегатавалі на першыя Усесаюзныя курсы-канферэнцыю маладых пісьменнікаў нацыянальных рэспублік.

У Маскву мы прыехалі позна ўначы, ніхто з нас раней у сталіцы не быў. З невялікімі правінцыяльнымі чамаданчыкамі мы пяшком па вуліцы Горкага накіраваліся да Краснай плошчы. Так нам не цярпелася ўбачыць Крэмль, Маўзалей Ільіча, без чаго мы і не ўяўлялі Маскву. Дарога была доўгая. Мы не раз пыталіся, ці правільна ідзём. Рэдкія сталічныя жыхары, якія ў тую ноч усе як адзін кудысьці спяшаліся, са здзіўленнем глядзелі на нас, худых і беднавата апранутых юнакоў, і нешта тлумачылі.

І вось мы на Краснай плошчы. З трапяткімі сэрцамі глядзелі на сцены Крамля, на Маўзалей, на сабор Васілія Блажэннага. Многа мы ноччу разглядзець не маглі, але пачуццё, што мы выканалі свой святы абавязак, прыдавала сілы нашым стомленым нагам.

З цяжкасцю, але нарэшце дабраліся да Саюза пісьменнікаў. Ледзь аддыхаліся. А раніцою нас пасялілі ў гасцініцы ля Кіеўскага вакзала (тады высотнага будынка там яшчэ не было).

З'ехалася з усіх рэспублік чалавек 25 — 30 маладых пісьменнікаў. З той кагорты многія загінулі на вайне, асобныя з іх цяпер вядомыя і паважаныя пісьменнікі — Мірзо Турсун-задэ, Фатэх Нязі, Тугельбай Садыкбекаў, Аванес Шыраз. З некаторымі, асабліва з таджыкамі, я і зараз у добрай дружбе.

Кіраўніком нашых курсаў быў Пётр Андрэевіч Паўленка, чалавек, як нам здалося, суровы і негаваркі. У яго быў бледны твар, а шкелкі акуляраў паглядвалі на нас занадта строга. Але хутка мы пераканаліся, што гэта цудоўны чалавек, добры і клапат-

лівы. Ён кожнага распытаў, хто і адкуль, што напісаў і надрукаваў, якая ў каго прафесія.

У яго былі два неацэнныя памочнікі — браты Лавуты, людзі энергічныя, культурныя і па-чалавечаму добрыя. Старэйшы ўсю зіму хадзіў без шапкі. Малодшы — Павел Ільіч, друг паэта і арганізатар вечароў Маякоўскага. («Мне говорил тихий еврей Павел Ильич Лавут...») З ім мы падружыліся. Некалькі гадоў назад ён прыязджаў у Мінск чытаць лекцыі пра Маякоўскага. Быў ён і ў мяне дома, падараваў сваю кнігу «Маяковский едет по Союзу».

Распарадак працы нашых курсаў-канферэнцый быў запоўнены з каптуром. Спачатку мы аглядалі Маскву, дыхалі Масквой. Пасля сустракаліся з праслаўленымі людзьмі савецкай краіны — Аляксеем Стаханавым і многімі іншымі.

Самым радасным падарункам была сустрэча з Валерыем Паўлавічам Чкалавым. Мы з нецярплівасцю і хваляваннем чакалі яго ў гасцінай на другім паверсе Клуба пісьменнікаў. Чкалаў увайшоў імклівым крокам, прывітаўся за руку з тымі, хто адразу яго абступіў. Запытаўся ў Садыкбекава:

— Якут?

— Киргиз...

— А мне в Якутии пришлось много полетать.

Валерый Паўлавіч быў невысокага росту, з валявым, вельмі мужчынскім тварам. У яго былі такія шырокія плечы, пра якія рускія кажуць: «косая сажень». У мяне ёсць здымак, дзе мы сфатаграфаваліся з вялікім лётчыкам. (Я перад вайной падараваў маці некалькі здымкаў таго часу, і яна здолела вывезці іх у эвакуацыю і захаваць.)

Я стаю за спіной Чкалава: сядзіць магутны чалавек, а за ім удвая танчэйшы хлопец.

Вядома, мы больш за ўсё распытвалі пра легендарны палёт праз полюс у Амерыку. Чкалаў расказваў цікава, дакладна, з гумарам...

Праз пяць дзён мы сядзелі з Паўленкам у нейкім кабінеце і збіраліся ісці на канцэрт. Зазваніў тэлефон. Пётр Андрэевіч зняў трубку і раптам, збляднелы, ускочыў і доўга маўчаў, а пасля глуха прамовіў:

— Загінуў Валерый Паўлавіч Чкалаў.

Мы былі ашаломлены. Бо толькі ж, толькі нядаўна... Вядома, на канцэрт у той вечар мы не пайшлі.

Вельмі глыбока перажывалі мы гэту страту. Потым хадзілі ў Калонную залу апошні раз глянуць на яго пажаўцелы твар, развітацца назаўсёды...

Доўга не гаілася наша рана, і з гэтай прычыны некалькі дзён вылецелі з памяці...

Самымі змястоўнымі і запамінальнымі былі сустрэчы і гутаркі з вядомымі пісьменнікамі.

Мікалай Мікалаевіч Асееў, з вострым натхнёным тварам і пранізлівымі светлымі вачыма, сустрэўся з намі ў пакоі Уладзіміра Маякоўскага (у кватэры Брыкаў).

Пакойчык гэты да дзіўнага малы. Абстаноўка больш чым сціплая: стол, пара стулаў, шафа, тахта. Ніякіх упрыгожанняў.

На сцяне каля стала фотапартрэт Леніна ў зімовай шапцы.

Засняты Уладзімір Ільіч у часе прамовы (помніце верш: «Двое в комнате. Я и Ленин — фотографией на белой стене»).

Калі вынялі з шафы і паказалі нам туфлі Маякоўскага на таўшчэзнай падэшве, мы здзівіліся іх велізарнаму памеру.

Мікалай Мікалаевіч вельмі цікава расказваў (з выразнымі жэстамі і характэрнай мімікай) пра нашага любімага паэта, пра яго характар, звычкі, востры розум, ваяўнічасць, кранальную дабрату да сяброў. Мы бачылі рукапісы і запісныя кніжкі Маякоўскага (яшчэ не фотакопіі). Асееў чытаў нам вершы Маякоўскага, урыўкі са сваёй паэмы пра яго.

Калі Асееў забыў нейкі радок, Бярозкін адразу падхапіў, Мікалай Мікалаевіч быў усцешаны, што маладыя так добра ведаюць вершы на памяць.

Як я быў рад, калі ў час вайны Мікалай Асееў пераклаў два мае вершы: «Дзеці вайны» і «Будуць вечна сады расцвітаць».

Шмат цікавага расказалі пра геніяльнага паэта Леў Касіль і Карней Чукоўскі. Жывы расказ Касіля нам быў асабліва зразумелы і блізкі: ён сустракаўся са славутым паэтам зусім маладым. Мы ў той спежань, сустракаючыся з выдатнымі пісьменнікамі, адчувалі амаль тое ж.

Карней Чукоўскі здзівіў нас тэмпераментам прамоўцы, вастрынёй, а часам і з'едлівасцю слоў, вызначэнняў і ... тонкім голасам.

Калі нехта трохі расчыніў дзверы ў пакой, а пасля за дзвярыма пачуліся галасы, Карней Іванавіч так пранізліва закрычаў на іх, што дзверы ў момант зачыніліся, а мы сядзелі, як спалоханыя школьнікі.

Чукоўскі трохі закрануў працу перакладчыкаў, але больш за ўсё расказваў пра Горкага, Рэпіна, Блока, Маякоўскага. І па сэрцы прабягаў халадок: гэта ж дзіва — перад намі выступае чалавек, які сябраваў ці быў добра знаёмы з геніямі, якія для нас здаваліся казачна недасягальнымі, як сонца ці зоркі, але заўсёды былі дарагія і блізкія.

Праз трыццаць пяць гадоў я нешта падобнае адчуў, калі ў Бялградзе на Міжнародным калёквіуме пісьменнікаў і крытыкаў выступаў Віктар Шклоўскі. Ён вельмі натуральна, з прывычнай лёгкасцю і заўсёды дарэчы, хоць і нечакана, называў імя свайго сябра Маякоўскага ці гаварыў пра тое, як ён знаёміўся з пачынаючым Ясеніным.

Слухаць такіх людзей — жывое сутыкненне розных літаратурных эпох — фантастычна цікава і страшнавата.

Дарэчы, Віктар Шклоўскі ездзіў з намі ў Хамоўнікі на кватэру Льва Талстога. Ён ведаў пра геніяльнага пісьменніка, здаецца, усё; нават тое, што не ведаў і сам Леў Мікалаевіч.

Мы шчыра рагаталі, калі Карней Іванавіч з дасціпнасцю і самаіроніяй расказаў, як ён, тады ўжо вядомы літаратурны крытык, хацеў падтрымаць, ашчаслівіць маладога Маякоўскага. Знайшоў ён паэта ў більярднай. Прыселі за столік, і Чукоўскі пачаў хваліць некаторыя творы паэта. Той слухаў пахмурна і няўважліва, а пасля адсек:

— Што я геніяльны, я ведаю і сам, а вы лепш скажыце пра гэта швейцару. Я закаханы ў яго дачку, а ён не верыць у маю геніяльнасць.

Пра гэта цяпер можна пачытаць у мемуарах Чукоўскага, пра многае іншае з жыцця Маякоўскага ў шматлікіх успамінах, а тады яшчэ мемуары не былі нікім напісаны, і для нас усё было радасным адкрыццём.

Генеральная, калі можна так сказаць, сустрэча і размова пра літаратуру адбылася ў Цэнтральным Доме літаратараў (тады яго звычайна называлі Клубам пісьменнікаў).

Да нас прыйшлі Аляксей Талстой, Аляксандр Фадзееў, Канстанцін Федзін і Валянцін Катаеў. Ненадоўга зайшоў і пастаяў, абапёршыся на камін, Ісак Бабель, з выгляду моцны, спакойны чалавек сярэдняга росту, з чырванаватым тварам, у залатых акулярах. Калі Аляксандр Аляксандравіч Фадзееў звярнуўся да яго з просьбай расказаць пра тое, як ён піша, Бабель адрабіўся жартам. Фадзееў нахмурыўся, і Бабель хутка пакінуў гасцінную, дзе мы ў той вечар вялі размову. А нам так хацелася паслухаць Ісака Эмануілавіча, бо мы ўсе пагалоўна захапляліся яго апавяданнямі...

Мы не толькі прагна слухалі вядомых на ўвесь свет пісьменнікаў, але і не менш прагна вывучалі іх кожную рыску, кожны жэст, манеру гаварыць, курыць, звяртацца адзін да другога.

Нашы старэйшыя таварышы (гэта я цяпер так пішу, а тады такога дапушчэння і ў думках не было) гаварылі пра літаратуру і сваю асабістую працу вельмі сур'ёзна, без павучання і паблажлівасці да нас, малавопытных і зусім невядомых, недастаткова адукаваных, хоць і вельмі начытаных. І што асабліва нас здзіўляла, гаварылі, як роўныя з роўнымі, і нібыта спавядаліся ў сваёй цяжкой, шматпакутнай літаратурнай працы (гэта мы зразумелі пазней, але запомнілі ўсё моцна, бо пасля кожнай сустрэчы зноў пракручвалі, як кінастужку, наш кожны маскоўскі дзень).

Цікава было паглядзець, як Аляксей Талстой і Канстанцін Федзін курылі люлькі. Для першага, здавалася, люлька была працягам рукі, сцвярджальным альбо адмоўным жэстам, рапірай. Другі сядзеў спакойна і, задумаўшыся, выцягваў з люлькі нечаканыя і мудрыя думкі.

Аляксей Мікалаевіч Талстой — мажны, пародзісты, белатвары, гаварыў тапкаватым голасам (а мы думалі, што ў яго калі не бас, то хоць бы барытон). Яго выступленне было пра тое, як ён пісаў раман «Пётр Першы», і пра мову пісьменніка: пра дакладнае, адзінае, крыштальнае слова. Ён сцвярджаў, што, калі б у маленстве ён не жыў у Заволжы, дзе многае захавалася ад старога і нават старажытнага і ў побыце, і ў мове, каб не пачаваў на сенавале і не палюбіў пах свірнаў з пшаніцай, ён ніколі не здолеў бы напі-

сацъ свой раман. Гэта гутарка А. Талстога змешчана ў яго зборах твораў (значна адрэдагаваная).

Валянцін Катаеў таксама цікава расказваў пра сваю працу, дзяліўся думкамі пра неабходнасць творчай непадобнасці, індывідуальнасці. Але ў адрозненне ад Талстога заклікаў для большай выразнасці твора смела ўводзіць (вядома, з пачуццём меры, такту) і ў свае апавяданні, аповесці, раманы словы і сказы з іншых моў, нават жаргонныя слоўцы і выразы.

Вельмі глыбокім было выступленне Аляксандра Фадзеева. Ён гаварыў пра камуністычную ідэйнасць, пра тое, што мы, маладыя, павінны заўсёды быць у гушчары жыцця, актыўнымі байцамі за сацыялізм. Расказаў і пра свае творчыя пакуты. Калі ён пісаў раман «Апошні з Удэгэ», у яго застапарылася праца. Ёсць там такі эпізод: партызаны пайшлі за сопкі ў бой. У паселішчы засталіся жанчыны ды дзеці. А што яны павінны рабіць, перажываць, гаварыць? Ніяк не ўдавалася знайсці псіхалагічнай праўды. Аднойчы ён пайшоў да сябра, што жыў у Лаўрушынскім завулку. На першым паверсе ў адным пакоі былі расчынены дзверы. Там жанчыны прасавалі бялізну і спявалі: «Трансвааль, Трансвааль, страна моя...»

Фадзееў забыў пра друга і пра ўсё і памчаўся дадому. Ёсць, знойдзена! Цяпер у рамане ў тым эпізодзе жанчыны, якія чакаюць сваіх мужоў і братоў, мыюць і прасуюць бялізну, палатно: прывязуць забітых, будуць параненыя. І спяваюць: «Трансвааль, Трансвааль, страна моя, ты вся горишь в огне».

А цяпер дазвольце мне забегчы ў ваенныя і пасляваенныя гады.

Аляксандр Аляксандравіч Фадзееў заўсёды вельмі клапатліва і сардэчна ставіўся да беларускіх пісьменнікаў, удзельнічаў у нашых з'ездах і пленумах, часта прыязджаў у Мінск. Па свайму ўзросту, рэвалюцыйнай і партыйнай дзейнасці, таленту, грамадскаму становішчу ён належаў да тых, каго мы з удзячнасцю, павагай і любоўю называем бацькамі і настаўнікамі. Я нават намёку баюся, каб не падумалі, што мы былі сябрамі ці што-небудзь падобнае. Па рэдкаму розуму, палітычнай сталасці, энцыклапедычнасці і глыбіні ведаў, вялікай адоранасці ён на некалькі галоў быў вышэй за нас усіх. Пазней мне

пашчаслівілася не адзін раз сядзець з ім за сталом, слухаць, яго, гутарыць з ім, чытаць яму вершы. І я, як і іншыя, не быў абыдзены яго прыязнасцю.

Фадзееў вельмі любіў паэзію, любіў чытаць вершы, якія ён ведаў у вялікай колькасці на памяць. Асабліва любіў прачытаць добры рэдкі верш. А пасля хітравата пытаўся ў паэтаў: «Ну-ка, скажите, чьи стихи?» Паэты збянтэжана маўчалі. Фадзееў называў то вядомае, то невядомае імя і заліваўся сваім звонкім юнацкім смехам. Наогул ён быў прыгожы і прывабны чалавек. Нават злаваўся сімпатычна. Ён мог на пленуме пісьменнікаў гнеўна выгукнуць: «Які дурань саставіў гэты праект?» А «дурнем» часамі быў пісьменнік з гучным іменем.

У 1942 годзе, зімою, я быў адкліканы ў Маскву, у распараджэнне Галоўнага палітычнага ўпраўлення і знаходзіўся ў рэзерве (нашу франтавую газету «За Свабодную Беларусь» на Калінінскім фронце ліквідавалі). Чакаў новага прызначэння на фронт. Мне дазволілі на кароткі час пасяліцца ў гасцініцы «Масква». У той час у гэтай гасцініцы жыло многа масквічоў-пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, людзей у большасці пажылых, якіх на фронт не бралі, а ўласныя іх кватэры ў той год не апальваліся, ды і з ежай было цяжка. Цяпер і самому не верыцца, з кім мне давялося пазнаёміцца, пагутарыць, павячэраць. Ілья Эрэнбург, мастак Брадаты, паэт-песеннік Сяргей Алымаў, ад'ютант генерала Даватара... А ў нумары былога дырэктара Дзяржвыдавецтва Пятра Іванавіча Чагіна мы з Глебкам цэлы вечар правялі з Аляксандрам Карнейчуком, Вандай Васілеўскай, Міколам Бажанам і яго мілай жонкай Аксанай і (адзін раз у жыцці) з Дзям'янам Бедным. Вядома, гэтыя знаёмствы былі мімалётныя і ў большасці працягу не мелі (за выключэннем украінцаў), сустракаўся яшчэ раз з Ільёй Эрэнбургам. Гэта ўсё былі людзі «буйнага калібру», і паслухаць іх было цікава.

Ну, а з пісьменнікамі-франтавікамі і на розных франтах, і ў дні кароткіх паездаў у Маскву сустрэч было так многа, што ўсіх і не прыпомніш.

Ітак, гасцініца «Масква». Мы сядзім з Аркадзем Куляшовым у яго нумары. Позні вечар. Зазваніў тэлефон. Куляшоў зняў трубку. Я сядзеў побач і адразу пазнаў характэрны голас Фадзеева:

— Где вы там, белорусы, находитесь? Можно к вам зайти?

Праз некаторы час мы, узрадаваныя, сустрэлі Аляксандра Аляксандравіча. Не ведаю, што там у яго было дома і чаму ён прыйшоў менавіта да Куляшова. Фадзееў скінуў карычневую шубу і адразу пазваніў Твардоўскаму (Аляксандра Трыфанавіча сілком выправілі з рэдакцыі франтавой газеты ў Маскву, дзе ён у сваёй пустой кватэры пісаў новыя раздзелы «Васіля Цёркіна»).

— Саша, я у белорусов,— сказаў Фадзееў і назваў нумар,— ты можешь сейчас сюда прийти?

Хутка з'явіўся Твардоўскі.

Не мне пісаць пра іх вялікую чалавечую дружбу і ўзаемную павагу. Але і я грэўся каля гэтага агню.

Фадзееў папрасіў нікому не казаць, дзе ён знаходзіцца. І пачалася бясконцая незабыўная бяседа. Гаварылі і пра цяжкія справы на фронце, і пра другі фронт, але найбольш пра літаратуру, пра пісьменнікаў-франтавікоў...

Аляксандр Аляксандравіч успомніў сваю колішнюю паездку ў Парыж і спрэчкі, якія ён там вёў з літаратарамі. Запомніліся яго словы, з тых спрэчак:

— Вы говорите, что (Фадзееў назваў некалькі прозвішчаў вядомых французскіх пісьменнікаў) открыли новое в литературе? Но Леонид Андреев, которого у нас некоторые считают третьестепенным писателем, это открыл несколько десятилетий тому назад.

Твардоўскі прачытаў новы раздзел «Цёркіна». Мне заўсёды падабалася вельмі натуральнае чытанне Аляксандра Трыфанавіча. Мы былі ў захапленні. Фадзееў гаварыў пра народны подзвіг і што Твардоўскі стварае не толькі вельмі неабходную фронту рэч, але і сапраўды народную паэму. Праўда, усё гэта было сказана без лішняга пафасу.

Мы расказалі, як вынішчаюць наш народ фашысцкія акупанты. Хмуры Фадзееў раптам сказаў: «Послушайте, ребята, песню» — і ціха заспяваў:

Вот ты станешь большою,
Отдадут тебя замуж
В деревню большую,
В деревню чужую.
Мужики там все злые,
Топорами сякутся...

Ён так і спяваў «сякутся». Песня гэта, здаецца, цвярская, і навучыў ёй, па словах Фадзеева, Леанід Ляонаў.

Твардоўскі падпёр рукою твар і праспяваў сваю смаленскую: «Сел на лавку, думал, думал...»

Спявалі мы і журботныя беларускія песні.

Пасля вайны мне давялося быць на Другім з'ездзе латышскіх пісьменнікаў. Фадзееў выступіў бліскуча, з вялікай павагай да латышоў і латышскай літаратуры.

Падвечар Леанід Первамайскі сказаў мне, што Аляксандр Аляксандравіч запрашае да сябе. Маскоўская дэлегацыя жыла ў нейкім асабняку. Тут сабраліся масквічы: Твардоўскі, крытыкі Зяліпскі і Рэзнік, Леанід Первамайскі і, здаецца, толькі два латышы — Мірдза Кемпе і Карл Краулінып. Вялася то сур'ёзная, то журботная размова. Пасля чыталі вершы, усе па чарзе.

Твардоўскі прачытаў новы, даволі доўгі верш. Мне ён спадабаўся (я тады, як і ўсё жыццё, захапляўся творчасцю Твардоўскага, хоць яго, як строгага, а часам і жарсткаватага ў праўдзе, крыху пабайваўся).

І раптам Фадзееў сказаў:

— Не то, Саша, не то...

Твардоўскі ўспыхнуў, вочы яго пабялелі, і ён ускочыў і цырымонна пакланіўся:

— Простите, не угодил вашему превосходительству.

Мы ўсе збянтэжыліся... Потым усё нібыта наладзілася, але ранейшай лёгкасці не было. Пасля ў зборы твораў Твардоўскага гэтых вершаў я не знайшоў.

Адкуль мне было ведаць, што заўтра ўсе мы будзем віншаваць Аляксандра Твардоўскага з прысуджэннем яму Дзяржаўнай прэміі за паэму «Дом ля дарогі». Латышскія пісьменнікі адзначылі гэту падзею вельмі ўрачыста і ўручылі Твардоўскаму прыгожы драўляны кубак з незвычайнай разьбой.

Цяпер я думаю, што Фадзееў сказаў тыя словы знарок, каб утрымаць свайго вялікага друга на той творчай вышыні, на якую ўзышоў Аляксандр Твардоўскі.

Але вярнуся да зімовых дзён сорак другога.

Фадзееў жыў у нумары Куляшова чатыры ці пяць дзён. І кожны дзень, часцей падвечар, прыходзіў

Твардоўскі. Нас здзіўляла, адкуль у яго бралася сіла, каб кожную раніцу напісаць некалькі строф, а то і вялікі кавалак новага раздзела паэмы.

Нейкім непагодным днём Твардоўскі і Куляшоў пайшлі раздабываць тое-сёе. Мы засталіся ўдвух з Фадзеевым. Я адкрываў салдацкія кансервы, рыхтаваў стол.

— Да брось ты эту возню,— сказаў Аляксандр Аляксандравіч,— ты извини, я немного прилягу, а ты почитай что-нибудь из последних стихов.

Я тады напісаў доўгі верш «Ноч перад святам». Прысеў і пачаў чытаць. Фадзееў заплюшчыў вочы, і ў мяне мільганула думка, што ён папрасіў мяне пачытаць з-за далікатнасці, бо размаўляць яму са мною сумна, і я пачаў чытаць, як кажуць, у тэмпе. Фадзееў расплюшчыў вочы і папракнуў:

— Ну, погнал, погнал... Не торопись, я не настолько знаю белорусский язык, чтобы все уловить.

Палягчэла. Закончыў вершы з пачуццём. Калі прачытаў радкі:

І каб лёг я касцьмі
Па той бок белавежскага бору,
Мо чужынец пракляты
Перайсці пабаяўся б мой труп,
Мо б зямля на мяне
Не паказвала б з горкім дакорам
Абгарэлымі пальцамі
Мінскіх і гомельскіх труб,—

у Фадзеева ўздрыгануліся вейкі і навярнуліся слёзы. Тут прыйшлі хлопцы.

Зноў пачалася ажыўленая размова, і я падумаў, што ўсё ж, напэўна, чытаў я дарэмна. І раптам, праз гадзіны паўтары, Аляксандр Аляксандравіч, нібы адгадаўшы мой настрой, пры ўсіх пахваліў гэтыя вершы і дадаў:

— У тебя там есть два провальчика,— і слушна паказаў слабаватыя месцы. Я, вядома, пазней гэтыя строфы паправіў.

Пасля вайны Фадзееў неяк прыехаў у Мінск на адзін з нашых пленумаў. Я ў той час перажываў творчы крызіс і вёў крыху багемны вобраз жыцця. Начальства ды і сябры былі мною незадаволены. Напэўна, пра гэта даведаўся і Аляксандр Аляксандравіч.

Я сядзеў на адным з задніх радоў, у кутку. Аб'яві-

лі перапынак. Усе рынуліся з душнаватай залы (гэта было ў цяперашнім Доме мастацтваў), я чакаў, калі ўсе выйдуць.

Праз залу да выхада кіраваўся Фадзееў.

І раптам ён заўважыў мяне, ускінуў галаву і гучна, на ўсю залу сказаў:

— Здравствуй, Пимен. Как живешь? — Паздароўкаўся і з усмешкай дадаў: — Назло врагам?

Тыя, хто быў з ім, вымушаны былі таксама павітацца са мною.

Такое мог зрабіць толькі Фадзееў.

Я бясконца ўдзячны, што жыццё падаравала мне такія сустрэчы. Аляксандр Фадзееў і Аляксандр Твардоўскі былі для мяне і засталіся, кожны па-свойму, вялікімі пісьменнікамі, сапраўднымі камуністамі і яркімі непаўторнымі асобамі; людзьмі крыштальнага сумлення, праўдзівасці, прынцыповасці і нязгаснага творчага гарэння.

І як шкада, што не ўсе мы апраўдалі іх спадзяванні; што і я збіваўся на агульшчыну, на рыторыку, паддаваўся часам «указанням» кан'юнктурных крытыкаў і некампетэнтных у паэзіі людзей, ад якіх залежала друкаванне вершаў.

Вяртаюся ў снежань трыццаць восьмага.

Нашы курсы-канферэнцыі былі дасканала прадуманы. Нашы творы не «разбіралі» і не абмяркоўвалі. Мы ў вольныя хвіліны проста чыталі іх адзін другому. Мэта курсаў была іншая: наблізіць нас да сапраўднай літаратуры, даць зразумець, што яна патрабуе поўнай самааддачы, сур'ёзнасці, вялікай шчырасці, нястомнай працы, адданасці ідэям Леніна і ўсяго-ўсяго жыцця.

І яшчэ: увесці нас у свет сапраўднага мастацтва.

Перад намі з непаўторным бляскам іграў тады яшчэ юны Эміль Гілельс, чытаў байкі і сатырычныя вершы Ігар Ільінскі, выступалі перад нашай невялікай аўдыторыяй выдатныя выканаўцы (як Ірма Яунзем), паэты-песеннікі (Лебедзеў-Кумач) і многія-многія іншыя. Слухалі Дзевятую сімфонію Бетховена. Слухалі мы і даклад Міхаіла Кальцова (для ўсіх маскоўскіх пісьменнікаў), праўда, на агульнапалітычную тэму. Памяць усяго не захавала...

Мы наведалі лепшыя музеі Масквы, пaглядзелі і паслухалі за месяц 15 пастановак (!) у лепшых тэ-

атрах сталіцы, пабывалі ў майстэрнях жывапісцаў і скульптараў.

Перад кожным спектаклем папярэдне выступалі вядомыя мастацтвазнаўцы, у музеях давалі нам найлепшых гідаў. Нас заўсёды суправаджаў хто-небудзь са старэйшых пісьменнікаў. Так, у тэатры сатыры, дзе паказалі «Господина де Пурсоньяка» Мальера, з намі быў Канстанцін Аляксандравіч Федзін.

Мы наведалі майстэрню скульптара Сяргея Дзмітрыевіча Мяркурава. Ён тады працаваў над праектам помніка Леніну, які павінен быў узвышацца над гіганцкім Домам Саветаў (праект не быў ажыццёўлены). Спачатку скульптар павёў нас у мемарыяльны пакой. На сценах былі развешаны пасмяротныя маскі славутых людзей, у тым ліку Маякоўскага і нядаўна памёршага Ільфа. Уражанне, скажу вам, жудаснае.

У самой майстэрні нас здзівіла, што мадэлі людзей, якіх ён ляпіў, былі ў аголеным стане, у поўны рост. Пазней мы сядзелі з Сяргеем Дзмітрыевічам на верандзе, і гэты мастак з чорнай, падмарожанай сівізною барадой расказаў нам пра свой творчы метад.

— Я спачатку ляплю чалавека такім, які ён ёсць у натуры, а пасля апранаю, каб кожная складка адзення была натуральнай.

Мы ўжо бачылі творы Антакольскага, Мухінай і чулі нават пра Радэна, і не ўсё, што гаварыў Мяркураў, нас пераканала.

Але гэта быў таленавіты скульптар. Хто бываў у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета СССР у Крамлі, той бачыў у глыбіні сцэны скульптуру Леніна на поўны рост. Гэта праца Мяркурава, як і гранітныя бюсты-помнікі Я. М. Свярдлову, Ф. Э. Дзяржынскаму, М. В. Фрунзе, М. І. Калініну, А. А. Жданаву на Краснай плошчы ля Крамлёўскай сцяны.

Радасцю для нас была сустрэча з выдатным мастаком Пятром Пятровічам Канчалоўскім. У яго невялікай светлай майстэрні ўсюды былі карціны, эцюды, асабліва шмат нацюрмортаў. Адразу кідалася ў вочы вялікае палатно «Іспанскія дзеці», якое ён нядаўна скончыў. Сам гаспадар глядзеў на нас з-пад акуляраў разумнымі вясёлымі вачыма і казаў:

— Я дружу з іспанскімі дзецьмі.

Гэта былі сыны і дочкі Іспанскай рэспублікі, якіх паспелі выратаваць, вывезці ў Маскву.

Паказаў ён нам і свайго Пушкіна. Паэт, відаць, нядаўна прачнуўся, сядзеў на ложку ў начной сарочцы з аголенымі нагамі. У яго галаве, напэўна, мільганула шчаслівая думка, ён схапіўся за гусінае пяро, і вось зараз лягуць на паперу цудоўныя радкі...

— Раяць мне прыкрыць ногі паэта,— раздумваў услых мастак,— не ведаю, не ведаю...

Пасля таго мне не ўдалося пабачыць гэту карціну, і я не ведаю, ці папраўляў ён яе.

Вялікае ўражанне зрабілі кветкі Канчалоўскага, якія ён так любіў пісаць. Гэтыя кветкі, асабліва бэз, поўныя прыгажосці і свежасці,— сканцэнтравапая бязмежная любоў мастака да роднай прыроды, да радзімы.

Нядаўна мне давялося пабываць на Енісеі, у Краснаярску і наведаць кватэру-музей вялікага рускага жывапісца Сурыкава (Канчалоўскі быў жанаты на дачцэ Сурыкава). Нам расказалі, як быў улюбёны мастак у Сібір, у яго велічную прыроду, у сваіх землякоў. Уразілі словы Сурыкава, якія ён сказаў сябрам за некалькі хвілін за смерці:

— Я исчезаю...

У Траццякоўскай галерэі нас сустрэў Ігар Эмануілавіч Грабар, ужо стары, з зусім голай галавой.

Ён нам не гаварыў тое, што мы маглі вычытаць у даведніках і пачуць ад мастацтвазнаўцаў, а расказваў розныя гісторыі, звязаныя з вядомымі карцінамі; звяртаў нашу ўвагу на дэталі, якія мы маглі і не прыкмеціць: тлумачыў глыбінны і не адназначны сэнс шырока вядомых твораў: падкрэсліваў самабытнасць рускага жывапісу ад Іванова, перасоўнікаў і да сучасных мастакоў. Так давёў нас Ігар Эмануілавіч да сваіх карцін, сярод якіх нам асабліва спадабаліся яго «Сакавіцкі снег», «Сакавіцкі ранак. Ружовыя праменні». Ён нас упершыню прылучыў да той непаўторнай прыгожай і светлай з'явы ў сусветным мастацтве, імя якой — імпрэсіянізм.

Пасля вайны мне не раз даводзілася быць у Луўры, наведваў я Вашынгтонскую нацыянальную галерэю і нью-йоркскі «Метрапалітэн», некалькі гадзін правёў у Лонданскай нацыянальнай галерэі і галерэі Тэйта. Бываў у мастацкіх музеях Ватыкана,

Афіп, Будапешта, Бялграда, Таронта, Неапаля, Антверпена і многіх іншых, не кажучы ўжо пра любімыя мною Эрмітаж, Рускі музей, музей імя А. С. Пушкіна. Але той зімой я ўпершыню адчуў хараство і сілу сапраўднага мастацтва. Рэмбрант, Гоя, Эль-Грэка, Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла... Я палюбіў іх магутныя тварэнні, хоць і не пасціг усёй іх глыбіні і мудрай чалавечнасці. Перад вачыма і цяпер стаяць «Майсей» і «Пьета», скульптуры Радэна, якія я ўбачыў пазней.

Французскія імпрэсіяністы, асабліва Рэнуар, Дэга, Клод Манэ, зрабіліся для мяне неабходнымі, як свежая празрыстая вада ў спякотны дзень А сцежачка да шэдэўраў высокага мастацтва пачалася ў снежні трыццаць восьмага ў Маскве, у Траццякоўцы.

Мімаходам адзначу, што ў чэрвені 1976 года ў часе з'езда пісьменнікаў мы наведалі ў Манежы выстаўку Аркадзя Пластава і Сяргея Канёнкава. Тое ж аглушальнае ўражанне вялікага таленту, непаўторнасці, магутнасці, свежасці, разнастайнасці і прыгажосці. Гэта быў свет Пластава і свет Канёнкава, гэта была глыбокая праўда жыцця, з яго працай, думамі, радасцю і горам, нейкае чарадзейскае пранікненне ў глыбіні чалавечай душы...

Незабыўным быў і наш тэатральны універсітэт. Былі і ў Малым і ў Вялікім тэатрах. Пасля кожнага спектакля сустракаліся за шклянкай чаю са славутымі артыстамі. Запомнілася «Паднятая цаліна» І. Дзяржынскага з абаяльнай Лушкай — Круглікавай. Гутарылі мы і з кампазітарам.

Перад наведваннем кожнай оперы ці балета ў Клубе пісьменнікаў за раяль садзіўся прафесар Чамаданаў і выкладаў нам азы складаных формаў музыкальных твораў. Пасля паглыбляўся ў сутнасць оперы, якую нам давядзецца сёння паслухаць. І як было прыемна, слухаючы оперу, улаўліваць асноўную тэму, музыкальныя характарыстыкі персанажаў; адчуваць думку і душу кампазітара, перапляценне трагічнага і камічнага; прывыкаць да ўмоўнасці гэтага жанру і з асалодай патанаць у музыцы.

Так было і перад наведваннем пастаноўкі «Барыса Гадунова» ў новым тэатры імя Станіслаўскага і

Неміровіча-Данчанкі. Прафесар Чамаданаў нас дэталёва «прасвяціў», і мы з неаслабнай увагай слухалі ўсю оперу, адчуваючы трывожны і радасны халадок пазнавання.

З тых пор Мусаргскі і Шастаковіч побач з Бахам, Бетховенам, Шапэнам і Равелем зрабіліся маімі любімымі камцазітарамі.

Пастаноўка «Барыса Гадунова» была надзвычайная яшчэ, можа, і таму, што яе ажыццявіў Усевалад Меерхольд, асоба амаль легендарная.

Пасля спектакля мы сустрэліся з Меерхольдам. Вядома, мы распытвалі пра оперу і чаму ён зрабіўся оперным рэжысёрам.

Але самымі цікавымі былі яго разважанні пра тэатр і акцёра будучыні. Ён быў глыбока перакананы, што будучы тэатр стане сінтэтычным: спалучыць драму, оперу, балет, цырк і яшчэ многае іншае. П'ес пісаць не будуць, а рабіць толькі сцэнарыі. Рэжысёры і акцёры будуць настолькі таленавітымі, што па ходзе пастаноўкі прыдумаюць і сітуацыі, і рэплікі, і жэсты. Вядома, прафесійная падрыхтоўка будзе заўсёды патрэбна. Як правобраз акцёра будучага, Меерхольд назваў Маякоўскага.

Запомнілася і аблічча Меерхольда. Прадаўгаваты, пасечаны маршчынамі твар, уздыбленыя сівыя валасы і воблік нейкага прарока.

Ашаламляльнае ўражанне зрабілі на нас тры пастаноўкі МХАТа, якія мы глядзелі: «Гарачае сэрца», «Ворагі», «Анна Карэніна». Якія артысты ігралі! Кніпер-Чэхава, Тарханаў, Хмялёў, Тарасава, Грыбаў і яшчэ многія, якімі ганарыцца рускі тэатр, савецкае мастацтва. Пасля спектакляў за шклянкай чаю з бутэрбродамі і пячэннем (гэта ўжо стала звычаем) мы сустракаліся і гутарылі, задавалі пытанні, часам вельмі наіўныя, але артысты і рэжысёры адказвалі то сур'ёзна, то весела, але заўсёды хораша, дасціпна і пераканальна. Найбольш мяне ўсхвалявала «Гарачае сэрца» Астроўскага. Там быў выдатны дуэт — стары генерал (Тарханаў) і самадур-багацей (Грыбаў). Тарханаў расказваў нам, што ён сыграў дзесяткі генералаў і кожнага трэба было стварыць непадобным да іншых: уладарнаму дадаць нейкія рыскі бездапаможнасці, лютаму — сентыментальнасці, суроваму — крыху дабраты.

Запомніліся і прыгожая з меладычным голасам маладая Тарасава і асабліва Хмялёў са скрыпучым голасам Карэніна. Магутны і рэдкі талент.

Пасля «Гарачага сэрца» нам здавалася, што іншага драматычнага мастацтва, іншага акцёрскага майстэрства (найвышэйшага) не можа быць і не павінна быць.

Ды так здарылася, што праз дзень ці два мы пайшлі на «Аптымістычную трагедыю» Ус. Вішнеўскага ў Камерны тэатр. Тут усё было не падобнае да МХАТа: аскетычнае афармленне, голыя канструкцыі, рэвалюцыйны пафас, усё аддавалася акцёру і яго голасу. Выдатна выступіла ў ролі камісара Аліса Коанен, яе партнёры таксама ігралі добра. Але «Гарачае сэрца»... Пасля спектакля — гутарка і, як заўсёды, бясконцыя пытанні. І тут наш няўрымслівы Грыша Бярозкін выступіў з палымянай «выкрывальнай» прамовай, у якой было і такое: «Нам не патрэбны безымянныя героі... Рытарычныя фразы...» і г. д.

На сустрэчы прысутнічаў аўтар — Усевалад Вішнеўскі. Ён не сцярпеў, ускочыў і грымнуў залпам з буйнакаліберпай гарматы: «... Вы наглядзеліся мхатаўскіх спектакляў, дзе з-за самавараў і рознай бутафорыі не бачна жывога чалавека, не чутна рэвалюцыйнага слова. Вы начыталіся крытычных артыкулаў і з чужога голасу...»

Сваёй напорыстасцю і красамоўствам ён ледзь не сцёр нас у парашок, забыўшыся, што мы... таго... пачынаючыя. Ён ваяваў, ён біўся, як і заўсёды ў жыцці.

Прымірэнчую ноту ўнёс мастацкі кіраўнік тэатра Таіраў: «Я думаю, што ваша задача, як маладых пісьменнікаў, пабачыць як мага болей, пазнаёміцца з рознымі стылямі тэатраў, а паспрачацца можам і пазней».

Таіраў сказаў шчырую праўду. Мы пераканаліся ў гэтым, калі з захапленнем глядзелі ў тэатры імя Вахтангава бліскучы святочны спекталь «Многа шуму з нічога», а другім вечарам ад душы апладзіравалі Яропу ў музыкальнай камедыі «Вяселле ў Малінаўцы» (хоць я і не аматар аперэты).

Я мог бы яшчэ многа ўспомніць з тых снежаньскіх дзён, яны былі для ўсіх нас, прыехаўшых з да-

лёкіх куткоў неабсяжнай радзімы, вялікім урокам і незабыўным святам. А колькі рэдкіх кніг мы накупілялі на нашы невялікія грошы...

Мы ўлюбіліся ў Маскву і масквічоў, нас кранала сардэчнасць сталічных пісьменнікаў.

Гаварылі на той канферэнцыі не толькі пра літаратуру, жывапіс ды музыку. У нашых сэрцах не гаіўся боль па задушанай Іспаніі, мацнела нянавісць да фашызму. Гітлераўскія орды пачалі нахабна таптаць чужыя краіны. Але асноўнае пачуццё было — радасць пазнання і адкрыцця, братэрскай дружбы, гордасць за сваю Радзіму і бязмежная вера ў магутнасць і несакрушальнасць нашай дзяржавы. І не ведалі мы, што менш як праз год, многія з нас апрануць салдацкія шынялі...

У канцы нашай канферэнцыі мы ўсе былі запрошаны ў Клуб пісьменнікаў на сустрэчу новага, 1939 года. Гэта быў цудоўны вечар, такога ніхто з нас у жыцці не бачыў, не зведаў. Славутыя і не славутыя пісьменнікі, кожны са сваёй кампаніяй і гасцямі занялі асобныя столікі. У 12 гадзін пагасла святло, зазванілі Крамлёўскія куранты. Потым успыхнула святочная ёлка, па зале мільгацелі шматкаляровыя агні, гучна стралялі коркі ад бутэлек шампанскага, усюды чуліся вясёлыя віншаванні, жартоўныя тосты, на хорах аркестр прыглушана іграў то шчымлівыя, то бадзёрыя мелодыі. Закружыліся ў вальсе старыя і маладыя. Сярод гасцей вылучаўся не падобны да іншых цыбаты чалавек у акулярах. «Кампазітар Сяргей Пракоф'еў»,— шапнулі нам. Прыцягваў да сябе ўвагу высокі прыгожы лётчык з ромбамі ў пятліцах. Гэта быў Сяроў, Герой Савецкага Саюза, які праславіўся ў іспанскім небе. Усе танцавалі, весяліліся, як дзеці.

У гадзіны чатыры з'явіўся цыганскі хор, многія артысты якога пазней увайшлі ў склад тэатра «Рамэн». Якія песні паліліся, як зазвінелі гітары, як закалаціліся грудзі і плечы прыгожых цыганак! Скакаць ім дапамагалі ледзь не ўсе, асабліва міла выглядаў салідны, тоўсты Усевалад Іваноў. Быў там і «варажбіт» з папугаем і шарманкай.

Я не дачакаўся канца і, крыху захмялелы, перапоўнены радасцю, пайшоў па Садовым кальцы да сваёй гасцініцы. Было марозна, сыпаўся рэдкі лёгкі

сняжок, пачынала світаць. Гэта была мая апошняя мірная сустрэча Новага года перад паходам у Заходнюю Беларусь. Я мімаволі ўсміхаўся сустрэчным прахожым, і яны мне ўсміхаліся ў адказ і віншавалі з Новым годам. А ў сэрцы гучала несціханая музыка. Дзякуй табе, родная Масква! Дзякуй табе, мой шчаслівы снежань трыццаць восьмага года!

*1976*

## ПРАЦАВАЦЬ З ПОЎНАЙ САМААДДАЧАЙ

Мы ўсе розумам і сэрцам прылучаны да гістарычных рашэнняў XXV з'езда КПСС, да вялікіх планаў пяцігодкі. Веліч нашых планаў захапляе. І савецкія пісьменнікі павінны ставіць сабе творчыя задачы самыя складаныя, больш думаць, больш працаваць, не ісці пратаптанымі сцежкамі, а пракладваць новыя дарогі і смялей эксперыменціраваць.

Мы павінны менш гаварыць пра свае поспехі, а больш пра тое, што не зроблена, што трэба зрабіць у наступныя гады.

Галоўны наш суддзя і крытык — цярплівы і добразычлівы чытач — дае свае, найбольш правільныя ацэнкі нашым творам. Адны кнігі хутка разыходзяцца, а іншыя стаяць гадамі, і іх ніхто не бярэ. Значыць, не ўсё добра ў нашай пісьменніцкай справе.

Крытыкі і літаратуразнаўцы маглі б разабрацца ў гэтай нялёгкай з'яве, доказна напісаць, што такое добра і што такое дрэнна, паспрыяць развіццю ў людзей, асабліва маладых чытачоў, мастацкага густу. Але наша крытыка ўсё яшчэ непаваротлівая, у асноўным рэцэнзійна-хвалебная. Асобныя таленавітыя кнігі такіх крытыкаў, як Адамовіч, Бярозкін, Бечык, Бугаёў, Гніламёдаў, Каваленка, Пашкевіч, Юрэвіч,— з'ява даволі рэдкая.

Нашай крытыцы часам перашкаджаюць баязлівасць і схематызм. Бярэ крытык нейкую думку, тэзіс, а пасля падбірае адпаведныя цытаты.

Амаль зніклі праблемныя артыкулы. Не вядуцца ніякія дыскусіі, а гаварыць ёсць пра што.

Праўда, у красавіцкім нумары «Полымя» 1976 года змешчаны вялікі артыкул Міколы Арочкі «Саюз часу і майстэрства». Там ёсць і слушныя думкі, і некалькі дробных уколаў, а астатняе ідзе на высокай ноце захаплення. Гэта неад'емнае права М. Арочкі — даваць творам нашых паэтаў свае ацэнкі, па-свойму іх аналізіраваць.

Новай паэме Аркадзя Куляшова «Хамуціус» крытыкам адведзена адна старонка. Некаторыя месцы з аналізу гэтай рэчы ў мяне выклікалі насцярожанасць. Прабачце за даўгаватую цытату:

«Уражваюць непахісная логіка слова, думкі, што нейкім дзівам укладваюцца ў абсалютна вытрыманы метрычны лад радка, дакладна суаднесены з натуральнасцю голасу. Вось яго першыя словы дыялогу, за імі — скандэнсаванасць праграмы, светапогляд рэвалюцыянера. У іх не проста афарыстычнасць, дасціпнасць розуму, гатоўнасць з годнасцю адпарыраваць двурушна прытоенаму графу Старжыцкаму:

Нябожчыкам не трэба даравання
Былых грахоў. Калі ім сніцца сон,
То сніцца ім не тытул, а паўстанне
Наступнае. Яго набатны звон.

Выключнае майстэрства пераносу!

Ці не ў гэтым адзін з сакрэтаў натуральнасці інтанацыі персанажа? Сказ спружыніста заходзіць з аднаго радка ў наступны радок, стыкуецца там з новым сказам. Іх звёны — гэта лагічная повязь думкі. Прычым дзеля кантрастнасці думка нярэдка акцэнтуецца ўлюбёным прыёмам супрацьпастаўлення паняццяў, як гэта толькі што мы бачылі: «Сніцца ім не тытул, а паўстанне». Злучнік «а» — той кантрастна-антытэзны пункт, праз які прамаўляе нешта большае, чым супрацьпастаўленне як сродкі паэтыкі».

Я паважаю Міколу Арочку, але мне здаецца, што на яго зрабіў вялікі ўплыў модны цяпер на Захадзе структуралізм. У ім, напэўна, ёсць нешта і вартае ўвагі, але гэта справа дыскусійная.

Не вельмі даўно мне давялося быць на калёквіуме пісьменнікаў і крытыкаў у Бялградзе. Там былі літаратары з сацыялістычных краін, а таксама з Англіі, Аўстрыі, ФРГ і іншых краін.

Некаторыя прамоўцы гаварылі ледзь не матэматычнай мовай.

Некаторыя з іх прапанавалі стварыць асобны міжнародны саюз крытыкаў — структуралістаў.

І наш паважаны стары Віктар Шклоўскі — адзін з родапачынальнікаў усіх структуралістаў — весела і зласнавата высмеяў іх і заклікаў: «Паглядзіце вы ўважлівей на жыццё, звяжыце працэсы літаратуры з жыццёвымі працэсамі».

Дык вось, паэтычная трагедыя Аркадзя Куляшова «Хамуціус» — радасная з'ява ў нашай літаратуры. Гэта рэч вялікай сілы і хараства. Гэта выдатнае дасягненне беларускай і ўсёй савецкай паэзіі.

І трэба аналізаваць яе сур'ёзна і ўдумліва. Пакуль што я прачытаў пра паэму адзін добры артыкул — Віктара Каваленкі.

Ніяк не магу пагадзіцца яшчэ з адным сцвярджэннем М. Арочкі: «Аднак агульная тэндэнцыя на пацішэнне, мусіць жа, і сапраўды існуе».

Давайце разбяромся ў гэтай справе.

Возьмем такога выдатнага майстра, як Пятрусь Броўка. У яго апошніх кнігах глыбейшым стаў роздум над праявамі жыцця, лірыка зрабілася больш спавядальнай і шчымлівай. Але яна ніколькі не страціла сваёй партыйнасці, баявітасці, маштабнасці. Яна заўсёды актуальная і нават злабадзённая. Мы можам гаварыць аб узбагачэнні паэзіі Петруся Броўкі і ніякім чынам аб пацішэнні.

Кастуся Кірэенку мы заўсёды ведалі як паэта палымянага, наступальнага, які жыве турботамі нашага грамадства, нашай партыі. Гэта ўсё ёсць і ў новым цыкле, на маю думку, добрых вершаў, якія змешчаны ў снежаньскім нумары «Полымя» 1975 года. Але там чытаем і пранізлівыя радкі пра вельмі асабістае:

Я захварэў на пах лясных сутоннях
З дымком слязы смалістай на карчах.
І гэта, мусіць, нават і пры сконе
Зазіхаціць, засвеціцца ў вачах.
Я захварэў на ночы ў спелым леце,
На пошум хваль, што сон мне сцеражэ.
І ўсім скажу:
— Так, ёсць усё ж на свеце
Штосьці з таямніц,
Што сэрцу не салжэ.

І такі ўвесь верш надзвычайна шчыры.

Да вайны адзін вядомы паэт надрукаваў верш, у якім рэфрэнам гучалі катэгарычныя словы: «І я шчаслівы, бо заўсёды шчаслівы той, хто бальшавік». Гэты верш і на пленуме Саюза пісьменнікаў, і ў друку вельмі хвалілі, сцвярджаючы, што гэта выдатны прыклад сацыялістычнага рэалізму. Праўда, былі і тады разумныя людзі, якія казалі: «А як быць, калі памёр нехта з блізкіх, дзіця, напрыклад, калі ў чалавека гора?»

Духоўны свет савецкага чалавека надзвычайна багаты і складаны. І наша задача не збядняць, а ўзбагачаць яго, выхоўваць маладое пакаленне ў камуні-

стычным духу, несці чытачу святло сацыялістычнага гуманізму і высокай чалавечай маралі.

Сапраўды грамадзянская, чуйная да ўсіх зрухаў у нашым жыцці, паэзія Генадзя Бураўкіна знайшла свайго чытача.

І ў новых вершах з кнігі «Варта вернасці» Бураўкін гаворыць сваім адметным голасам:

Народ мой, дзякуй табе,
Што і на міг мне не дазволіў,
Каб я кагосьці абязволіў,
Жыў у кагосьці на гарбе,
Што ў радаслоўную ўпісаў
Не гандляроў і прайдзісветаў,
А плытагонаў і паэтаў,
І штукароў ганчарных спраў.

Там жа надрукавана інтымная лірыка, якая ніяк не абяднiла паэта, а, наадварот, пашырыла яго паэтычныя магчымасці.

Паэзія Веры Вярбы апошняга часу радуе нас шчырасцю, псіхалагічнай тонкасцю. Асабліва добра гучыць у яе апошняй паэме тэма мацярынства. Тут не толькі замілаванасць маці, але і пачуццё высокай годнасці, калі яна заяўляе, што для яе галоўны абавязак — узгадаваць і выхаваць для радзімы сына.

Я ўзяў некалькі паэтаў розных пакаленняў, каб паказаць, што ў адных, у якіх заўсёды была моцнай партыйная публіцыстычнасць, прыбавілася філасафічнасці, глыбейшага роздуму. А ў другіх, што аддавалі шмат увагі інтымнай лірыцы, узраслі грамадзянскія матывы.

Вершы і паэмы Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Кастуся Кірэенкі, Анатоля Вялюгіна, Аляксея Пысіна, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Міколы Аўрамчыка, Сяргея Грахоўскага, Ніла Гілевіча, Петруся Макаля, Юрася Свіркі, Веры Вярбы, Васіля Зуёнка, Алега Лойкі — гэта сапраўдная паэзія, і не трэба ёй прывешваць ніякія біркі.

«Ціхія», а больш правільна сузіральныя, вершы пішуць людзі раўнадушныя, якіх не цікавяць ні вялікія, ні малыя справы савецкіх людзей, а цікавяць толькі ўласны поспех ды яблыні на дачным участку.

Шкада, што з'явіліся і тэарэтыкі «ціхай» паэзіі, накшталт Вадзіма Кожынава, які, дыскутыруючы з

Аляксандрам Міхайлавым, заявіў («Литературное обозрение», № 1, 1976 г.): «Інфармацыя пра сённяшні дзень не з'яўляецца задачай паэзіі». І калі Міхайлаў сказаў, што «паэзія жыве сваім агульнагуманістычным зместам, глыбінёй і праўдай пачуццяў і перажыванняў, высакароднасцю думак, у ёй выказаных», Кожынаў запярэчыў: «Вось ужо з чым я рашуча не згодзен. Вышэйшыя тварэнні — гэта ні ў якім разе не «дакументы часу».

Зразумела, я цалкам падтрымліваю Аляксандра Міхайлава.

Няма паэзіі ні «ціхай», ні «гучнай». Ёсць паэзія і непаэзія.

Уладзімір Маякоўскі — паэт наскрозь сацыяльны, трыбун рэвалюцыі. А колькі глыбокай чалавечнасці і пяшчоты ў яго паэмах: «Воблака ў штанах», «Флейта-пазваночнік», «Уладзімір Ільіч Ленін», у такіх вершах, як «Размова на адэскім рэйдзе дэсантных судоў «Савецкі Дагестан» і «Чырвоная Абхазія» і многіх іншых. Недарэмна паэт сказаў:

Хотите —
Буду от мяса бешеный —
И, как небо меняя тона,—
Хотите —
Буду безукоризненно нежный...

Сэрца сапраўднага паэта павінна ўвабраць радасць і боль, святло і змрок жыцця. Кепска, калі паэт вядзе адну бясконцую мелодыю, ціхую ці гучную, на трубе ці на флейце, на барабане ці гітары. Але, калі мастацтва служыць вялікім ідэалам, гуманізму, мы павінны помніць і паважаць і трубачоў-будзёнаўцаў і гітару Віктара Хары.

Леў Мікалаевіч Талстой перачытваў пад старасць Гамера (а ён, як вам вядома, чытаў на старагрэчаскай мове) і аднойчы заўважыў: «Он и поет, и орет, и все правда».

Вось у гэтым «все правда» — і ёсць, напэўна, галоўны сакрэт вялікай літаратуры.

Жыццё цяпер вельмі дынамічнае і складанае. Побач са штодзённымі працоўнымі подзвігамі, з аддананасцю і сумленнем большасці народа ў нас яшчэ многа праяў мяшчанства, хабарніцтва, пагоні за рублём, кар'ерызму, падхалімажу, п'янства, распусты, хуліганства, бездухоўнасці.

Нашы слаўныя драматургі Кандрат Кандратавіч Крапіва, Андрэй Макаёнак, Алесь Петрашкевіч, Мікалай Матукоўскі сваімі п'есамі змагаюцца з усім, што перашкаджае нашаму жыццю. Яны гэта робяць добра.

А вось сатырычная паэзія ў нас зусім збяднела. Некаторыя работнікі рэдакцый баяцца яе як агню.

XXV з'езд КПСС і XXVIII з'езд КПБ пытанням выхавання, пытанням маралі ўдзялілі сур'ёзную ўвагу. І паэты не павінны стаяць у баку ад гэтай справы.

Мы ганарымся поспехамі беларускай прозы. Такія нашы выдатныя празаікі, як Іван Мележ, Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Янка Брыль, Алесь Адамовіч, як кажуць, выйшлі на сусветную арэну.

Сталі вядомы далёка за межамі нашай рэспублікі Іван Навуменка, Іван Чыгрынаў, Іван Новікаў, Іван Пташнікаў, Алесь Асіпенка, Барыс Сачанка, Вячаслаў Адамчык, Янка Сіпакоў, Анатоль Кудравец.

У гэтым вялікая заслуга нашых верных братоў з усіх саюзных рэспублік. Асабліва мы ўдзячны маскоўскім і ленінградскім пісьменнікам. Бо толькі пры дапамозе вялікай рускай мовы мы можам весці размову з усім светам.

Паэты старэйшага пакалення таксама выйшлі, як кажуць, на шырокі прастор. А вось калі думаеш, каго друкуюць і ўсесаюзныя часопісы і газеты з сярэдняга пакалення, назавеш Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Грачанікава, а далей пачынаеш запінацца.

З перакладамі маладых справа яшчэ горш. Успамінаеш, што друкавалася на рускай мове Вольга Іпатава. Нядаўна выйшаў у «Молодой гвардии» зборнік Міколы Федзюковіча «Птушынае дрэва».

Варта новаму праўленню нашага саюза больш актыўна і мэтанакіравана раіць саюзным выдавецтвам лепшыя творы беларускай літаратуры, значна пашыраць спіс беларускіх аўтараў. Гэтыя пытанні павінны рэгулярна абмяркоўвацца на секцыях. Дарэчы, вельмі надакучыла гэта слова «секцыя», якая збірае пісьменнікаў у жанравы загон. Я прапаную арганізаваць у нас, па прыкладу маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі, творчыя аб'яднанні паэтаў, празаікаў, драматургаў і г. д., у якіх галоўным словам і галоўнай справай павінна быць творчасць.

Дазвольце мне сказаць некалькі слоў яшчэ аб адной распаўсюджанай цяпер «тэорыі», што наш імклівы час, эпоха НТР, патрабуе паэзію рацыянальную, дзе было б набольш думак і інфармацыі і менш пачуццяў, эмоцый. Я думаю, такое сцвярджэнне памылковае. Вядома, дай бог нашай паэзіі набольш свежых думак, мудрасці, філасафічнасці. Але ўсё гэта не ўзнікне само па сабе, а паэту патрэбны вялікія душэўныя намаганні, каб пранікнуць у глыбокі свет нашага сучасніка.

Наша партыя імкнецца зрабіць савецкага чалавека не толькі матэрыяльна забяспечаным, але і ўсебакова развітым, духоўна багатым. Вершы без пачуццяў, без эмоцый, на маю думку, не паэзія. Гэта і вядзе да бездухоўнасці, прыкладаў чаго ў нас нямала.

Паэт, як і салдат, павінен прысягаць радзіме адзін раз. А далей павінны з'яўляцца творы пра вялікія справы нашага сучасніка, пра яго пачуцці і думкі, і ўсё гэта, вядома, павінна быць таленавіта, прапушчана праз гарачае сэрца паэта.

На вялікі жаль, яшчэ і цяпер некаторыя рэдактары нашых газет і часопісаў любяць так званыя «ўдарныя» вершы, дзе шаблонна-рытарычна ўслаўляюцца дарагія для нас імёны, радзіма і партыя. За такімі звычнымі і «надзейнымі» на іх погляд вершамі, дзе паўтараюцца ўсім вядомыя ісціны і лозунгі, рэдактар можа паблажліва прапусціць і «інтым».

Успамінаюцца вядомыя радкі Міхаіла Кульчыцкага, які такім маладым загінуў на фронце:

> Я б запретил приказом совнаркома
> Писать о родине бездарные стихи.

Наш абавязак паставіць ва ўсіх рэдакцыях і выдавецтвах больш надзейны заслон бяздарнасці, шэрасці. А калі каго запаланіла мелкатэм'е альбо з'явы, нявартыя ўвагі сур'ёзнай літаратуры, мы павінны па-таварыску дапамагчы адзін другому, асабліва маладым.

Я глыбока перакананы, што паэзія без сучаснасці, без грамадзянскага гучання — непаўнацэнная паэзія.

Наша родная партыя высока ацаніла працу пісьменнікаў па выхаванню працоўных у камуністычным руху.

Няхай жа сёння кожны з нас сумленна і шчыра адкажа сабе на пытанне, ці мае ён права выхоўваць працоўных, ці не трэба яму самому павучыцца ў рабочых і калгаснікаў, няспыннай працай выхоўваць і перавыхоўваць сябе?

Наш народ заняты напружанай стваральнай працай.

Дык давайце будзем працаваць больш, лепш, з поўнай самааддачай, з пачуццём вялікай адказнасці за сваю нялёгкую справу перад вялікім Савецкім народам.

*1976*

## РАЗВІТАННЕ З ДРУГАМ

Ён не пазвоніць болей мне позна ўвечары, мой дарагі друг Іван Паўлавіч, і не скажа, як заўсёды:

— Не спіш? І я не магу спаць... Нешта кепска сябе адчуваю.

І не парадуемся мы разам з ім новаму добраму апавяданню ці вершу, і не абурымся, як абураліся нярэдка, пісанінаю нахабных халтуршчыкаў.

Мы страцілі вялікага пісьменніка беларускай зямлі, аднаго з самых таленавітых празаікаў Савецкага Саюза. Палескія раманы Івана Мележа — адна з высокіх і сонечных вяршынь беларускай савецкай культуры.

Мы пазнаёміліся з ім даўно, яшчэ да вайны. У 1939 годзе ў мінскім Доме пісьменніка ён чытаў мне свае вершы. І ў прозе ён быў непаўторным паэтам свайго роднага Палесся. Яго выдатныя раманы будуць жыць доўга, вельмі доўга, а вобразы, створаныя Іванам Мележам пойдуць, як жывыя людзі, да новых пакаленняў, каб расказаць нашым нашчадкам, як трэба працаваць, змагацца, кахаць, як трэба ўсім сэрцам любіць родную зямлю.

Яго душа была багатая, вочы вострыя і мудрыя, розум аналітычны, рука нястомная. Колькі засталося няздзейсненых планаў, як бы яшчэ ўзбагацілася наша літаратура!

Цяжкахворы, ён працаваў з поўнай самааддачай, пакутаваў і радаваўся са сваімі героямі.

Патрабавальны да сябе, ён і ў другіх цаніў перш за ўсё талент, працавітасць, сумленнасць і сур'ёзнае стаўленне да літаратурнай працы, прынцыповасць. Ненавідзеў літаратурную неахайнасць, павярхоўнасць, бяздум'е.

На Усесаюзны з'езд пісьменнікаў мы ў чэрвені гэтага года ехалі разам, у адным вагоне. Доўга не спалі і гаварылі, гаварылі пра жыццё, пра літаратуру. Ён з хваляваннем і ўдзячнасцю ўспамінаў наш сягогетні палёт на верталёце над яго любімым Палессем, калі мы прызямліліся ў яго родных Глінішчах, каля яго школы і насустрач выбеглі ўсе вучні і з радасцю пазналі свайго славутага земляка. Пасля з'езда мы больш так і не пабачыліся...

Не прыедуць больш з Глінішчаў на яго творчы вечар палескія дзяўчаты і не спяюць любімую песню Івана Мележа.

А я да канца жыцця буду весці са сваім другам шчырую размову, а сёння з вялікім болем у сэрцы кажу:

— Бывай, мой дарагі незабыўны таварыш!

*1976*

## НАШЫ ДУМЫ — АБ МІРЫ

Калі вясной, летам ці восенню пралятаеш над прасторамі Беларусі, бачыш шырокія дагледжаныя палі, цудоўна адбудаваныя гарады і змяніўшыя векавечнае аблічча калгасныя сёлы. А ў час ворыва, сяўбы ці ўборкі — дзесяткі тысяч разнастайных машын. Квітнеючая Рэспубліка!

Але той, хто едзе па дарогах Беларусі, на кожным кроку бачыць па абочынах абеліскі над незлічонымі магіламі, помнікі і мемарыялы ў гонар загінуўшых у страшэнныя гады вайны.

Кожны чацвёрты жыхар нашай рэспублікі загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны.

А ў горадзе Жодзіна, дзе вырас гіганцкі завод велікагрузных самазвалаў (БелАЗ), збудаваны шматфігурны манумент «Маці» — у гонар савецкай маці-патрыёткі, якой стала Анастасія Фамінічна Купрыянава, жыхарка гэтай мясціны. Пяцёра яе сыноў загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, а малодшы з іх Герой Савецкага Саюза Пётр Купрыянаў — зрабіў бессмяротны подзвіг: закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота.

Хто быў у Беларусі ці хаця чуў аб яе стратах, гора і подзвігу, той не здзівіцца, што пад новым заклікам Сусветнага Савета Міру ў нас падпісалася 6 799 800 чалавек — фактычна ўсё дарослае насельніцтва рэспублікі.

Слова «Мір» жыло і жыве ў сэрцах кожнага савецкага чалавека заўсёды — ад першага ленінскага Дэкрэта аб міры і па сённяшні дзень. Мы добра помнім словы Уладзіміра Ільіча Леніна, якія ён сказаў на Другім Усерасійскім з'ездзе Саветаў у 1917 годзе: «Пытанне аб міры ёсць пякучае пытанне, вялікае пытанне сучаснасці». Вось таму сёння атрымалі ўсенародную падтрымку словы Леаніда Ільіча Брэжнева, якія ён сказаў у прывітанні Сусветнаму форуму міралюбівых сіл: «Галоўнае сёння — гэта дзейнічаць, знаходзіць разумныя рашэнні, якія б вялі як мага хутчэй, без замаруджання да рэальнага раззбраення, да матэрыялізацыі разрадкі, да яе ператварэння ў сапраўды ўніверсальны і сапраўды незваротны працэс».

Беларускі народ горача падтрымлівае палітыку партыі і Савецкага ўрада ў барацьбе за мір, за міжнародную разрадку. У час збору подпісаў пад новай Стакгольмскай адозвай, выступаючы на сходзе ў калгасе «Савецкая Беларусь» Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, Ганна Мікалаеўна Лукашэвіч заявіла: «Наш народ перанёс жахі вайны, і мы не можам быць раўнадушнымі да чужога гора. Падпісваючы адозву, я ўношу 120 рублёў з асабістых зберажэнняў у Фонд міру». Яе горача падтрымалі ўсе калгаснікі. Грашовы ўклад гэтага калгаса склаў 2707 рублёў.

З малых ручаёў нараджаюцца вялікія рэкі. З невялікіх укладаў збіраюцца вялікія сумы. За 1976 год па нашай рэспубліцы пералічана ў Фонд міру 3 мільёны 68 тысяч рублёў.

Вельмі важна, што рабочыя і калгаснікі актыўна падтрымліваюць рух абаронцаў міру, бяруць на сябе абавязацельствы яшчэ лепш працаваць. Нашы актывісты заўсёды перадавікі прамысловасці.

Беларускі Рэспубліканскі камітэт абароны міру, яго прэзідыум, абласныя аддзяленні і ўсе актывісты праводзяць вялікую працу сярод насельніцтва.

Выдатныя вучоныя, пісьменнікі, дзяржаўныя дзеячы, заслужаныя ветэраны вайны выступалі з лекцыямі, дакладамі на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, у навуковых установах.

Праводзіліся тэматычныя вечары: салідарнасці з патрыётамі і дэмакратамі Чылі, салідарнасці з барацьбой народаў Анголы і многія іншыя.

Сумесна з Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Камітэт правёў сходы грамадскасці г. Мінска, прысвечаныя Тыдню Афрыкі, Тыдню барацьбы супроць зброі масавага знішчэння, XXXI гадавіне ААН; вечары, прысвечаныя выдатным дзеячам сусветнай навукі, літаратуры і мастацтва.

Паэты пісалі вершы, прысвечаныя барацьбе за мір, кампазітары на гэту тэму склалі новыя песні.

Шырока асвятляла ўсе мерапрыемствы, якія правёдзіў Камітэт, наша прэса.

Прэзідыум Камітэта, яго камісія па зарубежных сувязях многа ўвагі аддавалі працы з іншаземнымі дэлегацыямі, сувязям з нацыянальнымі камітэтамі міру.

У 1976 годзе Камітэт прыняў дэлегацыю Чэхаславацкага Камітэта абароны міру на чале са старшынёй Чэшскага савета міру прафесарам Антанінам Стэйскалам. Госці прывезлі з Чэхаславакіі ружы і пасадзілі іх у крэпасці-герої Брэсце і ва ўрочышчы «Гай», дзе фашысцкія акупанты ў 1943 годзе расстралялі больш 3000 чэхаславацкіх грамадзян. Адбыўся мітынг дружбы.

У кастрычніку мінулага года Мінск наведала дэлегацыя прыхільнікаў міру Аргентыны. А ў пачатку гэтага года мы прымалі сяброў з КНДР, Кубы і Аўстрыі — удзельнікаў Сусветнага форуму міралюбівых сіл.

Беларускі Рэспубліканскі камітэт рэгулярна накіроўвае розныя матэрыялы (у тым ліку фотападборкі) у 40 зарубежных камітэтаў міру. З многіх камітэтаў мы атрымалі лісты з падзякай і пажаданнем атрымліваць такія матэрыялы яшчэ. Вось урывак з пісьма, якое прыйшло з Мальты: «Дарагія сябры! Мы ўдзячны вам за ваша пісьмо і публікацыю «Савецкая Беларусь сёння», якая вельмі цікавая. Яна дае нам магчымасць інфарміраваць членаў Мальтыйскага савета міру і салідарнасці і членаў культурнага грамадства дружбы «Мальта — СССР» аб дасягненнях беларускай рэспублікі. Мы збіраемся пісаць аб Беларусі і далей, таму любая інфармацыя, якую вы прышлеце ў наш адрас, будзе вельмі патрэбнай і аблегчыць нашу задачу».

Прэзідыум нашага Камітэта і яе актыў праводзяць работу з іншаземнымі студэнтамі, якія вучацца ў рэспубліцы, і рознымі іншаземнымі дэлегацыямі, а таксама выступаюць перад моладдзю зарубежных краін, якія прыязджаюць у маладзёжны комплекс «Юнацтва» па лініі Камітэта маладзёжных арганізацый.

Цікавы факт: адозву Сусветнага Савета Міру падпісалі 1850 іншаземных грамадзян — турыстаў і студэнтаў, якія вучацца ў Мінску.

Наш Камітэт вядзе сваю справу ў цесным кантакце з Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, з Рэспубліканскім камітэтам ветэранаў вайны і іншымі грамадскімі арганізацыямі.

Нядаўна мы ўрачыста адзначалі 25-годдзе Беларускага Рэспубліканскага камітэта абароны міру. Вярхоўны Савет Беларускай ССР за плённую працу па ўмацаванню міру ўзнагародзіў наш Камітэт і лепшых актывістаў Ганаровымі граматамі. Атрымалі мы Ганаровыя ўзнагароды і ад Савецкага камітэта міру.

Натхнёныя рашэннямі XXV з'езда КПСС, мы і далей будзем аддаваць усе свае сілы і здольнасці высакароднай справе абароны міру, умацоўваць дружбу і ўзаемаразуменне паміж народамі.

*1977*

## САМАБЫТНЫ ТАЛЕНТ

Калі чытаеш вершы і паэмы Рыгора Барадуліна, здаецца, што нанава адкрываеш беларускую зямлю. Табе даўно знаёмыя гэтыя лясы і азёры, палі і дарогі, гарады і людзі, але ў паэта ўсё ярчэй, нечаканей, суровей і прыгажэй. А гэта і ёсць адзнака таленту сапраўднага і самабытнага.

У кожнага паэта ёсць свой запаветны куток, дзе ён нарадзіўся, вучыўся, адкуль пачаліся яго жыццё і паэзія. Для Рыгора Барадуліна такі куток — Ушацкі раён Віцебскай вобласці, дзе паэт нарадзіўся ў 1935 годзе. Гэта надзвычайна маляўнічая мясціна з высокімі барамі і сінімі азёрамі, з працавітымі дасціпнымі людзьмі, якія праславілі сябе партызанскай адвагай у гады Вялікай Айчыннай вайны. Тут дзейнічала легендарнае партызанскае злучэнне Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Лабанка. Бацька Рыгора Барадуліна быў таксама партызанам. Ён загінуў за пяць дзён да вызвалення роднага краю.

Пра што пазней ні пісаў бы паэт, родная Ушаччына — названая ці неназваная — жыла ў яго кнігах (а ў Рыгора Барадуліна выйшла з друку больш за паўтара дзесятка зборнікаў, пяць кніг выдадзена на рускай мове, асобныя кнігі выйшлі на латышскай, эстонскай, кіргізскай мовах).

Паэт увесь час вяртаецца на сваю малую радзіму — зямлю маленства, яна для яго невычэрпны калодзеж праўды і сумлення, працавітасці і мужнасці, мудрасці і хараства. Родны кут — і дарадчык, і строгі суддзя, і суцяшальнік у горкую хвіліну.

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем.
Каб душою не ачарсцвець,
Каб не страціць святое штосьці.

Гэты матыў радніць Рыгора Барадуліна з яго вялікім папярэднікам Аляксандрам Твардоўскім. Успомніце, як той быў неразлучны і ў жыцці, і ў творчасці з роднай Смаленшчынай, з бацькоўскім Загор'ем.

Такая ўлюбёнасць у малую радзіму, калі паэт таленавіты, глыбокі, не робіць яго паэзію абмежаванай альбо правінцыяльнай. Наадварот, яна становіцца больш сардэчнай, праўдзівай, дакладнай.

Біяграфія Рыгора Барадуліна — біяграфія яго пакалення. Студэнтам універсітэта ён працаваў на цаліне. Тады і з'явілася першая, прапахлая сонцам і стэпам, кніжка вершаў «Маладзік над стэпам».

Даўжэлі жыццёвыя дарогі паэта, пашыраліся далягляды, і мы чыталі новыя цудоўныя вершы пра будаўнікоў Полацкага нафтаперапрацоўчага гіганта, пра суседнюю латышскую зямлю, пра Далёкі Усход і Енісей; пра тое, як танцуе таджычка і якая душная зіма ў Ленкарані. У Барадуліна глыбока развіта пачуццё сям'і адзінай, братэрства, інтэрнацыяналізму. Яго вершы пра братнія землі не павярхоўныя дарожныя замалёўкі, не паэтычныя ілюстрацыі, а дакрананне разумнага сэрца да лёсу братніх народаў, зацікаўленае асваенне новых мацерыкоў неабсяжнага жыцця, здзіўленне разнастайнасцю яго праяў.

Прасякнуты любоўю і яго творы пра Украіну: паэма пра геніяльнага Кабзара «Праз чараты штыкоў», многія вершы.

Асноўнай тэмай паэзіі Рыгора Барадуліна я назваў бы тэму патрыятызму — пра вайну і народны подзвіг. Вайна прайшла праз паэтава сэрца. Пажары, гібель родных і блізкіх, чорныя дні блакады, галадуха, нянавісць да акупантаў, гераізм землякоў — усё гэта ёсць у Рыгора Барадуліна, у яго суровай хвалюючай паэзіі. Яшчэ ў раннім вершы «Палата мінёраў» ён паказвае раённую бальніцу, дзе ляжалі дзеці, падарваныя на нямецкіх мінах:

Здавалася, ў цішы рыпела зямля
На восі,— нібы на пратэзе,— у зморы.
Пасля перавязкі.

*(«Ой, раны смыляць!»)*

Спявае «Арлёнка» палата мінёраў. Асаблівай сілы дасягае паэт у паэмах «Блакада», «Балада Брэсцкай крэпасці». Ён сапраўды сэрцам піша праўду пра народны подзвіг, пра мужнасць беларускіх партызан, пра воінаў розных нацыянальнасцей, якія гінулі, але не пакараліся ворагу.

Асобная пранізлівая песня, якую пяе Рыгор Барадулін усё жыццё — гэта песня пра маці. І ў многіх вершах і ў паэме «Куліна» паэт стварае запамінальны вобраз сардэчнай і мудрай беларускай жанчыны — сваёй маці. Пра маці пісалі і пішуць амаль усе

паэты. Але Барадулінаву маці забыць нельга, столькі паэт уклаў у яе вобраз шчырых слоў, радасці, гордасці і вялікага смутку. Беларуская жанчына перарастае ў вобраз Маці з вялікай літары.

Рыгор Барадулін не быў тым, што звычайна называецца «пачынаючы паэт». У сярэдзіне пяцідзесятых гадоў ён адразу ўвайшоў у беларускую паэзію як майстра са сваім адменным голасам, з багатай непаўторнай метафарычнасцю, з яркасцю фарбаў і свежымі думкамі. Вядома, з гадамі яго майстэрства расло, паглыблялася праўда жыцця, пашыралася тэматыка. Барадулін разнастайны паэт. У яго моцна гучаць і грамадзянскія матывы, і цудоўная інтымная лірыка, і вершы на гістарычна-рэвалюцыйныя тэмы. З захапленнем, ярка і дакладна, піша паэт пра родную прыроду. Карыстаюцца папулярнасцю яго сатырычныя і гумарыстычныя творы.

Паэт піша многа, але не паспешліва. Асобна трэба сказаць пра мову Рыгора Барадуліна. З часоў Янкі Купалы ў нас, здаецца, не было паэта з такой багатай сакавітай мовай. Барадулін добра ведае народную творчасць і часта карыстаецца фальклорна-песеннымі матывамі. Але ён ніколі не стылізуе. Наадварот, паэт валодае ўсімі сродкамі сучаснай паэтыкі. Яго верш ліецца свабодна, раскована, хоць і густа перасыпаны нечаканымі вобразамі, параўнаннямі, асацыяцыямі. Паэт выдатна валодае алітарацыяй, рыфмай, рытмікай. Але справа, вядома, не ў тэхніцы вершаскладання. Галоўнае, паэт піша праўду жыцця, паэтычны летапіс свайго народа. Глыбокая свежая думка і яркі вобраз — вось што робіць паэзію Рыгора Барадуліна непаўторнай. Яго мысленне народнае. І сучаснае. Вельмі сучаснае.

Барадулін — надзвычайна добры перакладчык. Маючы бездакорны густ, ён умее данесці да беларускага чытача самыя складаныя творы паэтаў іншых народаў. Ён пераклаў многія вершы і паэмы С. Ясеніна, Я. Смелякова, Э. Межэлайціса, К. Куліева, Я. Райніса, Г. Лоркі, Дж. Байрана, У. Баранеўскага і многіх іншых.

Выдатна перакладаў ён і творы ўкраінскіх паэтаў: П. Тычыны, М. Рыльскага, Л. Первамайскага, Д. Паўлычкі, І. Драча, В. Кароціча, Вінграніўчыка і многіх іншых таленавітых украінскіх паэтаў.

Ён быў адным з тых, хто рэдагаваў анталогію ўкраінскай савецкай паэзіі не беларускай мове.

І Рыгора Барадуліна перакладалі амаль ва ўсіх савецкіх рэспубліках і за мяжой.

Р. Барадулін — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы і прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі.

У паэта ёсць кніга вершаў пад назвай «Неруш». Неруш — гэта нечакана знойдзеная ў лесе мясціна, засыпаная баравікамі, якіх ніхто ніколі тут не збіраў, не рушыў. Вось так і паэзія Рыгора Барадуліна адкрывае не кранутае іншымі, свежае. Яна аптымістычная, сакавітая, уся нечаканая і праўдзівая, накіраваная ў будучыню.

Спадзяюся, што ўкраінскі чытач з цікавасцю сустрэне гэту кнігу і палюбіць паэзію Рыгора Барадуліна, як любім мы яе ў Беларусі.

*1977*

# АДКАЗ НАЁМНЫМ БРАХУНАМ

Нядаўна ганебна славутая радыёстанцыя «Свабода» пахваліла некалькі вершаў з майго новага зборніка «Крык сойкі». Тое, што здраднікі і правакатары злосна гаўкаюць па радыё, нас не дзівіць. Іх амаль ніхто не слухае. Але пра «пахвалу» атручальнікаў эфіру не магу не сказаць некалькі слоў, бо тымі панамі расстаўлены акцэнты хітра і правакацыйна: выхопліваюць асобныя строфы і незалежна ад агульнага зместу і сэнсу, робяць хлуслівыя вывады.

Аўтар гэтай перадачы, які пабаяўся назваць сваё прозвішча, сцвярджае, што ў некаторых вершах я вяртаюся да вытокаў свайго маленства, да вёскі і яе народных традыцый.

Што ж, гэта праўда. Кожны паэт раней ці пазней вяртаецца да свайго маленства, бо яно — невычэрпная крыніца чысціні, непасрэднасці, здзіўлення, паэзіі. І жыццё свайго народа, яго лепшыя традыцыі заўсёды натхнялі і будуць натхняць паэтаў.

Але наёмным брахунам дробныя кавалачкі праўды патрэбны для таго, каб «уціснуць словы пра «нацыянальныя традыцыі». Маўляў, паэт і мяшчанства бічуе, і прыроду абараняе, і да вясковага маленства звяртаецца таму, што «сучасная сапраўднасць не такая ўжо і прывабная». Леанід Ляонаў некалі сказаў, што з паўпраўды вырабляюцца найвышэйшыя гатункі хлусні. Гэта і пра вас, панове са «Свабоды».

Дык вось, жыццё народа, савецкага народа,— сапраўды выток маёй паэзіі. Але найглыбейшым вытокам для мяне, як і для ўсіх савецкіх пісьменнікаў, з'яўляюцца жыватворныя ідэі Леніна, Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя. Мы, гордыя за сваю сацыялістычную Радзіму, якая скрышыла ненавісныя фашысцкія орды, сёлета ўрачыста будзем святкаваць шасцідзесяцігоддзе Вялікага Кастрычніка. Я ганаруся, што з'яўляюся аднагодкам Рэвалюцыі.

А народныя і нацыянальныя традыцыі ў нас беражліва захоўваюцца і развіваюцца. Толькі не так, як гэта хацелася б заскарузлым нацыяналістам.

На ўвесь свет гучыць беларуская народная песня. Арганізатару нашай харавой капэлы, выдатнаму фалькларысту і музыказнаўцу Рыгору Шырме ня-

даўна прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы. На ўсіх кантынентах цудоўна співаюць беларускія песні нашы «Песняры», якія нядаўна з вялікім поспехам выступалі ў Злучаных Штатах Амерыкі. Ва ўсім Савецкім Саюзе і далёка за яго межамі палюбілі нашы таленавітыя ансамблі «Верасы» і «Харошкі».

Сотні самадзейных калектываў — харавых, музычных, танцавальных — гэта сённяшні дзень нашай калгаснай вёскі. Ды і яна, наша сучасная вёска, зусім не такая, што сніцца прагніўшым нацыяналістам. Яна сёння багатая, механізіраваная, культурная.

А з праявамі мяшчанства, браканьерамі, драпежнымі адносінамі да багацця нашых лясоў, азёр і рэк вядзе барацьбу ўвесь савецкі народ. Гэта важныя справы нашага жыцця. Пра гэта запісана ў рашэннях XXV з'езда КПСС.

Аўтар перадачы пагардліва адзначыў, што да гэтага часу мае вершы былі агіткамі. Што праўда, то праўда. Я і на фронце праз вершы і артыкулы заклікаў беларускі народ адважна змагацца з гітлераўскімі акупантамі і бязлітасна знішчаць іх нацыяналістычных халуёў.

За савецкі лад жыцця, за сацыялістычны гуманізм, за дружбу паміж народамі, за мір я агітаваў і буду агітаваць усёй сваёй паэзіяй, усім сваім жыццём камуніста.

*1977*

## СЛАЎЛЮ ДРУЖБУ ВЕЧНУЮ!

Да вайны ў Мінску было многа зялёных ускраін з драўлянымі хатамі і зусім сялянскім бытам. Назвы ўскраін засталіся яшчэ з даўніх часоў: Старажоўка, Ляхаўка, Камароўка, Кальварыя, Пярэспа, Серабранка.

Сёння гэтыя назвы помняць толькі старажылы ды іншы раз знойдзеш іх у кнігах.

На руінах вырас новы горад, вялікі і цудоўны. Ускраіны прыблізіліся да цэнтра, а ў лясной зоне прывольна раскінуліся прамысловыя раёны беларускай сталіцы: Заводскі і Партызанскі.

Пры дапамозе ўсіх савецкіх народаў, і перш за ўсё рускага, у Мінску пабудаваны дзесяткі прамысловых прадпрыемстваў. Беларуская сталіца стала адным з буйных індустрыяльных цэнтраў.

Сёння наш горад толькі за адзін дзень выпускае 244 трактары, 551 матацыкл, больш 17 тысяч наручных гадзіннікаў, 1176 тэлевізараў, 1270 радыёпрыёмнікаў, 1596 халадзільнікаў, 105,8 тысяч квадратных метраў шарсцяных тканін, 30,2 пары скуранога абутку і шмат іншага.

Вучыліся мінскія рабочыя новым складаным прафесіям на фабрыках і заводах Масквы, Ленінграда, Горкага, Валгаграда, Свярдлоўска, Чэлябінска і ў другіх гарадах брацкіх рэспублік.

Наша дружба народаў была народжана Вялікім Кастрычнікам, з'яднана крывёю ў баях за сацыялістычную Радзіму і яшчэ больш сцэментавана ў працы і ўзаемнай брацкай дапамозе.

Сёння наш Мінск — горад без ускраін. Дзесяткі новых мікрараёнаў, высокіх і светлых, далёка расцягнулі мяжу горада. Цяпер у Мінску налічваецца адзін мільён чатырыста тысяч жыхароў. Кожны дзень мінчане атрымліваюць каля дзвюх тысяч квадратных метраў жылля. Таму ў нас прафесія будаўнік — адна з самых паважаных.

На плошчы Перамогі супраць Дома-музея І з'езда РСДРП стаіць прыгожы будынак, пабудаваны яшчэ ў 1954 годзе. Тады будаўнікі Мінска і Сталінграда пачалі спаборнічаць паміж сабой. У Мінск прыехала група каменшчыкаў з берагоў Волгі і прывезлі з са-

бой дзве цагліны са славутага «Дома Паўлава». Знатны будаўнік, ганаровы грамадзянін Мінска Дзяніс Булахаў паклаў гэтыя цагліны ў падмурак слаўнага дома братэрства і дружбы.

А сёння наша цэнтральная вуліца — Ленінскі праспект — перакрыта ў многіх месцах шчытамі — будуецца метро. І зноў вучыць мінчан новым спецыяльнасцям прыехалі слаўныя метрабудаўнікі Масквы і другіх гарадоў.

Мы бязмежна ўдзячны нашым братам. Наша ленінская дружба народаў моцная і непарушная.

Слаўлю службу верную,
Слаўлю дружбу вечную!
Нарадзіў Кастрычнік нас,
Снежань парадніў.

*1977*

## ЗОРНЫ ЧАС

У кожнага сапраўднага чалавека, у кожнага народа бываюць зорныя гадзіны, калі ўсім відаць веліч іх спраў, вышыня іх духу.

Так было, калі ў сорак пятым грымелі залпы нашага пераможнага салюта.

Так было, калі Юрый Гагарын першым праклаў шлях у космас.

Так і цяпер, калі мы чытаем мудрыя і важкія, нібыта адлітыя з бронзы, радкі новай Канстытуцыі Саюза Савецкіх Сацыялістычных рэспублік.

Савецкі Саюз перажывае свой зорны час.

Шэсцьдзесят гадоў Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі азараюць і саграваюць чалавечай цеплынёю не толькі наша жыццё. Святло Кастрычніка пранікла ў самыя глухія куткі нашай планеты.

Нядаўна я быў дэлегатам на Сусветнай Асамблеі будаўнікоў трывалага міру ў Варшаве. Прадстаўнікі 125 народаў пацвердзілі сваю нязломную волю змагацца за мір, выкрываць ворагаў міжнароднай разрадкі. Колькі горкіх слоў я пачуў там пра пакуты народаў Чылі, Уругвая і іншых краін.

Сэрцы дэлегатаў Асамблеі, іх надзеі былі звернуты да нашай сацыялістычнай краіны. У «Пасланні народам і Ураду Савецкага Саюза», якое было аднагалосна прынята, сказана:

«Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года зрабілася паваротным пунктам гэтага стагоддзя. Агульнапрызнаным і шырокаўхваленым адабрэннем з'яўляецца яе непраходзячае ўздзеянне на гісторыю ўсяго чалавецтва.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя перамагла пад сцягам міру. Яе першы дэкрэт, складзены і абвешчаны Леніным, заклікаў да міру і рашуча асудзіў антыгуманную прыроду імперыялістычных войнаў З тых пор гэты дэкрэт ляжыць у аснове знешняй палітыкі СССР. Жывая спадчына 1917 года натхняе Савецкі Саюз у яго няспынных намаганнях, накіраваных на захаванне міру ва ўсім свеце і ўмацаванне бяспекі для ўсіх народаў і дзяржаў».

Наша палітыка была заўсёды міралюбівай.

Цяпер у новай Канстытуцыі ёсць спецыяльны раз-

дзел «Знешняя палітыка», дзе ясна сказана: «Савецкая дзяржава праводзіць ленінскую палітыку міру, выступае за ўмацаванне бяспекі народаў і шырокае міжнароднае супрацоўніцтва».

Які раздзел з праекта Канстытуцыі мы ні чытаем, мы ведаем, што гэта не мары, не абяцанні — усё гэта намі здабыта нялёгкай працай, заваёвана ў цяжкіх баях. Гэта наша сапраўднасць, якой мы ўсе ганарымся.

У канстытуцыях некаторых капіталістычных краін ёсць нямала высокіх слоў, але для працоўных гэтыя словы застаюцца на паперы, а жыццё ім диктуе горкія законы і правы.

Няхай крытыкі нашага ладу запішуць (і правядуць у жыццё) у асноўных законах сваіх краін нешта падобнае:

«Савецкія грамадзяне розных нацыянальнасцей і рас маюць роўныя правы».

«Жанчына ў СССР мае роўныя правы з мужчынам».

«Грамадзяне СССР маюць права на жыллё».

Не запішуць! Іншы лад, іншыя законы.

Тым больш здаецца недарэчнай шумлівая прапагандысцкая кампанія ў абарону «права чалавека», якую вядуць на захадзе ворагі міжнароднай разрадкі.

А мы, савецкія людзі, можам сёння сказаць словамі Максіма Горкага: «Чалавек — гэта гучыць горда!»

*1977*

## НА ФРАНТАВЫХ ДАРОГАХ

Вясною трыццаць дзевятага года ў Кіраўск, дзе я працаваў настаўнікам, прыйшло пісьмо ад Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі за подпісам Міхася Лынькова з просьбай адпусціць мяне на працу ў Мінск.

Пасля экзаменаў і выпускнога вечара дзесяцікласнікаў, з якімі я вельмі зрадніўся, развітаўся з сябрамі, настаўнікамі, суседзямі і паехаў з невыразнымі намерамі і надзеямі ў нашу сталіцу.

У Мінску ўладкаваўся ў знаёмых і пайшоў да Міхася Ціханавіча. Яго я збольшага ведаў, не раз сустракаў і слухаў выступленні: к гэтаму часу я ўжо быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. А творчасць Міхася Лынькова я любіў. Асабліва яго апавяданні. Маё маленства прайшло ў мястэчку, дзе жылі беларусы і яўрэі. Таму апавяданне Міхася Ціханавіча «Гой» мне было асабліва блізкае і зразумелае. Прываблівала і рамантыка «Андрэя Летуна» і «Над Бугам». Іншая справа сустрэцца з ім так блізка. У яго быў выразны, не падобны на іншыя, твар: прадаўгаваты, мужны, вочы светла-блакітныя. Калі злаваўся (а наогул, ён умеў валодаць сабой, як ніхто), вочы святлелі.

А як ён умеў слухаць! І тады ў кабінеце неяк так выйшла, што больш гаварыў я, нібы спавядаўся: а ён уважліва слухаў, зрэдку задаваў пытанні і, як мне здалося, прыглядваўся, вывучаў. Параіў мне ісці на працу ў газету «Літаратура і мастацтва»; падказаў, дзе знайсці пакой для жыцця. Так я і зрабіў.

Праз некаторы час я зблізіўся з братам Лынькова Рыгорам, журналістам, які друкаваў вершы пад псеўданімам Рыгор Суніца.

Аднойчы вечарам мы з Рыгорам доўга хадзілі па горадзе, і ён запрасіў да сябе. Жыў Рыгор у брата. Яго пакойчык аддзяляў невялікі калідор ад пакояў Міхася Ціханавіча. Мы дапазна заседзеліся за чаркай, вялі халасцяцкія размовы ўперамешку з літаратурнымі. Я застаўся начаваць у Рыгора. Раптам увайшоў Міхась Ціханавіч. Мы запрасілі за стол. Ён усміхнуўся і сказаў:

— Глядзіце, уюнашы...— і выйшаў.

Праз пару хвілін вярнуўся і прынёс коўдру і падушку мне:

— Кладзіцеся спаць...

Так пачалося маё жыццё ў Мінску. Пазнаёміўся з многімі пісьменнікамі.

Вольнага часу пасля працы было мала: бібліятэка, тэатр, канцэрты, дыскусіі ў Доме пісьменнікаў. Ну і, вядома, пісаў вершы.

Аднаго разу мяне выклікаў Міхась Ціханавіч і сказаў:

— Трэба вам, маладым, паглядзець свету. Вырашылі паслаць вас у творчую камандзіроўку на Украіну. Ты будзеш за брыгадзіра.

Ён па-бацькоўску даваў парады, куды ехаць, што паглядзець, як трымацца.

Са мною паехалі Усевалад Краўчанка, Іван Грамовіч, Рыгор Няхай. Падарожжа было вельмі цікавае. Ад Мазыра па Прыпяці мы паплылі да Кіева. Некалькі дзён пажылі ў сталіцы Украіны, дзе нас гасцінна сустрэлі пісьменнікі. Праплылі Дняпром, пабывалі ў Каневе на магіле вялікага Кабзара, наведалі Днепрагэс. А пасля ад Херсона морам — да Адэсы. Украіна нас зачаравала. Мы ўсе ўпершыню ўбачылі мора і, вядома, днямі пякліся на адэскіх пляжах. І... нечакана засталіся без грошай. Не было за што купіць назад білеты. Давялося даць тэлеграму Міхасю Ціханавічу, каб выручыў. На другі дзень прыйшоў тэлеграфны перавод.

Калі вярнуліся ў Мінск, я пайшоў да Міхася Ціханавіча «даваць справаздачу». Першыя яго словы былі:

— Што, абакралі?

(Справа ў тым, што мая тэлеграма з Адэсы пачыналася словамі «Непредвиденные обстоятельства...»).

— Не хапіла грошай...

Міхась Ціханавіч даволі сурова «прабраў» за непрактычнасць і няўменне лічыць грошы, бо сам ён заўсёды жыў эканомна і ашчаджаў кожную дзяржаўную капейку.

— Гэту тысячу, юнаш, адлічаць з першага твайго ганарару,— прыгразіў ён.

Пасля палагаднеў і падрабязна распытаў, дзе мы былі, што бачылі, з кім сустракаліся.

Тое лета 1939 года было трывожнае. У Еўропе ішла вайна. Гітлераўцы душылі танкамі чужыя землі.

У пачатку верасня Міхася Лынькова выклікалі ў Смаленск, дзе тады знаходзіўся штаб Заходняй ваеннай акругі. Кожную ноч праз Мінск ішлі да заходняй граніцы нашы войскі, артылерыя. Аднаго дня забег у рэдакцыю Пятрусь Броўка і ціха сказаў:

— Мяне, Глебку і цябе выклікаюць у абласны ваенкамат. Пойдзем.

У ваенкамаце атрымалі прадпісанні, і на другі дзень цягнік імчаў нас у Смаленск.

Пад Смаленскам, у лясным ваенным гарадку Гнёздава, ноччу нас выклікаў начальнік Палітупраўлення і расказаў пра становішча, ваеннае і палітычнае. Немцы занялі большую палову Польшчы. Прыйшла пара вызваліць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Аддаў загад: наладзіць выпуск франтавой газеты «Беларуская звязда», лістовак, адозваў. Спецыяльны цягнік з паходнымі друкарнямі быў напагатове. Рэдактарам быў прызначаны Міхась Лынькоў, адказным сакратаром Ілья Гурскі. Адразу ўзяліся за працу, ужо ў вайсковай форме.

Калі спеццягнік рушыў на захад, сэрцы нашы былі перапоўнены чаканнем і трывожнай радасцю: нарэшце наш народ уз'ядднаецца.

У тым жа цягніку былі франтавыя газеты на рускай і польскай мовах. У «Красноармейскую правду» былі прызваны некалькі вядомых рускіх пісьменнікаў. Да нас у вагон прыходзілі Уладзімір Лугаўской і Яўгеній Далматоўскі. Мы вучылі іх спяваць беларускія песні. Лугаўской меў моцны прыгожы бас і хутка пераймаў мелодыі. Няблага спявалі Пятрусь Усцінавіч і Міхась Ціханавіч.

Спыніліся ў Мінску. Нашым «штабам» на некалькі дзён зрабілася рэдакцыя часопіса «Полымя». Заходзіла многа пісьменнікаў, прасіліся ўзяць з сабою. Зайшоў і Янка Купала. Мы ўзрадаваліся, а Міхась Ціханавіч папрасіў напісаць у газету верш ці артыкул. Твар Івана Дамінікавіча аж свяціўся ад прадчування доўгачаканай сустрэчы з заходнімі братамі. Купала напісаў артыкул.

І вось надышла доўгачаканая хвіліна, калі наш цягнік услед за войскам перасёк граніцу. Я дзяжу-

рыў па вагоне і стаяў у тамбуры, калі ноччу мы праехалі пад Негарэльскай аркай. Ніхто не спаў, усе былі моцна ўзрушаны. Але гэта для іншых успамінаў.

Хочацца адзначыць дзве рысы Міхася Ціханавіча, якія я заўважыў у той час. Вядомы заслужаны пісьменнік атрымаў адказнае баявое заданне. Але ён не забыў маладога паэта, далучыў да вялікай справы.

І другое. Міхась Лынькоў ніколі не падкрэсліваў, што ён камандзір (больш правільна — рэдактар, камісар), начальнік. Трымаўся па-таварыску, роўна з усімі; рабіў нават чарнавую працу, якую павінны былі б рабіць іншыя. Але быў па службе патрабавальны.

У Стоўбцах Броўка, Глебка і я пайшлі паглядзець горад, пагаварыць з людзьмі (і цяпер з радасцю ўспамінаю тыя сустрэчы і размовы). Заглянулі і ў былое афіцэрскае казіно. А ў гэты час прыйшоў загад перагружацца на аўтамашыны. Мы пра гэта не ведалі і спазніліся, прыйшлі пад канец работы. Лынькоў разам з усімі цягаў наборныя касы. Зрабіўшы нявінныя твары, мы ўключыліся ў агульны рытм. Наш суровы рэдактар нічога не сказаў. І толькі пазней на прывале ў лесе нязлосна, з нейкім сумам заўважыў:

— А вы ўсё ж сукіны сыны, хоць бы пляшку таго каньяку прыхапілі.

Пасля паходу я застаўся служыць у Беластоку, літсупрацоўнікам армейскай газеты. Тут я і сустрэў вайну. Наша 10-я армія трапіла ў акружэнне. Прабіліся толькі асобныя часці і падраздзяленні, частка штаба арміі і палітаддзела (у тым ліку і наша рэдакцыя). Нашу паходную рэдакцыю (некалькі машын) разбамбілі. Былі ахвяры. Неверагодна цяжкі быў той шлях з Беластока на ўсход праз вогненныя вёскі і гарады. Па ўбочынах дарог бясконцай ракой ішлі і салдаты, і цывільныя, а на дарогах усюды валяліся разбітыя машыны. Наша армія і ў акружэнні вяла гераічныя баі.

Прайшоўшы многа вёрст пехатою, мы каля Фаніпаля знайшлі пакінуты грузавік, знайшлі сярод адступаўшых і шафёра, заправіліся бензінам у мясцовай нафтабазе, будынак якой ужо займаўся агнём, і ноччу з цяжкасцю прабраліся праз апусцелы, зруйнаваны, дагараючы Мінск. Выбраліся на Магілёўскую шашу і праз вечнасць, змарнелыя, галодныя, зарос-

лыя шчэццю, дабраліся да штаба фронту, які ў той час быў у Магілёве.

Першы, каго мы ўбачылі ў распалажэнні Палітупраўлення фронту, быў Міхась Лынькоў.

Цяпер бы я сказаў: містыка, дый годзе! Але тады не той быў час. Шчыра павіталіся, і я коратка расказаў пра сваю дарогу з Беластока. Міхась Ціханавіч расказаў, што ён, Крапіва, Барысенка, і Стаховіч прыкамандзіраваны да франтавой газеты «Красноармейская правда». Там служыць загадалі і мне.

Хутка штаб і Палітупраўленне Заходняга фронту перамясціліся пад Смаленск. Нам было загадана наладзіць выпуск франтавой газеты «За Савецкую Беларусь» на роднай мове. Міхась Лынькоў як рэдактар зноў паказаў сябе добрым, удумлівым арганізатарам і палітработнікам. Цяжка было з беларускімі шрыфтамі, карэктарамі. Але газета выйшла своечасова, і ваенныя лётчыкі разам з лістоўкамі закінулі яе ў акупіраваныя раёны нашай рэспублікі. Хачу падкрэсліць: у нашай франтавой працы нам вельмі дапамагалі рускія таварышы — палітработнікі, журналісты, пісьменнікі.

Пасля чарговага адступлення мы апынуліся ў Касненскім лесе пад Вязьмай.

Аднойчы на світанні мы пілі гарачы чай (спалі тады на зямлі, захінуўшыся шынялямі, замерзлі). Асабліва любілі чай Міхась Ціханавіч і я. Нас нават празвалі «чаяхлёбамі». Ужо праляцелі з-пад Масквы фашысцкія налётчыкі. І раптам нейкі чарнакрыжы адставака прагрукатаў над намі і скінуў паблізу бомбу, якую яму не далі скінуць у іншым месцы. «Воздух!» — пачуўся запознены выгук. Усе памчаліся да якой-небудзь сховы, кінуўшы кубкі з чаем. Мы з Міхасём Ціханавічам ці то не паспелі, ці то шкада было чаю — засталіся на месцы і грэліся самым тады жаданым для салдата пітвом. Хлопцы вярталіся нібыта ў нечым вінаватыя. І Міхась Ціханавіч нявінна звяртаўся да мяне:

— Ото смачны чай, ніколі такога не піў. Праўда, Пімен?

Наогул, наш Ціханавіч добра адчуваў гумар, любіў жартаваць, часамі ўедліва.

Але і ў яго было слабае месца. Калі ён вельмі ўжо каго дапякаў, той гаварыў хлопцам:

— Жыў некалі ў Бабруйску выдатны паэт Васілёк. Хочаце — пачытаю яго вершы...

Лынькоў заўсёды крыху бянтэжыўся. Справа ў тым, што сапраўды ў Бабруйску, калі ён рэдагаваў там газету «Камуніст», друкаваў і вершы пад псеўданімам Васілёк...

Неўзабаве з-пад Вязьмы нашу рэдакцыю перакінулі ў Гомель — адзіны кавалачак яшчэ свабоднай Беларусі.

На роднай зямлі і ў вайну дыхаецца лягчэй. А тут сустрэлі многа знаёмых. Працаваў «Палесдрук», побач быў Добруш, дзе мы даставалі паперу. А то раней даводзілася шастаць у ацалелыя рускія райцэнтры, каб у мясцовай друкарні аддрукаваць тыраж нашай газеты.

І тут у Лынькова, Крапівы, Гурскага ды ва ўсіх нас вырвалася туга па сем'ях, якую так старанна мы дагэтуль хавалі. Ніхто не ведаў, дзе іх жонкі, дзеці, бацькі, што з імі. Распытвалі многіх — адказу не было.

Пазней даведаліся, што сын Кандрата Крапівы Барыс гераічна загінуў на фронце; жонка Ільі Гурскага была ў партызанскім атрадзе; мая маці з сёстрамі і братам эвакуіраваліся ў Саратаўскую вобласць. Бацька, стары камуніст, застаўся партызаніць. А жонку Міхася Ціханавіча з сынам немцы закатавалі... Гэты боль не гаіўся ў яго сэрцы да канца жыцця. Ён зрабіўся яшчэ больш маўклівым і засяроджаным.

У Гомелі таксама нам доўга пабыць не давялося. Адной ноччу наляцелі хваля за хваляй нямецкія бамбардзіроўшчыкі. На нашых вачах гінуў яшчэ адзін з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі. Палалі цэнтральныя кварталы. Можна было разгубіцца (а нашы рэдакцыйныя машыны былі ў цэнтры). І тут Міхась Ціханавіч, часта даволі марудны ў рашэннях, даў прадуманае распараджэнне шафёрам:

— Ганіце машыны ў цэнтральны сквер. Там кругом гарыць, другі раз кідаць бомбы не будуць.

Так і зрабілі. Правялі ноч пасярэдзіне пажараў, а назаўтра праз пантонны мост перабраліся на другі бок Сажа і спыніліся ў лесе за Нова-Беліцай.

Адгэтуль нас перакінулі на Бранскі фронт. З Масквы прыехалі Пятрусь Броўка, Максім Танк, Алесь Кучар. Стала весялей.

І тут здарылася бяда. Вораг прарваў фронт, адзін клін — на Арол, другі — на Жыздру. Мы апынуліся ў мяху. Фашысцкія танкі прарваліся да самага штаба фронту. Навакол усё грымела і гуло. Быў загад неадкладна адступаць. Але гаспадарлівы Міхась Лынькоў і тут застаўся Міхасём Лыньковым. Пакуль не закапалі ўвесь свежанадрукаваны тыраж газеты ў зямлю, ён і слухаць не хацеў пра ад'езд, хоць у газеце ніякіх сакрэтаў не было.

Тую начную дарогу, раз'язджаную, пакрытую чарназёмнай граззю, мы і цяпер успамінаем нядобрым словам. А тут яшчэ шафёр паўтаратонкі перакуліў у гразь наборныя касы. Мы разаслалі брызент і збіралі ў прыгаршчы неацэнныя для нас беларускія шрыфты.

Цудам вырваліся з мяха і апынуліся ажно ў Лебядзяні на верхнім Доне. Тут мы пачулі радасную вестку аб разгроме немцаў пад Масквой.

Тым часам нашу рэдакцыю адклікалі ў Маскву. Уначы паехалі на нейкі паўстанак грузіцца. Сцюжа стаяла страшэнная. А мы былі ў шынялях ды кірзавых ботах. Чакалі некалькі гадзін. Усе пасінелі і калаціліся: сагрэцца не было дзе.

Нарэшце падалі таварняк. Пагрузіліся. У нашай цяплушцы стаяла жалезная «буржуйка», было трохі каменнага вугалю. Мы нашчапалі трэсак з нейкіх аполкаў, старых дошак. Прызначылі дзяжурных. Паехалі.

Як цяпер бачу: вакол жалезнай печачкі, распаленай дачырвана, сядзяць Міхась Ціханавіч, Кандрат Кандратавіч Крапіва, Пятрусь, Максім, усе нашы хлопцы, наборшчыцы, шафёры. Твары стомленыя, чырвоны водбліск пераходзіць з аднаго на другога. Сэрца сціскае шчымлівае шкадаванне і разам з тым гордасць за маіх франтавых сяброў. Так мы ў дарозе і сустрэлі Новы, 1942 год.

У Маскве мы з усёй сваёй паходнай музыкай заехалі ў двор Саюза пісьменнікаў. Саюз і клуб былі амаль пустыя. Сланяліся нейкія невядомыя нам людзі. У клубе пісьменнікаў было выбіта некалькі акон: побач на плошчу Паўстання нядаўна немцы скінулі магутную бомбу.

Тут мы і пераначавалі нашу першую маскоўскую ноч.

У хуткім часе адну групу пісьменнікаў (у тым ліку і мяне) накіравалі на Калінінскі фронт (бліжэй да Беларусі). Мы там пачалі выдаваць франтавую газету «За свабодную Беларусь» і сатырычны часопіс «Партызанская дубінка». Другая група засталася ў Маскве ў распараджэнні ЦК КПБ.

Мы зрэдку перапісваліся з Міхасём Ціханавічам. Я пісаў пра наша жыццё і пра навіны, што нам прыносілі з-за лініі фронту партызаны. У адным пісьме я расказаў яму пра здрадніка Юрку Віцьбіча, які зрабіўся нямецкім халуём. Хутка прыйшоў адказ. Вось урывак з гэтага пісьма Лынькова:

«Тваё паведамленне аб Віцьбічу не надта і ўразіла — гэта лагічнае завяршэнне кірунку жыцця. Чорт з ім. Вы там бліжэй да яго — зламіце яму паганы карак». І пра другое: «Сёмага ліпеня праводзім пленум нашага Саюза, на які запрашаем цябе і Петрука (Глебку.— *П. П.*)».

На вялікі жаль, усіх пісем Міхася Ціханавіча мне не ўдалося захаваць.

Я ганаруся тым, што на фронце і ў кандыдаты, і ў члены нашай слаўнай ленінскай партыі рэкамендацыю мне даў сапраўдны камуніст Міхась Лынькоў.

Я вучыўся ў яго партыйнай прынцыповасці, дысцыпліне, вернасці слову, патрабавальнасці да сябе і да другіх, сур'ёзным адносінам да літаратурнай працы.

Нядаўна я перачытваў яго даклады і выступленні на нашых пісьменніцкіх з'ездах і пленумах. Ён не гаварыў гатовымі слоўнымі блокамі, ходкімі выразамі, хоць, вядома, і ён умеў абагульняць. Міхась Ціханавіч выступаў заўсёды як пісьменнік, як літаратар — камуніст, называў усё сваімі імёнамі: схематызм, рыторыка, фармалізм, безгустоўнасць, кепская мова. І называў канкрэтныя творы і прозвішчы пісьменнікаў, часта блізкіх яму людзей. Нам бы цяпер такі стыль...

Яму было цяжэй, чым другім: усе свае беды, трывогі і засмучэнні ён таіў глыбока ў сэрцы і не лез ніколі са спавяданнямі, скаргамі ці нараканнямі.

Некаторым ён здаваўся сухаватым, крыху абыякавым. Як яны памыляліся!

Успамінаецца адзін пасляваенны пленум СП СССР. Мы жылі ў гасцініцы «Масква». Увечары на-

шы сябры разышліся хто ў тэатр, хто ў клуб пісьменнікаў, хто ў рэстаран. Я стаміўся і рашыў адпачыць. Раптам тэлефонны званок. Лынькоў.

— Ты нікуды не ідзеш? Заходзь да мяне, закажам у нумар вячэру.

Я сказаў, што не варта, бо я накупляў розных прысмакаў, ёсць і бутэлька каньяку.

Хутка Міхась Ціханавіч прыйшоў да мяне. Успомнілі мілы нашаму сэрцу Бабруйск, дзе мы ў розныя часы жылі і працавалі. Смакавалі крыху забытыя назвы: Бярэзінскі фарштат, Сацыялка, хутар Млынок, Сярэбраны бор... Успомнілі розныя франтавыя здарэнні.

Прайшліся па нашым жыцці апошніх дзесяцігоддзяў, успомнілі па чарзе сяброў, знаёмых. Але не было ў яго словах ні намёку на плётку, ні зласлівасці, ні варожасці да не зусім сумленных людзей. Рэдка я бачыў яго такім адкрытым. Яшчэ раз пераканаўся, як тонка Міхась Ціханавіч разбіраўся ў людзях, у псіхалогіі і старых, і маладых літаратараў. Ён добра ведаў, хто чаго варты і ў жыцці, і ў літаратуры...

Некалькі гадоў запар мы адначасова жылі ў Каралішчавічах. Ён любіў розную машынерыю. Адно лета ганяў свой матацыкл, наганяючы жах на слабанервовых, пакуль ледзь не пакалечыўся. Яму была радасць, калі хто-небудзь з нас прывозіў яму арыгінальную запальніцу ці што-небудзь падобнае. Сам ён ніколі не забываў прывезці сябрам з-за мяжы гальштук, сарочку.

Аднойчы на Нарачы ён прапанаваў правезці мяне на сваёй маторцы. І так хвацка прычаліў да берага, што я апынуўся ў вадзе і давялося апранаць яго сухое адзенне.

Яго любілі дзеці (адчувалі, што і ён іх вельмі любіць). Лынькоўскія кастры зрабіліся легендай. Ад нашага Дома творчасці да Свіслачы вяла сцяжынка, уся засмечаная лаўжамі, дзе вадзіліся змеі. Міхась Ціханавіч на нечуваную радасць і ўцеху дзецям спаліў семнаццаць. Змеі зніклі.

Давялося жыць і працаваць з ім і зімой, калі ён канчаў «Векапомныя дні». Пакоі нашы былі побач. Абодва па даўняй звычцы любілі пісаць ноччу. Звычайна ў гадзіны тры ночы хто-небудзь з нас стукаў у сценку, даваў знак, што пара канчаць. Ці ў яго, ці

ў мяне садзіліся за стол, кроілі сала, чысцілі цыбулю, бралі па чарцы.

— Ну, што ў цябе сёння?

— Тры вершы напісаў...

— Мнагавата. А я ледзь-ледзь дзве старонкі пашкрэбаў... А ведаеш, я нядаўна паскардзіўся Канстанціну Міхайлавічу, што пішу і не падабаецца напісанае. Дык дзядзька Якуб усміхнуўся і сказаў:

— А ты падзяры і зноў напішы.

Ён ніколі не чытаў тое, што напісаў за ноч. А пісаў ён многа і добра. «Векапомныя дні» — першы буйны праўдзівы раман пра народную барацьбу з фашыстамі, пра партызанскі рух.

У апошнія гады яму цяжка было хадзіць на сесіі Вярхоўнага Савета, на партыйныя сходы. Ніхто б яго не папракнуў, калі б ён лепш пасядзеў дома, адпачыў, падлячыўся. Але Міхась Ціханавіч заўсёды хадзіў на ўсе пасяджэнні. Гэта быў камуніст, салдат. Да канца.

*1978*

## НА ЧЫРВОНЫХ КВЕТКАХ КАСТРЫЧНІКА...

Нядаўна ў Польскай народнай рэспубліцы прайшлі Дні савецкай літаратуры, прысвечаныя 60-годдзю Вялікага Кастрычніка.

У брацкую рэспубліку выязджала вялікая прадстаўнічая дэлегацыя савецкіх пісьменнікаў на чале з першым сакратаром Саюза пісьменнікаў СССР Георгіем Маркавым. У яе ўваходзілі прадстаўнікі шаснаццаці літаратур народаў СССР.

Польшча сустрэла нас гасцінна, па-брацку. Многія з удзельнікаў ваявалі на польскай зямлі, іншыя перакладалі польскіх паэтаў і пісьменнікаў. Таму з такім хваляваннем мы разам з польскімі сябрамі ўскладалі кветкі на магілы савецкіх воінаў, да помніка героям Варшавы і помніка неўміручага Адама Міцкевіча.

Дні савецкай літаратуры прайшлі з вялікім, сапраўды дзяржаўным размахам. Гэта было сапраўднае свята літаратуры. У ім удзельнічалі не толькі пісьменнікі, але і партыйныя дзеячы, сакратары ЦК ПАРП.

Мы сустракаліся з жыхарамі Варшавы і Кракава, з шахцёрамі і металургамі Сілезскага басейна, з суднабудаўнікамі Гданьска. Мы бліжэй пазнаёміліся з жыццём працоўнага польскага народа, з яго культурай.

Нам падаравалі шмат памятных сувеніраў, сярод якіх для нас самымі дарагімі былі дзве кнігі польскіх пісьменнікаў. Першая з іх — анталогія паэзіі і прозы «На чырвоных кветках Кастрычніка» — сабрала лепшае, што напісана аб Леніне і рэвалюцыі савецкімі і польскімі пісьменнікамі, пачынаючы ад Горкага, Блока, Маякоўскага, Шолахава, Фадзеева, М. Астроўскага, Івашкевіча, Кручкоўскага, Бранеўскага, Тувіма, Вандурскага.

Другая кніга — вершы савецкіх паэтаў аб Польшчы «Як мне расказаць аб табе». Анталогія змяшчае каля дваццаці савецкіх паэтаў.

І вось нядаўна я атрымаў дзесяты нумар часопіса «Паэзія», выдадзенага ў Варшаве. Для мяне гэта было як бы працягам Дзён савецкай літаратуры ў Польшчы. Гэты нумар «Паэзіі» таксама прысвечаны Вялі-

каму Кастрычніку і з'яўляецца маленькай анталогіяй савецкай паэзіі. З густам адабраны і добра перакладзены вершы больш сарака паэтаў амаль з усіх нашых рэспублік.

Часопіс пачынаецца паэмай Аляксандра Блока «Дванаццаць» у вельмі добрым перакладзе Богдана Драздоўскага (дарэчы, ён жа з'яўляецца і галоўным рэдактарам часопіса «Паэзія»).

Паэму «Дванаццаць» цяжка перакласці на кожную мову, нават самую блізкую. Разнастайнасць рытмікі, размоўныя інтанацыі, гнуткасць радка, канкрэтнасць і мнагазначнасць усяго твора — усё гэта стварае для перакладчыка амаль неадольныя бар'еры. Тым больш заслугоўвае самай высокай ацэнкі доўгая, упартая, крапатлівая праца Богдана Драздоўскага. Яму ўдалося знайсці дакладныя радкі ці нешта раўнацэннае геніяльным блокаўскім строфам.

І, галоўнае, перадаць рэвалюцыйны дух, рэвалюцыйны парыў паўстаўшага народа, услаўленага Блокам. Але гэта далося перакладчыку нялёгка і не адразу. Аб сваіх творчых пактах, пошуках, разнастайных варыянтах расказвае сам Драздоўскі ў артыкуле, змешчаным у гэтым жа нумары. Так упершыню на поўную сілу загучала паэма «Дванаццаць» на польскай мове.

Удала адабраў і пераклаў Адам Галіс урыўкі з пісем да маці і запісных кніжак Аляксандра Блока, памечаных 1917 годам. Яны заўсёды хвалююць, гэтыя запіскі і пісьмы да маці. Зноў з вялікай павагай думаеш аб шчырасці паэта, пра яго веру ў рэвалюцыю, у народ, у будучыню Расіі. «Усё будзе добра,— запісвае Блок 22 красавіка 1917 года,— Расія будзе вялікай. Але як доўга трэба чакаць і як цяжка дачакацца» (стар. 23).

Услед за Блокам надрукаваны фрагменты з паэмы «Добра!» Уладзіміра Маякоўскага ў вядомым усёй Польшчы перакладзе Уладзіслава Бранеўскага (часткі 5 і 7). Думаю, нездарма адабрана сёмая частка паэмы, дзе Маякоўскі ў чымсьці пераклікаецца з Блокам і некалькі разоў называе яго імя, але і палемізіруе з ім як паэт рэвалюцыйна больш актыўны і мэтанакіраваны.

Надрукаваны таксама другі ўступ (незакончаны) Маякоўскага да паэмы «На ўвесь голас».

Між тым цікавы такі факт. У час адкрыцця Дзён савецкай літаратуры ў Палацы культуры ў Варшаве выступалі савецкія і польскія паэты. Але артысты, якія вялі праграму вечара, увесь час чаргавалі выступленні агнявымі строфамі з паэзіі Маякоўскага і Бранеўскага — двух вялікіх рэвалюцыйных паэтаў.

Асноўнае месца ў дзесятым нумары часопіса «Паэзія» займаюць вершы сучасных савецкіх паэтаў. Тут Барыс Слуцкі і Уладзімір Сакалоў, Максім Танк і Эдуардас Межэлайціс, Сільва Капуцікян і Уладзімір Бэекман, Іван Драч і Юрый Кузняцоў, Глеб Гарбоўскі і Атар Чыладзе і многа іншых.

Прыемна, што польскі чытач пазнаёміцца з таленавітымі вершамі савецкіх паэтаў сярэдняга і малодшага пакаленняў, многія з каторых друкуюцца на польскай мове ўпершыню.

Пераклады (у кожным разе большасць) па-сапраўднаму добрыя, зроблены з душой і сэрцам. І вельмі прафесійна. Я, вядома, мяркую аб тых вершах, якія чытаў у арыгінале ці ў добрых рускіх перакладах.

Асобна хацелася адзначыць таленавітыя пераклады Флорыяна Няўважнага, Тадэвуша Хрусцялеўскага, Мацея Юзэфа Канановіча, Ігара Сікерыцкага, Яна Чопіка і іншых нашых польскіх сяброў.

Хацелася б адзначыць цікавы артыкул аб савецкай паэзіі Святланы Салажэнкінай, хоць і некалькі беглы. Але яна і сама прызнае, што немагчыма абхапіць усю савецкую паэзію і даць ёй вычарпальны аналіз, ды гэтага ў дадзеным выпадку і не патрэбна. Змястоўныя і разнастайныя ў часопісе рэцэнзіі на кнігі Я. Івашкевіча, Э. Межэлайціса, А. Галіса, а таксама хроніка.

Прыцягваюць увагу ілюстрацыі дэкарцый Рышарда Вінярскага да пастаноўкі п'есы Васіля Шукшына.

Дзесяты нумар «Паэзіі» — добры падарунак польскаму чытачу.

Я ўпэўнены, што ён яшчэ больш зблізіць нашы народы. А мы, савецкія паэты, з прызнаннем прымаем яго як новае братэрскае прывітанне з Польшчы, якая нам так палюбілася.

*1978*

## ПРЫНАМСІ, ГЭТА ТАЛЕНАВІТА

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» адна за другой выйшлі новыя кнігі Рыгора Барадуліна «Прынамсі» і «Абсяг».

«Абсяг» — кніга лірыкі, дзе паэт даследуе духоўны свет свайго сучасніка. Гэта кніга спелага і ўпэўненага майстра. Вершы Барадуліна разнастайныя па тэматыцы і даволі шырокія, калі можна так сказаць, геаграфічна. Паэт пачаў пісаць больш проста і глыбока, не страціўшы яркай метафарычнасці і сакавітасці мовы.

Але ў гэтых нататках мне хочацца падзяліцца з чытачом уражаннем ад кнігі «Прынамсі», у якую аўтар сабраў «вясёлыя вершы, закаханы гумар, пародыі, эпіграмы».

Спачатку зазначым, што кніга выдадзена вельмі добра: тут і дасціпнае афармленне, і ўдалы падбор шрыфтоў — паліграфічная культура. А гэта не вельмі часта здараецца...

Вядома, прыемна афармляць, калі ёсць што афармляць. А гэта якраз такі выпадак.

Нат трохі прыеліся байкі, дзе бясконца вар'іруюцца добрыя і дрэнныя ўчынкі даўно знаёмых звяроў. Іх сумна чытаць пасля баек Крылова і Крапівы. (Трохі разнастайнасці і сучаснага гучання прынёс сваімі байкамі С. Міхалкоў.)

Рыгор Барадулін своеасабліва аднавіў (ці, калі хочаце, прадоўжыў) традыцыю рускіх і беларускіх класікаў, якія пісалі не толькі «сур'ёзныя вершы» і паэмы, але і эпіграмы, і пародыі, і вострую сатыру, і нязлосны гумар. Усё гэта пісалася на надзённыя тэмы, пра значныя і нязначныя падзеі, пра літаратурныя і бытавыя з'явы. Гэта рабіла паэзію больш разнастайнай і не сумнай. Многае з напісанага вельмі і вельмі даўно дайшло да нас і не страціла сваёй вастрыні.

Кнігу «Прынамсі» цікава і весела чытаць.

Нідзе Барадулін не бярэ тэму «ў лоб». Гнеўная сатыра, выкрыванне недахопаў, бічаванне агідных з'яў — гэта не яго прыём. З усмешкай вершы, навеяныя сустрэчамі ў Нясвіжы, Іўі, Белавежы.

У іншых вершах паэт высмейвае п'янства, марна-

траўства, спажывецкія адносіны да прыроды, падхалімства, халтуру. Паэт амаль не маралізуе, толькі зрэдку азначыць: «Вясёлы запавет» ці «Карысная парада», а дасягае ўздзеяння на мяне, чытача, нечаканым паваротам думкі, спалучэннем слоў, сутыкненнем розных з'яў, афарыстычнасцю. Адразу запамінаюцца:

У вернасці кляўся
Адной толькі
Кляўзе.

Альбо пра п'яніцу:

Сем пядзяў — без шасці — ў ілбе.
П'е ўдосыць без прынукі.
Такі пудлівы,
што сябе
узяць баіцца ў рукі.

Альбо вось навуковае азначэнне «культурны слой», які пакідаюць людзі, гісторыя наступным пакаленням. Паэт з абурэннем гаворыць пра тых, хто бяздумна пакідае ў лесе голыя выпаліны, бутэлькі, бляшанкі і пытае:

А вы культурны слой
Які
Пакінеце, турысты?!

Адчуваю, што пераказваць гумарыстычныя вершы Барадуліна (як і лірычныя) марны занятак. Паэт піша больш коратка, трапна, дасціпна.

З ласкавай хітрынкай названы раздзел «Мама, не чытай». Гэта пра інтымнае. Тут спрадвечныя героі «ён і яна». Піша пра гэта паэт тактоўна, весела, са «светлай іроніяй» і часцей за ўсё лірычна. Акрамя ўласных перажыванняў і назіранняў, добра адчуваецца і другі выток паэта — народная творчасць, якую выдатна ведае Барадулін і ўмела ёю карыстаецца (без стылізацыі).

У раздзелах «На літаратурным фронце без мельпамен» і «Лісты, паштоўкі, тэлеграмы і эпіграмы» мы бачым, што любіць аўтар, а што ненавідзіць, высмейвае. Часамі гэты смех добразычлівы і лагодны, сяброўскі, а часамі і востры, бязлітасны. Асабліва не па душы паэту халтуршчыкі, прыстасаванцы, падлізнікі, крэслацёры, кар'ерысты. Вось пра графамана:

Са школьных год
Над рыфмай вяне
Так безнадзейна — хоць крычы.
Сям'і і блізкім спачуванне
Прыносяць шчыра чытачы.

Адмаўляючы ўсё хібное, паэт сцвярджае нашу мараль, наш вобраз жыцця.

Многа думае і піша Рыгор Барадулін пра літаратурную працу, пра адказнасць паэта перад народам, перад сваім часам. У вершы «Тэст пацвердзіўся» паэт успамінае, як праверылі ў маленстве яго задаткі і схільнасці: паклалі перад ім кавалак паперыны і звараны бурак. Малы пацягнуўся да бурака. На радасць бацьку: будзе хлебароб. А ў канцы верша ўжо без усмешкі, зусім сур'ёзна сказана:

Пацвердзіўся тэст:
З відна да цямна
Ару я даволі
І сею ўволю:
Насенне чорнае,
Белае поле.

Што родзіць не густа —
Мая віна!

Гэта хораша, што праца паэта параўноўваецца з працай хлебароба. І няхай не прыбядняецца аўтар: працуе ён многа і добра. А калі трапляецца там-сям нешта менш удалае ці драбнейшае па думцы, спагадлівы і ўдзячны чытач даруе свайму паэту пралікі за хоць бы вось такія самакрытычна-дасціпныя радкі:

З ушацкага крутога току
Слоў зерне трачу пакрыху,
За рыфму
Да Уладзівастока
Гатоў па шпалах гнаць блыху.

*1978*

# У АВАНГАРДЗЕ БАРАЦЬБІТОЎ ЗА МІР

Трыццаць гадоў назад, у жніўні 1948 года, у зруйнаваным вайной польскім горадзе Вроцлаве сустрэліся прадстаўнікі інтэлігенцыі ўсяго свету. Пісьменнікі і мастакі, вучоныя і журналісты, філосафы і педагогі падкрэслілі ролю, якую яны могуць адыграць у барацьбе за мір. Яны заявілі аб сваёй рашучасці не дапусціць новай вайны. Удзельнікі Вроцлаўскага кангрэса выступілі з заклікам, які і з'явіляецца пачаткам развіцця Сусветнага руху за мір. У кангрэсе ўдзельнічала 500 буйнейшых прадстаўнікоў культуры з 45 краін, сярод якіх былі французскі фізік лаўрэат Нобелеўскай прэміі Фрэдэрык Жаліо-Кюры, савецкі пісьменнік Аляксандр Фадзееў, чылійскі паэт Пабло Нэруда, амерыканскі спявак і грамадскі дзеяч Поль Робсан і многія іншыя.

Адразу пасля Вроцлаўскага кангрэса дзеячаў культуры і па яго закліку ў многіх краінах пачалі ствараца нацыянальныя камітэты абароны міру. На другі год, у красавіку 1949 года, адбыўся Першы Сусветны кангрэс прыхільнікаў міру, у якім удзельнічалі 2065 дэлегатаў ад 561 нацыянальнай і 12 міжнародных арганізацый, якія прадстаўлялі разнастайныя колы грамадскасці з 72 краін. Пасяджэнні кангрэса адбываліся адначасова ў двух гарадах: Парыжы і Празе. Справа ў тым, што тагачасныя ўлады не дапусцілі ў Парыж значную частку дэлегатаў. Галоўную ролю і на гэты раз адыгралі сусветна вядомыя дзеячы культуры.

У сваім выступленні Фрэдэрык Жаліо-Кюры сказаў: «Мы сабраліся тут не для таго, каб прасіць міру ў прыхільнікаў вайны, а для таго, каб навязаць ім мір».

У сваёй палымянай прамове Аляксандр Фадзееў заявіў: «Мы абавязаны ўзняць гэты вялікі голас гуманізму супраць падпальшчыкаў вайны, таму што гэтага чакаюць ад нас мільёны простых людзей усяго свету, якія складаюць большасць чалавецтва, якія нясуць у сваіх сэрцах лепшыя рысы кожнай з нацый і лепшыя традыцыі гуманізму. Гэты Сусветны кангрэс

прыхільнікаў міру паказвае, якой несакрушальнай сілай валодаюць дзеячы культуры, калі яны аб'яднаны з мільёнамі людзей фізічнай працы... Узнімем жа наш аб'яднаны голас супраць зачыншчыкаў і спевакоў вайны, супраць распальвання нацыянальнай і расавай нянавісці і варожасці».

Удзельнік Першага Сусветнага кангрэса прыхільнікаў міру Максім Танк у «Пражскім дзённіку» (1949) пісаў:

Калі ехаў, сябры,
На Кангрэс я да вас,
Мне Радзіма давала
У дарогу наказ:
Гаварыла зямля,
Што не хоча яна,
Каб палі arашала
Крывёю вайна,
Каб грымоты і танкі
Узрывалі яе,
Каб слязамі сірот
Засявалі яе.

...Той, хто дружбы шукае,—
У нас знойдзе яе.
Той, хто песні шукае,—
У нас знойдзе яе.
Той, хто праўды шукае,—
У нас знойдзе яе,
А хто вецер пасее,—
Той буру пажне!

З тых далёкіх незабыўных дзён прайшлі дзесяцігоддзі. Шырока і магутна разліўся па ўсім свеце рух прыхільнікаў міру, барацьбітоў за мір. Да яго далучыліся арганізацыі працоўных, жанчын, моладзі, рэлігійныя дзеячы, парламентарыі і нават найбольш дальнавідныя буржуазныя палітыкі.

Пад дзвюма адозвамі Сусветнага Савета Міру кожны раз паставіла свае подпісы за паўмільярда людзей добрай волі. З Сусветным рухам абаронцаў міру пачалі лічыцца прэзідэнты і прэм'ер-міністры. Прадстаўнікі Сусветнага Савета Міру занялі сваё пачэснае месца (як недзяржаўная арганізацыя) і ў ААН. На змену памершым і загінуўшым барацьбітам за мір прыходзяць новыя і новыя тысячы змагароў супроць вайны.

Натхняючым прыкладам для прыхільнікаў міру ўсёй зямлі з'яўляецца міралюбівая, прынцыповая і непахісная палітыка КПСС і Савецкага ўрада.

У маі мінулага года я ўдзельнічаў у Варшаве ў Сусветнай Асамблеі будаўнікоў трывалага міру.

Зусім нядаўна, у ліпені, у Маскве мне давялося прыняць удзел у Сесіі Прэзідыума Сусветнага Савета Міру, на якой з прамовай аб мірнай ленінскай палітыцы нашай партыі і ўрада ў сучасных умовах выступіў сакратар ЦК КПСС Б. М. Панамароў. У адзінагалосна прынятай адозве сказана: «Сусветны Савет Міру звяртае ўвагу ўсіх міралюбівых сіл на сур'ёзнасць становішча, якое складваецца. Ён заклікае абараніць дасягненні разрадкі і не дапусціць вяртання да «халоднай вайны» — забяспечыць няўхільны, паступальны рух наперад да трывалага міру і міжнароднай бяспекі».

Беларуская інтэлігенцыя, дзеячы культуры, як і ўвесь беларускі народ, з самага пачатку актыўна і дзейсна ўдзельнічае ў Сусветным руху абаронцаў міру.

А ў 1951 годзе наш удзел быў аформлены арганізацыйна, калі адбылася першая Беларуская канферэнцыя прыхільнікаў міру, створаны Рэспубліканскі камітэт абароны міру.

Першым старшынёй яго быў выбраны народны паэт Якуб Колас, які і сваёй цудоўнай творчасцю і грамадскай дзейнасцю шмат зрабіў для справы абароны міру.

Актыўнымі дзеячамі абароны міру былі нашы выдатныя пісьменнікі Аркадзь Куляшоў і Іван Мележ, якія таксама ўзначальвалі Рэспубліканскі камітэт абароны міру. Іх творчасць сапраўды антываенная, яна зрабіла вялікі ўплыў на свядомасць нашых людзей, асабліва маладзейшых пакаленняў.

Я гавару пра ўдзельніка Першага Кангрэса прыхільнікаў міру Максіма Танка. Яго паэзія, баявая, яркая, увесь час актыўна змагаецца за мір на зямлі.

Асобна хочацца сказаць пра Петруся Броўку. Удзельнік Айчыннай вайны, ён перажыў асабістую трагедыю: яго маці спалілі ў Асвенціме. Пятрусь Броўка ў памяць пра яе напісаў хвалюючую паэму «Голас сэрца».

У 1951 годзе, на ўстаноўчай канферэнцыі прыхільнікаў міру нашай рэспублікі, паэт выступіў з дакладам «Беларускі народ у барацьбе за захаванне і ўмацаванне міру». А нядаўна Пятрусь Броўка ўдзельнічаў ва ўрачыстым паседжанні Савецкага камітэта міру ў Ленінградзе, прысвечаным 60-годдзю Вялікага Кастрычніка, і неўзабаве напісаў глыбокія шчырыя вершы на тэму абароны міру.

Няма ніводнага беларускага паэта і празаіка, які вершам, паэмай, апавяданнем, аповесцю, раманам не пісаў бы пра вайну, супроць вайны, так ці інакш не кранаў бы гэтай хвалюючай увесь народ тэмы.

Голас паэтаў і празаікаў — барацьбітоў за мір — часта гучыць па радыё і тэлебачанні, на старонках газет і часопісаў, у шматлікіх аўдыторыях.

Антываенныя п'есы Кандрата Крапівы, Андрэя Макаёнка, Івана Шамякіна і іншых нашых драматургаў ішлі і ідуць на сцэнах тэатраў усяго Савецкага Саюза.

Такія кнігі, як «Я з вогненнай вёскі...» А. Адамовіча, Я. Брыля, Ул. Калесніка, раманы і аповесці І. Шамякіна, І. Навуменкі, І. Чыгрынава, Б. Сачанкі, І. Пташнікава, І. Грамовіча, А. Асіпенкі, П. Міська, В. Казько, вершы і паэмы М. Лужаніна, К. Кірэенкі, А. Вялюгіна, М. Аўрамчыка, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага, Я. Сіпакова, П. Макаля, В. Зуёнка і многіх іншых, актыўна змагаюцца за мір, знаходзяць водгук у шматлікіх чытачоў.

Нядаўна ў Мінску адбыўся агульнагарадскі паэтычны вечар, прысвечаны абароне міру, на якім выступілі вядомыя і маладыя беларускія паэты. Увесь збор ад вечара перададзены ў Фонд абароны міру. У гэты Фонд часта робяць узносы пісьменнікі, кампазітары, мастакі, артысты.

Артысты не толькі выступаюць у тэатры, але часта з чытаннем твораў пра жахі вайны, пра неабходнасць захавання міру выходзяць на эстрадныя пляцоўкі, у клубы, на прадпрыемствы і калгасы.

Многа добрых песень пра ахвяры вайны, пра абарону міру напісалі нашы кампазітары.

Мастакі, скульптары, архітэктары таксама шмат аддаюць творчай сілы і таленту барацьбе за мір. Даволі нагадаць пра творчасць З. Азгура, А. Бембеля,

С. Селіханава, А. Анікейчыка, М. Савіцкага, В. Грамыкі і многіх іншых.

Каго ні хвалявалі наша «Хатынь», помнік маці ў Жодзіне! Гэта і высокае мастацтва, і гнеўны пратэст супроць вайны, і заклік змагацца за мір.

Сёння, адзначаючы 30-ю гадавіну з пачатку Сусветнага руху прыхільнікаў і абаронцаў міру, дзеячы культуры Беларусі, як і ўвесь савецкі народ, яшчэ актыўней, яшчэ палымяней будуць змагацца за самае святое на зямлі — мір.

*1978*

## ЕДНАСЦЬ СЭРЦАЎ

Вершы будуць пазней. А пакуль што сэрца перапоўнена незабыўнымі сустрэчамі, уражаннямі.

Дні савецкай літаратуры ў Грузіі сталі сапраўдным святам дружбы, братэрства, інтэрнацыяналізму. Мы пабачылі працоўную Грузію. На Батумскім машынабудаўнічым заводзе мне адзін рабочы сказаў: «Вось вы, літаратары, многа пішаце аб сельскіх працаўніках, аб прыродзе, аб каханні. А справам і клопатам рабочых удзяляеце ўсё ж такі недастаткова ўвагі». Што ж, на жаль, закід законны...

У адным з саўгасаў Хелвачаурскага раёна, дзе я ўпершыню ўбачыў чайныя і цытрусавыя плантацыі, нам далі нажніцы і сказалі: «Просім вас папрацаваць, дапамажыце нам збіраць мандарыны». І мы — А. Арыпаў, Л. Левін, І. Ракша, Г. Сямёнаў, Ю. Сураўцаў, Л. Федароўская, А. Чухонцаў, Г. Цішвілі — няспрытна, але папрацавалі.

У Грузіі мяне ўразіла тое, як тут ведаюць і любяць паэзію. У маленькім сельбішчы Кабулеці, дзе праходзіў і літаратурны вечар, зала Дома культуры была перапоўнена да канца. Сюды прыехалі нават маці з груднымі дзецьмі. І гэта было цудоўна...

Блакітная казачная Аджарыя назаўсёды застанецца ў маёй душы. Аб адным клопат, памятаць словы батумскага працоўнага: ствараць творы вартыя гэтых цудоўных людзей.

*1978*

# КВІТНЕЙ, МАЯ БЕЛАРУСЬ!

Беларускі паэт Кастусь Кірэенка ў адным са сваіх вершаў пісаў:

Не завіце маю рэспубліку
Краінай цёмных лясоў!
Паглядзіце —
Над ёю свецяцца
Агні завадскіх карпусоў.
Не завіце маю рэспубліку
Краінай ціхіх далін!
Паслухайце —
Як грымяць над ёй
Галасы магутных турбін.
Не завіце маю рэспубліку
Краінаї багнаў-аблог!
У садах яна
Разліваецца,
У жытах яна
Калыхаецца,
Разбягаецца ў стрэлах дарог.

Вякамі нашу Беларусь — бедную ўскраіну царскай Расіі — называлі краем балот і лясоў. Забіты неадукаваны народ, галеча, бяспраў'е — усё гэта было. І толькі Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя прынесла беларусам свабоду, чалавечую годнасць. Наш народ назаўсёды паверыў вялікай праўдзе У. І. Леніна, самааддана абараняў родную Савецкую ўладу.

Упершыню ў гісторыі Беларусь здабыла сваю дзяржаўнасць, стала сацыялістычнай рэспублікай — раўнапраўнай сястрой у магутнай савецкай сям'і. За гады першых пяцігодак пры дапамозе вялікага рускага народа ў нас былі збудаваны дзесяткі магутных прамысловых прадпрыемстваў, на калгасныя палі выйшлі трактары і камбайны. Беларусь адна з першых стала рэспублікай суцэльнай пісьменнасці.

У гады вайны фашысцкія орды прайшлі па нашай зямлі крывавым смерчам. На тэрыторыі Беларусі было разбурана 209 гарадоў, 9200 сёл і вёсак, а 627 вёсак акупанты знішчылі зусім, разам з жыхарамі. Аб гэтым усяму свету нагадваюць трывожныя званы мемарыяльнага комплексу «Хатынь».

За гады акупацыі знішчана дзесяць тысяч прамысловых прадпрыемстваў, усе электрастанцыі, ма-

сты, чыгуначныя дарогі, вакзалы, дэпо, школы, бальніцы, тэхнічная база сельскай гаспадаркі.

Але самай вялікай і горкай стратай была гібель людзей. Гітлераўцы забілі і закатавалі больш двух мільёнаў дзвюхсот тысяч чалавек. У Хатыні ля Вечнага агню растуць тры бярозкі. У чацвёртым кутку бярозка не пасаджана, бо кожны чацвёрты жыхар Беларусі згарэў у агні вайны.

Але ў гады Вялікай Айчыннай вайны напісана і самая гераічная старонка гісторыі беларускага народа, які мужна і самаадданна змагаўся з фашысцкімі захопнікамі. Больш мільёна беларусаў змагалася з ворагам у радах Чырвонай Арміі. Усяму свету вядомы бессмяротны подзвіг Гастэлы, Даватара, Талаліхіна. Двойчы Героямі Савецкага Саюза сталі сыны беларускага народа Якубоўскі, Грыцавец, Гусакоўскі, Шутаў, Галавачоў. А ўсяго за гераізм, праяўлены ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у тыле ворага і на франтах Вялікай Айчыннай вайны, 462 грамадзянам было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

На часова акупіраванай тэрыторыі зямля гарэла пад нагамі гітлераўцаў. Увесь беларускі народ падняўся на барацьбу з фашыстамі. Беларусь зрабілася рэспублікай-партызанкай.

Арганізаваны і кіруемы Камуністычнай партыяй у Беларусі разгарнуўся нябачны па свайму размаху партызанскі рух, у якім удзельнічала больш 370 тысяч чалавек, аб'яднаных у больш чым 1100 атрадах. Больш 70 тысяч падпольшчыкаў змагаліся супраць акупантаў у гарадах і населеных пунктах. Народныя мсціўцы знішчылі паўмільёна гітлераўцаў, пусцілі пад адхон тысячы варожых эшалонаў, разграмілі сотні штабоў і гарнізонаў. Усе помняць вядомую «рэйкавую вайну».

Адгрымелі апошнія залпы, прыйшла доўгачаканая перамога.

Калі едзеш з Масквы па Мінскай шашы (у нас яе называюць Маскоўскай), бачыш недалёка ад беларускай сталіцы велічнае збудаванне — Курган Славы, над якім узняліся пад воблакі штыкі, што ўвасабляюць франты, якія вызвалілі Беларусь. Гэты помнік — вечная ўдзячнасць майго народа воінам-вызваліцелям, вялікаму рускаму народу, усім брат-

нім народам, якія змялі з нашай зямлі ненавісных акупантаў.

Хто бачыў адразу пасля вайны разбураныя гарады і вёскі Беларусі, яе абпаленую агнём, пакалечаную сталлю зямлю, той і ў думках не мог прадбачыць, як хутка ўзнімецца з попелу мая родная рэспубліка. Але ў тым і магутнасць сацыялістычнага ладу, ленінскай дружбы народаў — немагчымае зрабілася магчымым. Бясконцым патокам ішлі эшалоны з розных абласцей Расійскай Федэрацыі, другіх братніх рэспублік з жалезам, сталлю, цэментам, вуглем, нафтай, будматэрыяламі, станкамі, машынамі; ішлі да нас, у вызваленую Беларусь. Пачалі адбудоўваць гарады, узнімаць заводы-гіганты. З Масквы і Ленінграда, з Урала і Заволжа ехалі спецыялісты, майстры, каб дапамагчы, навучыць беларусаў новым прафесіям. А нашы юнакі і дзяўчаты ехалі вучыцца ў Маскву, Сталінград, Ленінград, Баку, Горкі.

А цяпер давайце паглядзім на маю Беларусь сёння, якой яна стала за пасляваенныя гады.

На самым захадзе нашай неабсяжнай Радзімы, над ракой Буг узвышаюцца чырвоныя сцены легендарнай Брэсцкай крэпасці-героя. Тут нашы воіны мужна прынялі на сябе першы ўдар фашысцкай арды. А навокал на сотні кіламетраў раскінулася Палессе з яго Белавежскай пушчай, дзе ўвесь век гаспадарылі магутныя зубры; ціхія паўнаводныя рэкі, багатыя землі і квітнеючыя заліўныя лугі. Над Прыпяццю ў калгасе «Аснежацкі» Пінскага раёна, дзе старшынёй двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Ралько, з году ў год збіраюць самыя багатыя ўраджаі ў рэспубліцы — 45—50 і болей цэнтнераў збожжа з гектара. А наогул у нас, нават у неспрыяльных пагодных умовах, збіраюць 25—27 цэнтнераў з гектара. Гэтыя небывалыя для нашай зямлі ўраджаі. На асушаных землях будуюцца новыя саўгасы з пасёлкамі гарадскога тыпу.

Нашы поспехі ў сельскай гаспадарцы — гэта і самаадданая праца калгаснікаў і рабочых саўгасаў, гэта і машынізацыя, і электрыфікацыя, гэта і хімічнае ўгнаенне, і плённыя пошукі вучоных, і ўсё ўзрастаючая колькасць спецыялістаў. А галоўнае — мэтанакіраваная палітыка нашай партыі.

Падымемся на верталёце і абляцім беларускую зямлю. Зеляненоць яе сасновыя і бярозавыя лясы, якія хавалі партызан. Цякуць, як і раней, яе спакойныя рэкі — Заходняя Дзвіна, Нёман, Дняпро, Бярэзіна, Сож. Блакітам і сонцам радуюць вочы вялікія і малыя азёры. На шырокіх палях працуюць тысячы трактароў. Па асфальтавай шашы, па гравійных і прасёлкавых дарогах імчыць незлічоная колькасць грузавікоў і легкавых машын. На калгасных фермах — вежы з вельмі добрым кормам. І ўсюды — будоўлі, будоўлі, будоўлі.

Так, наша прырода зноў цудоўная, але ўсё навокал змянілася. З'явіліся новыя індустрыяльныя гарады: Навапалацк, Светлагорск, Салігорск, Жодзіна, Новалукомль. Разрасліся, абнавіліся, падняліся ўсё вышэй да неба старыя прамысловыя гарады: Гомель, Віцебск, Магілёў, Гродна, Орша. У Беларусь прыйшла вялікая хімія. Навапалацкі нафтаперапрацоўчы і хімічны гіганты, Мазырскі нафтаперапрацоўчы камбінат. У Салігорску здабываецца калійная соль. Шахцёр — новая прафесія для беларусаў. Як і нафтавік. Сапраўды і ў Беларусі знайшлі нафту, і на вялікай частцы Палесся ўзвышаюцца нафтавыя вышкі. Толькі за дзве мінулыя пяцігодкі ўведзена ў строй больш двухсот магутных прамысловых прадпрыемстваў. Даваенны ўзровень прамысловай вытворчасці пераўзыдзены ў 22 разы. Значна павялічыўся рабочы клас — наша слава і гордасць.

У самым цэнтры рэспублікі прывольна раскінулася наша сталіца — горад-герой Мінск. Шырокія светлыя праспекты з ліпавымі алеямі, прасторныя плошчы, новыя жыллёвыя кварталы з высотнымі будынкамі, мноства паркаў і садоў — такі выгляд сённяшняга Мінска. А на ўскраінах — магутныя заводы, прадукцыя якіх вядома ўсяму свету: трактарны, аўтамабільны, маторны, шарыкападшыпнікавы і многія іншыя. Мінск выпускае ЭВМ, радыёпрыёмнікі, матацыклы, веласіпеды, электроніку, гадзіннікі і мноства іншай прадукцыі. Да вайны Мінск быў ціхім, не вельмі вялікім горадам. А цяпер у ім жыве каля аднаго мільёна трохсот тысяч жыхароў. Ёсць Акадэмія навук БССР, у 14 навуковых установах вучыцца каля 100 тысяч студэнтаў. У горадзе

больш 200 масавых бібліятэк, 8 музеяў, 6 тэатраў, многа кінатэатраў, клубаў і Палацаў культуры. Сённяшні Мінск — увасабляе працоўны подзвіг мінчан, беларускага народа, усіх народаў-братоў нашай шматнацыянальнай краіны. Дарэчы, у Беларусі жывуць і працуюць прадстаўнікі больш 80 нацыянальнасцей.

А зусім нядаўна ў горадзе пачалі будаваць метро — новая радасць для мінчан.

1 студзеня 1979 года БССР будзе адзначаць сваё шасцідзесяцігоддзе.

Мы ганарымся, што наша рэспубліка была ўтворана па ініцыятыве Уладзіміра Ільіча Леніна. Яго пасланцам на нашым Першым з'ездзе Саветаў быў Якаў Міхайлавіч Свярдлоў.

Мы ганарымся, што арганізатарам і першым начальнікам мінскай міліцыі быў Міхаіл Васільевіч Фрунзе.

Мы ганарымся, што на нашай зямлі нарадзіўся, прайшло дзяцінства і юнацтва Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага, і многія вядомыя рэвалюцыянеры, вучоныя, пісьменнікі, кампазітары таксама нарадзіліся тут.

Вялікімі поспехамі сустракае мая рэспубліка свой юбілей. Але мы ведаем, што наперадзе яшчэ многа працы, яшчэ больш будзе слаўных здзяйсненняў.

Наша зямля старажытная. Полацк — аднагодак Ноўгарада. Віцебску — больш за 1000 год. Мінск і Орша адсвяткавалі свае дзевяцісотгоддзі. Але наша рэспубліка, народжаная Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй, маладая, поўная сілы і энергіі.

Беларускі народ працавіты і мужны, адданы народам-братам, справе Ільіча.

Гісторыя і сучаснасць, даўнішняе і сучаснае тут цесна пераплецены. Мы нічога не забыліся. Каля ўсіх нашых дарог, ля кожнага сяла — брацкія магілы воінаў і партызан, помнікі, ля якіх заўсёды ляжаць кветкі.

Нядаўна група пісьменнікаў вярталася з вучэнняў «Бярэзіна», куды нас запрасіла камандаванне. Па дарозе ў Мінск мы зрабілі прыпынак у Жодзіне, пайшлі да помніка маці і сынам Купрыянавым, ураджэнцам гэтай мясцовасці.

Пяць сыноў Купрыянавай загінулі на вайне. Аднаму з іх — Пятру Іванавічу — пасмяротна нададзе-

на званне Героя Савецкага Саюза. Помнік робіць моцнае ўражанне. Маці праводзіць сваіх сыноў на вайну. Чатыры сыны ўжо з вінтоўкамі ідуць страявым крокам, а пяты, малодшы, азірнуўся на засмучаную маці.

У гэты дзень ля помніка было мнагалюдна: збіраліся са сцягамі працоўныя, камсамольцы, піянеры, каб сустрэць воінаў, якія вярталіся з манеўраў. А недалёка, цераз дарогу, ракатаў і звінеў Жодзінскі аўтамабільны завод, які выпускае самыя магутныя самазвалы — БелАЗы.

*1978*

## ВЕРНАСЦЬ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

На захадзе Беларусі прывольна раскінулася вялікае і вельмі прыгожае возера. Нарач. Воды яго празрыстыя, берагі крутыя, а над імі горда высяцца карабельныя сосны. Азёрны край славіцца сасновымі барамі. Гэта радзіма Максіма Танка. Тут будучы паэт пазнаў увесь цяжар і радасць сялянскай працы, тут напісаны першыя вершы, тут пачалося яго камсамольскае падполле.

Юнацтва мінула
На сцежках этапных
У пошуках шчасця,
Штодзённага хлеба,
Незакратаванага
Сонца і песні.

Так піша Максім Танк у адным са сваіх вершаў. Пасля ўз'яднання Беларусі Танк адразу актыўна ўключаецца ў наша творчае жыццё. Разам з усім народам паэт-камуніст прайшоў па цяжкіх дарогах вайны, удзельнічаў у аднаўленні разбуранай рэспублікі, напісаў дзесяткі таленавітых кніг, зрабіўся вядомым грамадскім дзеячам.

Максім Танк аб'ездзіў ледзь не ўвесь Савецкі Саюз, пабываў у многіх краінах свету. У новай кнізе Танка «Нарачанскія сосны» мы знойдзем вершы пра Гамера, Авідзія, Дантэ, Мікеланджэла, Гётэ, Ясеніна, вершы пра Чылі, Фінляндыю, Індыю. Шырокі творчы дыяпазон паэта, і ўсюды ён выступае як інтэрнацыяналіст, антыфашыст.

Але ўсё ж галоўнае ў гэтай кнізе — любоў да роднай зямлі, да людзей працы, да нарачанскіх сосен, якія робяцца ўвасабленнем Айчыны:

Я, нават будучы глухім,
Між тысяч іншых сосен
Адрозніў бы іх пошум
І, нават будучы сляпым,
Абняўшы ці пацалаваўшы,
Іх пазнаў бы.

Народнае жыццё, яго мінулае і сучаснае: праца, трывогі, надзеі і ўсяго народа і сваіх аднавяскоўцаў, будні і святы — усё гэта натуральна ўваходзіць у паэзію Максіма Танка, бо гэта і яго жыццё. Яму на-

ват сны сняцца рэальныя: «Прысиілася мне — я сею ў полі жыта». Гэта ўспамін пра юнацтва, пра сваю хату, «у якой было больш паракаиняў на жыццё, як самога жыцця, больш дыму лучыны, як святла, больш едакоў, як лыжак...»

Таму і верыш, калі ён гаворыць: «Трэба хоць раз у год прайсці басаиож баразною за плугам, каб аднавіць сваю даўнюю сувязь з радиёй — з вясновай зямлёй, камянямі, травой».

У адным вершы ён піша: «Я запытаў чалавека, які прайшоў праз агонь, і воды, і медныя трубы: што цяжэй за ўсё? І той адаказаў: прайсці праз вернасць».

Максім Танк з гонарам прайшоў праз гэта найцяжэйшае выпрабаванне. Ён быў і назаўсёды застаўся верным камунізму, родным палеткам, аратым, і рыбакам, і загінуўшым сябрам. У яго мужнай паэзіі мы адчуваем гарачае дыханне нашага жыцця да вялікіх здзяйсненняў народа, да ідэалаў і спраў партыі.

Нікому з нас не хацелася быць адзінокім коласам...

Нікому з нас не хацелася ўзвышацца асобнай вяршыняй...

Кожнаму з нас было б сумна адчуваць сябе малой кропляй, так піша паэт і дадае:

І зрабіліся мы акіянам...
І калі ўсяго гэтага мала было
Нашым вачам і рукам,
Нашым сэрцам і марам,
Мы сталі Партыяй.

Значнае месца ў кнізе «Нарачанскія сосны» займаюць вершы пра Айчынную вайну, пра партызанскую барацьбу, у якой вызначыліся яго землякі. Бо і да гэтага часу плугі могуць выараць з глебы «гром забытай міны», а дрэвы хаваюць сляды былых баёў:

Захочаце будавацца —
Будзе шчарбіцца сякера ад куль,
Заселых у кожнай сасне.

Цікавыя вершы пра партызанскую школу, дзе некалі на бяросце дзеці старанна выводзілі крылатыя радкі Купалы: «Партызаны, партызаны, беларускія сыны...» У гэтай школе, гаворыць паэт, цяпер навучаюцца птушкі віць гнёзды, звераияты — зашыфроўваць свае сцежкі.

Моцна і хвалююча гучаць вершы Максіма Танка пра жанчын, асабліва пра мацярок. Старая, раскладваючы на стале лыжкі, кожны раз памыляецца і кладзе лішнія. Яе памяць пра загінуўшых сыноў заўсёды жывая. І ў лазню яна збірае чыстую бялізну нават тым, у каго на плячах цяпер бронзавыя гімнасцёркі...

Варта сказаць пра глыбокае разуменне паэтам народнага мыслення, народнай песні, казкі, гумару. Асабліва ў такіх вершах, як «Напаўказка», «Кормяць «Ярожку», «Тры вораны», «Дарога ад лавы да парога...», «Лесавік і палявік» і іншыя.

Максім Танк па-майстэрску валодае і традыцыйным вершам і верлібрам. Але амаль кожны верш у яго новай кнізе — маленькае адкрыццё. Шчырасць святочнасць, неардынарнасць думкі, дакладнасць, свежасць і маляўнічасць метафар і параўнанняў — усё гэта робіць «Нарачанскія сосны» значнай з'явай у савецкай паэзіі.

І ў канцы хочацца адзначыць вельмі добрыя пераклады Якава Хелемскага, дзякуючы якім вершы нацыянальнага паэта і на рускай мове гучаць паўнаважка, ярка і пераканаўча.

*1978*

## МЫ ЗАНЯТЫ МІРНАЙ ПРАЦАЙ...

З радасным настроем і вялікім уздымам Вярхоўны Савет БССР прыняў новую Канстытуцыю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспублікі, чацвёртую па ліку ад пачатку нашай дзяржаўнасці.

Слова «Канстытуцыя» на Беларусі пачало бытаваць пасля рэвалюцыі 1905 года, пасля лжывай царскай абяцанкі даць свабоду. Якуб Колас пісаў у 1908 годзе:

Канстытуцыю далі,
Адчынілі дзверы,
І... ў астрог нас павялі,
І таўкуць без меры...
Зашумелі аб зямлі
У Думе дэпутаты,
Ды па карку ім далі —
І пайшлі дахаты.

Даўно адышлі ў нябыт тыя змрочныя часы і падзеі. Наша індустрыяльна-калгасная Беларусь прыходзіць да свайго шасцідзесяцігоддзя ў нябачнай славе і красе.

Пісьменнікі нашай рэспублікі аднадушна ўхвалілі новую Канстытуцыю БССР.

Вядома, мы асаблівую ўвагу звярнулі на 27-мы артыкул:

«Дзяржава клапоціцца аб ахове, прымнажэнні і шырокім выкарыстанні духоўных каштоўнасцей для маральнага і эстэтычнага выхавання савецкіх людзей, павышэння іх культурнага ўзроўню.

У Беларускай ССР усямерна заахвочваецца развіццё прафесіянальнага мастацтва і народнай мастацкай творчасці».

І на той артыкул, дзе гаворыцца, што дзяржава стварае неабходныя ўмовы для развіцця літаратуры і мастацтва і аказвае падтрымку творчым саюзам.

Мы адчуваем штодзённыя клопаты Цэнтральнага Камітэта КПБ і Урада рэспублікі аб пісьменніках, аб усіх творчых работніках і за гэта вельмі ўдзячныя.

Беларускія пісьменнікі адчуваюць вялікую адказнасць перад родным народам, перад Камуністычнай партыяй за сваю нялёгкую працу. Наш час надзвычайна складаны. Паскораны тэмп жыцця, навукова-тэхнічная рэвалюцыя, высокія культурныя і эстэ-

тычныя запатрабаванні савецкага чалавека, абавязваюць нас глыбей вывучаць жыццё, лепш адчуваць, разумець справы і пачуцці нашага сучасніка. Для таго, каб выхоўваць, патрэбна самім пісьменнікам, мастакам, кампазітарам, акцёрам, вучыцца ў рабочых і калгаснікаў, інжынераў і аграномаў, вучыцца ў народа.

Лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў карыстаюцца папулярнасцю далёка за межамі Беларусі, перакладзены на многія мовы народаў Савецкага Саюза і зарубежных краін.

Мінскі паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа на працягу сутак выпускае дзвесце дваццаць тысяч экземпляраў кніг і брашур, а заказы на беларускую кнігу прыходзяць са ста дзесяці краін свету.

Найбольш выдатныя раманы і аповесці беларускіх празаікаў такіх, як І. Мележ, І. Шамякін, В. Быкаў, выдаюцца на рускай мове ў мільёнах экземпляраў. П'есы К. Крапівы і А. Макаёнка ідуць у многіх тэатрах Савецкага Саюза. Ёсць значныя поспехі і ў паэзіі. Гэта сапраўды росквіт нацыянальнай літаратуры, нацыянальнай культуры.

Аднак у нас усё яшчэ мала таленавітых кніг пра сённяшні дзень, пра нашага сучасніка, пра рабочага чалавека. Недаравальна мала добрых п'ес, асабліва для самадзейнасці.

Ды і песні ў апошні час гучаць некалькі аднастайна: ён, яна, вясна ды салаў'і. Гэта, вядома, патрэбна. Але набходны патрыятычныя і гераічныя песні, каб яны загучалі так жа ўсхвалёвана, як «Трывожная маладосць» Пахмутавай і «Дзень Перамогі» Тухманава.

Мы ганарымся нашай Канстытуцыяй, нашым гуманізмам, нашымі правамі.

Мне ўспамінаецца такі факт. На адной амерыканскай ваеннай базе ў Заходняй Германіі. Двумстам пяцідзесяці двум амерыканскім салдатам быў прачытаны наступны тэкст: «Мы лічым як само па сабе зразумелае, што ўсе людзі створаны роўнымі, што тварэц надзяліў іх неад'емнымі правамі, і сярод іх — правам на жыццё, свабоду, імкненнем да шчасця».

Тых, хто згодзен з гэтым, папрасілі паставіць свае подпісы. Семдзесят тры працэнты салдат адмовіліся падпісацца пад гэтымі словамі.

Іх не папярэдзілі, што тэкст гэты ўзяты з Амерыканскай Дэкларацыі незалежнасці.

Чаго варты гэтыя высокія словы, калі яны не падмацаваны справамі! Я быў у нью-йоркскім Гарлеме, бачыў бясконцыя кварталы чыкагскіх трушчоб, бачыў велізарныя чэргі беспрацоўных каля біржаў працы ў многіх еўрапейскіх і амерыканскіх гарадах. І заўсёды ў сэрцы было спачуванне людзям, якіх пазбавілі асноўных праў: права на працу, права на жыллё. Адначасова сэрца перапаўнялася гордасцю за нашу вялікую сацыялістычную Радзіму, за савецкі лад жыцця. Такую ж гордую радасць я адчуў, калі ў далёкай спякотнай Гвінеі бачыў за працай нашы «МАЗы» і трактары «Беларусь».

Мы ніколі б не мелі такіх здабыткаў, каб нам не дапамагалі братнія народы, асабліва вялікі рускі народ. Таму мы асабліва вітаем артыкул Канстытуцыі аб роўнасці грамадзян Беларускай ССР перад законам незалежна ад паходжання, сацыяльнага і маёмаснага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, полу, адукацыі, мовы, адносін да рэлігіі, роду і характару заняткаў, месца пражывання і іншых акалічнасцей.

У Беларусі жывуць і працуюць прадстаўнікі больш як 80 нацыянальнасцей. Адны назаўсёды засталіся з часоў партызанскай барацьбы, іншыя прыехалі дапамагчы нам развіваць новыя галіны прамысловасці. Мы ім рады, як родным братам, і яны ўспрымаюць жыццё нашага народа, як сваё. Бываючы ў розных рэспубліках нашай вялікай Радзімы, мы заўсёды адчуваем, як любяць і паважаюць нашу Беларусь. І мы адказваем нашым братам і сёстрам самай гарачай і адданай любоўю. Добра пра гэта сказаў паэт Генадзь Бураўкін:

Я ўдзячны лёсу, што ва ўсе часы
Мая блакітнавокая радзіма
Не засланіла мне чужой красы,
Мяне ад свету не адгарадзіла,
Што не магла, не ўмела быць другой,
Жыла ў братэрстве і сяброў цаніла
І што ў краіне нашай дарагой
Яе завуць сястрою мілай.

І няхай сабе скавычуць наёмныя манюкі і плеткары з розных ілжывых радыёстанцый, праўда мацней за хлусню. Беларускі народ ведае свае правы, ведае свае

абавязкі і з высокай годнасцю прымае сёння сваю Канстытуцыю.

Трэба адзначыць, што мы пазбаўлены, на нашу радасць, некаторых правоў, а іменна:

не маем права эксплуатаваць людзей, нажывацца за кошт чужой працы;

не маем права прапаведаваць адчай і няверʼе ў свае сілы, выхоўваць у маладых людзях непавагу да ідэалаў сваіх бацькоў;

не маем права прыніжаць чалавека, якой бы нацыянальнасці ён ні быў;

мы не маем права прапаведаваць расавую нянавісць і вайну.

Гэта запісана ў нашай Канстытуцыі. Але мала ненавідзець вайну, патрэбна актыўна і паслядоўна змагацца за мір, асабліва цяпер, калі ваенна-прамысловыя комплексы некаторых дзяржаў прагнуць паставіць свет на грань тэрмаядзернай вайны.

Леанід Ільіч Брэжнеў, выступаючы 7 красавіка перад маракамі-ціхаакіянцамі, сказаў:

«Пры ўсёй значнасці той або іншай праблемы ў сучасных умовах няма задачы больш важнай, якая закранае лёс кожнага чалавека на зямлі, чым дабіцца рэальнага разбраення. Спыніць гонку ўзбраенняў, забяспечыць рух да змяншэння, а ў канчатковым выніку ліквідацыі пагрозы тэрмаядзернай катастрофы — вось асноўная праблема, якая стаіць цяпер на парадку дня нашага жыцця».

Днямі ў Мінску адбыўся сход прадстаўнікоў грамадскасці нашай сталіцы, арганізаваны Беларускім Рэспубліканскім камітэтам абароны міру, каб аднадушна падтрымаць патрабаванні савецкага народа, усіх міралюбівых сіл нашай планеты, паставіць нейтронную зброю па-за законам.

З дакладам на сходзе выступіў намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Уладзімір Елісеевіч Лабанок, які ўзначальваў дэлегацыю савецкай грамадскасці на тым, што праходзіў нядаўна ў Амстэрдаме Міжнародным форуме пад дэвізам «Спыніць нейтронную бомбу!».

Удзельнікі сходу, як і ўвесь беларускі народ, падтрымалі патрабаванне міралюбівай грамадскасці забараніць вытворчасць нейтроннай зброі, спыніць гонку ўзбраенняў, зрабіць працэс разрадкі незваротным.

Слесар-лякальшчык Мінскага трактарнага завода імя У. І. Леніна Герой Сацыялістычнай Працы Яўген Іванавіч Клімчанка сказаў:

«Ад імя рабочых прадпрыемства я выказваю гнеўны пратэст супраць намеру кіруючых колаў ЗША пачаць вытворчасць нейтроннай бомбы. Трактарабудаўнікі заняты мірнай, стваральнай працай. Наша прадукцыя, вядомая далёка за межамі краіны, прызначана для мірных мэт. Мы хочам, каб на зямлі зелянелі палі і цвілі сады, каб дзеці раслі здаровымі і жыццярадаснымі пад мірным небам планеты».

Пад гэтымі словамі можа падпісацца кожны савецкі чалавек.

І хаця пад напорам гнеўнага пратэсту і абурэння сумленных людзей усяго свету амерыканскі прэзідэнт адклаў на некаторы час разгортванне нейтроннай зброі, мы не на хвіліну не павінны забываць, што пагроза вайны не знікла.

Наш новы Асноўны закон рэспублікі, як і Канстытуцыя СССР,— гэта мудрыя падручнікі жыцця. І я жадаў бы, каб тэкст Канстытуцыі СССР і БССР у прыгожым малафарматным выданні дарылі дзецям бацькі ці школа як мага раней і звярталі ўвагу не толькі на правы савецкага чалавека, а больш на абавязкі грамадзяніна.

Наша новая Канстытуцыя — цудоўны падарунак да шасцідзесяцігоддзя БССР і Камуністычнай партыі Беларусі.

*1978*

11 Зак. 3269

# ТЫ, СОНЦА, СВЯЦІ, ТЫ, ЛІСТОК, ЗЕЛЯНЕЙ...

У 1958 годзе ў Маскве выйшлі «Вершы» французскага паэта-камуніста Поля Элюара. У прадмове да кнігі Ілья Эрэнбург пісаў: «Вядома, вершы Элюара цяжкія для чытання... Элюар, асабліва ў канцы дваццатых гадоў, даходзіў да такой сцісласці, што некаторыя радкі, эмацыянальна кранаючы, уяўляюцца загадкавымі. Як многія іншыя паэты Францыі, узяў за прыклад Элюар Гійёма Апалінера і адмовіўся ў вершах ад знакаў прыпынку... Гэта ў сваю чаргу ўскладняе чытанне ягоных кніг. Паэзія Элюара вызначаецца аголенасцю, празаічнасцю. Вобразы, пафас, рыторыка, зразумела, успрымаюцца лягчэй. Лермантаў пісаў:

Есть речи — значенье
Темно иль ничтожно! —
Но им без волненья
Внимать невозможно.

Нікчэмнай паэзію Элюара назваць цяжка, але можна іншы раз прымяніць да яе эпітэт «цёмная», ды ўспрымаць яе без хвалявання сапраўды цяжка»,— так асцярожна знаёміў Ілья Эрэнбург з новай і нязвычнай для нашага чытача з'явай, як паэзія Поля Элюара.

Я ўспомніў і кнігу Элюара, і прадмову да яе Эрэнбурга, прачытаўшы новы зборнік паэм і вершаў Алеся Разанава «Шлях 360».

Вядома, я не сцвярджаю, што ў беларускую паэзію прыйшоў свой Элюар. Паўтарэнне, наогул, немагчыма. Але мы маем таленавітага, арыгінальнага паэта Алеся Разанава, які не падобны сваёй творчай манерай, сваім светаадчуваннем на іншых. Адчуваецца, што на паэта зрабілі значны ўплыў і Элюар, і Арагон, і Пабла Нэруда, і іншыя паэты так званага авангардысцкага кірунку. Не трэба «авангардызм» успрымаць насцярожана альбо з іроніяй. Гэтым шляхам ідуць сёння многія паэты Лацінскай Амерыкі, Іспаніі, Францыі, Польшчы, Югаславіі.

У «Лістках календара» Максіма Танка ёсць запіс, памечаны 1936 годам: «Паэзія наша ўсё яшчэ разві-

ваецца ў нейкай самаізаляцыі ад усіх сучасных авангардысцкіх напрамкаў, якія адмовіліся ад старых рыфмаў, дакучнай меладыйнасці, кананічнай логікі развіцця вобразаў». Тут не з усім можна пагадзіцца. Але трэба мець на ўвазе сцверджанні Танка, што «...сапраўдная авангардная літаратура перад усім мусіць быць рэвалюцыйнай». І яшчэ: «Павівальнай бабкай (для літаратуры.— *П. П.*) было і будзе — жыццё».

Справа не ў дэкларацыях экспрэсіяністаў і іншых авангардысцкіх школ, якія даўно забыліся, а ў рэвалюцыйнай і гуманістычнай накіраванасці лепшых новых паэтаў Захада, у іх паэтычных адкрыццях.

Сам Максім Танк у апошнія гады аддае перавагу верлібрам, якія спачатку не ўсімі сустракаліся прыхільна.

У аснове паэм і вершаў Алеся Разанава — жыццё, спрадвечныя чалавечыя пачуцці: любоў да маці, да прыроды, каханне, хвароба, пошукі ісціны, раздум'е пра мінулае людзей і іх будучыню, пра бясконцае змаганне дабра і зла, пра непазбежнасць смерці, пра тое, што ў жыцці ўсё ўзаемазвязана.

Па-за ўвагай паэта застаюцца будні факты, быт, а на першы план выступае «быціе». І тады голас паэта гучыць заклінаннем, прароцтвам, часамі залішне ўзвышана. Маналогі Разанава страсныя, пачуцці наслойваюцца адно на адно, словы збіраюцца ў незвычайных спалучэннях, перамешваюцца, як лісце пад ветрам. Часамі цяжка ўлавіць думку, акрэсліць пачуццё, якое захліснула паэта. Іншым разам гэта нават не думка, не пачуцце, а толькі кароткі ўсплёск пачуцця, намёк на думку. Асацыяцыі ў Разанава (а ён мысліць заўсёды асацыятыўна) нечаканыя, але ў большасці апраўданыя і дакладныя, хоць для разумення гэтага ад чытача патрэбны пэўныя душэўныя намаганні.

Асаблівая цікавасць для ўспрыняцця некаторых вершаў і мясцін з паэм Алеся Разанава ў тым, што вельмі многае застаецца па-за словамі, у падтэксце, ды і асацыяцыі бываюць занадта далекаватымі.

Адно не адмовіш Разанаву: у шчырасці пачуццяў, у іх значнасці. Тут няма падробкі. Увесь лад яго мыслення, розуму, пачуццяў, вобразаў — гуманістычны, звернуты адкрытым сэрцам да людзей. Паэт кож-

най тканкай свайго радка сцвярджае жыццё з яго складанасцю, радасцю і горам, з яго драмамі і трагедыямі. Часамі можа здасца, што ў кнізе замнога змрочных фарбаў, прадчування жыццёвых катастроф. Але гэта не зусім так. Гэта б'ецца пакутлівая думка паэта над вырашэннем вечных праблем чалавецтва:

Чаго мы хочам,
З-за чаго ідзём,
Чаму нідзе не можам прыпыніцца.

Тое-сёе ў паэзіі Алеся Разанава напамінае нам старажытныя «жития», даўнія прытчы, тэмы і матывы вялікіх паэтаў Усхода.

Таджыкскі паэт Рудакі тысячу гадоў назад таксама думаў, хто мы і куды ідзём. Ён пісаў:

Те, перед кем ковер страданий постлало горе,—
вот кто мы;
Те, кто скрывает в сердце пламень и скорбь во взоре,—
вот кто мы;
Те, кто игрою сил враждебных впряжен в ярем
судьбы жестокой,
Кто носится по воле рока в бурлящем море,—
вот кто мы.

Я далёкі ад таго, каб праводзіць нейкую аналогію. Іншая эпоха, іншы сацыяльны лад, іншы светапогляд. Але вечныя пытанні жыцця і смерці, дабра і зла застаюцца. І тут не патрэбна падыходзіць да паэта прадузята, з гатовымі формуламі і схемамі. Трэба ўважліва і добразычліва прачытаць *што* і *як* напісана паэтам у канкрэтным вершы, паэме.

Эмацыянальная сіла ўздзеяння паэзіі Алеся Разанава значная. Ёсць у вершах і паэмах гэтай кнігі і «цьмяныя» месцы, якія патрабуюць нібыта расшыфроўкі. Але мы не можам адмовіць паэту на права пошуку, эксперыменту.

Новае нараджаецца цяжка, не адразу даходзіць, выклікае нярэдка рэзкае адмаўленне, непрыняццё.

Успомнім, з якой насмешкай і пагардай ставіліся ў свой час да французскіх мастакоў-імпрэсіяністаў Мане, Дэга, Рэнуара. А цяпер?

Музыку Шастаковіча доўгі час «не разумелі». Некаторыя лічылі яе нават фармалістычнай. Цяпер гэта класіка, якую любіць увесь народ.

У штыкі спачатку ўспрымалі паэзію Маякоўскага, Пастарнака, не гаворачы ўжо пра Хлебнікава.

І зараз яшчэ пішуцца здзеклівыя пародыі на эксперыменты Андрэя Вазнясенскага, а яго ўжо чытаюць і любяць мільёны.

Некалі да Уільяма Фолкнера звярнуўся яго знаёмы: «Я прачытаў ваш раман «Шум і ярасць» пяць разоў і нічога не зразумеў. Што рабіць?» Вялікі амерыканскі пісьменнік адказаў: «Прачытайце шосты раз».

Гэта пра зразумеласць і даходлівасць.

Паэзія Алеся Разанава складаная, але той, хто цярпліва ўчытаецца ў яе, духоўна пабагацее.

А такая светлая паэма пра маці, як «У поцемках, з ліхтаром», на маю думку, успрымаецца чытачом адразу і з радасцю.

Мне здаецца, што з цягам часу паэзія Алеся Разанава стане больш простай, празрыстай, даходлівай. Аб гэтым сведчаць лепшыя творы з гэтай кнігі і пранiклівы зварот старога паляўнічага Сурмача:

Ты, сонца, свяці,
Ты, лісток, зеляней...

*1979*

## «АБАВЯЗКОВА ЎБАЧЫЦЬ НЕАБХОДНА...»

Ёсць у Міколы Аўрамчыка верш пра сваю малую радзіму — Бабруйшчыну:

Мая Бабруйшчына зялёная,
Здаешся іншым ты малой
З тваёй Бярэзінай хвалёнаю
І з непрыкметнаю Алой.

А мне заўсёды паўнаводнымі
Здаваліся іх берагі,
Былі твае мясціны роднымі,
Куток з маленства дарагі.

Я ведаю гэтую зямлю і таксама люблю гэты прыгожы куток. У 1933—1934 гадах я жыў, працаваў, вучыўся ў Бабруйску. Пасля заканчэння гадавых педкурсаў мяне накіравалі ў Плёсы — родную вёску Міколы Аўрамчыка. Вёска была вялікая і прыгожая, але каля яе не было лесу, а я вырас у лесе і без яго было сумна. Вярнуўся ў Бабруйск, і мяне накіравалі ў іншую школу, але і на новым месцы таксама вілася родная Аўрамчыку непрыкметная рэчка Ала. Дарэчы, у гады, калі я там настаўнічаў, Мікола прыслаў мне свае вучнёўскія і, трэба сказаць, неблагія для таго ўзросту вершы.

З тых пор прайшло больш як сорак гадоў. Мікола Аўрамчык зрабіўся вядомым паэтам, выдаў многа зборнікаў вершаў, і мы з ім даўно і добра сябруем.

У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібыта сканцэнтравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. У М. Святлова гэта «Гранада», у Я. Смелякова — «Калі я захварэю...», у С. Арлова — «Яго зарылі ў шар зямны» і г. д. У М. Аўрамчыка такім вершам я назваў бы «Беларускую сасну». Тут усё хораша: і думка, і сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу лірычнага героя, і любоў да роднай Беларусі з баравымі смалістымі соснамі. Але галоўнае — верыш шчыраму даверліваму голасу паэта. У гэтым увесь Аўрамчык з яго яснай паэзіяй, з любоўю да радзімы, да людзей працы, з вернасцю франтавому сяброўству, з няўтольнай прагай пабольш паездзіць па свеце, з яго добразычлівасцю да ўсіх народаў нашай неабдымнай Айчыны.

Варта пералічыць некаторыя назвы вершаў паэта: «Ленінград», «Ноч у Ташкенце», «Краявіды Запаляр'я», «Швачкам Сыктыўкара», «Дзякуй, Пяцігорск, табе за тое...», «Сустрэча з маткамі краснадонцаў», «Калі мы выступалі на Таймыры...», «Курскі салавей».

Мікола Аўрамчык пабываў, здаецца, ва ўсіх рэспубліках, у самых далёкіх кутках. Ён чытаў свае вершы ў Запаляр'і, у Сібіры, у Сярэдняй Азіі, у Грузіі. Сустракаўся з аленяводамі і будаўнікамі гідрастанцыі, з рабочымі, калгаснікамі, студэнтамі. І заўсёды пасля паездак мы чыталі новыя вершы паэта. Не турысцкія замалёўкі, не паэтычныя рэпартажы. Гэта была сапраўдная паэзія. Нам было цікава чытаць, як паэт «...па мосце на рацэ Урал пераходзіў з Азіі ў Еўропу», «...як тундрай праз Палярны круг пераходзіў пешкі ў Салехардзе». А пасля нечаканыя радкі: «Перайшоў я ў сваім жыцці ў другую палавіну веку...»

Вярнуўшыся з далёкіх дарог, паэт пільней углядаўся ў родныя твары землякоў, у жытнёвае поле, у сосны Беларусі. І пачыналіся блізкія дарогі ад Глуска да Краснага Берага, ад Радашковіч да Мсціслава альбо на Нёман, на Палессе. А то і яшчэ бліжэй па вуліцах і завулках новага Мінска.

Мікола Аўрамчык усёю душою любіць літаратуру і асабліва паэзію. Яму да болю родная тая зямля, тыя куткі, дзе жылі, пісалі Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў і Мікола Сурначоў. Сярод сучасных беларускіх, рускіх паэтаў і пісьменнікаў ды і літаратараў многіх іншых рэспублік у Аўрамчыка шмат сяброў. Таму і шмат вершаў са шчырымі прысвячэннямі.

Набліжаецца 60-годдзе таленавітага паэта. Зроблена шмат. Таму ён, «не трацячы лішняе хвілі», піша і піша свае светлыя радкі, без стомы вандруе, бо яму «абавязкова ўбачыць неабходна» і асветлена-ўрачысты твар сталявара, і старыя двары Мінусінска, і зорныя вежы Крамля, і дарогі роднага краю, і заўсёды любімыя сосны. Убачыць жыццё і быць у гэтым жыцці патрэбным людзям.

*1979*

# ДЗЕЦІ РОЗНЫХ НАРОДАЎ

Першага чэрвеня людзі нашай планеты адзначаюць Дзень абароны дзяцей. 1979 год аб'яўлены Міжнародным годам дзіцяці.

Дзень абароны. Год дзіцяці. Падумай, мой юны сябар, чаму добрыя людзі свету так заклапочаны тваім маленствам, тваім шчасцем. Справа ў тым, што яшчэ багата тваіх равеснікаў за межамі нашай краіны жыве ў горы і галечы, галадае і гіне ў пажарышчах вайны. Мільёны дзяцей вымушаны зарабляць на хлеб, працаваць па дзесяць — чатырнаццаць гадзін у дзень.

На маім стале ляжыць ачышчаны і высушаны какосавы арэх. Калі я гляджу на яго, заўсёды ўспамінаю маленькіх сяброў з Афрыкі.

Некалькі гадоў назад я зрабіў вялікае падарожжа на цеплаходзе «Эстонія». Адплылі мы з горада-героя Адэсы ноччу. Быў пачатак зімы. Грозна шумела Чорнае мора. Магутныя хвалі біліся ў барты.

На світанні мы наблізіліся да турэцкай зямлі. Прычалілі ў порце Стамбул.

У прыпартавых кварталах нас акружылі дзеці. Дзесяткі, сотні дзяцей. Смуглявыя, прыгожыя, але вельмі кепска апранутыя. Яны торгалі нас за рукавы, прасілі грошай, цыгарэт. Некаторыя хацелі прадаць нам нейкія драбніцы. Мы давалі ім цукеркі. Наша перакладчыца распытала некалькі хлапчукоў. Усе яны не хадзілі ў школу, таму што іх бацькі былі бедныя і не маглі заплаціць за вучобу. Мяне ўразіла ў горадзе мноства малых чысцільшчыкаў абутку. Ледзь ты спынішся, на нешта загледзішся, а твае чаравікі ўжо чысціць маленькі майстар, а потым працягвае руку, каб заплаціў.

Паплылі далей па Міжземным моры. Тут зімы не было. Горача свяціла сонца. Мора было спакойнае, ярка-блакітнае, а неба высокае, сіняе.

Мы спыніліся ў вялікім італьянскім горадзе Неаполі. Гэта адзін з самых прыгожых гарадоў свету. Недалёка ад горада высіцца вулкан Везувій. У моры цямнее востраў Капры, дзе калісьці жыў і пісаў кнігі хворы Максім Горкі. Туды да яго прыязджаў У. І. Ленін.

Каля неапальскага порта хлапчукоў яшчэ больш, чым у Стамбуле. І таксама ўсюды малыя чысцільшчыкі абутку, малыя гандляры. А крыку, гвалту, песень — хоць вушы затыкай.

На нейкай вуліцы я спыніўся і закурыў цыгарэту. Да мяне падбег хлопчык і папрасіў дзве цыгарэты для бацькі, які быў беспрацоўным. Я даў. І тут аднекуль няляцела яшчэ чалавек пятнаццаць, такіх жа чарнявых, галасістых.

У Канакры, сталіцы маладой рэспублікі Гвінеі, зусім іншая зямля, іншы клімат. Горача і душна. Усюды высокія пальмы і многа дзяцей.

Запомніліся афрыканскія школы. Аднойчы бачыў, як маленькія вучні займаліся пад велізарнай сейбай. Так завецца дрэва, крона якога разы ў чатыры шырэй за крону дуба. Хлопчыкі і дзяўчынкі сядзелі з грыфельнымі дошкамі і гучна паўтаралі нешта за настаўніцай. Каля адной дзяўчынкі прытулілася маленькая малпачка, яна сядзела ціха, не дурэла...

Бываў я і ў Францыі, Іспаніі і іншых краінах. Назіраў, як жывуць там дзеці. І заўсёды радуюся, што ў нашай краіне дзецям забяспечана шчаслівае маленства. «Усё лепшае — дзецям!» — гэта галоўны прынцып нашай сацыялістычнай краіны. Падумай толькі, на тваё выхаванне дзяржава выдзяляе мільярды рублёў у год! Для цябе пабудаваны дзіцячыя сады і школы, Палацы і Дамы піянераў, станцыі і клубы юных тэхнікаў, ёсць музычныя, спартыўныя, мастацкія школы, выпускаюцца газеты і часопісы. Часопіс «Вясёлка», які выдаецца для цябе,— гэта ж таксама клопат аб тваім выхаванні, тваёй адукацыі, аб тваім добрым настроі. І гэты нумар, які ты трымаеш у руках, пісьменнікі і мастакі Беларусі дораць табе.

Дык вучыся ж шанаваць сваё шчасце, беражы яго!

*1979*

## НАША СЛОВА ЛЯЦЕЛА Ў БЕЛАРУСЬ

У час Вялікай Айчыннай вайны я працаваў у франтавых газетах «За Савецкую Беларусь» і «За свабодную Беларусь» на Заходнім, Бранскім і Калінінскім франтах і ў армейскай газеце «Героический штурм» на Паўночна-Заходнім фронце.

Рэдакцыю франтавой газеты пасылалі на той фронт, які знаходзіўся бліжэй да Беларусі. Нашу газету самалёты перакідвалі за лінію фронту, на родную часова акупіраваную зямлю. Такія ж газеты друкаваліся і на ўкраінскай мове.

У газеце мы змяшчалі артыкулы, інфармацыю і г. д. Але многа было і вершаў, памфлетаў, фельетонаў, вострай сатыры. Гэта не выпадкова. У газеце працавалі Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Максім Танк.

Вялікай папулярнасцю карыстаўся сярод партызан верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам», надрукаваны ў нашай газеце.

«Ліст з палону» і «Над брацкай магілай» А. Куляшова, «Мы вернемся» М. Танка знаходзілі дарогу да землякоў, хвалявалі іх сэрцы, узнімалі на барацьбу.

Лепшыя вершы паэтаў мы друкавалі асобнымі лістоўкамі, і лётчыкі раскідвалі іх над Беларуссю. Лістоўкамі паляцелі і два мае вершы «Дарагая мая Беларусь» і «Мінску».

На Калінінскім фронце акрамя газеты мы выдавалі невялікі сатырычны часопіс «Партызанская дубінка», які спадабаўся воінам. Аб гэтым нам расказвалі партызаны, якіх вывозілі падлячыцца на Вялікую зямлю. Аднойчы мы ў «Партызанскай дубінцы» змясцілі карыкатуру з подпісам Кандрата Крапівы: «Гітлер хваліцца, а фрыцы валяцца». Партызаны выразалі гэтыя радкі, як пячаткі, і штампавалі імі развешаныя ўсюды загады немцаў.

На франтавых дарогах, а іншы раз у Маскве мы сустракаліся з украінскімі пісьменнікамі: А. Карнейчуком, В. Сасюрай, М. Бажаном, А. Малышкам, Л. Первамайскім, М. Нагнібедай і многімі іншымі. Я, тады яшчэ малады літаратар, з многімі пазнаёміўся ўпершыню. На мяне, ды і на ўсіх нас зрабілі

вялікае ўражанне вершы Андрэя Малышкі «Украіно моя».

У 1939 годзе я ўпершыню быў на Украіне. Праплыў на параходзе ўсё Дняпро. Быў у Кіеве, на Днепрагэсе, у Херсоне, Адэсе. Украінская зямля мяне назаўсёды зачаравала. І таму, калі рэдактар маёй армейскай газеты аднойчы выклікаў мяне ў сваю зямлянку і сказаў: «Нашы ўзялі Харкаў. Патрэбен верш»,— мне не трэба было нічога прыдумваць: Украіна была прад вачыма. Сапраўды, на рускай мове пісаць верш мне было цяжэй, але я напісаў ад сэрца.

Адважуся прывесці гэты верш поўнасцю, ён у Беларусі ні разу не друкаваўся.

### УКРАИНЕ

Тебя топтали конские копыта,
Тебя стегали сотнями плетей,
И пулями подкошенное жито
Роняло зерна в кровь твоих детей.

Мы помним, как Днепра седые волны
С тоской угрюмой провожали нас
И опаленный взрывами подсолнух
Смотрел сквозь дым, как одинокий глаз.

Кто хоть однажды Украину видел,
Кто воздухом ее хоть раз дышал,—
Ее надеждой, болью и обидой
Томиться будет у того душа.

Она то ветром залетит в землянку,
То вспыхнет над окопом, как заря,
То вспомнится пословицей крестьянской,
То строчкою бессмертной Кобзаря.

То тенью промелькнет далекой хаты,
То песней позовет в свои сады...
Да, требовали нашего возврата
Дней отступленья горькие следы.

И мы к тебе вернулись в полдень жаркий,
С горячих щек не отирая пот,
Чтоб на ходу промолвить:
«Здравствуй, Харьков!»
И дальше в путь, без отдыха вперед.

А журавли уже неслись на Сумы,
Курлыча над полтавскою вербой,
Как золотые солнечные сурмы,
Про час расплаты, про последний бой.

*1979*

# АД ІМЯ ПРАЎДЫ І ЛЮБОВІ

У вершы «Радаслоўная» Дзмітрый Кавалёў пісаў:

Мать русская, отец мой белорус,—
Я вновь,
Как в Киевской Руси, един,
Как та вода, что пьем,
Хлеб, что едим...

Таленавітаму рускаму паэту Дзмітрыю Міхайлавічу Кавалёву (1915—1977) арганічна ўласціва глыбокае пачуццё любові да Радзімы, агульнасці лёсу савецкіх людзей, братэрства і дружбы народаў. Ён заўсёды памятаў родныя карані, зноў і зноў вяртаецца да вытокаў («Время метит морщинами метко. Но шумит по-весеннему вечнозеленая Ветка»).

Ветка — невялікі горад на рацэ Сож. Прырода роднага Палесся, яе росныя травы, чыстыя рэкі і рэчкі, спеў птушак і ледзь чутны шэлест спелага жытняга поля будуць суправаджаць яго ўсё жыццё, час ад часу зноў ажываць у яго простых і мудрых вершах. Я назваў яго вершы простымі. Але гэта толькі здаецца, што яны простыя. Яны па-сапраўднаму глыбокія, напоўненыя шчырым праўдзівым пачуццём. Між іншым сам Кавалёў выказаў свой эстэтычны прынцып: «Серийное новаторство постыло. Душевную люблю я простоту». І робіць вывад: «Стой, простота! Ты мне далась не просто. И я без боя не отдам тебя».

Вершы Дзмітрыя Кавалёва трэба не толькі чытаць, але і часцей перачытваць. Тады адкрыецца чароўнасць яго такой чыстай, зямной, духоўна багатай паэзіі, напоўненай, як спелы колас, зернем, паўнацэнным рускім словам.

Вось пачатак верша «Созревшая земля», вельмі характэрнае для паэта:

Дрожащий жаворонок над жарью хлеба.
Сверкая, грозы навернулись на леса.
В селеньях детские,
как всплески, голоса.
Поющее и плачущее небо —
Вселенной широко открытые глаза,
Рассеянные вдаль бредут колосья.
Колотится, как сердце, тихий лист...

Але гэтыя вершы былі напісаны сталым майстрам, які прайшоў вялікую дарогу жыцця і, галоўнае, вайну...

А мая першая сустрэча з Дзмітрыем Кавалёвым у мяне была ў жніўні 1939 года, калі ён прыехаў ў Мінск на канферэнцыю маладых паэтаў. У нас была невялікая розніца ва ўзросце. І лёс падобны. Ён, як і я, быў вясковым настаўнікам. Я ўжо расстаўся са сваёй прафесіяй і пачаў працаваць у газеце «Літаратура і мастацтва». Я толькі што вярнуўся са сваёй першай творчай камандзіроўкі па Украіне і быў перапоўнены ўражаннямі, якімі і падзяліўся з маладымі, як і я, паэтамі (сярод іх, дарэчы, быў Іван Мележ, які пісаў у юнацтве вершы). Дзіма Кавалёў запомніўся незвычайнай сур'ёзнасцю (гэта рыса ў яго захавалася на ўсё жыццё: ён заўсёды сур'ёзна і сурова ставіўся да паэтычнай працы, быў праўдзівы, сумленны і бескарыслівы, даражыў сяброўствам і праяўленнем нават невялікай, але шчырай увагі).

Хударлявы, чарнявы і энергічны хлопец з Палесся мне спадабаўся, і мы хутка сышліся. Разумелі адзін аднаго з паўслова, чыталі вершы, расказвалі пра свае школы, былі перапоўненыя ўпэўненасцю і аптымізмам.

Мы былі больш ці менш палітычна «падкаванымі», горача разважалі пра фашызм, пра вайну, якая ідзе на захадзе. Але тады ніхто з нас не думаў, што ўжо праз месяц я апрану салдацкі шынель, а яшчэ праз год ён — марскі бушлат.

Зноў сустрэліся мы з Дзмітрыем Кавалёвым пасля Айчыннай вайны. Як і ўсе мы, ён у нечым змяніўся: зрабіўся яшчэ больш строгім, праўдзівым да рэзкасці. Не любіў пустапарожніх размоў. Запомнілася яго цяльняшка, у якой ён доўга хадзіў па Мінску.

Усе мы тады жылі ўспамінамі пра вайну, пра баявых сяброў. Пра гэта былі і нашы лепшыя вершы. Мы знайшлі сябе як паэты на вайне.

Дзмітрый Кавалёў служыў марскім пехацінцам на Паўночным флоце, плаваў на падводнай лодцы. Ён напісаў моцныя вершы пра баі, пра ваенных маракоў, пра вернасць і подзвіг. Напісаў праўдзіва, таму што ўсё перажыў сам.

Вось пра першыя страты:

От всей заставы
Пятеро осталось. 1,36
И не сознанье подвига —
Вина.
В глазах —
Тысячелетняя усталость.
А только-только
Началась война.

Адзін з лепшых вершаў таго часу — «Вечера на высоте» — пра тое, як ворагі на вышыні хрыбта сівога спалілі чырванафлотца, якога спачатку распялі на крыжы.

«Мы были сами тем огнем палимы»,— піша Д. Кавалёў. І гэта праўда.

І яшчэ адну рысу паэзіі Дзмітрыя Кавалёва я хачу адзначыць, вызначыўшы яго адным словам: Любоў — Любоў да роднай зямлі, да яе палёў, дрэў і траў. Любоў да родных людзей, баявых таварышоў. Любоў да жонкі і сыноў. І ўсё гэта не гучна, гранічна шчыра:

Люблю — и, значит, я живу,
Еще живу, пока люблю...

Дзмітрый Кавалёў сваё недажыў, недалюбіў. Але два дзесяткі кніг яго паэзіі, кніга добрых крытычных артыкулаў — будуць жыць доўга. А мы, беларускія паэты і празаікі, будзем заўсёды ўдзячны цудоўнаму паэту і чалавеку за пераклады нашых твораў.

*1980*

# ЗОРКА ПАЭЗІІ НАРОДНАЙ

Бывае такое шчаслівае спалучэнне, калі гістарычныя даты ў жыцці народа супадаюць з біяграфіяй мастака. Тады і з'яўляюцца высокія ўзлёты творчасці, сапраўдныя азарэнні. Так здарылася з народным паэтам БССР Петрусём Усцінавічам Броўкам.

Ён парадзіўся ў 1905 годзе. А я цвёрда веру, што ўсялякія ўзрушэнні ў народным жыцці (рэвалюцыя, вайна, акупацыя, голад, вызваленне, радасць перамогі) пакідаюць у душы чалавека свае меткі, свае зарубкі. Нават у душы малога дзіцяці. А тым больш у сэрцы паэта.

Паэтам яго зрабіла родная ўшацкая зямля. Броўка піша ў аўтабіяграфіі: «Вельмі прыгожыя мясціны вакол роднай вёскі. Неабдымны на дзесяткі кіламетраў дрымотны сасновы бор, вузенькая, гаманлівая рачулка Ушачка, якая пятляе па лугах і агародах, невялічкае возера, каля якога таямніча гуў вадзяны млын». І далей: «Дзяцінства маё было такім самым, як ва ўсіх дзяцей сялянскай беднаты. З малых год кавалак хлеба не даваўся дарма... Спачатку пасвіў гусей, пасля авечак, а пазней кароў. Вадзілі коней на начлег. Нялёгка было, часамі хацелася пагуляць з аднагодкамі, а даводзілася ад цёмнага да цёмнага сачыць за статкам. Але колькі было ў гэтым прыгажосці! Да гэтага часу памятаюцца бясконцыя сцежачкі і дарожкі на лугах і палях вакол роднай вёскі, задумлівы гоман сасновага лесу, баравыя астравы сярод бяздоння адвечных балотаў. Безліч птушыных галасоў, напевы ветру, шум калматых ялін, нават шэпт лугавых траў навечна напоўнілі сэрца. А песні веснавых жней!»

Як гэта мне ўсё знаёма, блізка. Мая Бягомльшчына ляжыць па-суседству з яго Ушаччынай, хоць маё маленства прайшло ў паслярэвалюцыйны час, больш светлы і заможны.

Мы не выхваляліся адзін перад другім сваімі роднымі мясцінамі: яны былі падобныя, аднолькава чароўныя. Ды яму і самому добра былі вядомы ўсе дарогі і сцежкі каля Бягомля: ён у маладосці сотні разоў перамерыў іх уласнымі нагамі.

У адным з вершаў Пятрусь Броўка піша:

Яшчэ між межаў і паўзмежкаў
Стыў шэпт сярпа
і звон касы,
Мы па адных хадзілі сцежках,
Хоць трошкі ў розныя часы.
Ты прыгадай сцяжынкі тыя,
Калі — усё ішло ў руку...
Лясы ля Бегамля грыбныя,
Бярозу —
рыбную раку...
Згадай куточак небагаты
Лясной пявучае зямлі
І тыя хаты,
тыя хаты,
Што нам прытулкамі былі.

Дзевяцігадовым хлопчыкам ён сустрэў імперыялістычную вайну. Ён з маленства зведаў народнае гора і «па складах пісаў пад дыктоўку непісьменных салдатак пісьмы мужыкам на фронт». Пазней ён напіша важкую і гнеўную паэму пра гэта — «1914».

Ён памятаў Лютаўскую рэвалюцыю. Дванаццацігадовым сустрэў Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю. Трынаццацігадовым хлопчыкам паступіў на працу ў Вяліка-Далецкі валасны ваенны Камісарыят. Працаваў у валасным выканаўчым камітэце, у саўгасе, быў на камсамольскай і газетнай працы. Адным словам прайшоў усю «нізоўку». Затым вучоба ва ўніверсітэце і дзесяткі гадоў напружанай літаратурнай працы. Ён выдаў вельмі многа кніг паэзіі. А былі раман, аповесці, апавяданні, нарысы, баявая публіцыстыка.

Пятрусь Усцінавіч Броўка пражыў вялікае і яркае жыццё. Ён аб'ездзіў многія рэспублікі Савецкага Саюза, шмат разоў быў за мяжой. Але заўсёды і ў мірныя часы, і на фронце, дома і за мяжой ён ніколі не забываў родныя сялянскія хаты. Свае азёры і сваю Ушачку, жыта, сосны і Наддзвінскія лясы. Але галоўнае, ён ніколі не траціў сувязі з родным народам. Ён ведаў жыццё свайго народа, жыў яго справамі і марамі, за гэта і любяць яго савецкія людзі.

У яго паэзіі і прозы — сотні герояў — літаратурных, заўсёды праўдзівых і новых, і тых, з якімі яму давялося дружыць ці якімі ён захапляўся: Арлоўскі і Паўлоўскі, Смалячкоў і Даватар і многія, многія іншыя.

Нядаўна мне давялося прачытаць яго рукапіс апошняй кнігі вершаў у перакладзе на рускую мову, якую ён рыхтаваў да друку незадоўга да смерці.

Кнігу Пятрусь Усцінавіч назваў «Выток майго лёсу». Усё, што мы ведалі з яго ранейшых вершаў, паэм, аповесцей, паўстае ізноў у новым скандэнсаваным выглядзе, з вышыні ўзросту, з велізарнага жыццёвага і паэтычнага вопыту, азораным яго мудрасцю, чалавечнасцю і любоўю.

Дык дзе ж той выток яго лёсу?

Перш-наперш — родная зямля, родны народ.

Пятрусь Усцінавіч Броўка — адзін з самых адукаваных і культурных нашых паэтаў, заўсёды захапляўся навукова-тэхнічнай рэвалюцыяй, касманаўтамі, паветранымі лайнерамі, высокім мастацтвам. Але ён славіў хлеб і працу калгасніка, лясных птушак і бульбу, талаку і соль, рамонкі і грыбы. Усялякая пара года была для яго любай. Па-другое: Рэвалюцыя, Ленін, Камунізм.

Чалавек і камуніст, паэт і камуніст — для Броўкі гэта самае высокае прызначэнне ў жыцці, яго лёс. Гэта самы партыйны паэт у нашай шматмоўнай літаратуры. Броўка быў чалавекам прынцыповым заўсёды і ўсюды.

У творчасці Петруся Броўкі вера, надзея і любоў да савецкай Радзімы, пачуццё гордасці за свой народ, за адважных савецкіх салдат, якія здабылі перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне.

Вядома, Броўка быў вялікім аптымістам. Але ім жа напісана шмат горкіх і журботных радкоў пра смерць франтавых сяброў, пра гора зруйнаванай Беларусі, пра гібель роднай маці ў фашысцкім лагеры смерці.

Яшчэ адзін немалаважны выток лёсу паэта — гэта яго настаўнікі Янка Купала і Якуб Колас. Броўка і раней прысвячаў вершы нашым вялікім настаўнікам. Але ў апошняй кнізе надзвычай прачула напісаны верш «Ляўкі», пра тое, як ён месяц гасцяваў у Янкі Купалы. І Янка Купала ў публіцыстыцы ваеннага часу заўсёды з павагай успамінаў франтавую паэзію Петруся Броўкі.

**Купала і Колас,**
**Вы нас гадавалі...**

— піша Броўка ў вельмі прачулым вершы. Любоўю адказвалі Броўку і нашы славутыя класікі. Якуб Колас прысвяціў Петрусю Броўку некалькі вершаў. У адным з іх Колас піша:

Памяну шчырым словам Пятруся —
Петрусёк галубок, пабажуся,
Што і сэрца маё і душа мая ўся,
Ну, ляжыць да цябе, Петруся.
І люблю я цябе, паважаю.
Няхай будзе ў паэзіі больш ураджаю!

І трэба з гордасцю сказаць, што броўкаўскі паэтычны ўраджай надзвычайна багаты. Шчырасцю, праўдай, значнымі думкамі прасякнуты зборнікі вершаў Петруся Броўкі: «Вясна Радзімы», «Шляхамі баравымі», «У роднай хаце», «Дарога жыцця», «Цвёрдымі крокамі», «Пахне чабор», «А дні ідуць», «Высокія хвалі», «Між чырвоных рабін», паэмы: «Праз гора і стэп», «Паэма пра Смалячкова», «Беларусі», «Ясны кут», «Хлеб», «Заўсёды з Леніным», «Голас сэрца», «Марат Казей» і іншыя шырока вядомыя творы паэта.

Пятрусь Броўка пісаў у 1975 годзе:

Вазьмі маё сэрца, таварыш,
І смела па свеце вандруй,
І хай твае збудуцца мары,
Ды толькі свайго не шкадуй!

Палымянае сэрца паэта, яго сонечную паэзію наш народ узяў на ўзбраенне. Літаратурная спадчына Петруся Броўкі — наша нацыянальная гордасць. Яе трэба берагчы, выдаваць, вывучаць.

На сённяшнім вечары хочацца ўспомніць, што сябрамі Броўкі былі самыя выдатныя пісьменнікі Савецкага Саюза, пачынаючы ад Шолахава, Ціханава, Ісакоўскага, Твардоўскага, Эрэнбурга, Пракоф'ева, Святлова, Сіманава.

Броўка быў сапраўдным інтэрнацыяналістам, і яго ўсюды сустракалі, як самага жаданага госця. Мне некалі давялося з ім паездзіць: на Украіну, у Закарпацце, на Каўказ, у Грузію, у Ленінград і Ташкент, дзе нас разам з узбекамі трасло землетрасенне. І заўсёды, дзе з'яўляўся Пятрусь Усцінавіч, узнікала добрая сяброўская гаворка, да яго ўсе ставіліся з павагай і любоўю.

На сямідзесяціпяцігоддзі Петруся Броўкі яго ўжо няма паміж нас.

Але ў нашых сэрцах яшчэ гучыць яго незабыўны голас, мы бачым яго абаяльны воблік. І мы ўдзячны яму за паэтычны подзвіг паэта — камуніста, вялікага грамадзяніна савецкай зямлі, выдатнага песняра Беларусі!

*1980*

## ПАЭТЫЧНЫ МОСТ

Рыгор Барадулін — адзін з самых таленавітых беларускіх паэтаў. Першыя свае вершы Барадулін надрукаваў у 1954 годзе (яны ўвайшлі ў зборнік «Маладзік над стэпам»). Ён прыйшоў у беларускую паэзію са сваімі тэмамі, з удумлівым непаўторным голасам, з яркай метафарычнасцю. Малады паэт працаваў з сябрамі-студэнтамі на казахстанскай цаліне. Яго вершы гэтай пары дыхаюць маладосцю, здзіўленнем, хараством працы, дружбы, кахання. Вялікі стэп, вялікае неба, вялікая цішыня.

А прывыкнуць да гэтай цішыні Барадуліну, сыну беларускага партызана, было цяжка: у часе Вялікай Айчыннай вайны ён наслухаўся выбухаў мін, снарадаў і бомбаў, пабачыў многа смерці. Малым хлапчуком ён быў з маці ў партызанскім лесе, галадаў і халадаў у блакадзе, акружаны, як і яго аднавяскоўцы, фашысцкімі карнікамі. Ён быў сведкам мужнасці савецкіх патрыётаў. У часе блакады загінуў яго бацька. А каб не згубіцца ў лесе, ён клікаў маці па імені — Куліна. Сваёй матулі — партызанцы, ён прысвяціў многа прачулых вершаў і ўсхваляваную паэму «Куліна».

Барацьба з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, патрыятызм і гераізм савецкіх людзей — асноўныя тэмы творчасці Рыгора Барадуліна. Выдадзены больш пятнаццаці кніг лірыкі, паэмы «Блакада», «Куліна», «Неба яе вачэй», «Балада Брэсцкай крэпасці» і шмат іншага. Глыбокае пранікненне ў пачуцці і думкі сучасніка, праўда і аптымізм, любоў да роднай зямлі, да сваёй радзімы, да свайго лесу, брацкая прыязнасць да іншых народаў, сапраўднае веданне жыцця, высокая культура творчасці і багатая сакавітая мова — зрабілі паэзію Рыгора Барадуліна значнай з'явай не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй савецкай паэзіі.

Сталеў паэт, сталелі яго жыццёвы вопыт і майстэрства. Вандроўныя дарогі павялі Барадуліна на Далёкі Усход, на Енісей, у Латвію, Таджыкістан і іншыя рэспублікі. Ён адкрываў для сябе нанова планету людзей. У гэтыя гады паэт пачаў актыўна займацца перакладамі паэзіі з рускай, украінскай, латышскай, літоўскай, польскай моў. Асаблівую любоў

і нейкае прыцягненне Барадулін адчуў да іспанамоўнай паэзіі. Ён выдатна перакладае і выдае на беларускай мове кнігі паэзіі Федэрыка Лоркі, Пабла Нэруды, цікавіцца паэзіяй Кубы.

Адной з прычын цікавасці да Кубы (акрамя ўсеагульнай любві савецкіх людзей да рэвалюцыйнага вострава Свабоды) быў прыезд у Мінск легендарнага Фідэля Кастра. І яшчэ канкрэтней: сустрэча Фідэля з кіраўнікамі беларускіх партызанскіх брыгад і злучэнняў. Герой Савецкага Саюза Уладзімір Елісеевіч Лабанок(зараз намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР) быў у гады вайны камандзірам вялікага партызанскага злучэння на радзіме Рыгора Барадуліна. Дык вось, Уладзімір Елісеевіч Лабанок падарыў тады свой баявы партызанскі пісталет Фідэлю Кастра. Пра гэта напісаў Рыгор Барадулін.

Перад новым, 1980 годам паэт ляціць да Кубы. Велічны Атлантычны акіян, і, нарэшце, «дзяржава гарласта-пярэстая», Гавана ў начных агнях — пералівістая галактыка.

Куба, яе слаўныя людзі, іх рэвалюцыйны настрой, новыя фарбы, музыка, гарачэйшы рытм жыцця зрабілі вялікае ўражанне на беларускага паэта. Усё гэта вылілася ў вялікі цыкл вершаў «Маяк Гаваны». У вершах Барадуліна нібыта ўлілося шчодра сонца тропікаў, зашалясцелі кубінскія пальмы, павеяў пругкі вецер Карыбскага мора.

Рыгор Барадулін першы праклаў паэтычны мост паміж рэвалюцыйнай Кубай і партызанскай Беларуссю.

*1980*

## СВЯТЫНЯ

З імем вялікага Леніна звязана ўсё наша жыццё. Ён арганізаваў Камуністычную партыю, падрыхтаваў і давёў да перамогі Кастрычніцкую рэвалюцыю. Яго глыбокія, бяссмяротныя ідэі натхнялі нас, калі мы будавалі сацыялізм, калі перамагалі фашысцкага ворага і цяпер, калі мы будуем камунізм.

Саркафаг з целам Уладзіміра Ільіча Леніна ўстаноўлены ў велічным Маўзалеі на Краснай плошчы ў Маскве. Спачатку ён быў драўляны. У 1929—1930 гадах паводле праекта акадэміка Шчусева збудавалі маўзалей з граніту, мармуру, лабрадату і парфіру житомірскімі, уральскімі і карэльскімі майстрамі. У збудаванні Маўзалея ўдзельнічалі і беларускія майстры з вёскі Грабаўка Гомельскай вобласці.

Для савецкіх людзей Маўзалей Ільіча — найвялікшая святыня. Кожны з нас, калі бывае ў Маскве, імкнецца наведаць Маўзалей і пакланіцца праху правадыра.

Я ўпершыню наведаў Маўзалей у снежні 1938 года. З таго часу, бываючы ў Маскве, я заўсёды іду на Красную плошчу да Маўзалея.

У апошні раз наведаў яго ў 1976 годзе ў часе шостага з'езда пісьменнікаў СССР. Дэлегаты з'езда ўсклалі вянок да Маўзалея. Быў пагодны чэрвеньскі дзень, ярка свяціла сонца. Нерухома стаяла ганаровая варта. Ва ўсіх нас быў урачысты і крыху журботны настрой. Са мной быў унук Андрэйка. Значна раней сюды я вазіў і малога сына. Мы пакланіліся Ільічу, а пасля павольна ішлі каля Крамлёўскай сцяны і чыталі імёны пахаваных тут праслаўленых рэвалюцыянераў, дзяржаўных дзеячаў, маршалаў, касманаўтаў. Пра тое, што я тады думаў і адчуваў, пазней напісаў верш.

*1980*

## ДЫХАННЕ ЧАСУ

Добрыя, шчырыя вершы — лепшая аўтабіяграфія паэта. У вершы «Выток» вядомы беларускі паэт Генадзь Бураўкін гаворыць, што было вытокам яго гарэння і відушчасці, гордасці і натхнення:

І ясна бачым праз дымы
Чырвонай гвардыі вінтоўкі
І партызанскія ватоўкі
І добра ўсведамляем мы,
Чые — сыны, чые — патомкі...

Дзеці вайны, тыя, хто сустрэў Дзень Перамогі дзевяці-дзесяцігадовымі, сыны і дочкі франтавікоў і партызан, добра ведаюць, што такое народнае гора, смерць, жах акупацыі, голад і холад.

Цяпер нават няёмка ўспамінаць пра дзіўныя спрэчкі: ці могуць праўдзіва напісаць пра вайну тыя, хто непасрэдна не ўдзельнічаў у баях? Так, могуць. І напісалі. Бо іх дзіцячая памяць пра вайну дакладная, праўдзівая і бязлітасная.

Генадзь Бураўкін з гэтага пакалення. Ён успамінае, як у гады акупацыі ён і яго малыя аднагодкі з рагатак «па партрэту Гітлера лупілі, што на хаце старасты вісеў». Пазней ён напіша моцныя вершы «Бязбацькавічы» і «Хатынскі снег». «Страчылі кулямёты па агню, па стогнах і плачу. Радзеў і падаў ахрыплы пакутны крык. І вось застаўся адзін толькі енк дзіцячы. Але і ён пахіснуўся і знік» — гэта з «Хатынскага снегу». Але Генадзь Бураўкін — паэт не ваеннай тэмы. Ён увесь у сённяшніх зямных клопатах. Горкая памяць вайны толькі нібыта падсвечвае яго вершы, нават інтымныя і пейзажныя.

Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта Г. Бураўкін многія гады працаваў журналістам, быў карэспандэнтам «Праўды» па Беларусі, уздоўж і ўпоперак аб'ездзіў рэспубліку, бачыў яе бурнае развіццё і будаўніцтва. Ён напісаў цікавыя вершы пра Полацк, пра нараджэнне гіганта нафтахіміі. Дарэчы, полацкая зямля — радзіма паэта. Пазней Бураўкін працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», і тэма камсамольскага юнацтва займае значнае месца ў яго творчасці. Ён сам сказаў:

Я — твой трубач, таварыш камсамол...

Будучы ўдзельнікам Сусветнага фестывалю моладзі ў Хельсінкі ў 1962 годзе, тады яшчэ дваццацішасцігадовы паэт адчуў не толькі дружбу маладосці ўсёй планеты, цеснае сплячэнне адданых рук, але і варожасць недабіткаў фашызму. Вершы яго ўзнімаюцца да публіцыстычнай завостранасці з дакладна расстаўленымі акцэнтамі.

У Генадзя Бураўкіна ясны погляд на жыццё, выразная ідэйная і грамадзянская пазіцыя, абвостранае пачуццё пераемнасці пакаленняў. Ён ўпэўнены, што «і марай свяшчэннаю самай у сэрцах надзея гарыць, што нас не ўпікнуць камісары — суровыя нашы сябры». І зусім не дэкларацыяй, а глыбокім перакананнем гучаць словы ў вершы «Я — камуніст...»:

Я — камуніст.
І не люблю хавацца.
Ды я прыйшоў пад Ільічовы сцяг
Не для таго,
Каб глухнуць ад авацый —
Каб несці рэвалюцыі працяг.

Адгэтуль нецярпімасць паэта да ўсялякай няпраўды, фальшу, прыстасаванства, праяўлення мяшчанства, падхалімства, раўнадушша. У вершы «Кампрамісы» Г. Бураўкін піша:

І ўжо ўсучыць лаўчыцца вораг
Свае паскудныя дары.
І ўжо сырэе гнеўны порах.
І ўжо тупеюць тапары.
А потым будзе кроў дыміцца,
Удараць боты па касцях...
Ах, кампрамісы,
кампрамісы!..
І рукі выпускаюць сцяг...

Гэтая ідэйная перакананасць дапамагае паэту, пазбягаючы схемы і зададзенасці, убачыць свет такім, які ён ёсць,— у цяжкіх супярэчнасцях, бедны і багаты, жорсткі і ласкавы, неспакойны, бурлівы, які штодзённа змяняецца, крывавы і пагрозны, але ў той жа час прыгожы, шматфарбны і чалавечны. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчаць вершы Бураўкіна, напісаныя пасля паездак у Балгарыю, Югаславію, Злучаныя Штаты Амерыкі (паэт быў у складзе дэлегацыі БССР на XXXI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку ў 1976 годзе).

Вядома, паэзія Генадзя Бураўкіна развівалася не ізалявана ад руху беларускай і ўсёй савецкай паэзіі. Яму блізкія тэмы, думкі, пачуцці, нават фармальныя пошукі такіх паэтаў, як Яўген Яўтушэнка, Роберт Раждзественскі ў Расіі, Барыс Алейнік, Іван Драч, Віталі Кароціч на Украіне. Нават некаторыя фармальныя збыткаванні не абышлі яго («Эцюд рэўнасці», «Снежная імпрэсія», «Мінскі трыпціх»). Але такія цыклы вершаў, як «Лісты ў Ленінград», «Чатыры песні пра Эрнеста Чэ Гевару», «Паэма расстання» (Памяці Юрыя Гагарына), пазначаны непадробнай сур'ёзнасцю і глыбінёй. Асабліва прыкметна сталасць паэта ў яго апошняй кнізе «Варта вернасці», а паэма «Ленін думае пра Беларусь» — вялікі поспех беларускага паэта.

Але якой бы ні прывабнай была пазіцыя паэта, якімі б ні дакладнымі былі ў яго прыкметы часу і пачуцці яго сучаснікаў,— усё, нарэшце, вырашае тое, *як* напісаны вершы, ці ёсць у іх свежы погляд на свет, ці ёсць «Лица не общее выраженье»? І тут я магу з усёй пэўнасцю сказаць: так, у Генадзя Бураўкіна ёсць свой голас, ёсць свой погляд на жыццё. Яго паэзія аптымістычная, жыццесцвярджальная, пранізаная нацыянальным каларытам, яркай вобразнасцю і свежасцю думкі.

У Г. Бураўкіна многа цудоўных вершаў пра родную Беларусь, полацкую і віцебскую зямлю, пра любімыя рэкі, лясы і птушак («Каб я не быў чалавекам, я б жаўранкам быў...»). Калі восенню агаляецца лес, у яго на галінах застаецца не жоўтае лісце, а апошнія прамені сонца (верш «Далей ад павучальных лекцый...»).

Паэзія Г. Бураўкіна бывае і пафасная, але і вельмі часта зямная, ціхая.

Вершы Г. Бураўкіна ў нас вельмі любіць моладзь. І гэта натуральна. Яго стыхія — лірыка, а галоўныя тэмы — радасць жыцця, працы, прыгажосць чалавека, чыстае вернае каханне, без сентыментальнасці і саладжавага сюсюкання. Паэт можа прапікнёна сказаць:

Ах, незнаёмка, незнаёмка,
Неспадзяваная бяда!
І прыпыніць цябе няёмка,
І адпусціць цябе шкада.

Генадзь Бураўкін за чвэрць веку творчай працы выдаў больш дзесяці зборнікаў вершаў і паэм.

То праніклівы лірык, то востры палеміст і выкрывальнік, то задуменны, то выбуховы, але заўсёды шчыры і праўдзівы, улюбёны ў родную зямлю, у савецкіх людзей, у наш неспакойны час, ён актыўна прылучаны да жыцця і да паэзіі...

Адну з сваіх кніг Генадзь Бураўкін назваў «Дыханне». У яркіх і самабытных яго вершах і паэмах сапраўды адчуваецца гарачае дыханне нашага жыцця, нашага часу. І я спадзяюся, што новая сустрэча з ім будзе для ўсесаюзнага чытача радаснай.

*1981*

## ЗВОНКІ І ЧЫСТЫ ГОЛАС

Генадзь Пашкоў з пакалення беларускіх паэтаў, якія нарадзіліся праз некалькі год пасля перамогі. Яго радзіма — Віцебшчына, легендарны партызанскі край, дзе загінуў кожны трэці з насельніцтва вобласці. Ды і бацька Генадзя — партызан, які памёр ад старых ран ужо ў мірны час.

Генадзь Пашкоў закончыў БДУ імя У. І. Леніна, працаваў па пуцёўцы камсамола на будоўлях у Казахстане, зараз — намеснік галоўнага рэдактара рэспубліканскага літаратурна-мастацкага часопіса «Полымя».

Ён увайшоў у беларускую паэзію молада і ўпэўнена. Усе звярнулі ўвагу на яго звонкі і чысты голас, поўны захаплення цяжкім і складаным, але такім цудоўным жыццём.

Ад першых вершаў аб бацьку, аб спелым жыце, аб кляновым соку, аб каханні, аб цудоўных вясновых жаўранках і сумных жураўлях да такіх вершаў, як «Я стаў камуністам» і паэма «Дзяўчынка з блакітным мячыкам» — уся паэзія Генадзя Пашкова напоена свежымі фарбамі і гукамі роднай зямлі, шчырымі пачуццямі нашага маладога сучасніка, упэўненасцю і аптымізмам.

Генадзь Пашкоў, бясспрэчна, таленавіты паэт. Ён ужо выдаў дзве кнігі вершаў (адна з іх на рускай мове), напісаў пяць невялікіх лірычных паэм. Апошняя паэма «Дзяўчынка з блакітным мячыкам» — гэта ўжо сталае разуменне міру, лёсу нашай планеты. Памацнела думка, узрасло майстэрства, але засталася юнацкая непасрэднасць і па-вясноваму яскравыя фарбы.

*1980*

## ЗГАДКІ І ВІНШАВАННІ

Перад Новым годам, у снежні, мне давялося двойчы пабываць у дарозе. З Максімам Танкам і Нілам Гілевічам мы былі дэлегаваны ў Маскву на пяты з'езд пісьменнікаў РСФСР. Масква, як ніякі іншы горад, заўсёды выклікае хваляванне і шматлікія ўспаміны. Зноў мы ішлі па Краснай плошчы каля велічных сцен Крамля, каля Маўзалея. З'езд пачаўся ў Вялікім Крамлёўскім Палацы. На адкрыцці прысутнічалі кіраўнікі партыі і ўрада. На з'ездзе важка прагучалі словы пра вялікую адказнасць пісьменнікаў перад народам за свае творы.

А пасля мы сустракаліся з многімі дарагімі сябрамі. Была цёплая сустрэча і з нашым старым франтавым другам Якавам Хелемскім. Мы пасябравалі ў сорак першым на Бранскім фронце.

У сённяшняй праднавагодняй Маскве мы ўспаміналі пра цяжкія асеннія бai на Бранскім фронце. А развітаўся я з Якавам у снежні ў горадзе Яльцы, дзе тады знаходзіўся штаб фронту і куды я прыехаў атрымаць у палітупраўленні картку кандыдата ў члены КПСС.

Рэдакцыю франтавой газеты «За Савецкую Беларусь» Галоўнае Палітычнае ўпраўленне Чырвонай Арміі адклікала ў Маскву. Мы ехалі ў таварным вагоне. Ад злоснай сцюжы сорак першага года ратавала «буржуйка». На станцыі «Леў Талстой» (былое Астапава) мы дружна выбеглі, каб паглядзець, дзе скончыў свой жыццёвы шлях Леў Мікалаевіч.

Новы, 1942 год мы сустракалі пад'язджаючы да сталіцы. Нягледзячы на перанесеныя гора і пакуты, у нас быў прыўзняты настрой: толькі што разбілі немцаў пад Масквой. З хваляваннем я ўспамінаю яшчэ маладыя тады твары Кандрата Крапівы, Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Васіля Барысенкі, Алеся Кучара, Алеся Стаховіча і яшчэ больш маладога Максіма Танка. Мы стаялі цесным кругам вакол распаленай да чырвані «буржуйкі» і ўзнімалі тосты за гераічную Чырвоную Армію, за родную Беларусь, якая пакутавала пад фашысцкай навалай.

I вось праз чатыры дзесяцігоддзі я пасылаю навагодняе прывітанне і віншаванне нашаму франтавому

другу Якаву Хелемскаму, паэту і выдатнаму перакладчыку з нагоды прысуджэння яму Дзяржаўнай прэміі БССР.

Якаў Хелемскі — пастаянны і нязменны друг беларускай савецкай паэзіі. Любоў да нашай рэспублікі, да нашага народа, добрае веданне беларускай мовы, высокая паэтычная культура — трывалая аснова выдатных поспехаў рускага перакладчыка. Ён пераклаў многіх беларускіх паэтаў, але асабліва часта і ўдала Петруся Броўку, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка і аўтара гэтых радкоў. Калі паставіць на паліцы кнігі беларускіх паэтаў, якія пераклаў Хелемскі, атрымаецца значная бібліятэка. Вяршыняй майстэрства паэта-перакладчыка з'яўляюцца многія славутыя вершы Аркадзя Куляшова. За кнігі «А дні ідуць...» і «Нарачанскія сосны», перакладзеныя Якавам Хелемскім на рускую мову, Пятрусь Броўка і Максім Танк удастоены Ленінскай прэміі.

Для Хелемскага характэрна не проста пераклад, а ўменне адшукаць раўназначнае гучанне на рускай мове, не пагаршаючы яркасці, своеасаблівасці і свежасці арыгінала.

Шчасця і здароўя табе, дарагі друг!

Бліжэй да Новага года быў я сёлетнім снежнем і ў другім падарожжы: ездзіў з маладзейшымі сябрамі Р. Барадуліным, Г. Бураўкіным, С. Законнікавым на Віцебшчыну, каб прыняць удзел у творчым вечары Васіля Быкава (дарэчы, вечар прайшоў з незвычайным поспехам).

Мне давялося пабываць на гераічнай партызанскай Ушаччыне, на Лепельшчыне і Полаччыне, якія далі літаратуры такія таленты, як Пятрусь Броўка і Еўдакія Лось, Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін і Сяргей Законнікаў і яшчэ многіх.

Мы сустрэліся з вельмі цікавымі людзьмі. Партыйныя кіраўнікі Віцебскай вобласці расказалі, як цяжка даўся сёлетні ўраджай; якую мужнасць, вынаходлівасць і настойлівасць праявілі калгаснікі і рабочыя саўгаса, усе працоўныя вобласці.

З незагаснай журбой мы ўсклалі чырвоныя гваздзікі да помніка незабыўнага, горача любімага Пятра Міронавіча Машэрава.

Успамінаючы полацкую зямлю і наш старажытны непараўнаны Полацк, я хачу павіншаваць лаўрэа-

та Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы — Генадзя Бураўкіна. Мы заўважалі яго адметнае дараванне яшчэ ў першых кнігах. Расло майстэрства паэта ў кнігах «Дыханне», «Жніво». І вось перад намі кніга «Варта вернасці», адзначаная Дзяржаўнай прэміяй. Паэзію Бураўкіна вызначае спалучэнне лірыкі і публіцыстыкі, замілаванне (без сентыментальнасці) родным краем і вострай нянавісцю да ворагаў, іроніяй і сарказмам да сучасных мяшчан і розных прайдзісветаў. У Генадзя Бураўкіна яркі, энергічны і эмацыянальны верш, выразная партыйная і грамадзянская пазіцыя:

Я — камуніст,
І не люблю хавацца.
Ды я прыйшоў пад Ільічовы сцяг
Не для таго,
Каб глохнуць ад авацый —
Каб несці рэвалюцыі працяг.

Найбольш мастацкі спелай і самабытнай у кнізе «Варта вернасці» з'яўляецца паэма «Ленін думае пра Беларусь». Гэта наогул адзін з лепшых паэтычных твораў у беларускай Ленініяне. Паэт стварыў прывабны вобраз Ільіча і пераканаўча паказаў, што лёс Беларусі звязаны з Леніным. І мінскі хлопчык з буйнымі спелымі суніцамі, і Скарына, і Каліноўскі, і Купала — не выпадковыя ўстаўныя імёны-навелы, а зусім апраўданы паэтычны пагляд на гісторыю нашага народа, філасофскае абагульненне. І таму так узнёсла гучаць радкі паэмы:

І калі звон цымбалаў былінных
Чуюць сёння Памір і Эльбрус,
А ў сівой вышыні жураўлінай
Аж да зор даляцеў беларус,—
Дык таму,
што штодня, штохвіліны
Ленін думае пра Беларусь...

Я ўдзячны сябрам па віцебскай паездцы, што яны, не папярэдзіўшы мяне, добразычліва спыніліся на ўскраіне Бягомля, дзе прайшлі маё маленства і ранняя маладосць. Надвор'е было не [redacted] лепшых, але пацяплела на сэрцы ад сяброўскай увагі. Пачалося вяртанне ў далёкія, далёкія гады...

А далей замільгала маляўнічая ўзгоркавая Лагойская зямля. І адразу згадалася:

Гарыць, гарыць мая Лагойшчына!

Мне параіў пачытаць гэтыя вершы Аркадзь Куляшоў. Вершы спадабаліся. Мацней запомнілася імя аўтара — Ніл Гілевіч, хоць я яго чытаў і раней. Сягоння гэтага шырока вядомага паэта я віншую з Дзяржаўнай прэміяй імя Янкі Купалы за кнігу «У добрай згодзе». Амаль за 35-гадовы літаратурны шлях Ніл Гілевіч выдаў многа паэтычных кніг, навуковых прац, зборнікаў беларускай народнай творчасці. Ён вельмі адукаваны, разнастайна і багата адароны чалавек. Здаецца, усе жанры падуладны пяру Ніла Гілевіча. Ён піша лірычныя вершы, эпічныя апавяданні ў вершах, балады, сатыру і гумар, п'есы, крытычныя артыкулы і даследаванні.

У кнізе «У добрай згодзе» вельмі моцна напісана паэма «А раніцы ўжо не было» — тут гучаць трагічныя галасы на могілках беларускіх вёсак.

Праўда жыцця і народная творчасць заўсёды былі падмуркам паэзіі Гілевіча. Раздзел «Вясёлае люстэрка», як заўважае сам паэт, напісаны паводле народных жартаў.

Калючай сатырай пранікнуты верш з раздзела «На жаль, не абы-дзе, а ў нашай грамадзе». А ў наш час так патрэбны сатырычныя лекі... Для Ніла Гілевіча характэрны актыўная грамадзянская накіраванасць і вернасць роднаму слову:

Слова веры, якой мы не здрадзім ніколі.
Слова праўды,
Што ў сэрцы нам свеціць вяснова.
Слова працы і радасці,
Шчасця і волі —
Рэвалюцыі, Леніна, партыі слова!

Ніл Гілевіч даўно вядомы як цудоўны перакладчык балгарскіх паэтаў (калі я быў у Балгарыі, мне пра гэта казалі самі балгарскія паэты). А ў новай кнізе акрамя добрых вершаў пра Балгарыю мы адкрываем для сябе і братнюю Славенію.

Генадзь Мікалаевіч і Ніл Сямёнавіч!

Вы прыйшлі ў жыццёвую і паэтычную сталасць. Паэтычныя здабыткі вашы значныя, і мы ім радуемся. Але мне здаецца, што сапраўдны пісьменнік нават у росквіце сілы і таленту павінен думаць, што яго галоўная кніга — наперадзе.

З Новым годам, дарагія сябры!

*1981*

## З ВЫШЫНІ ВОПЫТУ І МУДРАСЦІ

Я чытаў гэтыя вершы ў газетах і часопісах і на роднай мове, і ў перакладах на рускую. Тады і не думалася, што гэта апошнія вершы народнага паэта БССР Петруся Броўкі. Я проста здзіўляўся і радаваўся яго творчай працаздольнасці і маладой няўрымслівасці.

І вось перад вамі, дарагія чытачы, кніга Петруся Усцінавіча Броўкі «Исток моей судьбы», якую ён рыхтаваў да друку незадоўга да смерці. Вершы паэта з любоўю і ашчаднасцю пераклалі на рускую мову Я. Хелемскі, Н. Кіслік, І. Бурсаў, І. Шклярэўскі, В. Карчагін, В. Тарас.

Дык дзе ж выток альбо вытокі яго лёсу, яго паэзіі?

Пятрусь Броўка пражыў вялікае і яркае жыццё. Ён аб'ездзіў многія рэспублікі Савецкага Саюза, шмат разоў бываў за граніцай. Але заўсёды і ў мірныя часы і на фронце, дома і за рубяжом ён ніколі не забываў свае азёры і сваю Ушачку, жыта, сосны і Наддзвінскія лясы. Ён ніколі не парываў сувязі з родным народам.

У новай кнізе мы сустракаем многа з таго, што ведалі з ранейшых вершаў, паэм, аповесцей. Але ўсё паўстае ў новым скандэнсаваным выглядзе — з вышыні ўзросту, з велізарнага жыццёвага і паэтычнага вопыту, азоранага яго мудрасцю, чалавечнасцю і любоўю.

Пятрусь Усцінавіч Броўка заўсёды захапляўся навукова-тэхнічнай рэвалюцыяй, касманаўтамі, высокім мастацтвам. Але ён у поўнай згодзе са шчырым сэрцам славіў хлеб і працу калгасніка, лясных птушак і бульбу, талаку і соль, рамонкі і грыбы. Усякая пара года была для яго любай.

Паэт прысвяціў многа выдатных вершаў Леніну, Марксу, рэвалюцыі і рэвалюцыянерам, Маскве і Ленінграду. Чалавек і камуніст, паэт і камуніст — для Броўкі гэта самае высокае прызначэнне ў жыцці, яго лёс.

Айчына, савецкі патрыятызм — асноўная тэма гэтай кнігі.

Броўка дзякуе сваім настаўнікам Янку Купалу і Якубу Коласу: «Купала і Колас вы нас гадавалі». Асабліва прачула напісаны верш «Ляўкі» пра тое, як малады паэт месяц гасцяваў у Янкі Купалы.

Пятрусь Броўка пісаў у 1975 годзе:

Вазьмі маё сэрца, таварыш,
І смела па свеце вандруй,
І хай твае збудуцца мары,
Ды толькі свайго не шкадуй!

Палымянае сэрца паэта, яго сонечную паэзію наш народ узяў на ўзбраенне. Літаратурная спадчына Петруся Броўкі — наша нацыянальная гордасць. Яе трэба берагчы, выдаваць, вывучаць.

Мы ўдзячны Петрусю Броўку за паэтычны подзвіг паэта-камуніста, вялікага грамадзяніна савецкай зямлі, выдатнага песняра Беларусі.

*1981*

12 Зак. 3269

## СЛОВА ПРА ПАЎЛО ТЫЧЫНУ

На гэтым урачыстым паседжанні ад імя беларускіх паэтаў і пісьменнікаў я хачу выказаць пачуццё глыбокай павагі і любові да вялікага паэта Украіны Паўло Рыгоравіча Тычыны.

Дарэвалюцыйная беларуская паэзія, у тым ліку і творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа, развівалася пад жыватворным уплывам народнага жыцця, народнай творчасці, паэзіі Пушкіна, Някрасава і асабліва Тараса Шаўчэнкі.

Паслярэвалюцыйная паэзія Беларусі была пад значным уздзеяннем вершаў і паэм Блока, Маякоўскага і Паўло Тычыны. Так, імя Паўло Рыгоравіча Тычыны па праву запісана ў першым залатым радку Савецкай паэзіі.

У гады маладосці і сталасці, я чытаў і перачытваў вершы і паэмы Паўло Рыгоравіча і на ўкраінскай, і на беларускай мовах.

А трэба сказаць, што творы Паўло Тычыны ў нас многа і добра перкладалі лепшыя паэты рэспублікі.

Свежая па тэматыцы, заўсёды глыбокая па думцы, наватарская па форме і зместу, суровая і пяшчотная, праўдзівая і шчодрая аптымістычная паэзія Паўло Тычыны зрабіла на мяне і маё пакаленне незвычайнае ўражанне, па-сапраўднаму кранула нашы сэрцы. Ад першага зборніка «Сонечныя кларнеты», праз кнігі «Вецер з Украіны», «Партыя вядзе», «Пачуццё сям'і адзінай» да хвалюючага рэквіема «Пахаванне сябра», да апошніх вершаў і паэм — непаўторны голас Тычыны ўслаўляў рэвалюцыю, сацыялістычнае будаўніцтва, савецкі патрыятызм, дружбу народаў. У гэтым яго неўміручая сіла, і слава, і хараство.

Паўло Тычыну ведала і любіла Беларусь.

Яго добра запомніў Мінск з часу вядомага паэтычнага пленума. Тычына сябраваў з Янкам Купалам і Якубам Коласам.

Мы, маладзейшыя, заўсёды рады былі хоць нядоўгай сустрэчы з Паўло Рыгоравічам і ў Кіеве, і ў Маскве.

Назаўсёды засталася ў нашых сэрцах яго абаяльнасць, яго інтэлект і інтэлігентнасць.

Паўло Рыгоравіч Тычына быў рэдактарам першай анталогіі беларускай паэзіі на ўкраінскай мове. Ён цудоўна пераклаў творы Багушэвіча, Купалы, Коласа, Броўкі, Танка. Я ганаруся тым, што Паўло Рыгоравіч перакладаў і мае вершы.

У 11—13 тамах акадэмічнага выдання Збору твораў Якуба Коласа надрукавана многа артыкулаў, нататак і лістоў пра ўкраінскую паэзію. У 1935 годзе Якуб Колас быў у складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў, якая ездзіла ў Парыж на Сусветны кангрэс пісьменнікаў у абарону культуры. У яго там нямала кароткіх партрэтаў, характарыстык вядомых замежных і савецкіх пісьменнікаў Анры Барбюса, Генрыха Мана, Луі Арагона, Аляксея Талстога, Мікалая Ціханава, Ільі Эрэнбурга, Міхаіла Кальцова, Барыса Пастарнака, Галакціёна Табідзе і іншых.

Ёсць там запісы і пра ўкраінскіх пісьменнікаў:

«Мікітэнка... увесь у руху, да ўсяго прыслухоўваецца, аб усім распытваецца. Ён не можа дапусціць, каб якая-небудзь справа адбылася без яго. Яго блакнот повен розных запісаў. ...Пятро Панч, суровы і салідны, з такім выглядам, як бы ён на цябе крыху сярдзіты.

З ім часта кампануе лагодны Паўло Тычына — чалавек надзвычайна скромны, прыязны і як бы чым заклапочаны. Яго аблічча сведчыць аб яго нейкіх затоеных думках і аб упартай унутранай рабоце, якую ён так міла прыхоўвае нявіннымі жартамі.

Часамі, хоць і рэдка, забягае сюды Карняйчук, прыносячы з сабой малады смех і вясёласць».

Якуб Колас чуйна прыкмеціў асноўныя рысы Паўло Рыгоравіча: прываблівую чалавечнасць, высокую духоўнасць і няспынную ўнутраную работу.

Аб такой жа высокай духоўнасці і камуністычнай ідэйнасці сведчыць сучасная магутная проза Украіны і новая хваля вельмі таленавітай украінскай паэзіі, у якой чуецца голас сонечных кларнетаў Тычыны.

Паўло Рыгоравіч заўсёды быў вельмі чулым да сваіх сяброў. У 1936 годзе Якуб Колас паслаў Тычыне наступны ліст:

«Дарагі Паўло Рыгоравіч!

Прыміце маю самую шчырую падзяку за Ваша выступленне па радыё ў дзень майго трыццацігоддзя літаратурнай дзейнасці. Я сядзеў за сталом разам з

сваёю сям'ёй каля прыёмніка і слухаў. Калі Вы ў канцы свайго высокапаэтычнага слова сказалі, што я чую Вас, я не мог стрымацца, каб не сказаць: «Чую, дарагі Паўло Рыгоравіч!»

І сёння, у дзень 90-годдзя з дня нараджэння Тычыны, мне таксама хочацца сказаць: «Мы чуем Вас, дарагі Паўло Рыгоравіч!»

Слава вялікаму ўкраінскаму народу, які нарадзіў выдатнага паэта рэвалюцыі Паўло Тычыну!

*1981*

# У ЕДНАСЦІ БРАТНЯЙ

Наша сацыялістычная радзіма — вялікая сваімі справамі, неабсяжная прасторамі, шматфарбная і разнастайная сваёй прыгажосцю, слаўная працай народаў усіх рэспублік. Горная і нізінная, спякотная і завейная наша зямля непаўторная красой кожнай братняй рэспублікі. І толькі адзінае сонца, адзіная камуністычная мэта яднае ўсе савецкія народы ў адну магутную сям'ю, імя якой Савецкі Саюз.

Сапраўдная паэзія ў розныя часы па-рознаму малюе воблік сваёй зямлі, сваёй рэспублікі, свайго народа. Ёсць Беларусь Купалы і Коласа. Ёсць Беларусь Куляшова — з магілёўскімі хмаркамі, з рэкамі Віхра і Бесядзь. Беларусь Танка — з нарачанскімі соснамі, камуністычным падполлем і барацьбой.

Ёсць і адметная барадулінская Беларусь. Гэта наш цудоўны паўночны край — з сотнямі блакітных азёр і рэчак, з гаманлівымі гаямі, з велічнымі меднастволымі барамі, з легендарнай партызанскай славай... Там, ва ўшацкіх лясах, партызаніў і адважна загінуў бацька Рыгора Барадуліна. У тым лесе малы Рыгор гукаў маці па імені Куліна. Там ён разам са сваімі землякамі перажыў страшэнную блакаду. Там выводзіў з блакады тысячы людзей славуты партызанскі камбрыг, Герой Савецкага Саюза Уладзімір Лабанок. Там змагаліся не толькі беларусы, але і сыны розных савецкіх народаў. Сярод іх быў і Ягораў, які ўзняў сцяг перамогі над рэйхстагам.

Хараство беларускай паўночнай прыроды, пакуты і мужнасць савецкіх людзей падчас фашысцкай няволі, радасць аднаўлення, вечная непаўторная паўторнасць маладосці і кахання — усё гэта ярка, таленавіта пульсуе ў сотнях вершаў і дзесятках паэм Рыгора Барадуліна.

Але адна тэма — тэма дружбы народаў — займае асобнае месца ў творчасці паэта. Вершы на гэту тэму — не дэкларацыйныя, не ілюстрацыйныя. Радкі паэта поўныя братняй зацікаўленасці да жыцця латышоў і таджыкаў, балгар і кубінцаў, літоўцаў і ўзбекаў; поўныя дружалюбнасці і суперажывання.

І яшчэ адно варта адзначыць у паэзіі Барадуліна — густа рассыпаныя прыкметы, апазнавальныя

знакі нашага часу. Аб гэтым сведчаць нават загалоўкі вершаў: «Інтэграл на цаліне», «Гарачая прафесія», «Плуг Фідэля», «Маладыя дзяржавы», «Малых народаў няма», «Просьба да Рыжскай АТС», «Гаспадыня Медэо», «У беларускім політэхнічным», «Хутка пойму балот асушылі»...

Гэтая кніга Рыгора Барадуліна «Паэма прызнання», поўная сонечных паэтычных знаходак, напісаная багатай сакавітай мовай, сагрэтая сапраўднай любоўю да жыцця, да людзей — добры падарунак да 60-годдзя ўтварэння СССР.

*1981*

# СЛОВА НА АДКРЫЦЦІ ПОМНІКА М. БАГДАНОВІЧУ

Многія пакаленні беларусаў, асабліва маладыя і закаханыя, вечарам і ранкам паўтаралі словы выдатнага нашага паэта «Зорка Венера ўзышла...». Максім Багдановіч стварыў самую прыгожую, самую пяшчотную песню пра каханне; песню поўную любові да роднай зямлі. Ён напісаў «Слуцкія ткачыхі» і многа іншых цудоўных вершаў і паэм пра жыццё беларускіх сялян, пра высокую мару беларускага народа аб волі і шчасці. Максім Багдановіч быў сапраўдным гуманістам, паэтам-дэмакратам. Ён стварыў неўміручыя вершы, адны з найлепшых у беларускай рэвалюцыйнай паэзіі.

Максім Багдановіч заўсёды дбаў пра развіццё літаратуры і культуры на Беларусі.

Яго заклікам было: «Аб шыраце духоўнай дбай».

І сёння, калі ў сацыялістычнай Беларусі, вясновым цветам расцвіла літаратура, мастацтва, уся культура, мы з удзячнасцю ўспамінаем вялікі запавет Максіма Багдановіча.

Гэтае месца некалі называлі Траецкай гарой, а наваколле — Траецкім прадмесцем. Тут нарадзіўся Максім Багдановіч.

Сёння вакол былой Траецкай гары раскінуўся амаль паўтарамільённы горад — горад-герой Мінск, горад вялікай прамысловасці, культуры, духоўны цэнтр Савецкай Беларусі. Новы тэмп жыцця нясе новыя рытмы, новыя мелодыі і песні.

Але песні Максіма Багдановіча не згубіліся ў імклівай плыні часу. Яны і сёння патрэбны нашым сэрцам, яны патрэбны сённяшняму дню і будучыні.

Таму з хваляваннем і гордасцю мы адкрываем сёння помнік бессмяротнаму паэту зямлі беларускай.

Слава Максіму Багдановічу!

*1981*

# ЛІТАРАТУРА І МАРАЛЬ

У гэтыя дні я перажыў вельмі многа розных пачуццяў з нагоды прысуджэння Дзяржаўнай прэміі СССР: і вялікую ўдзячнасць Камуністычнай партыі за высокую ацэнку маёй працы, і пачуццё прыналежнасці да нашай многанацыянальнай літаратуры, неад'емнай часткай якой з'яўляецца мая родная беларуская літаратура, і вялікую адказнасць перад будучымі чытачамі маіх кніг.

Асмысліваючы зборнік, удастоены прэміі, «Дзе начуе жаўранак», я думаю аб тым, што ў ім заключаны праблемы, якія лічу самымі патрэбнымі і не зусім да канца вычарпанымі яшчэ ў маёй творчасці.

Тэма маіх вершаў на працягу многіх гадоў — мінуўшая вайна. Годнасць савецкага чалавека, яго гераізм, яго мужнасць, цярплівасць і высакароднасць нашых матуль, незабыўны подзвіг якіх навечна ў нашых сэрцах. Для мяне важна прааналізаваць, прасачыць тую маральную вышыню, якая была дасягнута савецкімі людзьмі ў час вайны.

У маім прадстаўленні гэта важная, агульначалавечая тэма цесна звязана з пытаннямі ўзаемаадносін чалавека і прыроды. У нас ў Беларусі немцы высеклі вялікую колькасць дубраў, лясоў. Цяпер жа Мінск — цудоўны зялёны горад, у старых ліпах. Так, я не агаварыўся, сапраўды старых. Іх пачалі высаджваць адразу пасля вайны ў разбураным дашчэнту горадзе. І гэта была першая акцыя па адбудове Мінска.

Мы часта паўтараем словы «маральны», «маральнасць». І, сапраўды, гэта вялікі мацярык, які нам, літаратарам, патрэбна яшчэ доўга вывучаць і асвойваць. Нягледзячы на тое, што я паэт-лірык, паэт-публіцыст, мяне вельмі цікавяць многія аспекты гэтай тэмы.

Спажывецтва, кар'ерызм, раўнадушша да людзей, прага набыцця, дабрабыту — усё гэта просіцца на кончык майго пяра.

Светапогляд — гэта нешта цэльнае, непадзельнае на састаўныя часткі. Я пішу пра свае пачуцці, пра свае перажыванні, пра свае адносіны да свету. А мае адносіны — гэта адносіны камуніста, грамадзяніна, былога франтавіка.

Вайна жыве ва мне і сёння. Камуністам стаў у сярэдзіне 1943 года. Вайсковым журналістам прайшоў франтавымі дарогамі. Працаваў у франтавых газетах са сваімі беларускімі сябрамі, сустракаўся з Канстанцінам Сіманавым, пазней на Паўночна-Заходнім фронце, супрацоўнічаў і жыў у адной зямлянцы з Міхаілам Святловым. Збіраюся напісаць кнігу прозы аб гэтым незабыўным часе.

Сваю літаратурную працу заўсёды разглядаю ў цесным кантакце з грамадзянскай. З'яўляюся членам прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі, многа часу аднімае дэпутацкая дзейнасць, якой займаюся вось ужо 20 год, з'яўляюся старшынёй Беларускага камітэта абароны міру і членам прэзідыума Савецкага камітэта абароны міру. Гэту працу лічу для сябе найбольш важнай і адказнай. Тым больш што размова ідзе аб нашым неспакойным часе, калі катастрафічная пагроза вайны — не міраж, а зусім рэальная сіла. Кожны мастак слова, кожны творчы чалавек не павінен маўчаць, не мае права быць раўнадушным. Ён можа і павінен гарачым словам уздзейнічаць на розум і душы людзей.

Мне часта даводзіцца ездзіць за мяжу. Літаральна гэтымі днямі вярнуўся з паездкі ў Непал, куды ездзіў у складзе дэлегацыі Савецкага камітэта абароны міру. Падарожжа было цяжкім (800 кіламетраў па горных дарогах у трыццаціградусную спёку), але вельмі плённым. Мы сустракаліся з палітычнымі дзеячамі Непала, з рабочымі, сялянамі, інтэлігенцыяй — і ўсюды чулі самыя добрыя словы аб нашай краіне. Не сумняваюся, што гэта падарожжа зробіць папраўкі ў мае творчыя планы.

*1981*

## З ПОЛЫМЯ СЕМНАЦЦАТАГА ГОДА...

Незадоўга да Кастрычніцкага свята я вярнуўся з далёкай дарогі. Асенні Мінск, насуперак пахмурнаму надвор'ю, як заўсёды, узрадаваў мяне прыгажосцю і веліччу. Такім горадам сапраўды можна ганарыцца.

З хваляваннем ехаў па Ленінскім праспекце, упрыгожаным чырванню сцягоў і транспарантаў.

Мне, аднагодку Кастрычніка, кастрычніцкае свята — самае дарагое і светлае. Пра Вялікую рэвалюцыю я напісаў нямала вершаў і паэму «Патрыятычная песня». Тэма Кастрычніка — невычэрпная, і пра яго яшчэ будзе створана шмат цудоўных песень, раманаў, карцін, кінафільмаў.

Вось і мой Партызанскі раён з шырокімі светлымі вуліцамі, з прыгожымі дамамі, з магутнымі карпусамі трактарнага і іншых нашых заводаў. Цяпер неяк і не верыцца, што да вайны ў гэтыя мясціны мы хадзілі па грыбы і ягады...

Хораша жыць і пісаць на нашай зямлі. Разгарнуў вячэрнюю газету. Першае, што ўбачыў: «Лепшыя па прафесіі». Пераможцамі ў сацыялістычным спаборніцтве прызнана па Мінску сорак пяць чалавек. Прыгожыя, добрыя твары рабочых и работніц. А якія прафесіі! Шліфоўшчык завода шасцерняў, рэзчык металу ВА вылічальнай тэхніцы, электразваршчык аўтамабільнага завода, ліцейшчыца завода «Тэрмапласт», прадзільшчыца камвольнага камбіната, рэгуліроўшчык радыёапаратуры ВА «Гарызонт»...

Пісаць бы і пісаць пра іх. І як мага лепей. Але на нашай планеце вельмі неспакойна. Амерыканскія і натаўскія мілітарысты зноў грукочуць у ваенныя барабаны, трызняць пра сусветнае панаванне. Над светам навісла атамная смерць. І самае галоўнае сёння — не дапусціць ядзернай катастрофы. Захаваць мір можна, але за яго трэба штодзённа актыўна змагацца.

Наш Рэспубліканскі камітэт абароны міру вядзе вялікую работу па прапагандзе мірных прапаноў Камуністычнай партыі і Урада СССР. У гэтым годзе ў Фонд міру ўжо сабрана звыш пяці мільёнаў рублёў. Асаблівы плён прыносяць шчырыя гутаркі са

шматлікімі замежнымі дэлегацыямі прыхільнікаў міру...

Напярэдадні Кастрычніцкага свята я на чале невялікай дэлегацыі Савецкага камітэта абароны міру ездзіў у каралеўства Непал па запрашэнню мясцовага Камітэта абароны міру.

Некалі, звяртаючыся да Радзімы, я пісаў:

І, можа, нейкім землям непагодным,
Забраўшы ў сэрца ўсю тваю красу,
Я з полымя Семнаццатага года
Хоць іскарку малую занясу.

І вось настала адна з такіх часін.

У Непале нас сустракалі дружалюбна і ветліва. Гірляндамі жывых кветак, апладысментамі, воклічамі: «Няхай жыве савецка-непальская дружба», «Мы адзіныя ў барацьбе за мір», «Не падкопам мілітарыстаў»,— сустрэла нас грамадскасць непальскага горада Нарайянгхат. Абмяняцца думкамі па важнейшых для ўсяго чалавецтва пытаннях міру, раззброенне, абвуздання гонкі ўзбраення ў залу на набярэжнай ракі Нарайяні сабралася інтэлігенцыя горада, сяляне, рабочыя, студэнты, прадстаўнікі мясцовых улад, дэпутаты Нацыянальнага панчаята (парламента).

«Неабходна спыніць міжнародную рэакцыю на чале з ЗША, якая нагнятае міжнародную напружанасць»,— заявіў, звяртаючыся да ўдзельнікаў мітынгу, вядомы грамадскі дзеяч Нанда Кешвар Гаутам.

У другім месцы дэпутат Нацыянальнага панчаята ад раёна Саптары Чандра Нарайян Прасад Чаудхары заявіў: «Рашэнне аб вытворчасці і размяшчэнні нейтроннай зброі, прынятае адміністрацыяй ЗША, заслугоўвае самага рашучага асуджэння». Далей ён сказаў аб сваёй поўнай падтрымцы праекта дэкларацыі аб прадухіленні пагрозы ядзернай катастрофы, пастаўленай Савецкім Саюзам на разгляд сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, і дадаў, што гэта з'яўляецца канкрэтным падыходам да рашэння важнейшай на зямлі праблемы — устанаўлення міру. Народу Непала ён патрэбен для развіцця прагрэсу і стварэння, супраць чаго накіраваны планы міжнароднага мілітарызму.

Мы мелі многа сустрэч (па дзве-тры за дзень) з прыхільнікамі міру, юрыстамі-дэмакратамі, асацыя-

цыяй жанчын, актывістамі таварыства «Непал — СССР» і многімі, многімі іншымі. Гэта былі вельмі цёплыя сустрэчы. Многа харошых слоў было сказана непальцамі пра Савецкі Саюз, пра савецкі народ.

Нас прыняў Старшыня Непальскага нацыянальнага панчаята (парламента).

Асабліва прыемна было сустрэць непальцаў — выпускнікоў савецкіх ВНУ: інжынераў, тэхнікаў, урачоў. Яны не забылі рускую мову і з захапленнем гаварылі пра нашу радзіму...

Дарога была нялёгкая. Больш васьмісот кіламетраў па горных і нізінных дарогах Непала пры 35-градуснай гарачыні. Але і задавальненне было немалое: ветлівы, гасцінны і міралюбівы народ. Вядома, трапічная экзотыка: бясконцыя рысавыя палі, буйвалы ў сажалках, сяляне верхам на быках пад вялікімі чорнымі парасонамі, басаногія сялянкі з ношай па галаве, прывабныя голенькія дзеці, параперчаная ежа; бамбук, манга, папая, горы бананаў і апельсінаў; шматлікія індуісцкія і будысцкія храмы (вельмі прыгожыя); свяшчэнныя каровы і статкі малпаў каля манастыроў.

Але самае галоўнае і прыгожае — Гімалаі. Горы велічныя і суровыя. І сярод іх самая высокая гара ў свеце (8848 м) — бела-чорны Эверэст (Сагарматха). Эверэст чакае будучай вясной савецкіх альпіністаў...

Вядома, мы бачылі ў гэтым горным каралеўстве многа беднасці, адсталасці, сярэдневякоў'я. Там многа непісьменных і хворых. У Непале шмат сваіх праблем і цяжкасцяў. На ўсё гэта ёсць свае прычыны. Але Непал развіваецца і хоць павольна, але ідзе шляхам прагрэсу...

Гарачае развітанне з новымі сябрамі. Радасны настрой, што зроблена карысная справа. І — бывай, каралеўства Непал! Бывайце, непаўторныя Гімалаі! Я адлятаю дадому ў Маскву, у Мінск, у полымя асенняй ліствы і кастрычніцкіх сцягоў.

*1981*

## САПРАЎДНЫ МАСТАК

Янку Брылю нададзена высокая годнасць народнага пісьменніка. Гэта справядліва. Уся яго творчасць — ад першых кніг «Апавяданні» і «Нёманскія казакі» да аповесці «Золак, убачаны здалёк» — гэта таленавіты летапіс жыцця роднай зямлі, з яе шчаслівымі і нешчаслівымі людзьмі, з яе нялёгкай працай, з яе вайной і перамогай, з яе радасцю і горам. «Птушкі і гнёзды», «Жменя сонечных промняў», «Ніжнія Байдуны» — гэта наватарскія творы. Асабліва прываблівыя ў Янкі Брыля — дзеці і падросткі: Данік, Лізунок і многія, многія сімпатычныя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія пазіраюць на нас чыстымі і хітраватымі вачыма са старонак апавяданняў, аповесцяў і мініяцюр пісьменніка.

А яшчэ жанчыны: маці, Марыля, настаўніца, Галя... Харошы і прыгожы гэта народ.

Янка Брыль — сапраўдны майстар літаратуры. У яго кнігах жыве праўда. Яго мова багатая, шматфарбная, крынічная. Ён у вечным пошуку, у вечным творчым хваляванні і трывозе за людзей. Думаючы пра свайго друга і равесніка, прыгадваю словы Льва Талстога: «Сытых, самазадаволеных мастакоў не бывае».

Добра жыць, працаваць і дружыць з такім чалавекам. Ён не просты, Янка Брыль. Бывае залішне гарачы, рэзкі, «пристрастный», але ніколі не дробязны. І справядлівы. Ён адзін з першых ацаніў раман Івана Мележа «Людзі на балоце», як выдатны твор.

Чалавек высокай культуры, ён не толькі добра ведае рускую, украінскую, польскую літаратуру (а з многімі вядомымі сучаснымі пісьменнікамі ён у добрай дружбе), але ўважліва чытае ўсё лепшае, што можна прачытаць з еўрапейскай і сусветнай літаратуры. І пра тое, што яму блізка, з захапленнем расказвае сябрам.

Многія пісьменнікі, цяпер сталыя майстры нашай прозы, на пачатку творчай дарогі (ды і не толькі напачатку) неаднойчы зведалі чуйнае сэрца і строгую рэдактарскую руку Івана Антонавіча. Ён умее заўважаць усё таленавітае.

З Янкам Брылём прыемна рабіць агульную літаратурную справу, прыемна вандраваць. Мы нямала з ім паездзілі па Беларусі, Расіі, Украіне. Разам перажылі ташкенцкае землетрасенне. Ездзілі па Канадзе і Злучаных Штатах Амерыкі. Уважлівы і спагадлівы, ён хутка знаходзіць агульную мову з нечаканымі і самымі рознымі людзьмі.

Але, вядома, яго найбольшая любоў — родная беларуская зямля, родны народ. А можна і яшчэ вузей — дзівосная Навагрудчына, Налібоцкая пушча, Нёман, вёска Загор'е.

Некалькі гадоў таму назад мы з Брылём ездзілі з рускім пісьменнікам Уладзімірам Салаухіным па Беларусі. Сонечным ранкам недалёка ад Карэлічаў мы спынілі машыну каля жытнёвага поля. І так захацелася нам легчы ў цёплае жыта, што мы не вытрымалі, леглі (няхай даруюць нам калгаснікі). А тут яшчэ ўспырхнуў са сваім званочкам жаўранак. Пазней пілі сцюдзёны квас у слаўных сваякоў Івана Антонавіча. А заначавалі над Нёманам у Любчы. На заходзе сонца любаваліся магутнай ракой, дзе амаль штохвіліны моцна ўсплёсквалі тлустыя жэрахі.

Калі я думаю пра Янку Брыля, заўсёды ўспамінаю яго такім, якім ён быў тады ў жыце, над Нёманам — шчырым, дасціпным, з крыху расчуленым, вельмі чалавечым тварам.

*1981*

# ДУША БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Мы, беларускія дзеці 20-х гадоў, ведалі імя Янкі Купалы ледзь не з калыскі. Яшчэ не хадзілі ў школу, не ўмелі чытаць, але чулі размовы бацькоў, заглядвалі ў падручнікі старэйшых братоў і сясцёр — і ў душу западалі першыя чароўныя радкі Купалы.

Мы падрасталі, перад намі расхіналася жыццё ва ўсёй сваёй прыгажосці і складанасці, і ўсё шырэй і глыбей перад намі разгортвалася цудоўная творчасць першага і сапраўды народнага паэта. У яго вершах усё было блізка нам: і малюнкі роднай прыроды, і змены ўсіх пор года; і сялянская праца на полі, у гумне, у лесе; і купальскае свята з яго прывабнымі агнямі; казкі і легенды; доля народа, яго спадзяванні, мары і надзеі. Гусляр, Бандароўна, Машэка сталі нашымі любімымі героямі.

Упершыню я ўбачыў жывога Янку Купалу ў сярэдзіне трыццатых гадоў. Я тады працаваў настаўнікам на Бабруйшчыне, вучыўся завочна ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, ездзіў на заліковыя сесіі. Я і мае таварышы А. Бачыла і Р. Няхай пісалі ўжо вершы і часта заходзілі ў Дом пісьменніка. Вось тут і давялося многа разоў бачыць, чуць яго выступленні, пабываць на некалькіх літаратурных вечарах, на якіх выступаў і Іван Дамінікавіч. Купала быў сярэдняга росту, з цёмна-русымі валасамі. Але яго постаць была самавітая, напоўненая нейкай значнасцю і годнасцю. Калі ён ішоў па мінскіх вуліцах са сваім кіёчкам, усе паварталі галовы ў яго бок. Чытаў ён вершы вельмі проста.

Насупраць яго хаты былі лазня і цырульня. Мы часцей, чым была патрэба, хадзілі ў тую лазню, а пасля доўга гулялі на вуліцы, каб яшчэ раз пабачыць любімага паэта. Жонка Купалы Уладзіслава Францаўна першая з намі пазнаёмілася: «Вы, хлопцы, напэўна, пішаце вершы. Вось Янка паголіцца, і я пазнаёмлю вас». Але на першы раз мы ад страху і высокай павагі да паэта проста ўцяклі.

Пазнаёміў мяне з Янкам Купалам у верасні 1939 года Міхась Лынькоў. Наша франтавая газета «Беларуская Звязда» спынілася на некалькі дзён у Мінску, у Доме пісьменніка. Купала прыйшоў свя-

точны, у шэрым паліто, з радасным настроем: вызвалялася Заходняя Беларусь.

«Гэта наш малады паэт Пімен Панчанка». Купала ветліва паціснуў мне руку: «Чуў, чуў...» У гэтыя дні Іван Дамінікавіч некалькі разоў заходзіў да нас у рэдакцыю. І так выйшла, што мяне яшчэ тры разы знаёмілі з ім Броўка, Глебка і Гурскі (яны адлучаліся з рэдакцыі па сваіх справах і толькі што сустрэлі Купалу). Купала весела прыжмурваў вочы: «Чытаў, чытаў...», «Ведаю, ведаю...»

Пазней, у канцы кастрычніка ці ў пачатку лістапада, я ехаў з Беластока ў Мінск па выкліку палітупраўлення. У гэтым жа вагоне ехалі з Беластока Купала і Броўка. Пятрусь Усцінавіч паклікаў мяне ў сваё купэ, і мне пашчасціла правесці з Янкам Купалам некалькі гадзін і выпіць з ім (адзіны раз) пару шклянак сухога віна.

Сёння, у дні стогадовага юбілею вялікага песняра, згадваюцца не толькі яго мудрыя вершы і паэмы, але і ўсё яго жыццё, яго незабыўны воблік і бацькоўская ўсмешка. Больш жывым яго я не бачыў. Але Янка Купала добрым словам успомніў нас, франтавікоў, у сваім дакладзе на навуковай сесіі Акадэміі навук БССР у Казані 12 сакавіка 1942 года, дзе сярод іншага былі такія словы: «П. Броўка, М. Танк, П. Панчанка, П. Глебка, А. Куляшоў з гарачай любоўю ў сваіх вершах малююць вобраз геранчнай Беларусі, якая змагаецца супраць нямецкіх акупантаў».

Чым жа дарагая нам і бязмерна родная паэзія Янкі Купалы сёння? Мы радуемся, што сто гадоў назад нарадзіўся найвялікшы паэт беларускага народа, самы таленавіты і мудры, самы праўдзівы і песенны, які стварыў і нашу літаратурную мову, стаў і пачаткам, і невычэрпнай крыніцай беларускай паэзіі.

Ён першы ў нашай паэзіі высока ўзняў чалавечую годнасць працоўнага беларуса, усяго беларускага народа, сыны якога захацелі «людзьмі звацца».

Купала горача і натхнёна выказаў любоў да роднай зямлі. У 1910 годзе ў вершы «Я ад вас далёка...» паэт піша, што калі ён памрэ на чужыне, то:

Устане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца,
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

Магутны паэтычны вобраз!

Гэта любоў паэта да роднага народа, да роднай зямлі, пазней перарасце ў гарачы савецкі патрыятызм, які ўвасабляе сабой і чалавечую годнасць і гордасць за сваю сацыялістычную Беларусь.

Беларусь на куце
У сваёй хаце села.
Чарка мёду у руцэ,
Пазірае смела...

Янка Купала быў пачынальнікам зусім новай лірыкі ў беларускай паэзіі; лірыкі, якая шчыра, свежа і мудра ўславіла наша сацыялістычнае жыццё. Ляўкоўская нізка вершаў Купалы — гэта паэтычная калыска, з якой выйшлі ўсе мы, вучні і паслядоўнікі нашага вялікага паэта.

Гераічную партызанскую барацьбу беларускага народа супраць фашысцкіх захопнікаў сёння нельга ўявіць без палымянага верша Купалы «Беларускім партызанам».

Мы, пісьменнікі-франтавікі, у верасні 1941 года выдавалі газету «За Савецкую Беларусь» на Бранскім фронце. Аднойчы наш рэдактар Міхась Лынькоў паклікаў Максіма Танка і мяне і паказаў нумар «Красной Звезды»: «Хлопцы, надрукаваны цудоўны верш Янкі Купалы, трэба тэрмінова перакласці». Звязацца тады з Іванам Дамінікавічам мы не маглі. Так мы з Максімам зноў пераклалі на беларускую мову гэты выдатны верш. Мы так любілі і ведалі паэзію Купалы, што ў перакладзе дапусцілі ўсяго дзве недакладнасці.

Паэзія Янкі Купалы не старэе з гадамі, не траціць сваёй першароднай свежасці. Яго геніяльная паэма «Яна і я» — гэты гімн людзям працы — увайшла ў першы рад шэдэўраў сусветнай паэзіі.

Паэзія Купалы — бессмяротная песня гераічным людзям і справам, Вялікаму Кастрычніку, Камуністычнай партыі, сацыялістычнаму ладу, братэрству і дружбе савецкіх народаў.

Паэзія Купалы — душа беларускага народа.

Паэзія Купалы і сёння заходзіць у наш дом, поўная дабрыні і чалавечнасці, мужнасці і ласкі, вялікай праўды і аптымізму.

Яна будзе жыць такой вечна!

*1982*

# З НЕЦЯРПЕННЕМ ЧАКАЮ ГАЗЕТУ

Пяцьдзесят гадоў. Цэлае жыццё!

На маёй памяці на старонках нашай любімай газеты друкавалі вершы і артыкулы Янка Купала і Якуб Колас. Яе рэдактарам адразу пасля вайны быў Аркадзь Куляшоў. Тут некалькі гадоў працаваў я і мае таварышы, цяпер вядомыя пісьменнікі.

У нашай газеты, як і ў кожнага чалавека ў наш час, было складанае, часам нялёгкае жыццё з яго ўзлётамі і спадамі, удачамі і няўдачамі.

Калі я азіраюся на далёкія даваенныя гады, я ўспамінаю, з якой нецярплівасцю мы чакалі кожны нумар «ЛіМа». Было радасна, калі цябе, пачаткоўца, успаміналі ў нейкім артыкуле ці аглядзе (ага, заўважылі!). І ўжо зусім быў шчаслівы, калі прыводзілі твае ўдалыя радкі ці строфы.

Помню, якое свята было ў мяне, калі Аркадзь Куляшоў прыслаў мне ў 1937 годзе ліст, у якім пахваліў мае вершы, зрабіў невялікія праўкі (яны для мяне былі вельмі павучальнымі), а пасля «Літаратура і мастацтва» надрукавала цэлую нізку маіх вершаў.

У 1938 годзе я надрукаваў у «ЛіМе» верш «Радзіме» (ужо без правак), які стаў для мяне праграмным (хоць пра такое азначэнне я тады не думаў) для перадваенных і ваенных гадоў.

Я думаю, што нашай газеце патрэбна больш уважліва і часцей пра маладых і, асабліва, зусім маладых паэтаў пісаць агляды, невялікія рэцэнзіі. Бо заўсёды паэтычную моладзь будзе мучыць пытанне: «Ці ёсць у мяне здольнасці, ці не? Добрыя вершы ці дрэнныя?» І як важна тут сказаць добрае кваліфікаванае слова, пахваліць першы зборнік, нават адзін ці два вершы, некалькі свежых строф. Гэта вельмі акрыляе.

Пазней, калі малады паэт надрукуе другую, трэцюю кніжку — можна і больш сурова, патрабавальна аналізаваць яго творчасць. Але спачатку трэба ўважліва шукаць і друкаваць усё таленавітае, шчырае, ад чаго і павышэе прыліўная хваля маладой беларускай паэзіі.

Я заўсёды з нецярпеннем чакаю свежага нумара «Літаратуры і мастацтва». За апошні час і якасць ма-

тэрыялаў, і форма іх падачы, і афармленне значна палепшыліся. Перш за ўсё я цаню багатую інфармацыю пра жыццё творчых саюзаў. Заўсёды цікава даведацца, хто над чым працуе, дзе што друкуецца і выдаецца, якія былі вечары і творчыя сустрэчы.

Усё часцей з'яўляюцца сур'ёзныя арыгінальныя па форме артыкулы, хоць яшчэ і цяпер нямала залішне хвалебных рэцэнзій, якія часам разыходзяцца з горкай ісцінай.

Цікава чытаюцца артыкулы не пра чыста літаратурныя ці мастацкія справы, а пра жыццё, пра нашу культуру, пра рамёствы, пра захаванне прыроды і гістарычных помнікаў.

Хачу зрабіць закід нашым пісьменнікам, асабліва людзям сярэдняга і маладзейшага веку.

Пасля вайны пісьменнікі-франтавікі наперабой імкнуліся надрукаваць свае артыкулы ў «ЛіМе». Яны былі перапоўнены радасцю перамогі, імкненнем дапамагчы словам нашай адбудове. Многія артыкулы былі прасякнуты высокай партыйнасцю і грамадзянскасцю. Пісалі смела, шчыра, па-баявому, без грубасці і аглабельшчыны, але не зважаючы на парадак ў «памінальным спісе». Як жа не хапае сёння такіх баявых, глыбокіх выказванняў саміх пісьменнікаў пра справы паэзіі, прозы, драматургіі і, галоўнае, не хапае разумнага, шчырага прафесійнага *пісьменніцкага* слова, дзе б адчувалася высокая адказнасць за справу савецкай літаратуры.

*1982*

# ЗАПАВЕТЫ КУПАЛЫ

Сёння, у дзень стагоддзя найвялікшага беларускага паэта Янкі Купалы, мы не толькі перачытваем яго вершы і паэмы, славім яго бессмяротную паэзію, але і ўспамінаем увесь яго драматычны, высакародны і велічны жыццёвы шлях. З гадамі ўсё ярчэй і ярчэй робіцца воблік мудрага і абаяльнага чалавека і паэта.

Нас і сёння хвалюе глыбокае пранікненне Купалы ў народнае жыццё, у строй і лад яго душы, яго працоўнага побыту, яго надзей і памкненняў. Праз чуйнае і мудрае сэрца Янкі Купалы прайшлі ўсе трывогі нашага веку, усе турботы і радасці працоўных людзей.

З першых і да апошніх вершаў Купала думаў і тварыў маштабна, ніколі не калупаўся ў драбязе быту і дробных пачуццях. Ён усё жыццё турбаваўся пра жыццё і лёс народа, Купала заўсёды думаў пра будучыню.

Мы, беларускія савецкія паэты, асмельваемся называць сябе вучнямі і паслядоўнікамі Янкі Купалы. Так, ён быў і ёсць наш найпершы і найлепшы настаўнік.

Янка Купала ў сваёй паэзіі і публіцыстыцы пакінуў для нас свае высокія запаветы.

У 1941 годзе, незадоўга да вайны, Янку Купалу ў ліку першых была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР за кнігу вершаў. Кніга называлася «Ад сэрца». Там ёсць такія радкі:

Трэба нам песень і шчырых і чулых,
Што праўду дзён нашых ад полюсаў неслі б
І славу вякоў, пакаленняў мінулых
Сваёй перамогай геройскай ускрэслі...
...І одамі ўславіць наяўнасць жывую —
Бяссмертных герояў Саюза Саветаў.

І так, *першы запавет* Купалы: Пісаць ад сэрца шчырыя і чулыя песні, пісаць праўду, шанаваць славу вякоў і мінулых пакаленняў. Услаўляць герояў мінулых і сённяшніх дзён. Гэта і рабіў Купала, пачынаючы ад паэм «Курган», «Бандароўна», «Магіла льва» і да палымянага верша «Беларускім партызанам».

*Другі запавет* Купалы: Любіць сваю зямлю, свой народ, сваю мову, сваю сацыялістычную радзіму. Яшчэ да рэвалюцыі, у 1910 годзе, калі ён быў далёка ад роднай зямлі, паэт так выказаў сваю любоў да яе:

Я ад вас далёка... Божа ты мой мілы!
Неразлучны з вамі да самай магілы,—
Не пакіну думаць світам і ўпацёмку,
Як там жывіцё вы, як жыве старонка?
А хоць дасць мне доля ў дамавіне месца,—
Устане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца.
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

Купалава любоў да радзімы, яго патрыятызм набылі сонечныя фарбы ў савецкі перыяд творчасці. Янка Купала ў нас на Беларусі стаў першым песняром сацыялістычнага жыцця і братэрства савецкіх народаў.

*Трэці запавет:* Любіць чалавека, любіць працу на зямлі, усю красу жыцця, услаўляць іх. Гэта, напэўна, і ёсць асноўны матыў вершаў і паэм Купалы.

Геніяльную паэму «Яна і я» трэба было б дарыць у дзень вяселля маладым, каб ведалі, як любілі сваю зямлю, працу на зямлі, як моцна і верна кахалі нашы дзяды і прадзеды, калі «нявіданыя дзівы»

І рукі злучывалі нам навекі,
Багаслаўленне далі нам сваё
Ісці у свет праз горы, долы, рэкі,
Ісці супольна праз усё жыццё.

*І яшчэ адзін запавет* Купалы для нас, паэтаў і пісьменнікаў, ды і для ўсяго народа:

Высока несці і шанаваць годнасць савецкага чалавека, аддана служыць свайму народу, абараняць заўсёды праўду і справядлівасць, адкрываць шчодра свае сэрцы для дабрыні і спагады, дружбы і любові.

Мы, беларускія паэты, у меру сваіх здольнасцей беражом і выконваем святыя запаветы Купалы.

Слава вялікаму жыццёваму і паэтычнаму подзвігу Янкі Купалы!

*1982*

## ВЯРТАННЕ ТРЫВОГІ

Калі гавораць пра лепшых сучасных беларускіх паэтаў, у ліку першых абавязкова назавуць Рыгора Барадуліна.

Аўтар больш дваццаці кніг паэзіі, Барадулін з'яўляецца буйным майстрам паэтычнага слова.

Першыя вершы, якія мы запомнілі, былі пра цаліну. Потым былі кнігі пра партызанскую Віцебшчыну, пра маці-партызанку, пра Брэсцкую крэпасць, пра Енісей і Латвію, пра Поўнач і Далёкі Усход, пра Балгарыю і Кубу, пра любоў і дружбу.

Багатая мова, нестандартныя думкі, свежая метафарычнасць, шчырасць і ўсхваляванасць вершаў і паэм Барадуліна зрабілі іх прыкметнай з'явай у беларускай ды і ва ўсёй савецкай паэзіі.

Сёння, калі прыйшла пара спелага майстэрства, Рыгор Барадулін у новай нізцы вершаў («Полымя», № 1 за 1983 год) вяртаецца да сваіх вытокаў, да зямлі бацькоў (у яго ёсць добры верш «Прыцягненне віцебскай зямлі»), з яе мужнымі людзьмі, высокімі барамі, блакітнымі азёрамі і рэчкамі. Як быццам знаёмыя тэмы. Але паэт усё гэтае паказвае па-новаму, з вышыні набытага вопыту, глыбокага, а часам і цяжкога роздуму. Гэта думкі пра хлеб, жывучы, як зямля, які пачынаўся з мазаля і біў зямлі паклоны. Гэта пра сялянскія карані, нязводны род зялёны і пра тое, як хлеб, прамы заступнік працы, «лютаю парою radніўся... з лебядой і з тоўчанай карою».

Новыя вершы Барадуліна — пра бяссмерце гераічных подзвігаў, пра сутнасць нашага жыцця і мараль, пра пераемнасць нашых пераконанняў і надзей; пра крык трывожны чаратоў, пакутных, як цені расстраляных. Гэта «вяртанне ў боль, вяртанне ў бой, вяртанне да сябе самога».

Цікава прагучалі і вершы, навеяныя падарожжам у Чэхаславакію: «Тапалёвая готыка», «Залатая душа», «Гудзьба» і іншыя.

Спадзяюся, што аматары паэзіі з радасцю прачытаюць новыя вершы Рыгора Барадуліна.

*1983*

## ДЗЕЛЯ ЖЫЦЦЯ НА ЗЯМЛІ

Апошняя зіма і гэтая вясна для нас вельмі нязвычныя і няўстойлівыя. У Арменіі стаялі трывалыя маразы і снегапады, а ў нас была цёплая, амаль бясснежная зіма, і на палескіх азёрах зімавалі белыя лебедзі. Зямлю трасуць землятрусы, залiваюць паводкі, зноў пачалі сваю вогненную дзейнасць вулканы, якія яшчэ ўчора лічыліся патухлымі. На нашай планеце яшчэ сотні мільёнаў галодных і напаўгалодных людзей, а мільёны людзей, асабліва дзяцей, штогод паміраюць з голаду.

Гінуць людзі ад вайны ў Ліване, Сальвадоры, Нікарагуа, у Азіі і Афрыцы. А дзесяткі мільёнаў беспрацоўных!

Што і казаць, малюнак невясёлы, і гэта ўсё трывожыць людскія сэрцы.

Але галоўнае пытанне сучаснасці — ці абаронім мы на зямлі мір, ці ўсю нашу цывілізацыю дый жыццё ўсяго чалавецтва праглыне ядзернае пекла?

З-за акіяна даносяцца галасы новых крыважэрных фашыстаў: «Ёсць рэчы важнейшыя за мір», «Ёсць рэчы і куды горшыя, чым вайна», «Лепш быць мёртвым, чым чырвоным».

Ваяўнічыя амерыканскія мілітарысты і іх натаўскія халуі разгарнулі нечуваную па маштабах падрыхтоўку да сусветнай ядзернай вайны. Віток за вітком яны нарошчваюць усё новыя і новыя віды знішчальнай зброі. Яны хацелі б, каб Савецкі Саюз знясіліўся ў эканоміцы і здаўся на літасць амерыканскім босам. Не вельмі верачы ў гэта, амерыканскія мілітарысты раздзьмухалі небывалы ваенны псіхоз. Яны лямантуюць на ўвесь свет аб міфічнай савецкай пагрозе, а самі абклалі сацыялістычны лагер сотнямі ваенных баз. Яны паказваюць фільмы, створаныя на Галівудзе, аб нападзенні савецкіх войск на Аляску і на Іран, а самі рыхтуюцца забрацца з ядзернай і лазернай зброяй у космас, а ў канцы года амерыканцы мяркуюць размясціць у Еўропе сотні «першынгаў» і крылатых ракет для першага ядзернага ўдару па Савецкім Саюзе і іншых сацыялістычных краінах. Яны хочуць мець перавагу над намі і заваяваць свет. Яны аб'явілі крыжовы паход супраць

нашай дзяржавы, супраць сацыялізма. Яны мараць убачыць адзін попел ад нашага свету, ад камунізма.

Для чаго я кажу пра гэтыя вядомыя ісціны і факты вам, людзям, якія добра разбіраюцца не толькі ў літаратуры, але і ў палітыцы і ў міжнародным становішчы? Таму што барацьба за мір патрабуе настойлівага паўтарэння праўды, змагання за яе.

Беларускаму камітэту абароны міру, як і ўсім такім камітэтам у СССР, даводзіцца штогод прымаць у Мінску і ў іншых гарадах дзесяткі дэлегацый прыхільнікаў міру з капіталістычных краін і краін, якія развіваюцца: ад Нарвегіі да Ізраіля, ад Венесуэлы да Непала, ад Канады да Мазамбіка...

Даволі часта даводзіцца і нам выязджаць у гэтыя краіны ад Савецкага камітэта абароны міру. І вось мы сустракаемся з такой з'явай, што злосная антысавецкая прапаганда, жахлівая хлусня на савецкі народ і наш лад жыцця робяць сваю чорную справу. Тады ўзнікаюць пытанні: «Чаму вы, савецкія людзі, не пратэстуеце супраць сваіх ракет?» Нам даводзіцца цярпліва расказваць, што ўвесь савецкі народ стаіць за мір, расказваць пра ўсе прапановы савецкага ўрада аб забароне ядзернай зброі, аб прапанаваным намі дагаворы аб ненападзе краін Варшаўскага пакта і НАТА, аб тым, што Савецкі Саюз добраахвотна адмовіўся першым ужыць ядзерную зброю. Мы возім гасцей у Хатынь, наладжваем сустрэчы з савецкімі людзьмі. Праўда знаходзіць дарогу да сэрцаў сумленных людзей.

Але нават людзі добра інфармаваныя часам бываюць ахвярамі антысавецкай прапаганды. У мінулым годзе да нас прыязджаў папулярны англійскі дзеяч лорд Ноэм-Бейкер са сваім сябрам — аўстралійскім генералам. Мы ім паказалі, што яны хацелі, мелі дружалюбныя гутаркі на тэмы абароны міру. За сяброўскай гутаркай жонка генерала прастадушна прызналася: «Усё гэта добра, але мы вас баімся».

Вось гэтак і дамагаецца мілітарысцкая прапаганда: трымаць людзей і нават народы зямлі ў страху, няўпэўненасці, прывучыць іх да думкі, што ядзерная вайна непазбежная і яе Амерыка можа выйграць.

Але праўда нарэшце пачала даходзіць і да еўрапейцаў, і да амерыканцаў. Амаль штодня на тэлеэкранах мы бачым грандыёзныя маніфестацыі су-

праць вайны, за забарону ядзернай зброі, за перагаворы.

У мінулым годзе па маршруту Стакгольм — Ленінград — Масква — Мінск з поспехам прайшоў марш міру жанчын. Мінчане гасцінна сустракалі ўдзельнікаў маршу, прымалі актыўны ўдзел у маніфестацыях. Але і сюды прыехала банда наёмных журналістаў (а можа, у іх была іншая прафесія). Яны нахабна прыставалі да мінчан з правакацыйнымі пытаннямі: «А колькі вам заплацілі, каб вы тут стаялі?» Яны вышуквалі міліцыянераў і імкнуліся на іх фоне рабіць фатаграфіі. Нашы людзі далі ім адпор, бо гераічная Беларусь, якая столькі выцерпела гора ад вайны, не тая зямля, дзе можна рабіць падобныя правакацыі. Калі ўдзельнікі маршу збіраліся наведаць Хатынь, правакатары пачалі палохаць жанчын, што Хатынь — гэта Катынь, дзе рускія забілі польскіх афіцэраў. Тады жанчыны дружна прагналі гэтых злосных манюк.

Амерыканскія і натаўскія палітыкі, генералы, прапагандысты вайны перагналі Гітлера і Гебельса ў сваёй няпраўдзе, злоснай хлусні і крывадушшы. Яны, рыхтуючы нечуваную вайну, сёння апранаюць балахоны міратворцаў. «Амерыка,— заявіў прэзідэнт ЗША,— адрозніваецца дзіўнай здольнасцю рабіць вялікія і бескарыслівыя дзеянні, і бог уручыў ёй спакутаванае чалавецтва». Успомнім Хірасіму і В'етнам. І адразу ўсё стане на сваё месца.

ГДР аб'явіла гэты год годам Маркса. І ўсё прагрэсіўнае чалавецтва аддае даніну павагі і захаплення вялікаму вучопаму і рэвалюцыянеру.

Рэйган аб'явіў гэты год годам бібліі. Гэта абсалютпа крывадушна і цынічна. Адзін з першых запаветаў бібліі: «Не забі». А ў сучаспай Амерыцы толькі і чуеш: «Сіла. З пазіцыі сілы. Рыхтуйся да ядзернай вайны». У многіх капіталістычных краінах, у тым ліку і ў Злучаных Штатах каталіцкія епіскапы заявілі, што ўжыванне ядзернай зброі — вялікі грэх.

Патрыярх Маскоўскай і ўсяе Русі Пімен звярнуўся з адкрытым пасланнем да прэзідэнта ЗША, у якім ён падтрымлівае высакародныя намаганні Савецкай дзяржавы, накіраваныя на тое, каб пазбегнуць ядзернай вайны, на дасягненне ўсеагульнага раззбраення

і мірнага суіснавання. У пасланні сказана, што прэзідэнт бярэ па душу вялікі грэх.

Урады многіх краін выступілі з асуджэннем падрыхтоўкі да ядзернай вайны, а ўслед усе акадэмікі Акадэміі навук СССР звярнуліся са зваротам да ўсіх вучоных свету, дзе заявілі, што ў ядзернай вайне эфектыўных абарончых сродкаў няма і стварыць іх практычна немагчыма.

Пісьменнікі розных краін ствараюць аб'яднанні і камітэты супраць ядзернай зброі і вайны. У прыватнасці, нядаўна такі камітэт створаны ў Францыі.

Думаю, што і наша сустрэча пісьменнікаў і вучоных неабходная і прынясе сваю карысць.

Савецкая літаратура пра вайну, пра чалавека на вайне — вялікая літаратура. Яна не толькі пра гераізм савецкага чалавека, пра пакуты народа, але яна яшчэ і прывівае людзям нянавісць да вайны.

Творы Сіманава, Быкава, Бакланава, Граніна, Бондарава, Кандрацьева і некаторых іншых — гэта слава і гонар сучаснай савецкай літаратуры.

Калі бываеш за мяжой, дзе мала ведаюць пра Беларусь, то пры знаёмстве людзі пачынаюць пералічваць тое, што ведаюць пра нашу рэспубліку: партызаны, Хатынь, трактар «Беларусь» і... Быкаў.

Такія кнігі, як «Я з вогненнай вёскі...» Адамовіча, Брыля і Калесніка, «Хатынская аповесць» і «Карнікі» Адамовіча, «Блакадная кніга» Адамовіча і Граніна — гэта больш чым літаратурныя творы, гэта неўтаймаваны боль нашай зямлі, абвінаваўчы акт усім мінулым, сучасным і будучым носьбітам вайны. Гэта — кнігі-папярэджанні.

Я гэтыя кнігі з гонарам называю сёння, калі ўвесь свет устрывожаны тым, што амерыканскія мілітарысты прыгрэлі для будучых акцый крывавых фашысцкіх катаў такіх, як Барб'е, Кушаль, Станкевіч і іншыя. Аб гэтым сведчыць і кніга Лофтуса «Таямніца Беларусі».

Выдатныя кнігі пра чалавека на вайне напісалі беларускія пісьменнікі Быкаў, Шамякін, Брыль, Навуменка, Чыгрынаў, Пташнікаў, Сачанка і іншыя. Іх кнігі змагаюцца за мір.

Наша канферэнцыя яшчэ не лішняя і таму, што ў маі месяцы ў горадзе Прага адбудзецца Сусветны

